


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**5** (991)

МАЙ

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2012

*ЗМЕСТ*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб’яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



Іван МУРАВЕЙКА

# ВАМ НОВЫ ВЕК ДАВЕРЫЦЬ НЕ БАЮСЯ

## ВЕТЭРАНЫ

У дзень Дзявятага мая,
Як па трывозе, рана
Да абеліска славы
Прыходзяць ветэраны.

Стаяць, не варухнуцца
На варце ганаровай.
У гэтую мінуту
Яны ў страі суровым.

Нічога не пытайце,
Нічога не кажыце,
А толькі асцярожна
У вочы зазірніце.

І ўбачыце ўсё самі,
Пачуеце іх крокі —
У гэтую мінуту
Яны ідуць далёка.

У гэтую мінуту
Ідуць яны ў атаку,
Кідаюцца з гранатамі
Пад гусеніцы танкаў,

Свой самалёт палаючы
На ворага кіруюць,
Сабою закрываюць
У дотах амбразуры.

А губы ціха шэпчуць
Імёны тых, што ўпалі,
Упалі невядомымі
І помнікамі ўсталі...

Да абеліска славы,
У сквер мемарыяльны
Ўсё менш і менш прыходзіць
Ссівелых ветэранаў.

Яны кладуць не кветкі
Да мармуру бяссмерця, —
Кладуць свае вайною
Абпаленыя сэрцы.

Але няма прасвету
У іх страі суровым:
Іх дзеці, іх унукі —
На варце ганаровай.

---

***Муравейка Іван Андрэевіч*** *нарадзіўся 21 кастрычніка 1921 года ў вёсцы Таль Любанскага раёна Мінскай вобласці. У 1939 годзе паступіў у Мінскі камуністычны інстытут журналістыкі імя С. Кірава і ў канцы года быў прызваны ў Чырвоную Армію. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Пасля вайны працаваў адказным сакратаром і рэдактарам любанскай раённай газеты «Кліч Радзімы». Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1964). Працаваў адказным сакратаром любанскай раённай газеты «Будаўнік камунізма». Жыве ў Любані.*

*Аўтар паэтычнай кнігі «Песня над палямі» (1955), многіх зборнікаў вершаў для дзяцей. Сярод іх «Ручаінкі» (1956), «Дружная сямейка» (1961), «Сем колераў вясёлкі» (1965), «Лясное возера» (1970), «Дуб і дубок» (1977), «Я прыдумаў казку» (1985), «Вадзіца з крыніцы» (2006).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2007).*

## ПАМЯЦЬ

Склероз. Ён нейкі дзіўны
у мяне:
Што было ўчора — я часцютка
забываю,
А кнігу памяці даўнейшую
чытаю
І бачу ўсё яскрава.
Верыце ці не?

Нібы яно было не шмат
гадоў назад,
А ўчора. І — унукам
я апавядаю...
...Бяда навісла над радзімым
краем,
І я такі ж вось, як яны цяпер, —
салдат.

Чужыя танкі нашу ніву
мнуць
І душаць жней, што выйшлі
жаць калоссе.
Чужынец факел да страхі
падносіць,
І бежанцы на ўсход ідуць, ідуць...

А потым была бітва пад Масквой
І трупы ворагаў на сотні
кіламетраў.
А потым Сталінград быў, Курск быў,
Днепр быў...
І быў Берлін —
апошні бой.

І над рэйхстагам — наш
савецкі сцяг,
Чырвоны сцяг — сцяг Перамогі
нашай.
А я гляджу на сцяг, пілотку
зняўшы,
І слёзы па маіх цякуць
шчаках.

Гараць і сёння шчокі
ад тых слёз.
О, не! Зусім не дзіўны у мяне
склероз:
Ўсё помню, што тады
было са мной
І што было з Айчынай
дарагой.

## РОЗДУМ ЛЯ ПОМНІКА

***Герою Сацыялістычнай Працы***
***Кузьме Іванавічу Шаплыку.***
***Ён паўвека ўзначальваў***
***ордэна Працоўнага***
***Чырвонага Сцяга***
***калгас «Чырвоная змена».***

Стаю ля помніка
і размаўляю з Ім,
Не, не з гранітным,
а з жывым, жывым...
І мне, усхваляванаму,
здаецца,
Што ён вось-вось, як калісь,
усміхнецца...
— Здароў, Іван! Ты
зразумеў нарэшце —
Зямлю араць не тое,
што пець вершы:
Пакуль ты знойдзеш
пару добрых слоў,
З камбайнера сцячэ
аж сем патоў.

Тут усміхнуўся я:
— Чакай, Кузьма Іванавіч,
Відаць, адну з табой
выснову маем мы.
Ён мне адказвае:
— У працы і баю
З нас кожны піша
кніжачку сваю.
Радкі маёй паэзіі,
штодзённай прозы —
Баразны і усходы,
усходы і баразны.
А ніва, што зярняты
сонцам налівае, —
Мая жывая кніга
залатая...
...Мы доўга, як сябры старыя
размаўлялі,
З маіх вачэй слязінкі
часам выцякалі.

Нялёгкі лёс з табой нам выпаў
у жыцці:
Наканавана сэрцам
доўгі шлях прайсці —
Не збочваць, не блудзіць,
не адставаць,

Не ведаць страху
і не адступаць...
...Я на пярэднім краі
фронту ваяваў.
Як помніцца: сябе не дужа
шкадаваў —
Быў тройчы ранены,
кантужаны ў дадатак,
Як і прызначана
акопніку-салдату.
...Ты тры гады у партызанскім
войску быў,
Бандытаў-ворагаў
няшчадна біў.

Не раз скідаў іх эшалоны
пад адхон...
Адну каманду знаў:
«Агонь! Агонь!»
Якая была радасць
і якое свята,
Калі прагналі вон
мы акупантаў-катаў.
Былыя партызаны
ўсе на фронт пайшлі
І бралі — хто Варшаву, Прагу,
хто Берлін.
Салюты адгрымелі —
напрасткі дамоў.
І выбраў твой калгас
цябе гаспадаром.
Неверагодна цяжкі,
неадкладны клопат
Лёг на худыя плечы
воіна былога.

Ў парадак прывясці
і адрадзіць палі,
Якія за вайну здзічэлі,
зараслі.
Дагледзець вёскі ўсе —
наноў адбудаваць,
Павінен кожны клуб
палацам выглядаць.
Каб Сарачы, як цэнтр,
раслі за домам дом
І сталі хутка сельскім
гарадком...
Задумак добрых шмат
ператварылі ў яву вы.
Увесь наш край стаў зваць цябе:
Кузьма Іванавіч.
Тут мне пачуўся
яго даўні голас:

— Ды сціхні ты, Іван.
Мяне расхвальваць досыць.
Не я адзін, а ўсе мы —
дружнай талакой
Ператваралі ў рай
куточак любы свой.

А сёння што ў маіх
славутых Сарачах?
Агеньчык ордэна
чырвоны не ачах?

Я адказаў яму:
— Парадак-лад у вас.
Узяў сабе навек
тваё імя калгас.

...Стаю ля помніка
і размаўляю з Ім.
Не, не з гранітным,
а з жывым, жывым...

Так, ён жывы —
жыве заўжды між нас.
Якія былі людзі
ў той нялёгкі час,
У векапомны час.
Не забывайце іх —
Бясстрашных,
Непахісных,
Добрых.
І святых.

## ТУТ ЛЮДЗІ ДОБРЫЯ ЖЫВУЦЬ

Ля дарогі, сярод поля,
Пад навесам — студня, столік,
Лаўка, кубак і вядзерца
Падарожнікаў чакаюць,
Што блукаюць па ўсім свеце,
Для душы прыгод шукаюць.

Вунь ідуць кудысьці двое,
Натаміліся абое.

Бачаць — студня, лаўка, столік —
Райскі кут для тых, хто ў стоме.
Напіліся, пасядзелі,
Ажылі, памаладзелі.

Ён сказаў: — Вада жывая.
Мо яе анёлы п'юць?
А яна: — У гэтым краі
Людзі добрыя жывуць.

## ВАМ НОВЫ ВЕК ДАВЕРЫЦЬ НЕ БАЮСЯ

Вунь школа новая —
палац багаты,
Дзіцячай шматгалоснасцю шуміць.
А я стаю ля даўняй
школьнай хаты,
І сэрца маё нечага шчыміць,
Нібы спаткаўся са сваім дзяцінствам
І прыгубіўся да крыніцы чыстай,
Нібы сустрэў настаўнікаў сваіх —
Пачуў іх голас,
Твары ўбачыў іх.

Даруйце мне за слабасць
за старэчую,
Да новай школы прысціяшаю крок,
А то яшчэ спазнюся
на сустрэчу я,
Каб пажадаць вам сонечных дарог.
Хай будзе святам кожны дзень і ўрок.
Сябры мае, на вас я спадзяюся —
Вам новы век даверыць не баюся.

*Вёска Таль*





**Раіса БАРАВІКОВА**

# РАДАСЦІ І ПАКУТЫ ЧУЖОГА СЭРЦА

*Апавяданне*

***Прысвячаю Ю. П. Астроўскаму***

**1**

Тралейбус павярнуў на Садовую вуліцу, дзе ніколі не было аніякіх садоў… Трэба было б Валодзю набраць, ці заказаў ён электрагрыль у інтэрнэт-магазіне? Калі заказаў, то маглі і прывезці ўжо. І яны што-небудзь такое засмажаць сёння, падумала Таццяна Адамаўна і зірнула на жанчыну, якая сядзела побач.

— Вам кепска? Пот на лбе… Можа, валідол трэба, дык я дам. У мяне ёсць.

У яе голасе чулася занепакоенасць.

— З чаго вы ўзялі, што мне кепска? — Жанчына лёгкім узмахам рукі адкінула цёмную пасмачку валасоў, што нібыта прыклеіліся да лба. — Дыхаць няма чым у тралейбусе, вунь якая спякота за акном!.. Толькі і ўсяго!

— Ага-а… Горача… Ліпень спякотны. — І Таццяна Адамаўна дадала праз паўзу. — Даруйце, вы пачалі так імкліва расшпільваць верхнія гузікі на кофце, што мне нешта такое і падумалася… Паветра маладзіцы не хапае… Мабыць, у вас штосьці з сэрцам, вырашыла.

— Не-не… Дзякуй богу, усё добра.

Абедзве заўсміхаліся. Тралейбус спыніўся на чарговым прыпынку. І ў салон адразу жвава ўскочылі дзве ўжо далёка не маладога ўзросту кантралёркі. Пасажыры ажывіліся: хто палез у сумачку, хто ў кішэню… Адна з кантралёрак тут жа спынілася каля маладога чалавека, які памкнуўся хуценька прашмыгнуць у расчыненыя дзверы, нават прытрымала яго за руку:

---

*__Баравікова Раіса Андрэеўна__ нарадзілася 11 мая 1947 года ў вёсцы Пешкі Бярозаўскага раёна. Скончыла Літаратурны інстытут імя М. Горкага (1971). Працавала ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва», у газеце «Чырвоная змена». Была галоўным рэдактарам часопісаў «Алеся», «Маладосць».*

*Аўтар кніг паэзіі «Рамонкавы бераг» (1974), «Слухаю сэрца» (1978), «Такое кароткае лета» (1981), «Адгукнуся голасам жалейкі» (1984) і інш. Выдала кнігі прозы «Кватарантка» (1980) і «Вячэра манекенаў» (2002), а таксама кнігі для дзяцей «Казкі астранаўта» (2006), «Казкі з гербарыя» (2008) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1987), Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1994) і спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (1998).*

— Куды спяшаемся, а-а? Безбілетнік?!

Хацела сказаць яшчэ нешта, але малады чалавек паказаў праязны білет — і ўмомант стаў для кантралёркі нецікавым.

— Папрашу ваш білецік, — тут жа звярнулася яна да пасажыра, які сядзеў на пярэднім сядзенні. А другая тым часам ужо праштурхалася ў сярэдзіну салона і безупынна надзвычай гучна паўтарала і паўтарала:

— Рыхтуем… Паказваем праязныя дакументы! Рыхтуем… Паказваем…

Таццяна Адамаўна дастала з сумачкі свой праязны, паказала кантралёрцы і раптам на нейкае імгненне, як ёй здалося, на адзін кароценькі міг, яна як бы ўся абамлела… Сэрца моцна штурханулася… раз, другі — і заціхла, стаілася, але тут жа зноў пачало калаціцца моцна-моцна, і кроў зараз жа прыліла да твару, імкліва запульсавала па ўсім целе. Яна нават паглядзела на свае рукі… Пакруціла імі перад вачамі… Ага-а… Жылкі ўсе напятыя і быццам успухлыя. Што? Божа… Што ж гэта са мною такое робіцца?

— Чуеце? Вы чуеце мяне? — лёгенька ў бок штурханула яе тая самая жанчына, што сядзела побач. — Гэта з вамі кепска, даражэнькая, а вы пыталіся, непакоіліся пра мяне!

— Не… Не… Са мною таксама ўсё нармальна… — адказала Таццяна Адамаўна, а сама чакала, што ну вось зараз… зараз запячэ сэрца, а потым раптоўна як разане, як заколе… невыносна, бязлітасна. І ўжо не ўдыхнуць і не выдыхнуць… І ніхто не здагадаецца выклікаць машыну хуткай дапамогі. Хіба што вось гэтая жанчына побач, якая запытальна глядзіць на яе і недаўменна паціскае плячамі. Таццяна Адамаўна міжволі прыклала руку да сэрца. Але яно не запякло і не закалола. Яно проста моцна трапяталася, білася і штосьці невядомае, усё роўна як чужы голас, як нейкая гарачая сіла ў ёй усё загадвала і загадвала: «Ну паглядзі ж ты… Хутчэй паглядзі яшчэ раз на яго!... Глядзі… Глядзі…» І Таццяна Адамаўна глядзела… Неадрыўна глядзела на мужчыну, які сядзеў папераду, наўскасок ад яе… Як жа гэта ўсё здарылася з ёю, у які момант?! Яна паказвала праязны кантралёрцы, а другая ў гэты момант падышла да таго мужчыны. Ён павярнуўся да кантралёркі, паказваючы ёй свой білет…У той момант Таццяна Адамаўна і пабачыла яго твар, пабачыла вочы, як дзве бліскучыя пераспелыя вішні, цёмна-каштанавыя валасы, што спераду тапырыліся густым «ёжыкам», і ўсё паплыло перад ёю, затрымцела, усё наўкол закружылася… І сэрца… Як жа штурханулася ў той момант сэрца, як скаланулася! Таццяна Адамаўна магла пабажыцца, што калі б яна ў той момант стаяла, дык магла б і ўпасці… « Глядзі… Глядзі… Толькі не адводзь вачэй… Глядзі на яго», — шаптала, прасіла, нешта маліла ў ёй. І адначасова з гэтым настойлівым шэптам, з гэтым патрабаваннем яна думала, разважала… Хоць бы нічога з сэрцам не здарылася, хоць бы хутчэй прайшло насланнё гэтае. Божачкі, ды мне хочацца дакрануцца да яго пляча, да яго валасоў… Як жа мне нясцерпна хочацца дакрануцца… Я вар'яцею! І Таццяна Адамаўна нават рашуча падалася трошачкі ўперад, гатовая тут жа ўстаць, падняцца…

Тралейбус спыняўся на прыпынках. Кантралёркі даўно пакінулі яго. Адны пасажыры выходзілі, другія заходзілі, а яе твар усё яшчэ гарэў. Кроў не адлівала ад яго, і сэрца білася, не змаўкала, ну, канечне ж, ад пачуцця, салодкага, цёпла-цягучага, як працяглы стогн і радасці, і асалоды адначасова… І Таццяна Адамаўна ў свае сорак сем гадоў вельмі ясна зразумела, што цяпер яе твар ужо гарыць, палымнее ні чым іншым, як сарамлівасцю… Так, ёй сорамна… Яна засаромелася гэтага раптоўнага пачуцця такой ашаламляльнай пяшчоты. Так… гэта самая сапраўдная пяшчота, якая так знянацку абрынулася, працяла яе ўсю, аглушыла… «Ды глядзі ж… Глядзі на яго…» — працягваў патраба-

вальна і разам з тым млосна-салодка шаптаць у ёй голас, і яна лашчыла сваім позіркам гэтага невядомага ёй мужчыну, згараючы ад жадання даткнуцца губамі да яго патыліцы, шыі, плячэй… Заплюшчвала вочы, з усіх сіл намагалася развеяць, адагнаць ад сябе гэтае жаданне і адчувала ў сабе адно: неймаверна радасную асалоду, асалоду, якая рабіла яе слабай і цалкам бязвольнай…

— З вамі праўда ўсё ў парадку? — запыталася ў яе жанчына і зноў адкінула цёмную пасмачку валасоў з ілба.

— Не хвалюйцеся… Трошкі млосна… ад спякоты.

— Ну, тады, даруйце, давядзецца вас патрывожыць. Мне на наступным прыпынку трэба выходзіць.

— Калі ласка, калі ласка… праходзьце! — І Таццяна Адамаўна хуценька паднялася, прапускаючы жанчыну, але зноў не спяшалася садзіцца. Стаяла, трымаючыся за спінку сядзення, і глядзела… глядзела… Усяго толькі некалькі крокаў і яна нават зможа даткнуцца да яго як бы неўзнарок. Яна зможа адчуць цяпло яго рукі, хай сабе ўсяго на адзін нейкі міг. Удыхне свежасць… Бязумоўна, свежасць гэтай бездакорна адпрасаванай кашулі ў дробную клетачку колеру кавы. Кава… Ёй здалося, што яна чуе, удыхае пах ранішняй кавы… І, вядома ж, яны п'юць гэтую каву разам. А мужчына тым часам, на якога яна так уважліва і мройліва глядзела, падняўся, скіраваўся да выхада… І Таццяна Адамаўна таксама пайшла, імкліва і хутка, раз-пораз прамаўляючы:

— Прабачце… Прапусціце… Прабачце… Я зараз выходжу…

Тралейбус спыніўся. Дзверы расчыніліся. Людзі пачалі выходзіць… Вось і ён саскочыў на тратуар, і яна яшчэ хутчэй памкнулася да расчыненых дзвярэй. У твар дыхнула свежасцю, хоць сонца яшчэ і не думала стамляцца. Яно было яркае і гарачае. А вунь і ён... Высокі і, напэўна, дужы. Ідзе па сцежцы ў напрамку дома з зялёнымі балконамі. Чаго ж я стаю! І Таццяна Адамаўна ледзь не подбегам звярнула на тую ж самую сцежку. Але тут жа прыпынілася. Божа, што я раблю? Навошта іду за ім? Хто ён, гэты чалавек? Што ён зрабіў са мною, што раблю я сама? Усяго за некалькі тралейбусных прыпынкаў адсюль яе дом. Сёння выхадны дзень у Валодзі… Ён хацеў заказаць у інтэрнэт-магазіне электрагрыль… Можа, Валодзя ўжо смажыць у ім курыцу?! Ці здагадаецца добра змазаць яе соусам з маянэзу? Ці тыя спецыі возьме?! Не… Не… Я вар'ятка! Трэба вярнуцца назад на прыпынак! А з сэрца, аднекуль з самага яго донца быццам вырываўся ўсё той жа патрабавальны і ўладны гарачы шэпт: «Не думай… Не разважай… Ідзі… Хутчэй ідзі за ім… Можа, ён азірнецца… Ты зноў пабачыш гэтыя бліскучыя вочы… Ты збаўляеш хаду? Дарэмна! Не затрымлівайся! Ён вось-вось увойдзе ў арку…» І яна, з выключна няўцямным позіркам, заспяшалася, і сама не ведала — навошта? Толькі шчокі гарэлі і сэрца ўсё білася і білася, радасна калацілася ў грудзях.

Ён увайшоў у арку, што раздзяляла два суседнія пад'езды, вяла ва ўнутраны двор. Таццяна Адамаўна ўжо ледзь не бегла. Яна проста праляцела тую самую арку, а калі выйшла на яркае святло, пабачыла, што ён ужо ўзбягае на высокі ганак бліжэйшага да яе пад'езда. Вось ужо і знік у расчыненых дзвярах. Ісці далей за ім? Але які сэнс! Куды ісці, ды і навошта? І ўсё ж яна пайшла… Пайшла да лавачкі каля пад'езда, на якой сядзелі два падлеткі ў аднолькавых ярка-жоўтых бейсболках. Яна таксама села побач з імі яшчэ ўся ўсхваляваная, але сэрца білася ўжо неяк па-іншаму, больш спакойна. Яно адпачывала… Ага-а, як вулкан, які выштурхнуў з сябе ўсю лаву, што кіпела, бурліла ў ім, і цяпер адно: выдыхаў цеплыню, якая павольна разлівалася па ўсім яе целе… «Як жа мне стала добра! Як зараз добра», — падумала Таццяна Адамаўна і ўсмешліва зірнула на падлеткаў.

— Вы з гэтага пад’езда, так? — кіўнула на высокі ганак з парэнчамі.

І падлеткі таксама кіўнулі, маўляў, з гэтага, не памыліліся! Тады яна запыталася ў іх зноў:

— Дзядзьку бачылі, што зусім нядаўна ўвайшоў у пад’езд? Кашуля на ім была з кароткімі рукавамі ў дробную клетачку.

— Бачылі, — хутка адгукнуўся адзін з падлеткаў. — Павел Антонавіч з дзевяноста трэцяй кватэры. А вы да яго? — ён чамусьці прыцішыў голас, быццам пытаўся, пра што звычайна не пытаюцца, бо не зусім карэктна пра такое пытацца.

— Чаму да яго? Я да іх… — і Таццяна Адамаўна ўспыхнула, наўмысна зрабіўшы націск на займенніку «іх». Да твару зноў прыліла кроў: не хапала яшчэ, каб гэтыя падлеткі падумалі, што так… Яна гатова была пайсці да яго… толькі да яго… Да гэтага незнаёмага ёй Паўла Антонавіча з дзевяноста трэцяй кватэры.

— Дык вы да іх? — перапытаў другі падлетак. — А Косціка няма… Павел Антонавіч цяпер адзін.

— Косцік — ваш сябар?

— Ды не-е-е, — пачула Таццяна Адамаўна і ёй было чамусьці не па сабе, што распачала гэтую гаворку з падлеткамі. — Косцік жа студэнт ужо. Ён дарослы. І цяпер у нейкім іншым мікрараёне ў сваёй бабулі жыве. Тут толькі зрэдку з’яўляецца. Як памерла яго маці, дык ён адразу і пераехаў да бабулі.

— Маці памерла? — Таццяна Адамаўна раптоўна ўздрыгнула, як што працяло яе, і тут жа ўся напялася: сэрца! Зноў нешта робіцца з сэрцам. Яно моцна тузанулася, бы застагнала, і ўсё… Яна перастала яго чуць, яно нібыта некуды правалілася і ляцела… ляцела…

— Даруйце, хлопчыкі, а калі ў Косціка маці памерла, не скажаце? — і ў яе ад гэтага пытання чамусьці запульсавала жылка на скроні. Яна напружана чакала адказу.

— Даўно… Яшчэ вясною. У сакавіку здаецца…

— У сярэдзіне сакавіка, — хутка ўдакладніў другі падлетак. — Слізка тады вельмі было. Помню, снег яшчэ не ўвесь сышоў. Пад гэтаю лаўкаю было многа снегу.

І Таццяна Адамаўна больш ні пра што не пыталася. Самыя розныя думкі набягалі адна на адну. Сэрца… Сэрца, якое быццам зайшлося ў яе грудзях, прывяло яе сюды… да гэтае лаўкі. Чаго? Навошта? І… што яна ведае пра яго?! Ужо адносна здалёку, але так ясна выплылі словы прафесара Пятроўскага: «У вас цяпер здаровае, моцнае, дужае сэрца…» Яе ўратавалі ў кардыялогіі, у навукова-практычным цэнтры. Можна сказаць, выцягнулі з таго свету. Доўга не было донарскага сэрца, а потым усё адбылося так раптоўна… «Заўтра вас аперыруем… Заўтра аперыруем!» У яе па шчоках тады цяклі слёзы шчасця… Яна верыла кардыяхірургу, прафесару Пятроўскаму, вельмі верыла, што ён удала зробіць перасадку, удала заменіць яе ўласнае, спакутаванае ад пароку, сэрца, на чужое… Якое вось зараз, у гэтае самае імгненне, падае свой голас… Яна чуе яго ў сваіх грудзях… Яно моцна ўздрыгвае раз… другі і зноў заціхае, бы заходзіцца!..

Таццяна Адамаўна заплюшчыла вочы… Тады, калі яе прааперыравалі, таксама была сярэдзіна сакавіка. Гэта яна будзе помніць да канца сваіх дзён. І ёй раптам успомніўся адвячорак, калі яна ўпершыню, яшчэ калі ляжала ў рэанімацыі, самы першы раз паднялася з ложка з чужым сэрцам…

— Падвядзіце мяне да акна, — папрасіла яна медсястру. — Хачу пабачыць, што там… за акном?..

І калі пабачыла, дык зусім як цяпер, тут, на гэтай лаўцы, сэрца раптам моцна ўздрыгнула, тузанулася раз… другі і, нібыта зайшлося… Тады гэткае

ж было адчуванне, што яно паляцела… паляцела кудысьці ўніз… А яна стаяла каля акна, узіралася ў яшчэ не густы прыцемак і чамусьці ёй хацелася расплакацца. Чорныя-чорныя галіны дрэў, якія ва ўсе бакі тырчалі мокрымі пакручанымі пальцамі, дзе-нідзе плямкі, сплюшчаныя астраўкі пачарнелага снегу і ўсюды… усюды шэры блішчасты лёд, які зліваўся з мокрым цёмна-шэрым асфальтам, што таксама блішчэў пад адзінокім ліхтаром… «Бы і не Зямля зусім, — думалася тады ёй. — Нейкая чужая, невядомая планета… І як жа страшна падумаць, што яна ў адзіноце гэтай мокра-шэрай невядомасці цяпер назаўжды… І недзе неверагодна далёка-далёка… Зямля, куды ўжо ёй ніколі не вярнуцца…» Таццяна Адамаўна тады сапраўды чамусьці плакала, доўга плакала ў падушку і радавала адно, што яна чуе ў грудзях, як тахкае, б’ецца здаровае сэрца: то ўспуджана-ўзбуджана, то са сцішаным заміраннем…

Яна расплюшчыла вочы і міжволі заўсміхалася. Божа, які шчаслівы кантраст! Ёй страшна было ўспомніць тую змрочна-шэрую наледзь сакавіцкага прыцемку, калі жудасна было падумаць, што гэта нейкая чужая ёй невядомасць… І вось яно, усё зямное, цяпер перад ёю ва ўсім сваім летнім хараcтве ў яшчэ цёплых промнях ужо нізкаватага сонца. Таццяна Адамаўна адчувала, як сэрца вярталася назад, асцярожна і пакорліва-ціха, з нейкай сваёй далечы… Роўна пастуквала, а яна сама міжволі залюбавалася кветкамі, што раслі на вялікай клумбе пад вокнамі… Астры, якія калісьці яе бабуля чамусьці называла варшаўкамі. Белыя, ружовыя, жоўтыя, бэзавыя…— высокія і махрыстыя. Ім бы расцвісці ў жніўні, але, захінутыя ад вятроў гэтым шматпавярховым домам, нібы ў аранжарэі, яны распанелі тут у ліпені і цешылі, цешылі хоць бы вось і яе позірк цяпер. А куст гартэнзіі! Белыя суквецці звісалі з галінак вялізнымі шарамі, ды і сам куст нагадваў дзівосны агромністы шар, які нібыта абвіты ліхтарыкамі. Такога яшчэ нідзе не даводзілася ёй бачыць. У іх пад вокнамі ўсяго за некалькі прыпынкаў адсюль таксама квітнее клумба, але… Кветкі там зусім не такія. Ды яна ніколі і не глядзела на іх! Кветкі як кветкі… Цвітуць і цвітуць! А тут… Позірку не можа адарваць ад гэтых астраў! Невядома колькі б яшчэ яна ўзіралася ў гэтую квітнеючую клумбу, думаючы, што гэта і ёсць сапраўдны жаданы спакой і адпачынак — для душы, для вачэй, для сэрца, каб не адазваўся птушыным ціўканнем яе мабільнік… Гэта быў муж. Ён непакоіўся і трывожыўся: дзе яна? Чаму затрымліваецца? Ці ўсё з ёю добра?!

— Ну, чаго ты, Валодзя? Што са мной можа здарыцца! Стала душна ў тралейбусе… Спякота ж, ліпень… Вось і іду зараз пешшу… Вырашыла, што лепш трошкі прайсціся… Дварамі іду, напрасткі. Тут паўсюль такія клумбы! Кветкі раскашуюць… А гэта ж, ведаеш, усё станоўчыя эмоцыі, тое, што мне якраз і трэба цяпер!

Яна перахапіла недаўменны позірк аднаго з падлеткаў, падумала: неразумная, што я такое кажу! Чаму не патлумачыць Валодзю, што я не іду, а проста сяджу на лаўцы ў незнаёмым двары? Дыхаю водарам, адпачываю… Быццам нешта хачу схаваць, утаіць ад яго? І тут жа адазвалася да мужа, стараючыся, каб у голасе чулася як мага больш радасці:

— Што?! Ты праўду кажаш? Грыль ужо прывезлі? Так хутка… І ўжо курыца смажыцца?! А пра спецыі ты не забыўся? Ага-а… Ды я іду! Іду! Тут ужо недалёка засталося… Чакай. Я ўжо хутка буду! — і яна схавала мабільнік у сумачку. Паднялася з лаўкі… Паглядзела на хлапчукоў, потым доўга ўглядалася ў прыцемак незачыненага пад’езда і адчувала ў сабе не… нават не тугу, а хутчэй нейкае ўжо цьмянае, далёкае водгулле тугі… Быццам яна знудзілася па нечым і баялася сабе ў гэтым прызнацца. Таццяна Адамаўна чакала, што ў гэты момант сэрца нейкім чынам адрэагуе на гэтыя яе адчуванні, але яно, супакоенае, білася

ціха і роўна, нібыта разумела, што ёй трэба ісці дадому, што яе там чакае Валодзя, што ў электрагрылі смажыцца курыца… Яна яшчэ раз зірнула на пад'езд, быццам хацела добра запомніць яго, і павольна пайшла да аркі…

**2**

Ноччу Таццяна Адамаўна ўспуджана прачнулася ад таго, што нешта душыла яе, ціснула моцна-моцна на шыю, на плечы… Цьфу ты, гэта ж Валодзева рука! І яна асцярожна выслізнула з-пад яе… Дзіўна, столькі гадоў гэтая дужая рука так утульна саграvала яе, а тут раптам стала такой цяжкой!.. Яна нават адсунулася далей ад Валодзі, быццам ён таіў у сабе нейкую небяспеку. І раптам ёй уявіліся астры з той учарашняй клумбы, высокі ганак з парэнчамі… Успомніўся і твар таго незнаёмага мужчыны, бліскучыя вочы, як дзве пераспелыя вішні… Божа, ды я проста бегла за ім! Спатыкалася… І ногі мае падкошваліся… І ўсё ўнутры гарэла, пякло… У ёй і цяпер узнімаецца такая ж гарачая хваля, вось і сэрца забілася, затузалася… Стукае, стукае, як ніколі раней не стукала! І раптоўна Таццяна Адамаўна ўздрыгнула… Адкуль яна можа ведаць, як білася, як стукала гэтае сэрца раней?! У жыцці іншай жанчыны, якая стала донарам для яе?… І, можа, гэтая жанчына была жонкаю таго самага Паўла Антонавіча? Яна памерла ў сярэдзіне сакавіка, і тады ж, у той самы час, у яе самой была аперацыя… Яе хворае сэрца, таму, відаць, і халоднае, як бы раўнадушнае да жыцця, замянілі на гэтае, такое нястрымна гарачае. Ад гэтых думак чамусьці зрабілася маркотна-маркотна… Ды што ж гэта робіцца з ёю?! Таццяна Адамаўна перавярнулася на адзін бок, потым на другі і яшчэ далей адсунулася ад Валодзі на самы краёк ложка. Трэба зноў як мага хутчэй заснуць, думала яна. А як тут заснеш, калі вунь і святло ад поўні на паўнеба, а хутка і сама поўня выплыве і ўтаропіцца ў акно… Яна хацела засяродзіцца на поўні і не атрымлівалася. Паднялася. Пайшла да акна, зашморгнула цяжкую штору, але на ложак не вярнулася. Асцярожна, на дыбачках, каб не пабудзіць Валодзю, выйшла ў другі пакой, дзе, як толькі запаліла святло, пацягнулася позіркам да кніжнай шафы… І вельмі хутка знайшла тое, што шукала: Стэндаль «Аб каханні». Выцягнула кніжку, села ў крэсла…

Перагарнула адну старонку, другую... Калісьці даўно-даўно, калі ў іх з Валодзем ужо нарадзіўся Данік, яна набыла гэтую кніжку, але так і не прачытала, хоць і спрабавала чытаць. Першая крышталізацыя, другая… А ў яе — пялюшкі, паўзункі, малако ў грудзях перагарэла, потым нечакана — мастыт, адзёр у Даніка, потым коклюш… Гарчычнікі, мікстуры… Магазіны без прадуктаў! Чэргі па дзіцячыя калготкі… Гэта ж быў самы пачатак тых супярэчлівых дзевяностых гадоў… Трэба было быць ненармальнай, каб пачаць унікаць у такое глупства, чакаць, спадзявацца на нейкую крышталізацыю… Пакуль у яе нешта там такое выспее! Яны нават спалі тады з Валодзем на розных канапах. Ён сыходзіў у другі пакой, каб не чуць начнога плачу Даніка. Стэндаль быў адстаўлены на паліцу. А вось цяпер ёй стала цікава і яна ўважліва ўчытвалася ў старонкі. Ага-а… Ёсць чатыры віды кахання… Каханне-жарсць… Каханне Элаізы да Абеляра… Каханне жандара ў Чэнта… Каханне партугальскай манашкі… Шаноўны Стэндаль, ну якая тут можа быць манашка! Ды ў мяне ногі падкошваліся, я ледзь не ўпала ў тым тралейбусе. Не хлушу, стаяла, трымалася за сядзенне, але была ў стане непрытомнасці і ўчынкамі, сваімі пачуццямі ўжо ніяк не кіравала. Та-ак… фізічнае каханне, каханне-славалюбства… Не… Усё не тое, не для маёй сітуацыі, зусім не тое!… А вось тут ужо нешта… Ну-ну… «Кахаць — значыцца адчуваць асалоду, калі ты бачыш, прыкмячаеш усімі органамі пачуццяў на як толькі магчыма блізкай адлегласці істоту, якую

ты кахаеш і якая кахае цябе». Таццяна Адамаўна на нейкі момант задумалася і закрыла кніжку. Адклала яе ўбок. «Ну і што ж я для сябе адкрыла? — неяк нават расчаравана падумала яна. — Пра якую ж такую таямніцу мне расказаў Стэндаль? Ды ні пра якую! Я кахаю, хто б сумняваўся ў гэтым, — прамовіла напаўголаса і дадала: — Дакладней, не я кахаю, а чужы орган пачуццяў кахае, які па волі лёсу стаў маім. Жарсць гэтага органа драмала. Але як толькі ў тралейбусе я наткнулася позіркам на істоту… на таго Паўла Антонавіча, жарсць і прачнулася, уздыбілася, шуганула полымем… І як жа цяпер мне жыць?» — яна як быццам пыталася пра гэта ў сэрца. Але яно засталося абыякавым да яе пытання: не ўсхвалявалася, не ўстрапянулася… І Таццяна Адамаўна вярнулася ў спальню, лягла на ложак, але, як гэта звычайна было, не пацягнулася да мужа, не прыціснулася, не скруцілася ў клубок, як кацяня, а проста ляжала на спіне… Цікава, якой жа была тая жанчына, чыё жыццё па нейкай прычыне мусіла абарвацца? Што любіла яна насіць, якія звычкі ў яе былі? Колер валасоў, колер вачэй, ды і ўвогуле, характар, тыя вельмі асабістыя рысы, што праяўляюцца ў паводзінах… Якая ў яе была прафесія, чым яна займалася?.. Ці купляла сабе ўпрыгажэнні, а, можа, іх ёй дарыў Павел Антонавіч, ейны муж? Надта ж лёгка яна прывыкла да гэтага імя… Можа, ужо хутка пачне называць яго проста Павел! Думкі чапляліся адна за адну і іх было многа…

Пад раніцу Таццяна Адамаўна ўсё ж заснула. Але засынала яна з настойлівым жаданнем, як мага хутчэй патэлефанаваць прафесару Пятроўскаму і папрасіцца на прыём. У яе з'явіліся пытанні да яго, ды і проста патрэбна была размова пра сэрца…

## 3

Раніцай яна хоць і недаспала, але прачнулася ў добрым настроі. Нават калі муж запытаўся, чаго гэта яна хадзіла з пакоя ў пакой ноччу, толькі адмахнулася:

— Табе прыснілася, напэўна, я ўсю ноч спала як сурок! Пасля такой курыцы, ды каб не спаць! На сёння што-небудзь засталося?

— Сёння будзе сённяшняе, — адказаў муж. — Тэхніка не павінна прастойваць. Ад гэтага яна псуецца. Таму на вячэру засмажым свініну ў фользе. Ты як? — ён зашпільваў гузікі на кашулі.

— А ты што, так рана на працу?

— Чаму рана? Пакуль выеду з двара… Раніцай не шаша, а мурашнік…

— Тады я з табою! Падкінеш мяне? Нешта не хочацца сёння штурхацца ў тралейбусе.

І гэта была праўда. Таццяне Адамаўне чамусьці не хацелася ехаць на фірму, дзе яна працавала юрыстам, звыклым тралейбусным маршрутам. А калі больш дакладна, не хацелася ехаць па вуліцы Садовай. І хоць яе сэрца ў нейкі момант ёкнула, ад гэтага свайго рашэння яна не адмовілася. І калі ўжо ехалі ў машыне, муж загаварыў пра іхняга сына Даніка, які ўжо некалькі тыдняў разам з аднакурснікам адпачываў у Крыме. А ўчора, як яе не было, патэлефанаваў, сказаў, што праз некалькі дзён вяртаецца, на што Таццяна Адамаўна адказала:

— Валодзь, а давай пра Даніка вечарам пагаворым. З думкамі хочацца сабрацца. Сёння ажно тры кантракты перааформіць трэба і яшчэ адну дамову скласці.

— Дык я ж нічога… Проста так… Думай пра свае кантракты, — ён як бы нават пакрыўдзіўся.

Але пра кантракты яна якраз і не збіралася думаць. Галоўнае для яе было як мага хутчэй стэлефанавацца з прафесарам Пятроўскім, упэўніцца, што ён на месцы, што зможа яе прыняць. Зрэшты, гэтак яно і атрымалася… Апынуўшыся ў сваім кабінеце, яна адразу набрала нумар прафесара. Сэрца

ўспыхнула, усхвалявалася, а яна падумала, што сёння шчаслівы дзень, таму што Пятроўскі адразу адгукнуўся, што здаралася рэдка.

— Алё-ё, алё-ё… Генадзь Іванавіч?! Можа, пазналі мяне? Гэта Таццяна Адамаўна Несцярук!.. Трэба пільна сустрэцца з вамі. Мне вельмі трэба! Не-не… Праблем з сэрцам, у прынцыпе, і няма… Але… Але… Ёсць далікатныя пытанні… Калі ласка, знайдзіце для мяне час!.. Я прашу…

І ён, прафесар Генадзь Іванавіч Пятроўскі, знайшоў яго. Прызначыў ёй кансультацыю (так-так… ён падумаў, што ёй патрэбна нейкая кансультацыя) роўна на шаснаццаць. Таццяна Адамаўна тут жа адпрасілася ў дырэктара фірмы, маўляў, яна сыдзе з працы трошкі раней, і ўзялася за кантракты… Праўда, думала зусім пра іншае: з чаго ёй лепш пачаць гаворку з прафесарам? Адразу запытацца пра донара — тую жанчыну, сэрца якой стала для яе выратаваннем, ці пераказаць усё тое, што адбывалася з ёю ўчора, ды і сёння адбываецца… Яна з усіх сіл стараецца не думаць пра Паўла… Хм-м-м… Паўла Антонавіча, і чым больш стараецца, тым больш думае! Ён, напэўна, вяртаецца дадому тым жа тралейбусным маршрутам, што і яна… Вельмі зручны тралейбус. У цэнтры горада яго прыпынак знаходзіцца адразу каля метро. З любога мікрараёна вельмі хутка і зручна да яго дабрацца. Ды, зрэшты, якая розніца на якім транспарце ён ездзіць?! Учарашняя сустрэча магла быць звычайнай выпадковасцю. Яна згадвала яго аблічча і тут жа налівала мінералкі ў шклянку. Губы смяглі… Вось-вось… пра гэта ўсё трэба і расказаць Пятроўскаму, ці можа чужое сэрца выклікаць у яе такія палкія адчуванні?..

Але калі роўна а шаснаццатай гадзіне Таццяна Адамаўна ўвайшла ў прафесарскі кабінет, усё ж пачала сваю споведзь з іншага.

— Генадзь Іванавіч, у нас з вамі былі такія даверлівыя гаворкі, я стала лічыць вас сваім анёлам-ахоўнікам і пра што толькі не распытвала ў вас… А вось пра галоўнае і не запыталася. Вы не проста мяне аперыравалі, вы трымалі ў руках маё новае сэрца, скажыце, чыё яно? Мне хочацца хоць што-небудзь пачуць пра тую жанчыну.

Узнікла працяглая паўза… Прафесар Пятроўскі нарэшце падняўся, выйшаў з-за стала і сеў побач з Таццянай Адамаўнай. Узяў яе за руку.

— На жаль… На жаль, дарагая, гэтага я вам сказаць не магу.

Яна падняла на яго запытальны позірк, і ён адказаў:

— Закон забараняе!

Яна зноў паглядзела на яго запытальна.

— Так-так… Ёсць закон… Донар пацыенту не называецца. Спытаеце чаму? Па адной простай прычыне: нехта схоча пайсці ў царкву, каб свечку паставіць у знак удзячнасці за сваё другое нараджэнне. А хтосьці, калі раптам якая бяда, можа і прэтэнзіі сваякам прад'явіць. Маўляў, навошта далі дазвол на перасадку гэтага сэрца. Адным словам, не пытайцеся! Ды і для чаго гэта вам? Паверце, усё будзе добра з вашым новым сэрцам.

— У гэта я веру… Але… Як вам сказаць?.. Разумееце, Генадзь Іванавіч, гэтае чужое… цяпер ужо маё сэрца раптам пачало жыць пачуццямі той жанчыны — майго донара. Гэта вельмі асабістыя пачуцці, можна сказаць, інтымныя.

— Гм-м, — прафесар Пятроўскі ледзь заўважна ўсміхнуўся. — І ў чым жа гэта праяўляецца, шаноўная вы мая Таццяна Адамаўна?

Яна апусціла позірк, прамовіла ціха:

— Я проста згараю… Увесь час сэрца то ўспудзіцца, то запячэ, застогне, расхвалюецца… — Памаўчала і загаварыла зноў. — У сэрцы ўспыхнула жарсць… Вельмі моцнае пачуццё... І ўсё адбылося, як толькі зусім выпадкова ўчора ў тралейбусе я пабачыла аднаго зусім незнаёмага мне мужчыну. Ага-а, незнаёмага! Але сэрца яго пазнала… Імгненна!

— Таццяна Адамаўна, ну вы ж не дзіця… Вы дарослая жанчына. У вас цяпер усё па-іншаму… Здаровае, моцнае і яшчэ даволі маладое сэрца. — І Генадзь Іванавіч падняўся з крэсла. Вярнуўся за свой стол, але не садзіўся. Стаяў. Глядзеў на яе. — Згадайце класіка, мілая… Той самы сонечны ўдар! З вамі здарылася штосьці падобнае. Прырода, Таццяна Адамаўна, прырода… Яе нельга падмануць.

— Не-не… Вы зусім не пра тое… Я пайшла следам за гэтым мужчынам… Я дазналася… У яго жонка памерла ў сярэдзіне сакавіка… У гэты ж час вы мяне і прааперыравалі! Гэта яе сэрца, я ўпэўнена!

Прафесар Пятроўскі зірнуў на гадзіннік. І Таццяна Адамаўна зразумела, што час прыёму для яе заканчваецца. Адчула, як сэрца ўздрыгнула… раз… другі… Быццам падказвала, што гэта яшчэ не канец размовы. І ўсё ж яна сказала:

— Я зараз пайду… Даруйце, што патурбавала… Як вы маглі падумаць!.. Сонечны ўдар… Вы знаёмы з маім мужам!.. Хіба магу я сабе нешта такое дазволіць?!. Але гэтае сэрца не слухаецца мяне.

І Генадзь Іванавіч Пятроўскі зноў выйшаў з-за стала, развёў рукамі:

— Я, даражэнькая, толькі — кардыяхірург, тонкія сардэчныя пачуцці не па маёй часці… Адно вам скажу… Не думайце пра донара. Будзьце проста ўдзячная… — Ён памаўчаў і нечакана дадаў. — Была аўтамабільная катастрофа… Яна была не адна, машыну вёў мужчына. Яны ўдваіх і загінулі. Дазвол на перасадку сэрца давала яе маці. Ну, што ж, бывайце… Раптам, якія праблемы, прашу… тэлефануйце!

Апошнія фразы прафесара Пятроўскага гучалі пераканаўча. Збітая з панталыку і разгубленая, яна стаяла пасярод калідора, быццам чакала кагосьці. На справе ж, пракручвала ў думках усю размову з прафесарам. Здаровае сэрца… Сонечны ўдар… Прыроду нельга падмануць… Яе ўласнае сэрца было, што яблык з чарвінкаю… Зморшчвалася і ўсыхалася… А гэтае, падобнае на яблык крамяны, у якім сокі іграюць… І яна задумалася глыбока-глыбока, што ледзь не ўголас толькі і змагла выдыхнуць: дык, можа, цяпер я гулящчая якая?!.

## 4

Таццяна Адамаўна вярталася дамоў знаёмым тралейбусным маршрутам. І як толькі ўвайшла ў салон, дык адразу села на месца, супрацьлеглае ўчарашняму… Каб і прыпынку таго не бачыць, і зялёных балконаў не прыкмячаць. Тралейбус звярнуў на Садовую вуліцу, і яна адразу ж дастала з сумачкі тоўстую газету: вось буду сядзець і чытаць, сядзець і чытаць… Спачатку прачытаю навіны, потым, можа, на які цікавы артыкул натраплю, думала яна. І сапраўды чытала. Пра тое, што тралейбус набліжаецца да дома з зялёнымі балконамі, ёй падказала сэрца: затрымцела, закалацілася, напружылася ўсё… Не-е… Хай сабе трымціць! Буду чытаць, буду чытаць, з усіх сіл пераконвала сябе Таццяна Адамаўна. Я вельмі люблю чытаць, быццам гіпнатызавала яна сама сябе. Але вось падняўся мужчына, які сядзеў побач з ёю, і пайшоў да выхаду. Пачалі яшчэ паднімацца людзі… І сэрца закалацілася нейк па-новаму: білася часта-часта, быццам, тузала яе, маўляў, ну, чаго ж ты сядзіш?! І Таццяна Адамаўна прыўстала, каб усё-ткі ўгледзець той прыпынак… Угледзела і зноўку села.

Тралейбус спыніўся, пасажыры пачалі выходзіць, Таццяна Адамаўна чытала… І раптам, ні пра што не думаючы, імкліва скамячыўшы газету, бы сарвалася з месца…

— Прабачце… Прапусціце… Я тут выходжу… Я зачыталася… Прапусціце!

Яе ўсю агарнула бязмежная радасць, як толькі яна ступіла на тратуар.

Сэрца тут жа суцішылася. Яно, нібыта цікавала за ёю: а што ж будзе далей? Але потым зноў пачало лёгенька-лёгенька ўздрыгваць, быццам штурхала яе: ну ідзі ўжо, ідзі… І Таццяна Адамаўна заспяшалася. Яна ішла так хутка, што сцежка здалася зусім кароткай, а арка — усяго толькі як брама. Вунь ужо і лаўка тая, на якой учора сядзела яна. Не было толькі хлапчукоў, затое на ёй яна ўгледзела бабулю, якая была нейкая набычаная ўся. Таццяна Адамаўна так запыхалася, што апусцілася на лаўку як на выратавальнае кола пасярод хвалістага мора, а бабуля запыталася:

— За табою што, гнаўся хтось?

— Я сюды ненадоўга. Мне яшчэ дадому трэба, — чамусьці патлумачыла бабулі і тут жа дадала: — Я ў дзевяноста трэцюю кватэру… Аднакласніца мая там жыла… У сакавіку памерла.

Бабуля маўчала. Яшчэ больш набычылася. І Таццяна Адамаўна не знаходзіла слоў, каб пра нешта загаварыць з бабуляю зноў. Але тая нахілілася да яе, прыцішыла голас, і Таццяне Адамаўне здалося, што сэрца ў гэты момант падае, падае, апускаецца ўніз…

— Ды не памерла твая аднакласніца, — напаўголаса сказала бабуля. — У аўтамабільнай катастрофе загінула. Нягодніцай была. Са сваім каханкам некуды ехала. Яны ўдваіх і таго… Сканалі! Умомант. На месцы. Косціка, сына свайго, асіраціла. Павел Антонавіч да гэтага часу суседзяў пазбягае, каб не распытвалі. Каму ж гэта прыемна, што жонка з каханкам разбілася…

І Таццяна Адамаўна ўсхапілася з лаўкі. Ёй вельмі хацелася закрычаць: гэта няпраўда! Не было ў яе ніякага каханка! Яна кахала мужа, Паўла Антонавіча! Яна і цяпер кахае яго… Вельмі моцна кахае!

Але нейкі даўкі камяк сцяў горла, і словы не змаглі вырвацца. Таццяна Адамаўна кінулася да пад’езда, узбегла па прыступках… І знайшла дзевяноста трэцюю кватэру на трэцім паверсе. Рашуча націснула на званок: раз, другі… Сэрца яна не чула, ды і не прыслухоўвалася да яго. У галаве мітусілася адно: ён павінен ведаць, што яна кахала яго… Яе сэрца жыло толькі ім і цяпер, ужо ў чужым целе, яно па-ранейшаму згарае ад непамернай жарсці да яго!..

За дзвярыма пачуліся крокі. Шчоўкнуў замок. Дзверы расчыніліся… І Таццяна Адамаўна нават салодка ўздыхнула ледзь чутна ад шчасця і адступіла на некалькі крокаў назад… Язык прыліпаў да паднябення…

— Я… Я… Вы павінны ведаць… І сыну гэта скажыце… Яна… Яна…

— Па-а-аўлік! — пачуўся звонкі і малады голас аднекуль з глыбіні кватэры. — Павел! Твой мабільнік звоніць, дык мне адказаць?

І амаль тут жа за спінаю Паўла Антонавіча замільгаў бэзавы кароценькі халацік, і прывабны тварык маладой жанчыны выглянуў з-за яго пляча.

— Павел, гэта да нас? Мы ж сёння нікога не чакалі!

— Вы памыліліся адрасам, — буркнуў Павел Антонавіч, працяўшы позіркам Таццяну Адамаўну, і бляск яго цёмных прыгожых вачэй быў зусім не лагодны. — Гэта дзевяноста трэцяя кватэра! Глядзець на нумар уважліва трэба.

Дзверы моцна грукнулі. Зачыніліся. І ўсё ж яна паспела пачуць:

— Шлындаецца тут абы-хто! Пад’езд незачынены.

Таццяна Адамаўна міжволі схапілася за сэрца, і яно бы скамянела… Пачала хутка спускацца ўніз, выбегла з таго незачыненага пад’езда. Не заўважыла набычанай бабулі, ды і аркі таксама. Ішла бяздумна дадому як і ўчора дварамі. Толькі сёння ўсё паскарала і паскарала крокі… У нейкі момант сэрца азвалася кароткім і даволі моцным штуршком. І Таццяне Адамаўне здалося, што гэты штуршок быў вельмі падобны на ўсхліп. Сэрца сапраўды плакала — жаласна, горка, бездапаможна…

## Казімір КАМЕЙША



### БЕЛАВЕЖСКАЯ МАЛІТВА

Толькі гляну на цябе здзіўлёна —
І вачам дабавіцца святла.
Гэта ж ты зялёнаю каронай
Кроны так галініста спляла.

Ты спакою зноў дала галінам,
Астудзіла пыл знішчальны піл.
І магутны твой абрыс зубрыны
Паўтарае сонцам небасхіл.

Ты гасцей пагодліваю ўсмешкай
Зноў вітаеш шчыра, як сяброў,
Аж да сэрца высцілаеш сцежкі
І гасцінна ўсаджваеш за стол:

— Вы заходзьце ў сэрца проста, прама,
Нам ад вас хаваць няма чаго,
Сэрца беларускае — не брама,
Насцежы шырокія ў яго.

---

***Камейша Казімір Вікенцьевіч*** *нарадзіўся 4 снежня 1943 года ў вёсцы Малыя Навікі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў у раённых газетах, на Беларускім радыё, у часопісах «Вясёлка», «Маладосць», «Полымя», «Вожык».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Восеньскія позвы» (1969), «Мембрана» (1972), «Нектар» (1974), «Тут мае вёсны прычалены» (1977), «Сябрына» (1978), «Плёс» (1982), «Галоўная вярста» (1985), «Пярэймы дня» (1988), «Кубак блакіту» (1993), «Лінія лёсу» (1996) і інш., кніг для дзяцей «Гаёўка» (1975), «Буслянка» (1985), «Дзятлава кузня» (1987), «Добры дзень, шафёр» (1988), «Крыгагром» (2001), кніг прозы «Духмянае дзіва» (1984), «Паміж кубкам і вуснамі» (2010).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1989).*

Грозная,
Шуміш ты, як шумела,
Волатна ствалы твае стаяць,
Хоць шчыміць пад сэрцам, як шчымела,
Памяць незагойная мая.

Звер твой не з пароды ваяўнічай,
Але помніш здзек далёкі ты.
Світы каралеўскай паляўнічай
Порах яшчэ ў кронах не астыў.

Грымне проста з памяці трывожнай
Стрэл
І атрасе з галін зіму.
І ўздрыгне на тушы бот вяльможны,
Вечнасці захочацца яму.

Валачэ фатограф зноў трыногу
І муштруе доўга аб’ектыў.
І дарогі ўсе ў адну дарогу
Цягнуцца самотна праз кусты.

Вось і ўсё. І спынена хвіліна,
Зараз світа выгукне: «У-р-р-а!»
Сцёк крывёй маўклівай цар зубрыны…
Эх, за што ж апошняга цара?!

Стогнуць зноў дубы, гамоняць хвоі,
Цягне дзесь сваю разору дзік.
Выкінь, Час, з кішэні ўсе набоі,
Лепш арэхаў жменю пакладзі!

І прыкленч над спелаю суніцай,
І зуброўкі водару ўдыхні.
Хай табе харошы сон прысніцца,
Як ты цуд вось гэты бараніў!

Пушчаў і бароў маіх прамаці,
Ты расслаб карэнне хоць цяпер!
Не хачу я знаць ніякай знаці,
Я малюся толькі на цябе.

Б’юцца сэрцу ў такт твае крыніцы,
І жывіцай гояцца рубцы,
І высока вежа камяніцца
Праз свае каменныя вянцы!..

## ЯБЛЫНЯ СПАКОЮ

Старое поле хутарское
У сны захутана свае,
Расце там яблыня спакою,
Што мне спакою не дае.

Даўно яе абрыс сірочы
Лес захіліў сваім плячом.
Вясной цвіце — аж слепіць вочы,
Ад цвету горача і пчол.

Яна мяне здалёк гукае,
Галінкай цягнецца ў мой сад.
А яблык, як і лёс, гаркавы,
Гарыць агеньчыкам зярнят.

Яна ўжо рада нават граду —
Такі цяжар на ёй вісіць.
А дол як вымашчан ападам,
Што нават боязна ступіць.

Прысніцца даўняя сядзіба,
Галінка, што акно скрабе.
Я ў сад яе перасадзіў бы,
Ды сам ён цесны для сябе.

Адна. Каго тут вінаваціць?
Даўно здзічэлая ў журбе…
А птах маўклівы па зярняці
Гады яе дзяўбе, дзяўбе…

## РАЁННЫ АЭРАДРОМ

Каса ўжо марыць пра дакоскі,
Мядовы гул спавіў зямлю…
Каб ведаў хто, пра што стракозка
Пяе паўсоннаму чмялю!

У імя і Айца і Сына
Малюся ранняе вярсце.
Я з лета, проста з канюшыны,
У неба сіняе ўзляцеў.

І загула над ружацветам,
Перакулілася зямля.
І панясла мяне над светам
У іншы свет з-пад Капыля.

Ажно прысеў лясок пахілы,
І да нізоў спаўзла гара,
І разгарнула лёгка крылы,
Нібы старонкі буквара.

І вёскі, і палёў палоскі
З вачэй спяшаюцца ўцячы.
А самалёт сівой стракозкай
У дымным марыве зумчыць.

Ды кіне ў бездань неўпрыкметку,
Ажно сцямнеецца ў вачах.
І ціха горнецца суседка
Ад страху да майго пляча.

Пра ўсё забылася дзяўчына,
Праз вейкі лёгка сон цячэ.
І жар ружовы канюшыны
Ёй шчокі юныя пячэ.

І праз гады той дзень прымрою,
Цяпло дрыготкага пляча
І ўсё, што даўняю гарою
Адгарадзіў ад сэрца час.

Ён папракне мяне здалёку,
І я папрок яго сцярплю:
— Ты недзе там, усё ў аблоках,
Пара спускацца на зямлю!..

## ЛЕТНЯЯ ІДЫЛІЯ

Лета зорамі суніцаў
Насыпае з верхам збан
І чужой травой маніцай
Маніць, цягне нас у зман.

Лета грае і палае
На раздолішчах сваіх
І, як ложак, рассцілае
Нам паляну на дваіх.

Зацягнуўся рэчкі пасак
На вярсту яшчэ адну.
У віры і траў, і красак
Дзень наш дзіўна патануў.

І цікуе неўпрыкметку
Ды ўсміхнецца зрэдку лес.

А пчала цалуе кветку,
І зайздрошчу я пчале.

* * *

Хапаецца комін за неба дымком,
А я — за кіёк свой стамлёнай рукой.

Мы шмат дзе хадзілі,
Забудзем пра шлях.
Трымае нас моцна ля сэрца зямля.

Прыляжаш, паслухаеш сэрца яе:
Гучыць гэтаксама, як крокі твае.

* * *

Ёсць мора слёз — так кажуць людзі.
Ні дна ў яго, ні берагоў.
Мы недзе блізка-блізка блудзім
Каля бяздоннага яго.

Чаго ў ім — солі больш ці болю, —
Само не ведае яно.
Свой боль не выплачаш ніколі,
Слязы апошняй не відно.

Яно зямное наша гора
Заўсёды множыла на сум.
Я нават сам у гэта мора
Дабавіў некалі слязу.

Не караблём, дык дамавінай,
Бывае, высвеціцца лёс.
Там нават востраў ёсць адзіны,
І той завецца — Востраў слёз.

## РАБІНЗОН

Мне яно прыснілася не сёння,
Апярэдзіў яву даўні сон.
Блудзіць у Чарнобыльскае зоне
Стомлены палескі рабінзон.

Свой даўно і цішыні, і зверу,
І старой бярданцы на суку,
Вострыць ён сцізорык і сякеру
На старым счарнелым асялку.

Па слязе чытае ўсе прыкметы,
Лічыць дні зарубкай на камлі,
Бараду, што асмаліў за лета,
Ён завеяй свежай адбяліў.

Ён зусім не бавіў марна часу
І на гэтай, і на той вярсце:
Кашалёў наплёў на два калгасы
І на трэці хутка напляце.

Тут агорклі гукі, нават словы,
Травы з дзікай прошваю былля.
Горкая, як доля бабылёва,
Тут сама на востраве зямля.

Пахне і нарою, і бярлогай,
Тут, у зоне, свой даўно азон.
І сабаку, і ката, нябогу,
Кліча на вячэру рабінзон.

А прыляжа дзесь на ўскрайку лета
Пад вясельны гуд зумлівых мух, —
Сніць яе, пушчанскую кабету,
Што прыродай суджана яму.

Быццам ён вядзе яе да шлюбу,
Лёгкую, як перыйка само.
І адну малітву шэпчуць губы:
— Любы!
Абдымі, калі ты мой!

Абдымае звон пчаліны зону.
Ах, якіх тут скрыпак унісон!
Спіць ён. Не будзіце рабінзона,
Сон салодкі любіць рабінзон.

## СУСТРЭЧА

***Памяці***
***мастака-карыкатурыста***
***Віктара Ключніка***

Колькі раз шапталі вусны
Ды змаўкалі ў немаце:
— Пазнаёмце мяне з буслам,
З тым, што толькі адляцеў.

Гэта — вырай незваротны,
І чакаю я дарма.
Выйду, гляну за вароты —
А звароту ўсё няма.

Толькі з водбліскам прароцкім
Свечка сумная гарыць
На тым ціхім налібоцкім
Старавечным цвінтары.

Птах крылом аб неба б’ецца,
Зацягнула ўсё смугой.
Я не чуў, як ён смяецца,
Плач-то чуў, ды не яго.

Сыпле лістам, нават будзіць
І вяртаецца крылом.
Ну а вы глядзіце, людзі,
Гэта ўсё пры вас было.

## ЛЮТАЎСКІЯ МАРАЗЫ

На свята зімняе «Тры каралі»,
Якое ўчора мы святкавалі,
Прыйшлі тры белыя кавалі
І срэбрам дзверы мае акавалі.

Цяпер у сценах, платах па начах
Пастрэльвае дзіўнае штосьці.
Цяпер нават цені сівыя трашчаць
Збуцвелых крыжоў на пагосце.

Прамёрз нават звону касцельнага гук,
Звініць заінелае ранне.
За воблачкам белым я моўчкі бягу,
Тваё даганяю дыханне.

Усё заплялі нейкай дзіўнай лазой
Галініста-белыя змейкі.
І капае месячык сіняй слязой
Праз белыя-белыя вейкі.

Мне ясным кілішкам сагрэцца пара,
Пакуль адтаюць недзе дровы.
Ты глянь, як задумлівым жарам зара
На шыі гарыць снегіровай.

Чакае ўжо стол і салодкі пірог,
Які толькі ў святы бывае.
А люты каня каля ганка распрог,
З валёнак зіму абівае…

* * *

Хутка Кромань адтане,
Грымне крыгай спярша.
Застаецца пытанне —
Ці адтане душа?

Як адтане — раскажа,
Як трывала адна.
І калі — не заўважыў —
Зледзянела яна.

Бераг гнецца падкоўкай
У чаканні цяпла.
Эх, душа-засцянкоўка,
Ты не гэтак жыла,

Ты не ўмела стрымацца,
Ты не ўмела трываць.
Трэба ў горад збірацца
І душу ратаваць.

Хутка Кромань адтане…

* * *

Колькі час адвёў нам — невядома,
А жывём на свеце толькі раз.
Многа нас, як пчол, у шумным доме,
Але ёсць і трутні сярод нас.

Свет засумаваў даўно па ласцы.
Хтось смяецца, плача хтось наўзрыд.
Коціцца дзіця ў адной калясцы,
А ў другой — бязногі інвалід.

Ну а іншым — толькі іншамаркі,
Іншых мар як быццам і няма.
Круціцца зямля, як цыркулярка,
Кручаная ўся яна сама.

Не сумуй, цвярозы чалавеча,
Ты яшчэ не дома, а ў гасцях.
За сцяной дзіцячы сад шчабеча,
Значыць, будзе, значыць, ёсць працяг.





**Яўген ХВАЛЕЙ**

# ВЯСЕЛЛЕ НА КІПРЫ, АБО ПАЛЯВАННЕ НА ЗАМЕЖНАГА ЖАНІХА

*Аповесць*

### ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## ВЯСЕЛЛЕ ІРЫНЫ

### Адлёт на Кіпр

«Боінг» адарваўся ад узлётнай паласы, набіраючы вышыню і хуткасць, узяў курс на поўдзень.

У салоне самалёта яны сядзелі побач: муж з жонкай, Антон і Таіса, іх пляменніца, Ала. Сваякі ляцелі на Кіпр, дзе жыла дачка нашай сямейнай пары — Ірына. Праз тыдзень — у яе вяселле, выходзіць замуж за кіпрыёта.

— Ой, як у вушах трашчала, калі ўзляталі! — зморшчылася Ала, калі «боінг» нарэшце набраў патрэбную вышыню.

— А мне заклала вушы, усё роўна, як ватай заткнулі, — сказала Таіса, зручней уладкоўваючыся ў крэсла.

— А некаторыя, я чуў, знарок затыкаюць ватаю вушы, каб раптам не лопнулі перапонкі ад узлётнай напругі, — умяшаўся ў гаворку Антон. Ён сядзеў каля ілюмінатара і любаваўся прыгажосцю аблокаў. — Глядзіце, якая карціна! Воблакі — што ўзбітыя пуховыя падушкі. А на сонца не глянуць! Слепіць, як наша мартэна...

Антон працаваў у гарачым цэху трактарнага завода. Таіса на тым жа заводзе — бібліятэкарам. Усе трое ўпершыню ляцелі на самалёце. Таму і вышыню ўспрымалі кожны па-свойму. Жанчыны асцярожна нахіліліся да ілюмінатара, быццам баючыся, і зноў прыліплі да сваіх крэслаў. Антон жа працягваў углядацца ў неба.

---

*__Хвалей Яўген Іванавіч__ нарадзіўся 1 студзеня 1947 года ў вёсцы Белькаўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння Мікалаеўшчынскай сярэдняй школы імя Якуба Коласа (1965) працаваў будаўніком, у рэдакцыі стаўбцоўскай раённай газеты «Прамень». Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1971). Працаваў на Беларускім радыё і тэлебачанні, у выдавецтвах «Народная асвета», «Юнацтва», «Мастацкая літаратура», у часопісах «Крыніца», «Родная прырода», у газеце «Літаратура і мастацтва».*

*Аўтар паэтычных кніг «Ярына» (1979), «Прычасце» (1983), «Зялёны прамень аеру» (1987), «Квадры памяці» (1992), «Прыстань віцінаў» (1996), «Дзе хвалі срэбназалатыя» (2009), вершаваных казак для дзяцей і аповесцей для юнацтва.*

Быў жнівень, другая яго палова. Лета кацілася на спад. Над роднымі палеткамі, калі самалёт выскокваў з-за аблок на святлістую прастору, Антон бачыў зжатыя квадраты і прамавугольнікі — з вышыні яны сапраўды нагадвалі геаметрычныя фігуры — збажыны. Роўнымі радамі, як тое золата, ляжалі жоўтыя рулоны саломы. «Прыгожая наша зямля, які час не бяры, — падумаў Антон. — І чаго некаторым людзям так карціць пакінуць яе, збегчы за мяжу — не разумею... Ну хоць бы мая дачка, Ірына... Магла ж і тут, дома, выйсці замуж. Не, трэба ўцячы ў такую далячынь, у чужую краіну...»

Лайнер штохвілінна скарачаў адлегласць, пасажыры хто ўжо драмаў, а хто чытаў газеты. Камандзір карабля падаграваў аб'явамі:

— Пралятаем над Крымам...

— Унізе пад намі — Чорнае мора...

— Турцыя...

— Паказалася Міжземнаморскае ўзбярэжжа. Праз пятнаццаць хвілін прызямляемся ў аэрапорце «Ларнака».

Антон, Таіса і Ала — яны ляцелі першы раз за мяжу — успрымалі яго словы з асаблівым хваляваннем. Не жартачкі, за нейкія тры гадзіны праляцець над Беларуссю, Украінай, Турцыяй, над двума морамі. А прызямляцца давядзецца на востраве ў Міжземным моры. Якія яны, тыя Кіпр і мора?

Антон быў родам з палескай вёскі Кужалі. Яго жонка Таіса і пляменніца Ала — мінчане. Яму, Антону, палешуку, добра вядома, што такое жыць сярод вады. Вёскі там яшчэ ў нядаўнія часы туліліся на астравах, дакладней, — на астраўках. Антон часта, калі заходзіла размова пра Палессе, згадваў першыя словы яго любімага рамана Івана Мележа «Людзі на балоце»: «Хаты былі на востраве». «Цікава, якія там, на Кіпры, хаты? Не такія, як у нас, з дрэва?...» Дачка крыху расказвала, што на Кіпры ўсё не так, як у Беларусі. «Прыляціш, бацька, усё сам паглядзіш. Кіпр — гэта супер!» Што гэта за «супер» — слоўкі ж павыдумлялі — ён хутка пабачыць на свае вочы. А пакуль Антон пацягваў чырвонае віно, якое падала бортправадніца, Таіса і Ала пілі апельсінавы сок. Неўзабаве па салоне паплыла цялежка з абедам.

— Дык нічога сабе частуюць тут, у самалёце, — прамовіў Антон, закусваючы смажанай курыцай віно. — Я згадзіўся б кожны дзень гэтак лятаць.

— Табе каб толькі выпіць — няважна дзе, — не падтрымала яго жарт Таіса. — Палучак тваіх не хопіць на такія палёты.

— Чаго, я добра зарабляю на заводзе.

— І выпіць любіш таксама добра.

— Ціха, тут жа і іншаземцы ляцяць — не толькі нашы, — спыніла іх спрэчку Ала.

Антон прынік да ілюмінатара і замоўк. Гэтыя спрэчкі з жонкай яму надакучылі дома. Глянуў праз ілюмінатар уніз: усюды мора, вада, хоць бы дзе кусцік, дрэўца ці астравок, як у іх на Палессі ў час паводкі. Але неўзабаве паказаўся жоўты бераг.

Урэшце Антонаў позірк прыцягнулі пабудовы набярэжнай. Паплылі домікі, якія здаваліся цацачнымі.

— Увага! Прызямляемся! Аэрапорт «Ларнака», — прагучала ў салоне.

«Боінг» мякка прабег па бетоннай паласе. Адно злёгку страсянула, калі колы шасі дакрануліся зямлі. Гэта добра адчулі і нашы героі. Прайшло няшмат часу, пакуль сціхлі рухавікі, і пасажыры пачалі выходзіць з самалёта, спускаліся з трапа і накіроўваліся ў бок будынка аэрапорта.

Праверка дакументаў, атрыманне сумак, валізак, мытня занялі нейкія паўгадзіны. І калі здарожаная тройца выйшла ў залу, дзе сустракалі авіяпаса-

жыраў, раптам з натоўпу да іх кінуліся Ірына і Нікас, яе будучы муж. Абняліся, пацалаваліся, расчулена загаварылі. На вуліцы каля аэрапорта іх чакала машына — белы «мерседэс». Хутка ўсе селі ў яго, месца за рулём заняў Нікас. У дарозе ён маўчаў, дрэнна размаўляў па-нашаму.

«Мерседэс» бег па шырокім аўтабане. Абодва бакі руху былі адгароджаны высокай жалезнай перагародкай. Паабапал аўтабана цвілі рознакаляровыя кусты і кветкі, якіх не пабачыш у Беларусі. Жанчыны не маглі нагаварыцца, трашчалі як сарокі, а ён, Антон, седзячы каля акна, разглядаў тутэйшую прыроду. Яркія кветкі і кусты, якія аж гарэлі на сонцы, бурая зямля, як наша гліна, ружаватыя скалы, што сям-там навісалі над аўтабанам, здзіўлялі Антона. «Непадобная, зусім непадобная прырода Кіпра на нашу, — пранеслася ў думках. — Можа, таму што сам востраў некалі ўтварыўся ў выніку землятрусу ці вывяржэння вулкана. Проста падняўся з дна мора. Так казала дачка». Антон глядзеў не толькі на кіпрскія ландшафты, але і на няспынныя патокі машын, якія імчалі па аўтабане. «Легкавушкі розных замежных марак — ад «пежо», «фордаў», «таётаў» да «мерседэсаў». І ніводнай нашай маркі. Ну хоць бы «Волга». А дзе аўтобусы ды розныя маршруткі? Не відаць...» Антон не ведаў, што на Кіпры адсутнічае грамадскі транспарт — няма аўтобусаў, тралейбусаў, трамваяў, цягнікоў. Усе ездзяць на ўласных аўтамабілях. Вось так і ў яго будучых кіпрыёцкіх сваякоў. У сям'і зяця бацька ездзіць на паўгрузавой японскай «міцубісі», зяць — на «мерседэсе», яго брат — на «аўдзі».

Сорак кіламетраў — такая адлегласць ад Ларнакі да Нікасіі, сталіцы Кіпра — праехалі хутка. Уехалі ў Нікасію — і адразу трапілі ў затор: машыны паўзлі адна за адной як чарапахі, а то і зусім падоўгу спыняліся, стаялі як укапаныя. Антон тым часам разглядаў вуліцу, дамы, якія яму здаліся нізкімі, — большасць пяціпавярховыя. Але кожны не падобны на іншы. Недзе ён вычытаў, што на астравах звычайна дамы нізкія — з-за высокай сейсмічнасці.

Іх «мерседэс», павольна прасоўваючыся ў бясконцым патоку машын, урэшце спыніўся каля невялікага белага двухпавярховіка. Гэта быў дом будучага свата Антона. Госці павыходзілі з машыны і адразу трапілі ў абдымкі: на іх проста накінулася Віка са сваімі дзецьмі — шасцігадовай дачушкай і трохгадовым сынам. Віка — лепшая школьная сяброўка Ірыны. Яна прыляцела з іспанскай Барселоны. Там яна выйшла замуж за каталонца. Антон не паспеў як след разгледзець дом, бо пасля гарачых абдымкаў Вікі і яе дзетак трэба было знаёміцца з будучымі сваякамі-кіпрыётамі. Тыя стаялі пад паветкай, тут жа месціўся стол з рознымі напоямі і ежай. Побач расло ўсыпанае жоўтымі пладамі лімоннае дрэва. На ім вісеў плакат са словамі, напісанымі па-грэчаску: «Калос ірфэс!» (Сардэчна запрашаем!) Пачалося знаёмства.

— Маноліс — патэра (бацька) Нікаса.

— Марыя — мітэра (маці).

— Міхаліс — адэльфос (брат) Нікаса...

Усе па чарзе віталіся за руку, называлі сябе. Мужчыны-кіпрыёты шчыра ўсміхаліся, адна Марыя — сухенькая, маленькая жанчына ў зморшчынах на твары — маўчала. Антону яна не спадабалася, а вось мужчыны — малайцы! Шырокія сонечныя ўсмешкі, асабліва Маноліса, выклікалі давер. Антон нават бліжэй стаў каля Маноліса — як-ніяк будучы сват. Прыцягваў увагу яго тонкі доўгі нос — зусім не класічны грэчаскі. На Палессі казалі: нос, як у куліка. Сын Маноліса Міхаліс здаўся светлым добрым чалавекам — ён бесперастанку ўсміхаўся, нешта па-свойму гаварыў.

Маноліс запрасіў усіх за стол. Налілі ў келіхі чырвонага іскрыстага віна. Тостаў тут не кажуць, толькі чокнуліся за ўдалы прылёт гасцей, выпілі крыху.

П'юць таксама не так, як у нас: пацягваюць напой невялікімі глыткамі — ці гэта віно, ці віскі, ці піва. Гарэлку лічаць чужым напоем. Калі Антон з Таісай дасталі прыгожыя сувенірныя бутэолькі гарэлкі, дык іх Міхаліс тут жа занёс у пакой і паставіў на паліцу, на якой ужо красавалася шмат такіх бутэлек — цэлая выстаўка.

Пасля пачастунку весялей загаманілі, хто па-нашаму, хто па-грэчаску. Ірына, будучая нявеста, паспела збольшага вывучыць грэчаскую мову, таму была як бы сямейным перакладчыкам.

— Ці канэтэ Мінск? (Як у вас справы ў Мінску?)

— Вельмі добра (Полі кала). А ў вас? (Кэ эсіс?)

— Эфхарысто! Кала! (Дзякуй! Добра!)

Ірына перакладала, і гамонка пайшла так, нібыта ўсе размаўлялі на адной мове. У канцы дамовіліся — да вяселля заставаўся яшчэ тыдзень — паехаць адпачыць на мора. Нікас паведаміў, што ў Ларнацы жыве яго стрыечны брат Петрас, у бацькі якога — прасторны катэдж. Там і раскватаруюцца. На гэтым і спыніліся, выйшлі з-за стала пад паветкай і рушылі ў дом — мінчане з падарункамі, ад якіх аж трашчалі валізкі і сумкі. Там іх распакуюць і ўручаць падарункі гаспадарам.

## Ірына — Іна — Нікас

***(Партрэты ў анфас і профіль)***

Ірына была другой дачкой у сям'і Вальчукоў, Антона і Таісы. У адрозненне ад старэйшай Улі, ціхмянай русявай дзяўчыны, якая выдатна вучылася ў школе, Ірына, чарняўка, з шырокай белазубай усмешкай, была рэзкай супрацьлегласцю сястры. Яна не шмат увагі ўдзяляла вучобе, часта атрымлівала не вельмі высокія адзнакі. Так працягвалася да дзявятага класа. Тут перад ёю паўстаў выбар: ці працягваць вучобу ў школе, ці спыніцца на якім-небудзь вучылішчы або тэхнікуме. Перамагло апошняе. На той час у паліграфічным каледжы адкрылася аддзяленне камп'ютарнага набору. Ірыне падабаўся камп'ютар. Праўда, дома яго не было. Яна хадзіла з сяброўкай у інтэрнэт-клуб, дзе гадзінамі праседжвалі за камп'ютарамі. У каледж Ірына паступіла адразу, здаўшы адзін экзамен па матэматыцы. Тут яна пасябравала з Інай, дзяўчынай старэйшай за яе на два гады. О, гэтая Іна! Калі б не яна, магчыма, і лёс Ірыны склаўся б зусім інакш.

Ірына зблізілася з Інай пасля здачы ўступнага экзамена. Выйшлі разам з аўдыторыі. На вуліцы Іна дастала цыгарэты, закурыла, потым прапанавала закурыць Ірыне. У маладых гэта называецца «зняць стрэс». І хоць Ірына дасюль не курыла, але цыгарэту ўзяла.

— Будзем знаёмы. Мяне зваць Іна. А цябе?

— Ірына.

— Выкінь «ры» — і будзем дзве Іны. І Бог наказваў нам сябраваць. Пайшлі развеемся па «Брадвеі», — Іна так называла самы шырокі праспект сталіцы.

Новыя сяброўкі дайшлі пешшу ад Камароўскага рынку да вакзала, перагаварылі пра ўсё, што можна. На вуліцы Дружная развіталіся. Іна села ў свой аўтобус, які павёз яе ў бок Грушаўкі, дзе яна жыла, а Ірына рушыла ў метро — ёй патрэбна было ў Зялёны Луг.

У каледжы прабеглі два з паловай гады вучобы. Ірына і Іна так пасябравалі, узаемна прыкіпелі, што хутка адна без адной не маглі жыць. Іна была ва

ўсім завадатарам. Яны глядзелі розныя фільмы, наведвалі бары і дыскатэкі. Былі не толькі адна ў адной дома ў горадзе, але і на радзіме бацькі Ірыны — на Палессі, у вёсцы Кужалі, што каля Давыд-Гарадка. Там, у лесе, здарылася непрыемнае.

У той дзень пакрочылі яны разам з бацькамі ў чарніцы.

Зайшлі даволі глыбока ў лес, чарніц было шмат, сапраўдная неруш. Збіралі да стомы, і раптам пачулі ціхі стогн Іны:

— Ой, я паміраю! Ратуйце!..

Падбеглі Ірына, бацькі. Іна ляжала на ягадніку белая як мел. Паднялі, далі лякарства, якое брала з сабой Таіса. Іна крыху ачуняла. Ледзь пасля прыйшлі дамоў. Пазней высветліцца недамаганне Іны: яна была цяжарнай на другім месяцы.

Іна нарадзілася ў гарадской сям'і кволай дзяўчынкай. Доўга хварэла. Маці Зінаіда была родам з вёскі, недзе з-пад Івянца. Бацька Іван — мінчанін. Зіна ўсё жыццё была хатняй гаспадыняй, глядзела не толькі сваю кватэру, але і прыватны дом свекрыві, які стаяў непадалёк ад вакзала. Іван працаваў дальнабойшчыкам, ездзіў са сваёй фурай у Германію, Галандыю, не стыкаўся дома. А хутка Зіна ў доўгую адсутнасць мужа завяла каханка Уладыся. Іван, вярнуўшыся з камандзіроўкі, даведаўся пра нявернасць жонкі, ляснуў дзвярыма і пакінуў назаўсёды ненавісную для яго кватэру. Так Іначка недзе ў класе пятым займела айчыма. Уладысь даволі цёпла адносіўся да сваёй падчарыцы. Але да таго часу, пакуль не запіў. Аднойчы п'яны трапіў пад аўтобус і застаўся без нагі. Хадзіў на мыліцах. Калі Іначка не слухалася, часта атрымлівала па спіне мыліцай. Урэшце Іна зненавідзела айчыма ды і маці сваю не надта любіла. «Два боты — пара». У школе яна вучылася так сабе. Адна толькі матэматыка лёгка давалася ёй. І калі ў дзявятым класе задумалася, куды паступаць, вырашыла — у паліграфічны каледж. Вычытала ў газеце, што там адкрываецца новае аддзяленне — камп'ютарнае. З экзаменаў здаюць толькі матэматыку, а гэта ёй якраз і трэба. Такім чынам, Іна стала навучэнкай каледжа. Калі Ірыне вельмі падабаўся камп'ютар, заўсёды здавала экзамен па ім на «выдатна», то Іна адносілася да яго з прахалодай. І наогул у вучобе яна не шчыравала. Затое па знаёмстве з хлопцамі Іна ў каледжы была чэмпіёнкай.

Аднаго разу, шпацыруючы з Ірынай па праспекце, Іна звярнула ўвагу на двух чарнявых хлопцаў, якія ішлі побач.

— Давай закадрым, — шапнула яна Ірыне, кіўнуўшы галавой у бок незнаёмцаў. І тут жа рынулася да брунетаў. — Скажыце, — прыкінулася нязнайкай, — як прайсці да парку Горкага?

Хлопцы запыніліся, пачалі перамірґвацца і на ламанай рускай мове адказалі:

— А ми и сами туда идём... Пошли с нами...

Сяброўкі зразумелі, што гэтыя хлопцы з нейкай замежнай краіны. А чаму б і не прайсціся з імі? Так чацвёрка дайшла да парку Горкага. Там брунеты запрасілі сяброўак у кавярню. Селі за столік, пачалі знаёміцца.

— Нікас... Костас... — цягнучы。 кактэйль, які заказалі хлопцы, пачулі сяброўкі. — Мы — з Кіпра.

Потым дзяўчаты даведаліся, што іхнія новыя знаёмыя працуюць у адной беларуска-кіпрскай фірме. Прыехалі толькі што з Нікасіі. Ужо не першы раз. Так што парк Горкага ведаюць добра. Брунеты расказвалі пра сябе, загадкава заўсміхаліся.

Слова за слова — і чацвёрка амаль пасябравала. Хлопцы аказаліся ветлівымі, гаваркімі. Пасля застольнага пачастунку дамовіліся праводзіць дзяўчат

дамоў. Толькі хто каго? Урэшце Нікас — ён быў высокі ростам — выбраў Ірыну, стройную, статную, а нізенькі Костас — Іну, на паўгалавы ніжэйшую за сяброўку. Правёўшы дзяўчат, кіпрыёты папрасілі ў іх нумары мабільных тэлефонаў. Пасля амаль штодзень сазвоньваліся, сустракаліся...

Сяброўкі заканчвалі каледж. Ім трэба было ўладкоўвацца на працу. Пра гэта яны сказалі Нікасу і Костасу. І тыя запрасілі дзяўчат у сваю фірму. Якраз там не хапала камп'ютаршчыкаў. Так Ірына і Іна сталі аператарамі камп'ютарнага набору ў фірме.

Нікас і Костас снавалі, як чаўнакі, паміж Нікасіяй і Мінскам. Яны прыляталі ў Мінск, засяляліся ў гасцініцу, куды запрашалі і дзяўчат.

Аднойчы Ірына запрасіла Нікаса да сябе дамоў. Не хавала гэтага ад сваіх хатніх. Нікас прыйшоў з вялікім букетам белых руж, уручыў іх Таісе, маме Ірыны. Бацьку Антону паднёс бутэльку кіпрскага каньяку. Пазнаёміліся. Нікас, можна сказаць, спадабаўся, асабліва Таісе — культурны, абыходлівы, — хоць і не свой чалавек, няцяжка было знайсці з ім агульную мову. З таго часу ён стаў частым госцем у кватэры Вальчукоў.

Запомніўся ўсім ягоны прыход зімой, недзе пад Каляды. Хлопец ён быў, як і ўсе паўднёвыя людзі, — далікатны, любіў цяпло і вельмі баяўся марозу. З Ірынай яны прыйшлі пасля працы адвячоркам. Мароз яшчэ быў слабы. Нікас быў апрануты ў цёплае паліто, на галаве—шарсцяная шапачка. Загасцяваў ён дапазна, мароз падхапіўся пад градусаў пятнаццаць. Выйшлі з Ірынай з дому, і адразу Нікас зніякавеў: ён увесь дрыжэў, не мог ступіць кроку. Давялося вярнуцца назад. Антон даў яму сваю дублёнку, пыжыкавую шапку, цёплыя чаравікі, на рукі — скураныя пальчаткі ( балазе, Антон і Нікас былі як двайнікі, насілі аднолькавыя памеры адзення і абутку). У такой экіпіроўцы Нікас ледзь варушыўся — не прывык.

Ён слізгацеў, нават упаў на снег. Антон, які падахвоціўся правесці госця да станцыі метро, трымаў з Ірынай Нікаса пад пахі. Па дарозе жартавалі, смяяліся.

— Калі б убачыў мой дзед Паўлуська, паляшук, гэтае відовішча, сказаў бы: «Не нашае пароды чалавек. Наш любіць усё — і мароз, і завіруху. Ён, як мядзведзь, не баіцца нічога».

— Дык гэта ж, тата, твой дзед, які ўсё жыццё пражыў у зябкай Беларусі. А Нікас — з гарачага Кіпра. Яго кроў баіцца халадоў.

— Так, так, у нас летам сорак — сорак пяць градусаў, а зімой — не ніжэй як плюс дзесяць, бо гэта ўжо страшна холадна, — удакладніў, як мог, Нікас.

— Чуеш, тата, плюс дзесяць — ужо зіма, — ледзь не заскакала Ірына.

— А для нас мінус дзесяць — яшчэ не зіма. Бывалі маразы, калі даходзіла да трыццаці і больш градусаў ніжэй нуля. Вось гэта зіма! — пацёр далоні ў рукавіцах Антон.

— Нікас ішоў, тулячыся ў каўнер дублёнкі, ногі пераастаўляў так, як быццам крочыў на хадулях. Затое Антон пачуваўся, нібы зімой на сваім Палессі: бадзёра, упэўнена, мароз яго толькі радаваў. А ў думках мроіўся дзед Паўлуська, які смяяўся б з гэтага «гарачага» кіпрыёта.

«Няўжо нельга было свайго хлопца, беларуса, знайсці? Эх, Іра, Іра... Быў жа ў цябе аднакласнік Сяргей. Добры хлопец. Прыгожы, статны. Казаў, паступаць у політэхнічны будзе, на інжынера-будаўніка. Не, бачыш, ёй трэба чужак. Што гэта за час настаў! Нашы продкі гэтага ніколі б не зразумелі. Яны жаніліся, выходзілі замуж за сваіх, перад гэтым доўга прыглядаліся, кахаліся, а потым ехалі ў сваты. Ды што тут разважаць, калі ў гарадах нашы дзяўчаты выскокваюць замуж за розных чужынцаў. Якоесьці насланнё!» — разважаў Антон.

Думкі Антона беглі ўсё далей і далей. «А хто ж, калі разабрацца, гэты Нікас? Падчас знаёмства з дапамогай Іры расказваў пра сваё жыццё. Нарадзіўся, правёў дзяцінства на паўночным Кіпры, самым урадлівым рэгіёне вострава. Усё там у іх было: і дом шыкоўны на беразе мора, і зямлі кавалак, дзе раслі экзатычныя дрэвы і расліны. Але здарылася так, што сям'я, у якой жылі Нікас, бацька Маноліс, маці Марыя і брат Міхаліс, апынулася ў Нікасіі. Там ім улады выдзелілі домік. Тут жа Нікас скончыў каледж сувязі. А затым паступіў у Лонданскі інстытут камунікацый. Вучыўся разам з адным беларускім бізнесменам, з якім пасябраваў, а пасля разам арганізавалі сумесную фірму. У ёй цяпер працуюць вось Ірына і Іна... Праўда, апошняя збіраецца пакідаць фірму. Бо, расказвала Іра, Іна хоча стаць міжнароднай мадэллю. А як жа з біяфакам універсітэта, на завочнае аддзяленне якога паступілі сёлета сяброўкі? Ініцыятарам была Іна: «Мець сёння вышэйшую адукацыю — прэстыжна».

Антон, Ірына і Нікас падышлі да станцыі метро «Усход». Бацька і дачка развіталіся з Нікасам, які пачаў спускацца па прыступках у падземку, памахалі яму рукой, павярнуліся і пакрочылі дамоў.

## Ала
### *(Партрэт у поўны рост)*

Ала нарадзілася другой у сям'і Манкевічаў, Зосі і Валянціна. Пасля першынца Алеся бацька і маці (родная сястра Таісы Вальчук) не маглі нацешыцца прыгожай русявай дзяўчынкай. Шэсць гадоў яе чакалі — не жартачкі. Менавіта дзяўчынка планавалася ў сям'і. Двое разнаполых дзяцей — сёння лічыцца сямейным ідэалам. Расла Ала, мела, што хацела. Мама яе, Зося, працавала загадчыцай аддзела ў адным з гарадскіх універмагаў, прыносіла сваёй пястушцы лепшае адзенне, абутак, а потым — касметыку, парфюмерыю. Калі мала было Зосіных грошай, дадаваліся бацькавы: Валянцін працаваў камерцыйным дырэктарам у адной з фірмаў. Так цягнулася да выпускнога школьнага экзамена. Вучылася Ала сярэдне. У выніку атэстат стракацеў markedрознымі адзнакамі. Куды паступаць — гадаць не мела сэнсу. Дзяржаўныя навучальныя ўстановы на бюджэтнай аснове адразу адпадалі: па конкурсе яна нідзе не прайшла б. Заставалася платнае навучанне. Таму адразу пасля выпускнога балю Зося сказала Але:

— Будзем, дачушка, паступаць у прыватную ВНУ. Я разведала, што ёсць такая спецыяльнасць: дызайнер сучаснай кватэры. На яго вучацца ў Інстытуце сучасных ведаў. Ты ж любіш, каб дома было па-апошняму слову моды. Колькі я ў гэтую кватэру ўсяго панацягвала?

— Я люблю, мама, жыць лёгка, шыкоўна. Ты ж сама ведаеш, — засмяялася Ала. — Так што думай пра маю далейшую вучобу, а за каго выйсці замуж, я сама падумаю (Зося не раз рабіла намёк, якога трэба мець мужа: вядома ж, багатага). Урэшце, дызайнер — клёвая прафесія.

— Толькі ж там, у гэтай прыватнай ВНУ, таксама трэба старацца добра вучыцца.

— Вы за гэта не хвалюйцеся. Будзеце з бацькам плаціць грошы за вучобу, а калі не здам які-небудзь экзамен, то прынясеш выкладчыку прэзент са свайго ўнівермага, — Ала замоўкла, а Зося толькі шматзначна хітнула галавой.

Так і вучылася Ала, здаючы і пераздаючы інстытуцкія экзамены з дапамогай мамы. Дацягнула і да пятага курса, на якім яна цяпер была.

А як сябе паводзіла Ала ўсе гэтыя студэнцкія гады — асобная старонка ў яе жыцці. Дзе толькі і на якіх танцульках, дыскатэках горада — яна не засвяцілася!

«Юла» — дыскатэка, якая знаходзілася ў высотным доме горада, непадалёк ад вуліцы, дзе жыла Ала. Сюды часцей, чым на іншыя, забягала і яна.

— Вечарына знаёмстваў, — аб’явіў дзіджэй. І грымнуў, быццам гром, шквал рок-музыкі. Дзяўчаты і хлопцы рынуліся ў танец: пачалося дрыганне нагамі, целам і рукамі. Да Алы, моцна дыхаючы, падсуседзіўся малады хлопец — чарнявы, з белазубай усмешкай, у цёмных джынсах, белай кашулі. Музыка на хвіліну прыціхла, і хлопец нечакана працягнуў сваю руку:

— Тодар...

— Што-што? — Ала спачатку не зразумела.

— Завуць мяне так... Будзем знаёмы... Цябе як нараклі?

— Алай.

— Ідзём з дыскатэкі разам. Лады?

— Згодна.

Зноў загучала музыка. Тодар з яшчэ большым імпэтам запрацаваў у танцы.

Ала не адставала. Праз нейкі час Тодар і Ала выйшлі разам і пакрочылі ў бок парку. Па дарозе пачалі бліжэй знаёміцца.

— Што гэта за імя табе далі бацькі? То-дар… Сто гадоў не чула... Так называлі, мусіць, нашых прапрадзедаў, — невядома было, яна здзіўлялася ці пасміхалася з хлопца.

— Не скажы... Гэта імя з намёкам. То-дар! «То» ёсць «дар». А ён, дар, у мяне своеасаблівы: я іграю на флейце, а бацька — на трубе. Ён — трубач у аркестры, рыхтуе і мяне туды. Я вучуся на чацвёртым курсе ўніверсітэта культуры.

— А я ўжо — на пятым, — фарсіста крутнулася на абцасах Ала.

— Дзе вучышся?

— У Інстытуце сучасных ведаў. Дызайнерам буду...

— Клёва...

— І ў цябе — клёва... Нас нібыта Бог звёў. Давай сябраваць, — Але спадабаўся гэты вясёлы хлопец-музыкант.

— Давай пацалуемся спачатку, — сказаў Тодар, калі селі на лаўку. — Ты цалавалася з хлопцамі?

— А ты з дзяўчатамі?

— Адназначна.

— І я — адназначна, — паўтарыла з тым жа форсам Ала.

Сітуацыя вымагала пацалунку, і Ала сама падалася насустрач Тодару. Той, вельмі ўзбуджаны, пачаў са страсцю цалаваць Алу. Так яшчэ яе не цалавалі. Тодар, відаць, хлопец сапраўды незвычайны.

Ала і Тодар сустракаліся вось ужо два месяцы: то дзе-небудзь на вуліцы, у парку, а то і дома ў Тодара — ён быў адзінае дзіця ў сям’і. Аднойчы яны заначавалі на дачы музыкантаў, на другім паверсе, у будуары, як казаў Тодар. Тут Ала заўважыла дзіўныя паводзіны свайго каханага. Ён у бурным парыве то прыставаў да яе, то тут жа адхлынькваў, быццам тая хваля ў час прылівуадліву. Выгляд Тодара быў ненатуральны: вочы блішчэлі-тухлі, усмешка на твары перакошаная, галаву ён то апускаў, то ўздымаў. Калі Тодар заснуў сярод ночы, Ала спусцілася на першы паверх папіць вады. На стале ў сталовай яна ўбачыла пусты шпрыц, плямы на абрусе ад нейкага зелля. «Што гэта значыла б? — спрасоння падумала Ала. — Ці не наркаман гэты Тодар?» Раніцою

Ала ўчыніла Тодару допыт, і той прызнаўся, што мае сувязь з гарадскімі наркаманамі. Дома яна нічога не казала, з кім звязалася. Да таго ж схадзіла да гінеколага, і там яе ашаламілі: яна цяжарная. Ала прызналася бацькам. «Што рабіць? Раджаць ці рабіць аборт?» Маці, пакутуючы, сказала катэгарычна, як адрэзала: «Толькі раджаць! Аборт — гэта бяздзетнасць на ўсё жыццё». Што будучы бацька дзіцяці — наркаман, Ала не прызналася: нешта ж будзе... Валянціну загадалі рыхтаваць вяселле — раскашэльвайся, фірмач. Ала ўсё расказала Тодару, а той — сваім бацькам. Вяселле, трэба тэрмінова рабіць вяселле, пакуль не позна.

Вяселле ладзілі праз нейкі месяц у адной з кавярняў горада. Сабраліся сваякі, блізкія, шмат моладзі. Усе весяліліся, толькі ў Алы настрой быў паганы. Яна выходзіла замуж за наркамана ды яшчэ цяжарнай. За сталом у вясельным вэлюме глядзела скоса на Тодара, а той, выпіўшы гарэлкі, нібы прыняўшы порцыю наркотыка, увесь час смяяўся, гаварыў абы-што ёй на вуха. І толькі калі бацька Тодара, а зараз яе свёкар, Аркадзь выйшаў на сярэдзіну залы і зайграў на трубе яе любімую мелодыю «Бэсама мучо», Ала ўся ўстрапянулася. Вочы яе загарэліся. Хацелася падпяваць трубачу, рынуцца ў танец, як яна рабіла ўсе гэтыя гады, наогул, ляцець на крылах у завоблачную далячынь. Але ява ўтрымлівала на месцы: цяжарнай не надта пакруцішся і ў танцы. Затое хлопцы і дзяўчаты весела танчылі, нібыта нядаўна яна на дыскатэцы ў «Юле».

Пасля вяселля маладыя жылі ў Аліных бацькоў. Тодар знікаў на цэлыя дні — вучыўся ён ці не вучыўся ва ўніверсітэце, ніхто не ведаў. Ён працягваў сустракацца з наркаманамі. Калі вяртаўся да Алы, яго ламала, быў сам не свой, часта дэбашырыў з маладой жонкай. Пасля ўцякаў да сваіх бацькоў. Так цягнулася, пакуль Ала не нарадзіла сына Дзяніску, прыгожага светлага хлопчыка. Пасля чарговага дэбошу з мужам Ала не вытрымала і падала на развод. Суд адбыўся праз месяц, перад самым адлётам Алы на Кіпр на вяселле стрыечнай сястры Ірыны.

## Прылёт Іны ў Лімасол

Іна ляцела на вяселле Ірыны з Лондана. Там яна жыла ў чарговага багаценькага жаніха Майкла, якому было за пяцьдзясят. Англічанін ужо ці не чацвёрты ў Іны. Пасля таго, як парвала з кіпрыётам Костасам — нізенькі, не для яе, — яна пазнаёмілася з палякам, потым галандцам. Справа ў тым, што Іна звязалася з адным сумніўным міжнародным мадэльным агенцтвам, пакінуўшы фірму. Яна раз'язджала па свеце, лавіла багатых жаніхоў, закручвала з імі раманы, а потым знікала, узяўшы ад іх усё: ад грошай да пярсцёнкаў з брыльянтамі. Шмат разоў Іна ўгаворвала Ірыну, каб тая занялася тым жа, чым і яна. Але Ірына не паслухалася сяброўкі. Дый наспявала ўжо вяселле з Нікасам.

З Майклам Іна пазнаёмілася ў лонданскім рэстаране. Яна выступала, а дакладней, танцавала перад кліентамі разам з іншымі «мадэлямі»: расфарбаваная, з меліраванай прычоскай і ... амаль голая. Што тая вуаль на плячах ды вузенькія бікіні? Майкл адразу паклаў вока на Іну, у перапынку выступлення падышоў да яе і запрасіў на танец — музыка загучала ў зале. Яны танчылі сярод пар, на іх звярталі ўвагу, а Іна і Майкл працягвалі знаёміцца бліжэй. Хоць Іна не да канца разумела, што гаварыў яе партнёр, але ўсвядоміла адно: Майкл — бізнесмен, багаты чалавек. Значыць, не марудзь, чапляй ашыйнік.

Так і выйшла. Майкл клюнуў на паказную прыгажосць дзяўчыны. З рэстарана ён прывёў Іну дамоў. Пасля належнага пачастунку — віскі з лёдам ды лепшая закусь, — а затым пасля бурнай ночы, Майкл запрасіў Іну на Кіпр. Там, у гэтай еўрапейскай афшорнай зоне, у адным з банкаў ён меў немаленькі грашовы ўклад. Іна ўзрадавалася, тым больш, што ёй трэба было на гэты востраў, там чакала Ірыніна вяселле. Пра гэта яна сказала Майклу.

— Выдатна! Я ў горадзе Лімасол здымаю апартаменты ў атэлі «Мэвенпік». Там жа знаходзіцца і мой банк.

— А я буду ў сталіцы, у Нікасіі. Лячу на вяселле сяброўкі.

— Калі вяселле?

— Праз тры дні.

— Я буду чакаць цябе... Пасля вяселля вяртайся да мяне ў Лімасол.

— Абавязкова. Толькі глядзі, каб апартаменты былі шыкоўныя. Я люблю камфорт, — весела зашчабятала Іна.

Ляцелі з Лондана разам у адным самалёце. Прызямліліся ў аэрапорце Лімасола. Гэта другі па велічыні горад на Кіпры пасля Нікасіі. Тут размешчаны банкі ледзь не ўсіх краін Еўропы, шыкоўныя магазіны багатых людзей, курортныя атэлі. А яшчэ Лімасол славіцца вырабамі лепшых кіпрскіх вінаградных він.

Калі выйшлі з будынка аэрапорта, рушылі да стаянкі таксовак. Іна заказала машыну на Нікасію, Майкл — да свайго атэля. Спачатку англічанін пасадзіў Алу ў аўто, на хаду прамовіў: «Уладкуюся ў атэлі, пазваню табе. Запомні: «Мэвенпік». Прыязджай...» Калі машына кранулася з месца, Майкл памахаў Іне рукой і сеў у таксоўку.

Па дарозе Іна раптам успомніла, што ў Лімасоле летам жыве сям’ я Зоі Пятроўны, той самай Зоі Пятроўны, якая працавала выкладчыцай на ўніверсітэцкім біяфаку. Тут жа, як вядома, вучыліся сяброўкі Іна і Ірына. Аднойчы, пераздаючы прадмет, Іна прызналася выкладчыцы, дорачы замежны прэзент, чаму заваліла экзамен. «Гастралявала па Еўропе... Я — мадэль. Працую ў міжнародным мадэльным агенцтве». Зоя Пятроўна акінула вокам стройную зграбную Ініну постаць, больш пільна паглядзела на яе мілавідны твар. Падумала: «Складзена на заглядзенне. Вось толькі розуму малавата».

Тым не менш вырашыла глыбей уведаць Іну. Бо і дачка марыць стаць мадэллю.

— А на Кіпры вы бываеце са сваім мадэльным агенцтвам?

— Не, яшчэ ні разу не ляталі. Можа, калі давядзецца...

— Дык вось, будзеце там, на востраве, загляніце і да нас. Там у нас дачная кватэра. Я даю вам наш адрас.

Іна ўзяла візітку, падзякавала, паклала картку ў сумачку.

Цяпер, едучы ў таксі па Лімасолу, яна дастала візітку, прадыктавала вадзіцелю адрас, — папрасіла прабачэння за нечакана зменены маршрут, — і той давёз яе да неабходнага дома. Кватэру знайшла хутка, пазваніла. Ёй адчыніла сама Зоя Пятроўна. Адна другую пазналі, павіталіся, узрадаваліся. У прыхожай сустрэў мужчына — ёмкі, круглы, жывот выпіраў як гарбуз. Ён быў у спартыўным касцюме фірмы «Адзідас». Іна пазнаёмілася з гаспадаром.

— Леапольд Францавіч Марціноўскі, — назваўся ён і павёў паказваць апартаменты. Перад Інай паўсталі чатыры шырокія пакоі з карцінамі жывапісу на сценах, шыкоўныя кухня, сталовая, дзве ванныя, душавая, два туалеты, тэраса, хоць гуляй у футбол.

«О-го, — падумала Іна. — Мне б трапіўся такі жаніх. Адразу выска-

чыла б замуж, няважна, што немалады. Я прывыкла ўжо да іх, багаценькіх дзедуноў».

— Давайце, Іна, перакусім. Я нешта падрыхтавала, пакуль вы аглядалі апартаменты, — Зоя Пятроўна павяла ўсіх у сталовую. — Ты ж, мабыць, яшчэ не абедала пасля самалёта?

— Англійскія сцюардэсы ў салоне далі нейкі сандвіч да чаю, і больш нічога не ела, — прызналася Іна і зручней уладкавалася за сталом.

— А што, ты адтуль, з Англіі, прыляцела? — ні то здзівілася, ні то пазайздросціла Зоя Пятроўна.

— З Лондана.

— З мадэльным агенцтвам там была?

— Ага. Затрымалася крыху. Трэба было раней вылецець. Паслязаўтра вяселле сяброўкі ў Нікасіі, — Іна не хацела развіваць «мадэльную» тэму, таму перавяла гаворку на іншае. — Вы ж ведаеце Ірыну Вальчук — здавала, як і я, вам экзамен.

— Чакай, чакай, успомніла — чорненькая такая, перад табой ішла. Ружы мне падарыла. Яна здала з першага разу, а ты заваліла.

— Ну, так.

— Дык што, бацькі ёй там, у Нікасіі, вяселле ладзяць? Не хапіла рэстаранаў у Мінску? Багаценькія пайшлі беларусы... Ты чуеш, Леапольд?

— А чаму б і не. Цяпер усё можна, — пагладзіў свой жывот гаспадар.

— Вы няправільна мяне зразумелі. Ірына выходзіць замуж за кіпрыёта, — удакладніла Іна.

— За кіпрыёта? Ну пайшлі нашы дзеўкі, — Зоя Пятроўна бліжэй падсоўвала талеркі да Іны.

На стале была розная закусь: бутэрброды з чырвонай і чорнай ікрой, лангусты, мідыі, вяленая каўбаса, свежыя агуркі, памідоры. Леапольд Францавіч адкаркаваў бутэльку цёмнага кіпрскага віна, наліў у фужэры. Прапанаваў тост за прыезд Іны на Кіпр.

Выпілі, і гамонка пайшла яшчэ весялей.

— Відаць, ты, Іна, калі скончыш біяфак, па спецыяльнасці працаваць не будзеш? Ты ж можаш стаць вядомай міжнароднай мадэллю, — выкладчыцу вельмі цікавіла апошняе.

— Яшчэ чатыры гады вучыцца. А там будзе відаць.

— А скажы, Іна, цяжка быць мадэллю? — Зою Пятроўну непакоіла захапленне дачкі-дзесяцікласніцы.

— Шмат працы... Ад нас патрабуюць, каб мы заўсёды былі ў форме, заўсёды гатовы былі да выхаду на подыум. — Іна ледзь не сказала «да ўдзелу ў рэстаранным вар'етэ».

Апошнім часам міжнародная мадэльная фірма поўнасцю пераключылася на рэстараннае абслугоўванне — мадэльныя справы за мяжой не заладзіліся, і, як кажуць, мадэлі пайшлі ў бардэлі.

— Ну што ты прыстала з гэтай мадэллю да дзяўчыны? — не вытрымаў Леапольд Францавіч.

— А табе ўсё роўна, што твая дачка захапляецца гэтым жа? Табе не цікава, які ў яе будзе шлях пасля школы? — узгарэлася Зоя Пятроўна.

— Ну чаму... Няхай сабе і мадэль. Усе цяпер хочуць быць мадэлямі, як мы некалі касманаўтамі. Але ж мадэль — гэта не бізнес, які зрабілі мы з табой. Мы нават рэзка памянялі профіль свайго занятку. Цяпер мы — бізнесмены, — Леапольд Францавіч гаварыў за сябе і за жонку, хоць тая толькі зрэдку дапамагала мужу пасля працы на біяфаку.

— Калі б не змяніўся час у канцы дваццатага стагоддзя, то і цяпер мы былі б тымі самымі, — сказала Зоя Пятроўна.

— І не аб'ездзіла б паўсвета я і не пабыла б на востраве, — дадала Іна, маючы на ўвазе Кіпр.

Падпітыя, усе самохаць раскрывалі, што ў каго на душы. Тут, на востраве, далёка ад Радзімы, людзі паводзілі сябе зусім па-іншаму. Пры сустрэчы з суайчыннікам лічылі яго ледзь ні сваяком.

— А я, мастак, скапіў стартавы капітал: аформіў некалькі каляровых дзіцячых кніжак, атрымаў неблагі ганарар і адкрыў на Бацькаўшчыне ў адной з вёсак вінны завод. Можа, бачыла Іна ў магазінах фігурныя бутэлькі віна з наклейкай «Усмешка Джаконды»? Гэта і ёсць прадукцыя майго завода, — напаўняючы фужэры, самазадаволена гаварыў Леапольд Францавіч.

— Такую кватэрку на Кіпры прыдбалі! — зыркнула з-пад ілба на гаспадара Іна. — Крутыя вы!

— Яшчэ якія! Толькі, як прыедзеш дамоў, нікому не расказвай. Зайздроснікаў знойдзецца шмат. Хто не хацеў бы на Кіпры мець дачу? Мы маем, дзякуючы вось гэтай галаве, — Леапольд Францавіч пастукаў па сваёй скроні. — Іншыя мастакі ці розныя там пісьменнікі і не снілі такой дачы... Так што, Іначка, і ты дзярзай. З часам станеш знакамітай сусветнай мадэллю. Можа, і нашай дачушцы дапаможаш. Мадэллю, хоча быць мадэллю.

Яшчэ крыху пасядзелі, пагаманілі. Леапольд Францавіч расказаў, якія тут, у Лімасоле, у верасні месяцы вінныя фестывалі! Можна бясплатна прадэгуставаць лепшыя маркі кіпрскіх він, паглядзець канцэрты.

— Шкада, Іна, што ты прыляцела ў жніўні. Паспрабавала б тутэйшыя элітныя гатункі він, — смачна прыцмокнуў гаспадар.

— А я не шкадую. Я ў Лондане піла «Марціні», «Напалеон» ды шатландскія віскі.

Зоя Пятроўна і Леапольд Францавіч праводзілі зямлячку да стаянкі таксі. Развіталіся, Іна села ў машыну, якая рушыла ў бок сталіцы — Нікасіі. І ўжо праз нейкія хвілін пяцьдзясят выйшла з таксі каля дома Ірыны. Такі двухпавярховы гмах яна і ў сне не магла ўявіць. Жоўта-карычневы, з металічнымі аканіцамі, з жалезнай агароджай, фігурнымі прыгожымі веснiцамі. Іна адчыніла іх, узнялася па прыступках у двор, выкладзены бурай пліткай. У кутках скрозь цвілі ружы, герані. У круглых ямках двара раслі маладыя цытрусавыя дрэўцы — лімон, апельсін, гранат, абрыкос, мандарын. «Нічога сабе асабняк, — падумала Іна. — Ну і сяброўачка — так выскачыць замуж! Не, жонкай будзеш у верасні. А пакуль ты яшчэ нявеста...» У роздуме націснула кнопку званка. Прагучаў вясёлы «цілім-бом» — і праз хвіліну адчыніла дзверы Ірына. З шырокай усмешкай на твары яна кінулася да Іны. Абняліся, пацалаваліся, зашчабяталі.

— З Лондана? — Ірына ведала, адкуль ляцела Іна. Сяброўка пазваніла па мабільніку са сталіцы Англіі і ўсё расказала.

— Са сваім «дзедуном» ляцела разам. Ён застаўся ў Лімасоле, а я — да цябе. Будзе чакаць мяне ў атэлі пасля твайго вяселля. Чакай Пятра — сыр з'ясі, — гучна засмяялася Іна. — А яшчэ пагасцявала ў Лімасоле ў нашай універсітэцкай выкладчыцы Зоі Пятроўны. Там у яе мужа дача. Раскажу аб гэтым пазней.

На гучную гамонку, смех спусціліся з другога паверха мама Ірыны Таіса і яе пляменніца Ала. У гасцёўні пачалі вітацца, стала адразу весела. Іна і Ала — знаёміліся: бачыліся ўпершыню. Ала Іне здалася занадта мітуслівай: раз-пораз трашчала як сарока, рагатала. Гэта не спадабалася Іне. «Відаць, з

добрымі мухамі дзеўка — палец у рот такой не кладзі. Але і я не паддамся...» Іна тут жа перахапіла ініцыятыву. Пачала расказваць, а дакладней, ілгаць, як яна выступала з мадэльным агенцтвам у Лондане. Поспех быў ашаламляльны. Жыла шыкоўна: у лепшых апартаментах, піла віскі ды каньякі... Іна час ад часу міргала Ірыне — маўляў, маўчы, ты ведаеш усю праўду. І сяброўка толькі ківала галавой, загадкава ўсміхалася. Калі нагаманіліся, Ірына запрасіла ўсіх у сталовую.

— Не, пакажы свае пакоі, а пасля паабедаем, — папрасіла Іна.

Ірына павяла па мармуровай лесвіцы Іну на другі паверх, а Таіса і Ала пайшлі рыхтаваць стол. Іна хадзіла з пакоя ў пакой — дзве спальні для гаспадароў і гасцей, па-апошняму слову абстаўленыя, ванная — злева, справа — душавая, дзіцячая спальня (для будучых нашчадкаў), пакойчык з markрознымі цацкамі, мяккімі звяркамі.

— Ну ты і жывеш... Нават і не думала, што твой цельпукаваты Нікас здатны на такое, — пазайздросціла Іна.

— Што мой Нікас... У яго, камп’ютаршчыка, зарплата меншая, чым у бацькі. Усё робіць мой будучы свёкар ды яго памагатыя. Свёкар на пенсіі, былы тэлефоншчык. Займеў яшчэ сваю прадпрымальніцкую справу: узяў ліцэнзію — і на сваім грузавічку «міцубісі» ездзіць па ўсім беразе мора і расфарбоўвае сцены катэджаў. Тысяча еўра — пенсія ды столькі падзарабляе. Вось і змайстраваў нам гэты дом. Майстар на ўсе рукі! А яшчэ Нікас узяў крэдыт, выплачвае.

— Ну, а як Нікас — жыўчык ці не? Маю на ўвазе двухспальны ложак уночы. — Іна заставалася сама сабой.

— Я ўжо на трэцім месяцы цяжарная. Вось які мой Нікас! — заўсміхалася Ірына.

— Віншую, сяброўачка. Будзеш на сваім вяселлі з жывоцікам.

— А ты як, усё ніяк не зацяжарыш ад сваіх замежных кавалераў-дзедуноў?

— Дарагая, я ўжо не адзін аборт зрабіла — па-адным ад пэўнага замежца, — крутнулася на абцасах Іна.

— Ух ты! І як думаеш жыць далей?

— А што тут думаць... Я ад кожнага кавалера ўзяла, што хацела: «баксы», золата і брыльянты. Думаю адкрыць у Мінску сваю фірму па будаўніцтве жылых дамоў. І тут не прагадаю. Ведаеш, колькі жадаючых пабудаваць сваю кватэру?

— А з сям’ёй як? Я не ўяўляю ўжо сябе адной, — Ірына паказвала сваю сталасць.

— Даражэнькая сяброўачка, я сям’ю не буду мець ніколі, а правільней, дзяцей. Я наўрад ці ўжо нараджу іх. А каб і нарадзіла, то не ведала б, што з імі рабіць... Я пазногці днём і ноччу фарбую. Як можна іх акунаць у бруд пялёнак ці памперсаў? Гэта не для мяне.

— І будзеш да канца свайго жыцця — толькі спаць з замежцамі і рабіць аборты? — Ірыну ўзлаваў гэты адкрыты цынізм Іны.

— Ну чаму, можа, і прыб’юся да якога-небудзь берага. Пасля твайго вяселля збіраюся ірвануць праз акіян, у Амерыку. Знайду багаценькага Ракфелера — хай і ў тры разы старэйшага — і атабаруся. Буду жыць прыпяваючы, час ад часу наведваючы і Мінск. Тут жа будзе мая фірма. Можа, зраблю і сумесную — беларуска-амерыканскую.

— А гэты англічанін, з якім ты прыляцела з Лондана на Кіпр?

— Ведаеш, драбнаваты ён для мяне. Пасля праведзеных з ім начэй, што ён купіў мне? Пярсцёнак з адным брыльянтам. Іншыя куплялі — з двума, трыма.

Я да яго пасля твайго вяселля не паеду — хай сядзіць у сваім атэлі хоць вечнасць. Махну ў ЗША — дудкі ён там мяне знойдзе.

Сяброўкі спусціліся па лесвіцы з другога паверха на першы. Іна не пераставала здзіўляцца. У гасцёўні яна ўбачыла горку з кіпрскім посудам, бар, шырокі скураны дыван, мяккія крэслы. Добрай паўсцяны займаў японскі тэлевізар «Соні», справа ад яго размяшчаўся музычны цэнтр. Злева — куток гульні для дзяцей гасцей, на вокнах — жалюзі. Пад столлю лагодзіў паветра вялікі кандыцыянер. Ідучы на кухню, Іна зайшла ў туалет, трэці ў гэтым доме. І тут, як кажуць, шык-бляск.

На кухні ўжо гаспадарылі мама Ірыны і Ала, рыхтавалі абед. Кухня падалася Іне вялізнай. Тут стаялі высокі халадзільнік, шыкоўны кухонны гарнітур, у які ўмацавана пральная машына, асобна красаваўся апарат для пітной вады. Аж блішчэла шырокая металічная ракавіна-мыйка. Увагу прыцягваў доўгі абедзенны стол. Каля яго — з дзясятак крэслаў з высокімі фігурыстымі спінкамі. Іна толькі зайздросна глянула на ўсё гэта і праз дзверы кухні выйшла ва ўтульны дворык. І адразу трапіла на тэрасу, на якой пад тэнтам-грыбком стаяў круглы стол. Тут летам прымаюць гасцей. А за тэрасай зелянеў муражок, за ім у гаршчочках цвілі-гарэлі рознакаляровыя кветкі, якія аж сляпілі вочы. Іна накіравалася да іх, каб зблізку атрымаць асалоду ад гэтай паўднёвай прыгажосці.

Тут жа, у двары, расла і маладая сасна. Сярод экзатычных цытрусавых дрэўцаў яна была, як сімвал Радзімы, Беларусі. Ірына часта, калі сумавала па роднай старонцы, прыходзіла пад яе вечназялёную крону і, здавалася, што яна дома, каля мінскага водаканала, на беразе якога растуць такія ж сасонкі. На душы адразу святлела.

## Тыдзень на моры

Пакуль рыхтаваліся да вяселля, кіпрыёты вырашылі ўсіх мінскіх гасцей звазіць на Міжземнае мора. Свёкар Ірыны Маноліс закупіў нумар у атэлі «Іліяда», які знаходзіўся ў курортным гарадку Протарас. У ім, дарэчы, уся сям'я Маноліса праводзіла кожны адпускны — летні месяц — звычайна ліпень. «Лепшага курортнага месца няма на ўсім узбярэжжы Кіпра, ну хіба яшчэ суседняя Айя-Напа», — заўсёды казаў Маноліс.

Ехалі ў Протарас бацькі Ірыны — Таіса і Антон, іх пляменніца Ала, а таксама Іна. Сяброўка Ірыны Віка з Барселоны засталася ў Нікасіі дапамагаць маладым. Морам яна ўжо за лета нацешылася. Вёз мінчан на сваёй машыне «мазда» стрыечны брат будучага мужа Ірыны Петрас, дваццацісямігадовы халасцяк. Ён у жніўні якраз быў у адпачынку. Яго і папрасілі паапекаваць беларускіх гасцей. Петрас добра ведаў марское ўзбярэжжа. Да таго ж ён жыў непадалёку ад Протараса, у Ларнацы з яе міжнародным аэрапортам. Пакуль даехалі да месца, дык, можа, разы тры спыняліся ў набярэжных тавернах. Петрас частаваў гасцей, быў элегантным джэнтльменам. Дый сам ён па кіпрскіх мерках — прыгажун: высокі ростам, з густой чарнявай шавялюрай, на круглым твары — цёмныя глыбока пасаджаныя вочы, густыя бровы. Усім падабалася, калі яго рот азараўся белазубай усмешкай. Амаль штохвілінна Петрас усміхаўся. Гэта, вядома ж, не маглі не заўважыць Іна і Ала. У тавернах і тая, і другая імкнуліся сесці побач з Петрасам. І хоць не ведалі грэчаскай мовы (праўда, мінчанкі няблага разумелі і размаўлялі на англійскай), але ўстаўлялі слоўка-другое, вывучанае ўжо на Кіпры. «Полікала... Эфхарысто...» —

дзякавалі то Ала, то Іна, калі Петрас падсоўваў талеркі з ежай, прынесеныя афіцыянтам, наліваў у фужэры цёмнае густое віно. Сабе браў піва. Справа ў тым, што Петрас працаваў памочнікам генеральнага дырэктара завода, які выпускаў выдатнае піва. Петрас цаніў толькі сваё піва.

Атэль «Іліяда» сустрэў мінскіх гасцей белізной сцен, ад яркага сонца яны яшчэ больш свяціліся. Пяць паверхаў з шырокімі балконамі, на якіх стаялі столікі, за імі пацягвалі напоі ды курылі часовыя жыльцы. Нумар з двух пакояў нашых герояў знаходзіўся на трэцім паверсе. У першым пакоі засяліліся Антон і Таіса, у другім — Іна і Ала. Петрас павінен быў ехаць на машыне начаваць дамоў, у сваю Ларнаку. Ён на працягу тыдня будзе наведваць мінчан.

Новыя жыльцы праз нейкую гадзіну, расклаўшы свае рэчы, гатовы былі пайсці на пляж, плюхнуцца ў цёплае, што сырадой, мора. А яно тут своеасаблівае — колер мае блакітна-бірузовы, які напамінае беларускае неба падчас прадвесня. Хваляў амаль няма — бліскучае роўнае люстэрка. Гэткае ў нас возера Свіцязь.

— Які пясочак — залаты! — усклікнуў Антон, калі ён і Петрас першымі ступілі на пляж. За імі падышлі Таіса, Іна, Ала. Усе скінулі лёгкае адзенне, засталіся ў плаўках і купальніках. Іна і Ала адразу акінулі позіркам загарэлае налітае сілай цела Петраса. Кожная падумала сваё. Ала: «Эх, які жаніх! Не ўпусціць, ні ў якім разе не ўпусціць». Іна: «Правесці з ім хоць бы ноч... Даб'юся — так і будзе... Мне дзяды замежныя ўжо надакучылі...»

Увайшлі ў аксамітныя хвалі мора. Спачатку плюхаліся каля берага, асабліва жанчыны. У вадзе было шмат люду, чулася гаворка на розных мовах: англійскай, грэчаскай, нямецкай, польскай. Петрас, які добра ведаў гэтае месца, паплыў далёка, туды, дзе ляжалі каменныя хвалярэзы. За ім — асцярожна, баючыся, Антон. Гэта ж мора — не яго Прыпяць. Петрас і Антон, праплыўшы каля хвалярэза, вярнуліся назад, на бераг. Жанчыны ўжо накупаліся, сядзелі на жоўтым пяску, падаслаўшы посцілкі ды ручнікі. Аб нечым размаўлялі. Убачыўшы мужчын, наперабой затрашчалі:

— Ну, матросы, кінулі нас, а самі паплылі на глыбіню (гэта Таіса).

— Петрас, Петрас... Які плывец! Полікала! (Іна).

— А наш дзядзька Антон — не горшы. Праўда, Петрас? (Ала. Заглянула ў вочы хлопцу.)

— А чаго ж вы не паплылі за намі? — падсаджваўся да жанчын Антон.

— А мы не ўмеем плаваць (Іна).

— Мы толькі ўмеем купацца (Ала. Пырснула смехам).

Петрас не разумеў, аб чым ішла гаворка, ён толькі згодна паказваў белазубую ўсмешку.

На пляжы час бег хутка. Ужо хілілася на полудзень. Сонца пачынала бязлітасна пячы. Тут нядоўга і згарэць, хоць жанчыны і Антон змазаліся крэмам ад сонечных апёкаў.

Хуценька апрануліся, скруцілі посцілкі. Петрас прапанаваў праехацца па горадзе, хоць з большага паказаць яго. У машыне было душна. Госці глядзелі праз вокны «мазды»: на ўзбярэжжы ўзвышаліся атэлі, магазіны, рэстараны, цвілі алеандры, пунсовыя ружы, красаваліся пальмы. Урэшце ўсім надакучыла духоцце ў машыне, а таму вырашылі вярнуцца ў атэль. Там і падсілкуюцца.

Рэстаран знаходзіўся на першым паверсе атэля. Мінскія госці пераапрануліся ў сваім нумары. Петрас заказаў столік у рэстаране. Ён жа за ўсіх і заплаціць.

Сядзелі ва ўтульным месцы пад нейкай раслінай, падобнай на фікус. Афіцыянт — а на Кіпры большасць афіцыянтаў мужчыны — прынёс віно, піва, розную закусь: крэветкі, мідыі, каракаціцу, мясныя суўлакі (страва, накшталт

нашых шашлыкоў, загорнутых у вінаграднае лісце). Антон і Таіса сядзелі насупраць Іны і Алы, паміж імі — Петрас. Дзяўчаты прагна паглядалі на яго, а ён толькі ўсміхаўся ім. Петрас нічога не падазраваў пра планы мінскіх дзяўчат. А яны ўжо ў думках спакушалі яго. Праўда, пакуль будучыя саперніцы не ведалі намераў адна адной.

Пасля выпітага віна ў дзяўчат развязаліся языкі. Асабліва гучна гаварыла Ала, смяялася, лёгка штурхала ў бок Петраса. Гэта заўважыла Іна і ў сваю чаргу таксама пачала фліртаваць з Петрасам: брала яго за руку, нахабна зазірала хлопцу ў вочы. Антона і Таісу гэта злавала. Угнуўшы галовы над талеркамі, яны маўчалі. Ала, убачыўшы, як паводзіць сябе Іна, са злосцю выгукнула:

— Пакінь у спакоі Петраса. Ён мой!

Іна не вытрымала і тут жа ў адказ кінула:

— Не, Петрас будзе маім! Вось пабачыш...

Антон і Таіса перасталі есці, адразу прапаў апетыт. Адзін Петрас нічога не разумеў: ён па-ранейшаму ўсміхаўся... Усе забавы мінчан яму здаваліся проста жартам.

— Дзяўчаты, заканчваем абедаць, — не вытрымаў Антон. — Ідзём у нумар.

Іна і Ала нехаця падняліся, за імі — Антон і Таіса. Петрас застаўся чакаць афіцыянта, каб разлічыцца.

У нумары Антон і Таіса давалі прачуханца Іне і Але, і ў гэты час зайшоў Петрас. Усе тут жа замоўклі. Той даў зразумець, што едзе дамоў, у Ларнаку. Пастараецца прыехаць яшчэ ў які-небудзь дзень. А праз тыдзень забярэ ўсіх з атэля і завязе ў Нікасію на вяселле Ірыны. Развітаўся і пайшоў з атэля.

Ужо добра звечарэла, трэба было рыхтавацца да сну. Антон і Таіса пайшлі прымаць ванну. Іна і Ала сядзелі ў пакоі моўчкі: засердавалі адна на адну. Іна фарбавала пазногці, Ала глядзела тэлевізар, хоць што яна там разумела — усё на грэчаскай мове.

Раптам Ала адарвалася ад экрана і спешна падышла да Іны.

— Дык што? Петрас будзе тваім? — ледзь не гаркнула.

— Ма-ім, — спакойна адказала Іна.

— А гэта не хочаш? — Ала паднесла кукіш пад самы нос Іны. Апошняя — тое ж у адказ.

Ала рынулася да Іны, схапіла за валасы, пачала трэсці:

— Падкладка замежная! Смярдзючка! Мне Ірына расказвала... Я цябе прыкончу, калі палезеш яшчэ раз да Петраса.

Пачуўшы крыкі, прыбеглі Антон і Таіса. Яны і «патушылі пажар», які ўспыхнуў паміж саперніцамі, развялі іх у розныя бакі. Ала — перацягнула сваю тахту ў пакой Таісы і Антона. Іна засталася спаць у другім пакоі адна. Так і пражылі яны цэлы тыдзень у атэлі, пакуль не прыехаў Петрас. У сярэдзіне тыдня ён не з’явіўся. На некалькі дзён яго выклікаў з адпачынку генеральны дырэктар піўзавода — гарэў план.

## Зноў вяселле

Стаяў пачатак верасня, на Кіпры гарачы, недзе пад градусаў сорак. Сонца ажно сляпіла. На дрэвах спелі алівы, фігі, лімоны, апельсіны. Людзі хадзілі ў лёгкім летнім адзенні. Тут, у Нікасіі, было яшчэ на некалькі градусаў гарачэй, бо горад далёка ад мора, акаймаваны невысокімі гарамі. Вецер сюды амаль не пранікаў.

Антон і Таіса былі апрануты па-святочнаму: ён у чорным шарсцяным касцюме з гальштукам, ад чаго абліваўся потам, яна — у моднай доўгай па пяты сукенцы, размаляванай пад экзатычныя расліны. Яны выйшлі з дома Нікаса, у якім жылі, разам з Алай. Ім трэба было прайсці метраў дзвесце да дома роднай сястры Маноліса Магды. Там кіпрскія дзяўчаты рыхтавалі нявесту да вяселля. Калі Антон, Таіса і Ала ўвайшлі ў пакой, дзе была Ірына, ахнулі: перад імі стаяла царэўна-прыгажуня ў белай сукенцы, якая ажно свяцілася, з шыкоўнай прычоскай — у валасах блішчэлі сапраўдныя зоркі. Твар, падгрыміраваны, вочы падмаляваныя, вейкі-стрэлкі, вядома ж, прыклееныя.

— Гэта ты, Ірынка, мая дачушка? Не пазнаць... — пасля прывітання Таіса падышла і пацалавала дачку.

— Зараз, мама, будзем спраўляць абрад развітання з маім незамужнім жыццём. Пачакаем толькі Іну — яна дае апошнія парады маладому ў доме яго бацькоў. Там яго таксама абходжваюць хлопцы і дзяўчаты.

Пры слове «Іна» Алу ледзь не скаланула — яна пайшла і села ў куце, злосна зіркала адтуль.

Лёгкая на ўспамін, тут жа з'явілася Іна, вясёлая, як заўсёды, размаляваная, у лёгкай ярка-ружовай сукенцы. Адразу падбегла да Ірыны, цмокнула яе ў шчаку:

— Ну і маладая! Ажно зайздросна! Хоць ты сама выходзь замуж.

«Можа, за Петраса хоча? Не ўдасца...» — злосна глядзела Ала на Іну з кута.

— Давай, мама, пачнём з цябе — тут такі парадак, — звярнулася Ірына да Таісы. — Мяне ўжо абкурылі аліўкавымі лісцямі, каб знікла ўсё дрэннае, абвілі чырвоным поясам — на пладароддзе. Маруля, — паклікала яна дзяўчыну, якая трымала ў руках іконку і нешта яшчэ кшталту вяночка, — дай усё маме. А ты, мама, патрымай над маёй галавой боскі вянец. І блаславі мяне на шлюб. — Памаўчала. — А дзе тата?

— Ідзе, курыў, — адказала Таіса.

Таіса ўзяла іконку і боскі вянец. Вельмі хвалявалася — не гаварыла, а шаптала. Тое ж паўтарыў і Антон. І яму было няпроста: моцна забілася сэрца — такога абраду ў Беларусі няма. Пстрыкалі фотаапараты, шумелі відэакамеры.

Надышла чарга Алы і Іны. Стрыечная сястра ўзяла іконку і боскі вянец. Усё зрабіла, як і Таіса, і адышлася. За ёю — Іна, якая паўтарыла сваіх папярэднікаў. Але ў канцы дадала ад сябе:

— Сяброўка, думаю, хутка і ты зробіш нада мною тое, што і я над табою...

Ала наструнілася: «Хоць бы не ўзарвацца, як у тым атэлі ў Протарасе. Сапсую ўвесь абрад сястры. Трэба выйсці на двор». І сiганула за дзверы. Стала курыць на ганку. Праз некалькі хвілін яна ўбегла ў пакой нявесты і гучна апавясціла:

— Пад'ехаў картэж маладога забіраць маладую.

Усе затупацелі, замітусіліся, абкружылі Ірыну.

— Не аддадзім! Няхай выкупляе, — трымаючы за руку Ірыну, прамовіла Іна.

— Тут не так, як у нас, — прамовіла Ірына. — Нікас прывёз мне незвычайны букет. Сюрпрыз! Пакажыце, пакажыце, якія кветкі...

Нікас з дружкамі ўжо ўваходзіў у дом. Ён быў у светла-сінім касцюме, белай сарочцы, у руках нёс пышныя крэмавыя ружы. Букет быў з дваццаці пяці кветак — столькі, колькі Ірыне гадоў.

Нікас далікатна ўзяў за руку Ірыну, пацалаваў тры разы яе і паднёс букет кветак.

Стаў дзівавацца на маладую: такой Ірыны ён яшчэ не бачыў! Казачная прыгажуня! Доўга малады і яго дружкі не затрымаліся ў кватэры — выйшлі разам з маладой на вуліцу, дзе стаяў картэж машын, упрыгожаных па-вясельнаму. Спераду — доўгі «кадзілак» з вялікай лялькай і двума сімвалічнымі пярсцёнкамі. Астатнія машыны — усе ў featured рознакалёрных стужках. Нікас з бацькамі, дружкамі сеў у галоўную машыну. Ірына, Антон і Таіса — у «мерседэс», які стаяў за «кадзілакам». Неўзабаве картэж рушыў у напрамку царквы Святой Багародзіцы. Там адбудзецца асноўны абрад вянчання.

Царква, велічная, уся ў золаце, была адчынена насцеж — чакала маладых. Сёння толькі абраду вянчання будуць служыць святары. Людзі ішлі ды ішлі да царквы. Аказваецца, тут усе ідуць на вянчанне, калі хоць хто-якое дачыненне мае да маладых, нават калі раз з імі павітаўся. У выніку сабралася каля тысячы чалавек. Першымі ў царкву ўвайшлі маладыя, за імі накіраваліся іх бацькі. Потым — усе астатнія. Мужчыны і жанчыны падзяліліся, сядзелі асобна ў дзвюх палавінах царквы.

Галоўную дзею рыхтавалі святары каля царскіх варот, алтара. Яны стаялі ў доўгіх жоўтых рызах — сівыя, з доўгімі барадамі. Непадалёк ад алтара, пры сценах насупраць — адгароджаныя месцы з адкіднымі крэсламі. У іх сталі Антон і Таіса, Маноліс і Марыя. Першыя ніяк не маглі прывыкнуць да вузкіх, быццам стойла, праёмаў. Яны стаялі як укапаныя, асасабліва цяжка было мажнай Таісе, яна ўся ўспацела. Але вось пачалося тое, чаго ўсе так чакалі. Заспявалі святары, замахалі кадзіламі. Перад імі, як тыя галубкі, стаялі маладыя. Святары доўга спявалі, маліліся за маладых. Адзін з іх, самы галоўны, падышоў да Нікаса, Ірыны, паклаў на іх галовы бліскучыя кароны. Памаліўся, потым памяняў месцамі кароны: карону Нікаса паклаў на галаву Ірыны, карону Ірыны — на галаву Нікаса. Спяваў, яму падцягвалі астатнія святары. Урэшце, падаў пярсцёнкі, якімі абмяняліся жаніх і нявеста. Пацалаваліся. Цяпер ужо можна было віншаваць маладых — мужа і жонку. Першымі падышлі бацькі маладой. Таіса са страшэнным хваляваннем пацалавала спачатку новаспечанага зяця, а потым — дачку, пажадала шчасця. Тое ж зрабіў і Антон. І яму было няпроста — моцна білася сэрца. Бацькі маладога паўтарылі ўсё гэта. І калі ўжо, здавалася, вось-вось закончыцца вянчанне, раптам на прыступкі алтарнага месца прытупаў з залы трохгадовы хлапчук у чорным касцюмчыку, белай кашулі з «матыльком» і пачаў качацца за спінамі Ірыны і Нікаса. Гэта быў сын сяброўкі Ірыны Вікі. Вырваўся з рук і рушыў да алтара. Ніхто не змог яго затрымаць. Дзяцей тут вельмі любяць — на гэтую выхадку малога ніхто не звяртаў увагі. Адна Ала не вытрымала, падбегла, схапіла малога з прыступак і шлёпнула рукой па попе. Для ўсіх кіпрыётаў гэта была большая нечаканасць, чым тое бязвіннае «злачынства» хлапчука.

Іна сядзела непадалёк і не магла, каб не сказаць шэптам Але:

— Табе супрацьпаказана выходзіць замуж і мець дзяцей....

На што Ала, але ўжо не шэптам, адказала:

— А я не буду пытацца ў распуснай канкурэнткі.

Кіпрыёты нічога не зразумелі, а нашы прапусцілі міма вушэй. Цырымонія вянчання закончылася, і ўсе рушылі ў віншавальную прыбудову пры царкве. Яна нагадвала кавярню — стаялі столікі з напоямі і закускай, каля сцяны — узвышэнне. На яго падымаліся Нікас, Ірына, іх бацькі. Апошнія сталі па абодва бакі маладых. Неўпрыкмет утварылася вялізная чарга. Кіпрыёты пачалі віншаваць маладажонаў. Па адным ці парамі яны падыходзілі да іх,

а таксама да бацькоў, цалавалі іх, падавалі канверты з грашыма. Антону і Таісе гэта ўсё было нязвычна. Ужо тры гадзіны яны стаяць, а людзі падыходзяць ды падыходзяць... У Беларусі такога шматлюддзя не пабачыш. А тут сабраўся ледзь не ўвесь Кіпр. Але і разыходзяцца хутка. Пасля віншавання пастаяць каля століка хвілін дзесяць-пятнаццаць, вып'юць лёгкага віна ці якога безалкагольнага напітку, адкланьваюцца і знікаюць. А самым блізкім, недзе каля трохсот чалавек, маладажоны ўручалі запрашэнні ў рэстаран.

Пасля гэтага запрошаныя рушылі на машынах у загарадны рэстаран. Маладыя сядзелі ўжо ў адным «кадзілаку». Ззаду ехала цэлая калона машын розных марак.

Месца, дзе стаяў рэстаран «Ясу», было адметным: вакол раслі пальмы, кіпарысы, цытрусавыя дрэвы. Зводдаль бурліла рачулка, віхлястая, вузкая, быццам нашы Уса ці Уша. Вада перакочвалася па каляровых каменьчыках на дне, ад чаго яна штохвілінна мяняла сваю афарбоўку.

Машыны нарэшце спыніліся. У дзвярах рэстарана маладажонаў сустрэлі хлебам-соллю на ручніку. Ірына і Нікас павялі за сабой усіх у рэстаран. Там адразу кінуліся ў вочы доўгія сталы, іх было шмат. Садзіліся кіпрыёты пэўнай купкай-кампаніяй — чалавек па дзесяць. Асабліва заінтрыгавала Антона і Таісу тое, што тут жа кожная кампанія пачынала піць і есці, не пачакаўшы, пакуль усядуцца іншыя. Мужчыны пачыналі з піва, хоць на стале стаялі віскі, гарэлка, віно. «У нас у Беларусі піва толькі назаўтра пайшло б... А тут з яго пачынаюць вяселле, — падумаў Антон. — Дый ежу самі набіраюць, як у нашай сталовай...»

Антона і Таісу паклікалі Ірына і Нікас за агульны стол. Тут ужо сядзелі бацькі Нікаса, іх сваякі. Селі і Антон з Таісай злева ад дачкі. Згледзеўшы беларусаў, падышла і прысуседзілася Іна. Антон падахвоціўся быць тамадой. Пачаў адкаркоўваць бутэлькі: шампанскае, віно, беларускую гарэлку, якую прывезлі з Мінска. Наліў усім, пачаў гаварыць тост, хоць за суседнімі сталамі гэтага не рабілі — тосты тут не ў модзе. П'юць, ядуць, гамоняць — і ўсё. Кожны стол сам па сабе. Гэта не спадабалася Антону. «Што ж гэта за вяселле, калі маладым не кажуць добрых слоў, не жадаюць шчасця? І як дома, выпіўшы пару чарак белай, вёў рэй.

— А цяпер крыкнем «Горка!» Нешта нясмачнае пітво... — завёўся Антон. І разам — ён, Таіса, Іна — загукалі: «Горка! Горка! Горка!»

Маладыя пачалі цалавацца, і толькі тут Іна заўважыла, што за сталом няма Алы. Акінула вокам іншыя сталы — не, і там яе не было. Шапнула Таісе:

— А дзе Ала?

— А дзе і праўда Ала? — уголас вымавіла Таіса.

Гэта пачуў Антон:

— Няма тут? Я бачыў, як яна садзілася ў машыну Петраса. Адна, больш нікога не было...

Іну аж скаланула. Як яна магла праваронiць гэты момант?! Забавілася каля маладой — першая ж шаферка. А яна, Ала, скарыстала гэта. Падсела ў машыну да Петраса. І можна не сумнявацца — яна разам з ім. Тым больш, што і яго ў рэстаране не відаць. Дзе яны цяпер, Петрас і Ала?

А тым часам вяселле набірала моц. Ужо зайгралі музыкі: скрыпачы, гітарысты, бубнары. Паліліся павольныя грэчаскія мелодыі. З-за сталоў выйшлі падпітыя госці, сталі ў круг, пачалі танцаваць. Выйшаў і Антон, запрасіў сваццю Марыю. Музыкі зайгралі хуткі танец. Антон так раскруціў маленькую сваццю, што тая ажно ўспацела. Дый сам узмакрэў. Даў дыхту! Хай ведаюць запаволеныя, стрыманыя кіпрыёты, як гуляюць на вяселлі беларусы! Праўда,

пасля Таіса дала яму вымову: «Пасаромеўся б... Ужо выпіў, дык асмялеў. Гэта табе не Мінск...»

Маладажоны таксама танчылі разам з гасцямі. І тут раптам празвінеў мабільнік Ірыны. Яна паднесла тэлефон да вуха.

— Алё! Ірына? — пачула барытоністы мужчынскі голас. — Гэта Вадзім, Вадзім Чаромхін...

— Ой, Вадзік! — усклікнула Ірына. — Дзе ты?

— У вас на Кіпры, а дакладней, у Нікасіі. Гастралюю...

— Прыязджай хутчэй у рэстаран «Ясу». Тут — маё вяселле. Я выходжу замуж. Вось адрас (прадыктавала).

— Ты выходзіш замуж? Еду! У мяне якраз паўза.

Вадзім Чаромхін вучыўся на адным курсе, нават у адной групе біяфака ўніверсітэта з Ірынай і Інай. Прыгожы хлопец, высокі, стройны, са смаляной прычоскай, ён быў любімчыкам аднакурснікаў. Выдатна спяваў. Так і называлі яго — «артыст». А хутка пайшоў у шоу-бізнес. Вадзім пабыў ужо на Балканах, у Грэцыі і вось цяпер апынуўся на Кіпры. Тэлефон Ірыны ён ведаў: у групе абменьваліся нумарамі сваіх мабільнікаў. А што Ірына на Кіпры, Вадзім даведаўся ад сябра-аднакурсніка.

Чаромхін прыехаў у рэстаран «Ясу» са сваім прадзюсарам, з якім гастраляваў па краінах Еўропы. Сустрэла іх Ірына і адразу павяла за стол маладажонаў. Там пачалі знаёміцца — з Нікасам, бацькамі яго, Антонам і Таісай. Іна, падвыпітая, ажно абшчаперыла Вадзіма — даўно не бачыліся. Новым гасцям налілі каньяку. Гэта зрабіў Антон на правах тамады. Паднялі тост за маладых. А тым часам усё ігралі музыкі. Іна літаральна пацягнула ў танец Вадзіма — ён падабаўся ёй, як і многім на факультэце. Калі скончыўся танец, Іна падвяла Вадзіма да музыкаў. Тут жа падышлі Ірына і Нікас.

— Вадзік, — амаль загадала Іна, — паспрабуй з імі (паказала на музыкаў) выканаць для маладых тваю любімую песню.

Ірына падтрымала сяброўку і падышла да музыкаў, нешта сказала па-грэчаску. Тыя кіўнулі галавой.

— Яны згодны табе падыграць, — звярнулася Ірына да Вадзіма. — Толькі разок парэпеціруйце. Выканай спачатку сваю песню «а капэла», а яны схопяць мелодыю.

Чаромхін так і зрабіў. І хутка ўжо лілася пяшчотная мелодыя песні пад акампанемент кіпрскіх музыкаў. Праўда, не заўсёды яны траплялі ў такт. Тым не менш, усе трыста чалавек з задавальненнем слухалі песню «Ты — маё натхненне». — Іна паставіла за мэту: раз няма тут Петраса («Алачка, яшчэ пабачыш, што далей будзе...»), «закадрыць» на вечар Вадзіма Чаромхіна, і не адступала ад яго ні на крок. Сядзела побач за вясельным сталом, піла разам, ішла танцаваць толькі з ім. Вадзіму гэта не вельмі падабалася, але на падпітку згаджаўся. Ведаў — паедзе адсюль і «Бывай, Іна!» Не адна такая Інка чакае яго наперадзе. Паклонніц у яго — можна толькі ўявіць...

Неўзабаве прадзюсар Чаромхіна ўзняўся з-за стала. Ён з Антонам выпіў некалькі чарак каньяку і намерыўся ехаць у гасцініцу. Але дзе ж Вадзім? Зірнуў па баках, наперад — а во паказаўся і ён з дзвярэй рэстарана: выходзіў на вуліцу. За ім ішла Іна. Абое ўзбуджаныя, расчырванелыя.

Прадзюсар падзякаваў усім і разам з Чаромхіным рушыў да выхаду. Гэтак жа выходзілі з-за сталоў і купкі-кампаніі. Тут такі звычай, як і ў Англіі: пакідаюць свята незаўважна.

Вяселле хілілася да свайго канца...

А што ж адбывалася з Алай і Петрасам? У рэстаран «Ясу», як вядома,

яны не трапілі. Ала, сеўшы адна ў машыну Петраса, папрасіла яго паказаць вячэрняе мора. «Ніколі не бачыла начных марскіх хваляў, — казала яна па-англійску Петрасу. — Давай з'ездзім у Ларнаку, паспеем яшчэ і на вяселле».

Да Ларнакі, да мора язды хвілін дваццаць. А там Петрас выдатна ведае ўсе экзатычныя марскія мясціны. Хлопец, бачачы, што яго сама абкручвае дзяўчына — не патрэбна і сваіх высілкаў — згадзіўся.

Яны спыніліся на беразе ціхай бухты «Ружовая». Хвалі мора днём тут сапраўды мелі ружовы колер — ад праламлення сонечных промняў і колеру камення на дне. Цяпер свяціла поўня, і было відаць як і днём. Бухта скалістая, з разнымі прыгожымі выступамі. Здавалася, што гэта не прырода стварыла яе, а чалавек. Аб скалы хваліста плёхалася ружовая салёная марская вада. Ала першая выбегла з машыны і кінулася да мора. «Ой, якія прыгожыя хвалі! І ў казцы не прыдумаеш!» — любавалася яна бухтай. Падышоў і Петрас, стаў побач. «Дзякуй, дарагі Петрас, за вячэрнюю казку!» — раптам Ала кінулася, нібы незнарок, на шыю хлопцу і стала цалаваць яго. Петрас не чакаў гэтага, тым не менш, падаўся да яе, і вусны іх застылі ў доўгім пацалунку. А гэтага якраз і хацела Ала. Яна дамаглася свайго. Хутка яны распрануліся, і ўжо голыя ў святле поўні, якая быццам засаромелася і пачала хавацца за хмарку, увайшлі ў мора. І тут Ала пачала цалаваць Петраса, а ён браў яе на рукі і вучыў плаваць. Петрас падтрымліваў знізу бялюткае маладое цела Алы, і гэта яшчэ больш заводзіла яго, хвалявала, як само мора. Ала здавалася Петрасу самой багіняй Афрадзітай, якая выйшла з марской пены — бюст яе стаіць у хвалях мора тут, на Кіпры, — і вось цалуе, абдымае яго... Такога шчасця ён яшчэ не меў у жыцці і забыў пра ўсё, нават пра сённяшняе вяселле.

Праз некаторы час Петрас і Ала сядзелі ў салоне машыны і цалаваліся, цалаваліся... Так прабегла ўся ноч. Белая «мазда», як той ветразь у моры, доўга свяцілася на высокім беразе бухты.

## **ЧАСТКА ДРУГАЯ**

## **«ЗАРУЧЫНЫ» АЛЫ**

### **Загадкі... разгадкі**

Пасля вяселля Ірыны Антон, Таіса і Ала засталіся на Кіпры яшчэ на тыдзень. Гэты час скарыстала ў сваіх мэтах Ала. Яна званіла ад Ірыны па пяць разоў на дзень Петрасу. Гэта бачылі і чулі яе цётка і дзядзька. Мала таго, што Ала спакусіла Петраса ў дзень вяселля Ірыны і не прыйшла з ім на ўрачыстасць, дык на вачах усіх «бамбардзіравала» хлопца па тэлефоне. Таіса ўрэшце не сцярпела:

— Ала, мы ўжо шкадуем, што ўзялі цябе з сабой на Кіпр. Што гэта такое? Ты нахабна паводзіш тут сябе...

Умяшаўся ў гаворку і Антон. Яму такія паводзіны Алы былі проста не па нутры.

— Усяго чакаў ад цябе, але гэткага — не сніў. Прыехаць у замежжа — і выкінуць такія «конікі». Паахвяраваць вяселлем сястры дзеля... — хацеў сказаць нешта «матнае», але асекся — стрымлівала жонка.

Адказу ад Алы доўга чакаць не давялося:

— А я, каб вы ведалі, і ляцела сюды з адной думкай: знайсці жаніха. І я знайшла яго. Гэта Петрас. Ён — мой. І не перашкаджайце змагацца мне за сваё шчасце.

Такая заяўка Алы прывяла Антона і Таісу ледзь не ў шок. Яны сціснулі вусны і замаўчалі. Далей весці размову не было сэнсу — толькі насмяшыш людзей.

Ала штовечар сустракалася з Петрасам. Сазвоньваліся днём, а надвячоркам пасля працы Петрас прыязджаў з Ларнакі ў Нікасію, забіраў яе і вёз на мора.

Аднойчы, стоячы ў хвалях, Ала вырашыла сказаць Петрасу ўсю праўду пра сябе:

— Не палохайся — у мяне ёсць сын. Яму тры гады. З бацькам яго я развялася, бо ён — наркаман...

Пачуўшы прызнанне Алы, Петрасу спачатку стала не па сабе. Да сваіх амаль трыццаці гадоў яму шмат раілі дзяўчат-кіпрыётак, але адзіную так і не выбраў. Бацькі бачылі нявестку толькі родам з Кіпра, якая не была замужам. А тут — усё наадварот. Як яму быць? Што скажуць тата і мама? Не, кінуць Алу ён ужо, відаць, не зможа — надта ж салодкія былі з ёю гэтыя дні... Дый яна ўчапілася ў яго, нібыта клешч.

Дома Петрас падрабязна нічога не расказваў пра Алу, хоць прывёў яе аднойчы і пазнаёміў з бацькамі. Тыя ўжо ведалі, з-за каго Петрас не трапіў на вяселле Ірыны. З гэтым не маглі змірыцца. Паводзілі сябе ў прысутнасці мінчанкі вельмі стрымана, суха, што не падабалася Але. Тым не менш, яна штодзень напаміналa Петрасу: «Калі пададзім заяву ў ЗАГС?»

Той усё знаходзіў прычыну, адцягваў. Але перад самым адлётам з Кіпра Ала настойліва заявіла:

— Альбо падаём заяву ў ЗАГС, альбо заўтра я лячу ў Мінск, і ты мяне больш не ўбачыш ніколі... — Прыстрашыла, хоць ад'язджаць сама зусім не хацела.

Петрас на хвіліну задумаўся, затым спытаў:

— А як жа мы так хутка зробім? І бацькам не паведаміўшы?

— А навошта ім гаварыць? Скажам, калі прыйдзем распісвацца…

— Ну, што ж, няхай будзе па-твойму, — з цяжкасцю згадзіўся Петрас.

Тут жа паехалі на машыне ў бліжэйшы ЗАГС і падалі заяву. Там папрасілі, каб прыйшлі праз месяц, тады і распішуць.

Гэты месяц Ала і Петрас дарэмна не трацілі. Яна паляцела ў Мінск і абвясціла бацькам, што выходзіць замуж, як выйшла яе сястра Ірына, за кіпрыёта. Ён жа — стрыечны брат Ірынінага мужа. Бацькі адразу не паверылі: за два тыдні знайсці сабе мужа-іншаземца?

Ала часта перазвоньвалася з Петрасам. І той аднаго разу сказаў: «Забірай бацькоў і прылятайце да нас. Мае мама і тата ўжо ўсё ведаюць пра нашу заяву... Ім пазванілі з ЗАГСА і спыталі, ці згодны з нашым рашэннем пажаніцца... Мама і тата хочуць бліжэй пазнаёміцца з тваімі бацькамі... Запрашэнне дадзім па факсе».

Ала ўсё перадала маці і бацьку. Тыя захваляваліся, занерваваліся. «Гэта ж, па сутнасці, заручыны. О-ё-ёй! Трэба ж з форсам выглядаць перад тымі кіпрыётамі» І пачалі збірацца. Зося забегала па ўнівермагах… Валянцін у сваёй фірме ўзяў грошы на авіябілеты, а яны былі немалыя. Тым больш, што хацеў паляцець на заручыны сястры і сын Алесь, які нядаўна развёўся з жонкай. «Няхай развеецца на тым Кіпры», — казаў Валянцін Зосі.

А тая ў адказ: «Дый нам пашанцавала. Калі б мы трапілі на той востраў? Не толькі Антону і Таісе туды лятаць да сваёй Ірынкі. Радуюцца, хваляцца, што іх дачка выйшла замуж за мяжой. Можа, і на нашай вуліцы будзе свята?»

Справа ў тым, што Таіса і Зося на дачы ў мамы, на градах, жорстка пасварыліся. Антон паразводзіў іх — калі б не ён, дык, можа, пабіліся б сёстры. Таіса асудзіла паводзіны Алы на Кіпры, а Зося, наадварот, падтрымала дачку. «А што, ёй ужо хоць ідзі ў пельку? Не пашанцавала з першым мужам, дык, можа, пашанцуе з другім, — гарачылася Зося. — Твая Ірына там жыве, як каралева, а маёй што, не хочацца? І наогул, ты не любіш маіх дзяцей, не спрыяеш ім». У гэты час падышоў Антон, забраў жонку і павёў у хату.

...Была субота. Самы пачатак лістапада. У Беларусі яшчэ не зусім холадна, але і не цёпла. Дрэвы скідалі сваё апошняе пажоўклае лісце. Пад імі паволі ткаўся асенні стракаты дыван. А вось на Кіпры прырода буяла: шмат цвіло рознакалёрных кветак, лашчылі вока вечназялёныя пальмы і кіпарысы. Асабліва прыгожа выглядалі паркі. Вакол — пальмы, пальмы, пальмы... Рознай канфігурацыі. Паміж імі — клумбы паўднёвых кветак. Яны цвітуць круглы год, незалежна ад пары года. Не дзіўна, калі на Кіпры — трыста дзён яркага сонца. Свяціла, добра грэла яно і цяпер, у лістападзе.

Пасля прызямлення самалёта з Мінска ў Ларнацы гасцей сустракаў стрыечны брат Петраса, цяпер муж Ірыны, Нікас. Ён ужо добра ведаў Алу, таму і паслалі яго страчаць мінскіх гасцей. Але чаму не Петрас? Пакуль гэта заставалася загадкай. У апошні момант Ала шапнула маме: «Гэта не Петрас, а Нікас». І тут жа з хваляваннем па-англійску спытала ў апошняга:

— А што з Петрасам здарылася?

На што Нікас, так яго навучылі, адказаў:

— Яго тэрмінова выклікалі на працу. Нешта ім — не да выхадных.

Таму паедзем у Нікасію, пабудзеце ў нас, а пасля Петрас забярэ вас, — удакладніў Нікас.

Усе крыху сумеліся, занепакоіліся ад такога нечаканага павароту падзей. Асабліва не задаволенай была Ала:

— Учора па тэлефоне Петрас нічога мне не казаў аб сённяшніх зменах.

— Правільна. Усё адбылося сёння зранку, — загадкава казаў Нікас.

Давялося згадзіцца ехаць у Нікасію. А што там чакае іх?

А чакала вось што. Такога Ала і ў самым неверагодным сне не магла ўбачыць...

Пасля вяселля Ірыны Іна доўга не затрымалася на Кіпры. Праз два дні яна паляцела разам з Вадзімам Чаромхіным у Мінск. Той паспрыяў, каб яе ўзялі на борт чартарнага рэйса самалёта. Вядома ж, Іна разумела, што з Вадзімам у яе нічога не атрымаецца. У таго наперадзе слава. Таму ў думках, як цвік, сядзеў запасны варыянт: кіпрыёт Петрас. Прыгажун, як і Вадзім. Вось толькі не спявае. Але затое — памочнік генеральнага дырэктара піўнога прадпрыемства. Які размах! Якая перспектыва ў Петраса! Але ж ёсць у яе канкурэнтка-прэтэндэнтка Ала. І што там паміж імі, Петрасам і Алай, цяпер? Тая іх адсутнасць на вяселлі не давала спакою Іне. «Не, Петрас будзе мой! Я ўсё зраблю, каб гэтая Ала і блізка не стаяла каля яго. Надта ж насаліла яна мне. Дый пара ўладкоўваць свой лёс, так, як сяброўка Ірына. Надакучылі мне багаценькія замежныя дзедуны. Нагулялася, нацешылася. Патрэбен зараз малады, прыгожы хлопец, як Петрас».

Пасля такога роздуму Іна пазваніла на Кіпр Ірыне.

— Алё! Прывітанне, сяброўачка! — зашчабятала Іна. — Як справы ў маладой жонкі?

— Выдатна!

— А што чуваць у тваіго новага сваячка Петраса? — пацікавілася Іна.

— О, дарагая, ён падаў з Алай заяву ў ЗАГС. У лістападзе Ала прылятае з бацькамі на Кіпр на заручыны, — агаломшыла Іну Ірына.

— Што ты кажаш! — здзівілася і адначасова занервавалася Іна. — Няўжо гэтаму быць?!

— А што тут ужо зменіш. Мне таксама не хацелася б, каб гэтая шабурная сястра ўлазіла ў наш з Нікасам род, уварвалася ў маё жыццё на Кіпры, даставала тут.

— Трэба зрабіць усё, каб гэтага не здарылася.

Сувязь з Кіпрам нечакана абарвалася.

Іна цэлымі днямі хадзіла пад уражаннем пачутага ад сяброўкі. Яна будавала планы, як перашкодзіць вяселлю Алы і Петраса. І за тры дні да іх заручын узяла білет на авіярэйс «Мінск—Ларнака».

## Дзёрзкасць і рызыка Іны

Ехала Іна з аэрапорта ў Нікасію на таксі. Пазваніла па мабільніку Ірыне — чакай! Хутка Іну сустракала сяброўка ў сваім доме:

— Не паведаміла з Мінска, што ляціш...

— А я знарок не хацела, каб ты лішняга ў галаву не брала, — паставіла Іна сумку ў кут. — Цяпер будзем удзвюх думаць, што рабіць з гэтымі заручынамі.

— А што тут прыдумаеш? — з сумам сказала Ірына, ідучы на кухню.

— Я ўсё прадумала ў Мінску. Слухай, — піла каву Іна, якую прынесла сяброўка. — Ты пазвоніш сёння вечарам Петрасу. Скажаш: «Прыляцела Іна, хоча неадкладна сустрэцца — і нешта важнае паведаміць». Ён прыязджае на машыне, забірае мяне і вязе на мора. А там я пераконваю яго, што на Але яму жаніцца проста нельга. Немагчыма! Як гэта я зраблю, усё залежыць ад мяне. Ты мае здольнасці ведаеш...

Позна вечарам Ірына пазваніла Петрасу. Да гэтага яго не было дома, гуляў у футбол, быў хаўбекам у мясцовай камандзе. Ірына расказала пра задуму Іны сустрэцца з ім. «Заўтра буду ў Нікасіі», — паабяцаў кіпрыёт.

Петрас прыехаў у дом Ірыны ў абед. Назад на працу не паедзе — адпусцілі. Іну ён пазнаў адразу, прыемна заўсміхаўся і згадзіўся з яе прапановай паехаць на мора.

Спыніліся каля заліва непадалёк ад Ларнакі. У адрозненне ад бухты «Ружовая», на якой начавалі Петрас і Ала, тут мора было блакітнага колеру. Яно пачыналася з пляжа з жоўтым пяском, над якім навісалі высокія пальмы. З берага мора мелкае: ісці трэба метраў сто, пакуль трапіш на глыбіню. Тут адпачывалі тыя, хто не ўмеў добра плаваць. Іна і Петрас паволі крочылі па жоўтым пляжным пяску. Мора хвалявалася, як хваляваўся сам Петрас. «Што ж важнае скажа Іна?» І яна пачала... Глядзела ў вочы Петрасу, як магла, тлумачыла па-англійску і бессаромна хлусіла, ну а дзе гаварыла і праўду...

— Петрас, даражэнькі, ты мала знаеш Алу... Ты ведаеш, што яна мае трохгадовага хлопчыка?

— Ала прызналася мне, нават сказала ад каго.

— Ну і ад каго?

— Ад наркамана...

— Правільна. А што яна, Ала, сама з ім разам ужывала наркотыкі і цяпер ужывае, ты не ведаеш?

— Не-е, — спалохана адказаў Петрас. — Я гляджу, што яна нейкая не такая, як усе. Паводзіны дзіўныя... — Петрас пачынаў верыць Іне.

— Вось бачыш... Хіба нармальная дзяўчына магла не пусціць цябе на вяселле стрыечнага брата? І сама гэтак жа... А што Ала паставіла мэту яшчэ ў Мінску знайсці жаніха на Кіпры, любога, ты таксама не ведаеш? Яна прызналася аб гэтым Ірыне. Можаш спытаць у сваёй новай сваячкі... Ты трапіў на кручок Алы.

Петрасу было непрыемна чуць тое, аб чым гаварыла Іна, ён пачынаў сумнявацца ў выбары будучай жонкі.

— І што мне цяпер рабіць? — разгублена глядзеў на Іну Петрас.

— Я прапаную табе... сябе, — смела загаварыла Іна. З яе вопытам абыходжання з мужчынамі зрабіць усё было лёгка. — Я, калі ўбачыла цябе першы раз — ты вазіў нас на машыне ў Протарас, — адразу закахалася, — прызналася Іна, тулячыся да хлопца.

— А калі і ты такая, як Ала? — нечакана для Іны спытаў Петрас.

— Можаш праверыць. Ірына і Нікас пацвердзяць, што я ні разу не была замужам і кахаю цябе... Я ім пра гэта сказала, — Іна не сумнявалася, што так і будзе. Вельмі ж не хацелі маладажоны новага сваяцтва з Алай.

Іна моцна прыціснулася да Петраса. У таго ўсё ўнутры перавярнулася. «Са мной прыгожая бялявая славянка — яшчэ дзяўчына...» І Петрас не вытрымаў: лёгка пацалаваў Іну ў вусны. Тая — у адказ.

Ехалі ў Нікасію, спыняліся на прыпынках, цалаваліся ў машыне. Петрас прывёз Іну ў дом Ірыны і Нікаса. І адразу загаварыў пра тое, што здарылася на моры... Усе радаваліся здзейсненаму плану, хоць самой Ірыне вельмі не хацелася ўлазіць у гэтую брудную гісторыю...

Назаўтра з самага ранку Петрас, у дзень яго заручын з Алай, нечакана з'явіўся ў доме Нікаса. Іна толькі ўстала, а Ірына рыхтавала сняданак.

— Дзе Іна? — забегшы на кухню, спытаў Петрас.

— А недзе яшчэ ў спальні, — адказала Ірына.

— Хутчэй кліч сюды яе! — не знаходзіў сабе месца Петрас.

— Што здарылася?

— Ляцім сёння ж у Амстэрдам.

— Чаго?

— Мяне накіроўваюць на год на стажыроўку ў Галандыю. Больш такога шанцу можа не быць. Менавіта сёння мы павінны быць там.

— А што з заручынамі будзе? Сёння ж прылятаюць на Кіпр Ала і яе бацькі? — пыталася, нібы шкадавала, Ірына.

— А тое і будзе... Мы паляцім з Інай у Галандыю, і на гэтым нашаму вяселлю з Алай — канец! — Петрас змоўк.

У гэты час на кухню спусцілася з другога паверха Іна, дзе яна спала. Петрас расказаў усё, аб чым гутарылі яны з Ірай. Іна ажно пляснула ў далоні і моцна пацалавала Петраса.

— У колькі гадзін ляцім?

— У 15.00. Я званіў у аэрапорт. Два білеты для нас ёсць.Час на зборы — таксама. Неадкладна збірайся, — сказаў Петрас.

— Я — твая жонка ўжо, што так загадваеш? — усмешліва спытала Іна.

— Лічы, што так. Там, у Амстэрдаме, зарэгіструемся.

Петрас даў Іне гадзіну на зборы, а сам паехаў па магазінах, каб сёе-тое купіць у дарогу.

## Гром з яснага неба

Бывае, і ў казцы не адбываецца тое, што адбываецца іншы раз у жыцці.

У адзін і той жа час па адным і тым жа аўтабане, толькі ў розныя бакі, ехалі Іна і Петрас і мінскія госці — Ала, яе бацькі Зося і Валянцін, брат Алесь. Першыя — з Нікасіі ў Ларнаку, у аэрапорт, каб паляцець у Галандыю, другія — з Ларнакі ў Нікасію на заручыны.

«Мерседэс» Нікаса ўрэшце спыніўся каля яго дома. З яго выйшлі мінчане і рушылі за гаспадаром. А ў доме ўжо чакала Ірына:

— Калі ласка! Калі ласка да нас! Як даўно мы не бачыліся!

Усе пачалі цалавацца, адна Ала крыху прыціснулася да Ірыны — адчувала віну перад сястрой, што не трапіла на яе вяселле. Госці распраналіся, прысаджваліся.

І тады Ала спытала ў Ірыны:

— Дык хутка Петрас прыедзе з працы? І чаго яму так прыспічыла ў наш прылёт пабегчы на свой завод? Няўжо не мог адпрасіцца?

Ірына чакала гэтага пытання і маніць далей не мела сэнсу.

— Ала, пастарайся ўзяць сябе ў рукі, — спакойна папярэдзіла Ірына. — Ты Петраса больш не ўбачыш...

— Як гэта не ўбачу? — стала ў позу Ала. — А чаго ж мы сюды прыляцелі? — абвяла позіркам родных. Тыя таксама насцярожыліся.

— Ён цяпер недзе ляціць у бок Галандыі, у горад Амстэрдам.

— Во дзівосы! Во смехатура! І чаго ён туды сігануў?

— Яго накіравалі на стажыроўку ў піўны канцэрн. Літаральна ўчора ўсё вырашылася. Другога шанцу магло б і не быць. Яму свеціць павышэнне па кар’ернай лесвіцы.

Ірына змоўкла, ды не змоўчала Ала:

— Не мог адкласці адлёт на пару дзён і ўзяць мяне з сабой?

— Не мог, Ала. А забраў ён з сабой... Іну, — з прыдыхам вымавіла апошняе слова Ірына.

— Што, што? — успыхнула, як агонь, Ала. — Гэтую распусніцу... Змяняў мяне на яе? — і зарыдала, залілася слязамі.

Валянцін і Зося падскочылі да Алы, пачалі суцяшаць дачку, хоць і самі былі ў трансе. Гэта ж трэба такое!.. Яны мітусіліся каля дачкі, не ведалі, што рабіць. Маці прыціскала да сябе Алу, бацька трымаў яе за руку. Самі ўсе дрыжалі — стрэс, вядома ж, стрэс... Урэшце Ала крыху супакоілася.

Ірына запрасіла ўсіх за стол. Ала пайшла ў ванную абмыць заплаканы твар. Гэты момант скарысталі яе бацькі, якія ўжо сядзелі за сталом. Першая загаварыла Зося:

— Дык што ж нам рабіць, Іра? Во ўтварылася... — выцерла на вачах слёзы.

— У нас ёсць зваротныя білеты, толькі праз два тыдні павінны ляцець у Мінск, — сумна прамовіў Валянцін.

— Нічога, пажывяце ў нас. Пакажам вам востраў, пабудзеце на моры, — імкнулася заспакоіць Ірына. — Калі вы яшчэ будзеце на Кіпры?

— Хоць адпачнём па-людску. А то вечна гэты водпуск скокам-бокам, — падымаўся настрой у Валянціна.

— Правільна, бацька, на моры такая прыгажосць. Можа, і парыбачым? — не журыўся адзін Алесь, заядлы рыбак.

— Вы ўжо нас прабачце, што так атрымалася. Думалі ў адных спыніцца, а давялося — у другіх, — крыху супакойвалася і Зося.

Ірына мітусілася на кухні, каля стала. Нікас пайшоў у гасцёўню па бутэлькі з пітвом. Выйшла і Ала з ваннай, пасвяжэлая, падмаляваная. Пакуль маўчала, была надзьмутая. Сталі піць і есці. Перавялі гаворку на іншую тэму. Ірына расказвала пра Кіпр, жыццё на ім.

— Не шкадуеш, што тут засталася? — спытала Зося Ірыну.

— Не, канешне. Тут высокі ўзровень жыцця. Шмат выгод. Дый прырода райская. Адна экзотыка. Лета амаль круглы год. Па тры ўраджаі збіраюць.

— О-го! Нам бы так, дык і мы былі б багатыя, — жуючы суўлакі, мовіў Валянцін.

— Вам усім здаецца, што мы па багацце гонімся, калі выходзім замуж за іншаземца. Дзедаўская філасофія, — урэшце ўступіла ў размову Ала.

— Ну, чаму? Гэта таксама важна, — не здаваўся Валянцін.

— Цяперашняя моладзь хоча камфортнага жыцця. Каб усё было, а не толькі элементарнае. Прайшоў час, калі толькі малым задавальняліся. Дваццаць першы век на дварэ, — даказвала сваё Ала.

— Вам усё падавай на талерачцы, — не вытрымаў Алесь.

— Вось з-за чаго і развялася з табой жонка, — упікнула Ала брата. — Не даў ёй тое, на што спадзявалася, так?

— А што я мог? Я толькі просты інжынер. Атрымаў прафесію і адразу пачаў працаваць, як большасць. Я — метрабудаўнік. А яна думала, што я дзялком-бізнесменам стану. Не маё гэта, — пацягваў каньяк Алесь.

— Ну дык і жыві так... А я так жыць не хачу, — абарвала Алеся Ала. — Паспрабавала ўжо радасці за першым айчынным мужам. Другі ў мяне будзе толькі іншаземец. Нашы ім не раўня. Зусім іншы погляд на жыццё ў іх.

— А калі трапіцца табе які-небудзь чорны, ці жоўта-чырванаскуры, што будзеш рабіць? — парыраваў Алесь.

— Галоўнае, што ўнутры, брацік, а абалонка — гэта не так ужо і важна. Выходзілі і выходзяць нашы дзеўкі і за цёмнаскурых, і за іншых каляровых.

— Я чуў ад свайго напарніка па працы, што яго сястра двойчы выходзіла замуж за іншаземцаў, за іспанца і партугальца, і двойчы развялася, — казаў падпіты Алесь.

— Бывае, бывае... І там не без грахоў ёсць мужчыны, — п’ючы кактэйль, вяла сваё Ала. — Трэба спадзявацца на лепшае. Што я і буду рабіць.

Абед канчаўся. Ірына прапанавала гасцям паказаць свой дом, дворык. Усе ўзняліся з-за стала і рушылі ў бок лесвіцы, якая вяла на другі паверх, куды запрасіла Ірына.

## Новае «паляванне» Алы

Роднаму брату Нікаса Міхалісу стукнула сорак гадоў, а ён і не думаў жаніцца. Цікаўным казаў: «Не знайшоў яшчэ адзіную. Шукаю». І шукаў не толькі на Кіпры, але і ездзіў па розных краінах і часта не стыкаўся дома. Кватэра ў яго была адмысловая, трохпакаёвая, уся запоўненая замежнымі сувенірамі. Большасць з іх былі лялькі. Бацькі непакоіліся за сына, не раз загаворвалі пра жаніцьбу. Але Міхаліс не хацеў і слухаць. За ім назіраліся дзіўныя паводзіны: часта, як дзяўчына, усміхаўся, быў вельмі мяккі характарам, апранаўся не то па-мужчынску, не то па-жаночы. Працаваў Міхаліс у нейкай сістэме тэлефоннай сувязі. Часта ездзіў у камандзіроўкі ў Англію, Іспанію, Грэцыю. Нават на вяселле брата Нікаса ён прыляцеў літаральна на дзень-два і зноў падаўся за мяжу.

Падчас прылёту Алы і яе бацькоў Міхаліс толькі што вярнуўся з Барселоны. Ала сустрэла Міхаліса, які прыйшоў у дом да брата з іспанскімі падарункамі, і пачала згадваць, колькі разоў яго бачыла. «Ну, тады калі прыляцелі на вяселле Ірыны і знаёміліся з усімі пад паветкай дома яго бацькоў... А ў час вянчання і зусім ён выпаў з поля зроку. Там зацьміў усіх Петрас».

Цяпер перад ёй стаяў высокі чарнявы прыгажун з прыемнай усмешкай на твары, якая нават, ёй здалося, была мілейшай, чым у Петраса. Ала яшчэ раз кінула позірк на госця і адчула — ёй падабаецца гэты хлопец. Вось толькі як з ім загаварыць? Відаць, ён добра ведае і грэчаскую, і англійскую мовы. І вось момант надарыўся. Усе мылі рукі пад кранам у ваннай, рыхтаваліся да застолля. Апошнімі зайшлі Ала і Міхаліс. Нікога больш у ваннай не было. Міхаліс, як джэнтльмен, трымаў ручнік, а пасля падаў яго Але.

— Сэнк’ю, — падзякавала тая.

— Я вельмі рад паслужыць такой пекнай жанчыне, — сказаў па-англійску Міхаліс.

Гэтая галантнасць кіпрскага хлопца кранула Алу. Яна шукала словы, каб прадоўжыць гаворку. Але працягнуў далей Міхаліс:

— Што вы заўтра робіце?

— А нічога, — адказала для прыліку Ала.

— Мог бы вас звазіць у горы Тродас. Там ёсць унікальны манастыр Кікас.

— Я ў гарах яшчэ не была. Мора ўжо ведаю, нават купалася ў ім, — загарэлася Ала.

— Ну дык едзем... Заўтра ў дзевяць нуль-нуль я заеду па вас. Можа, яшчэ хто з вашых захоча?

— Не, мае бацька і брат паедуць на рыбалку на мора. А мама баіцца вышыні. Яна застанецца з Ірынай, — запэўніла, вядома ж, з карысцю для сябе Ала.

Міхаліс прапусціў Алу з ванны, сам выйшаў за ёю.

Вечарам Ала сказала бацькам, што Міхаліс запрасіў яе ў горы. Тыя пераглянуліся: «Не паўтарылася б, як з тым Петрасам...»

Ехалі ў горы Тродас па той жа дарозе, што і ў Ларнаку, а потым рэзка звярнулі ўправа. Машына бегла па горным серпанціне. Прырода тут жа памянялася. Замест пальмаў, платанаў, алеандраў стаялі сосны, а дзе-нідзе елкі. Шмат было рознага кустоўя. Расла нават шыпшына, на якой чырванелі плады.

«Зусім як у нас, у Беларусі», — падумала Ала.

Праз нейкі час «аўдзі» бегла па плато гор Тродас. Спыніліся на стаянцы непадалёк ад манастыра Кікас. Перад Алай паўстаў велічны прыгожы храм. Туды і рушылі кіпрыёт і беларуска. Хутка яны былі ля дзвярэй храма. Міхаліс адчыніў іх, і перад Алай адкрылася вялікая зала з драўлянымі лаўкамі. Ад столі да падлогі на сценах віселі вялікія пазалочаныя іконы. Гэткія ж абразы, толькі меншага памеру, месціліся на сцяне алтара. Тут былі ў асноўным апосталы. Увагу Алы прыцягнула ікона, якая ўся пералівалася золатам. На ёй адлюстравана Божая Маці з немаўлём Ісусам.

— Гэта ікона знакамітая на ўвесь свет, — патлумачыў Міхаліс. — Яна з некалькіх кілаграмаў золата.

Яшчэ падзівіліся на неверагоднае багацце, якое сабрана тут за стагоддзі, і пакінулі храм.

— А дзе ж самі манахі? — спытала Ала. — Не відаць іх.

— А яны днём заняты. Я чуў, што ў падвалах манастыра працуе невялікі бровар.

Там яны вырабляюць вельмі смачнае віно, якое так і называецца «Манастыр Кікас».

— Паспрабаваць бы яго.

— Дык зараз зойдзем у таверну, закажам...

Невялікая таверна знаходзілася каля дарогі, непадалёк ад стаянкі машын. Над ёй навісала шырокая разлапістая сасна. А ўнізе — схілы гор з зялёным разналессем.

Міхаліс узяў па фужэру цёмнага віна, закусь, селі з Алай за столік. Глыткамі пацягвалі незвычайнае пітво, хвалілі, асабліва Ала. Час ад часу перакідваліся словамі.

— І няўжо манахам так цікава жыць? Усё жыццё ў адзіноце. Ні жонкі, ні дзяцей, — Ала была яшчэ пад уражаннем манастыра. — І ты ж, во, Міхаліс, як той манах, — асмялела Ала пасля выпітага віна. — Чаму не жэнішся?

— Езджу, шукаю сабе пару. Ты ж ведаеш, адкуль я вярнуўся — з Іспаніі, з Барселоны.

— І каго нагледзеў?

— Ёсць кандыдатуры, даволі імпазантныя.

Міхаліс гаварыў пра сваё, Ала думала таксама пра сваё. Яна нават не падазравала, каго гэты хлопец меў на ўвазе.

Міхаліс першы ўстаў з-за століка, за ім — Ала. Селі ў машыну. Рушылі тым жа горным серпанцінам, толькі ўжо з гары ўніз.

— Па дарозе спынімся ў адным экзатычным месцы, — прапанаваў Міхаліс. І раптам звярнуў направа.

Сярод высокіх сосен машына спынілася. Выйшлі з яе.

— Пройдзем метраў сто, і ты ўбачыш нешта... — загадкава казаў Міхаліс.

Хутка яны былі каля невысокай гары, на версе якой стаялі... муфлоны. Іх было пяць. Прыгажуны з закручастымі рагамі.

— Муфлоны — гонар Кіпра. Толькі тут яны водзяцца і больш нідзе. На кіпрскім гербе іх выява, — тлумачыў Міхаліс.

— А як адрозніць — дзе мужчыны, а дзе жанчыны? Усе ж з крутымі рагамі, — Алу непакоіла адно.

— А хто яго ведае... Можа, яны ўсе або мужчыны, або жанчыны, — на нешта рабіў намёк Міхаліс.

— Так не можа быць. Прырода, Божанька прыдумалі гэтак: мужчына і жанчына павінны быць разам, адно цэлае. Інакш няма сэнсу жыцця, — кінулася ў філасофію Ала.

— Я так не сказаў бы, — не згаджаўся Міхаліс. — Жывуць жа тыя манахі, дзе мы былі. А яшчэ... — нешта асаблівае ён хацеў сказаць, але ў гэты час два бараны пачалі біцца ў рожкі, ды так стукаліся, што Ала залілася смехам.

— Яны ж б’юцца з-за яе. Вунь яна, нізенькая, стаіць збоку пад елкай. І рагоў няма. Мы яе не заўважылі. Во як трэба змагацца за жанчыну, — намякала на сябе Ала. — Праўда, Міхаліс? — глядзела прама ў вочы кіпрыёту.

Але той ніяк не рэагаваў. Тады Ала сама памкнулася пацалаваць Міхаліса, ды ён раптам адвярнуўся і загукаў:

— Вунь яшчэ два муфлоны пачалі біцца. Паглядзі!..

Момант быў страчаны. Ала ў душы сябе дакарала, што не адбылося тое, чаго яна так жадала. Але нічога, усё яшчэ наперадзе...

Машына спускалася з гор пакручастай дарогай. Яна збягала то ўлева, то ўправа. А з боку, як апраметная, — глыбокая цясніна. Страшнавата! Ды не было калі баяцца: Ала ўвесь час думала пра Міхаліса, які сядзеў побач з ёй за рулём.

## Перад зваротам гасцей у Мінск

Міналі дні пасля паездкі ў горы Тродас. Але ўсё часцей хацелася бачыць Міхаліса. Яна заходзіла да яго бацькоў, якія ледзь не штодзень чакалі свайго старэйшага сына на абед. Маці Марыя нідзе не працавала, яна толькі гаспадарыла дома.

На гэты раз у доме Маноліса і Марыі сабралася цэлая кампанія: яны, самі гаспадары, два сыны Міхаліс і Нікас, нявестка Ірына, мінчане Валянцін, Зося, Ала і Алесь. Апошнія адляталі ў Мінск. Усе селі за стол, застаўлены багатымі стравамі, рознымі зялёнымі салатамі, смажанай бульбай. На ім стаялі бутэлька віна і баначкі бірра — піва. За трапезнічаннем стрымана размаўлялі. Ірына перакладала і тым, і гэтым.

— Добра было б, каб мой сынок Міхаліс знайшоў нарэшце сабе пару, — Марыя ведала, што Міхаліс і Ала ездзілі ў горы Тродас, пасля чаго сталі часцей сустракацца. — Вельмі ж хвалюемся за яго.

— А чаго? Паглядзіце, хіба дрэнная пара Міхаліс і Ала? — міжволі кінуў Валянцін. Ала з цікавасцю расказвала бацькам пра паездку ў горы.

— І я так думаю, — падтрымаў бацьку Алесь. Яму хацелася прыляцець на вяселле сястры.

Ала ўся наструнілася: што скажуць мама ды Ірына?

— А гэта ім ведаць... Галоўнае, каб адзін аднаму давяралі і ніколі не маглі расстацца, — рабіла намёк Зося на гісторыю з Петрасам.

— А мы з Нікасам думаем так: усякая жаніцьба павінна быць выпрабавана часам. Вось як у нас — мы тры гады сустракаліся. А не гэтак: «прыйшоў, убачыў, перамог», — працытавала вядомае выказванне Ірына. Ёй ужо хапіла мітрэнгі вакол Петраса, і яна больш не хацела падобнага паўтору. Тым больш, што цяпер увязваўся ўжо родны брат мужа.

«Не хоча, каб я была не толькі яе сястрой, але і ятроўкай», — скоса зірнула Ала на Ірыну.

Усе кіпрыёты слухалі тое, што перакладала Ірына. Манолісу і Марыі падабаліся словы нявесткі, а вось два браты ўспрымалі ўсё па-свойму. Нікас, апусціўшы галаву, моўчкі жаваў, — яму тое было страшэнна не па нутры, — а Міхаліс толькі загадкава ўсміхаўся.

Яшчэ крыху пасядзелі за сталом, і госці пачалі збірацца, дзякаваць гаспадарам за развітальны пачастунак.

Назаўтра ўсе былі ў зборы. Адна Ала не спяшалася адлятаць — на Кіпры наклёўваўся новы жаніх Міхаліс. Таму заявіла бацьку і маці:

— Вы ляціце, а я застануся тут. Мяне затрымлівае Міхаліс, — зманіла Ала.

— А што ж з візай, білетам на самалёт? — спытаў Валянцін.

— Віза ў мяне на месяц — яшчэ два тыдні засталося. Авіябілет памяняе Міхаліс, — зноў схлусіла Ала.

— Глядзі ж, дачушка, яшчэ раз не апячыся. Ці трэба гэта табе ўсё? — хвалюючыся, папярэдзіла Зося.

— Мама, мне лепш відаць. Я ўжо не маленькая, — сказала, як адрэзала, дачка. — Прывітанне перадай майму любаму Дзяніску...

Бацькоў Алы, брата Алеся пасля развітання павёз у аэрапорт Ірынін свёкар. Міхаліс і Нікас не змаглі — былі на працы.

Ехалі ў машыне моўчкі. З Манолісам не паразмаўляеш: ён толькі ведаў грэчаскую мову. Больш думалі: Валянцін — аб тым, як будзе расказваць калегам па працы пра гасцяванне на Кіпры, Алесь — пра рыбалку, як злавілі на

моры дзесяць кілаграмаў рыбы на вуду, нават засушылі, вязуць з сабой. І толькі адна Зося думала пра Алу: «Што на гэты раз будзе? Не дай бог, калі паўторыцца тое ж, што і з тым Петрасам... Ала, Ала... І на каго кінеш сынка? Пакуль мы былі на Кіпры, глядзела другая бабуля, былая сваха, маці Тодара Вера. А прыедзем — увесь клопат ляжа на нас з Валянцінам. Прыгожы хлопчык, але хваравіты. Кажуць урачы: вінаваты бацька-наркаман. Дый яго, Тодара, няма ўжо на гэтым свеце: памёр ад наркатычнай перадазіроўкі — Вера ўся ў слязах паведаміла незадоўга да нашага адлёту на Кіпр. А хто ж гэты Міхаліс? Дзе ж ты што дазнаешся, калі не разумееш іх мовы. Але вось жа пруцца нашы дзеўкі замуж за гэтых іншаземцаў. Мы некалі і не думалі пра іх. Не падабаліся яны нам. Калі б хто сказаў мне, каб ішла за якога-небудзь замежнага смуглага ці наогул чорнага, дык лепш бы пайшла ды ўтапілася. Выйшла за свайго Валянціна і не шкадую. З дзецьмі толькі не пашанцавала. Алесь жыве напавер з нейкай каханкай, яго дачку Ілонку глядзяць, як мы Дзяніску, другія бабуля і дзядуля».

Думкі Зосі перапыніў скрып тармазоў: прыехалі ў Ларнаку. Госці-мінчане падзякавалі Манолісу, развіталіся з ім і рушылі ў будынак аэрапорта.

Ала знарок не паехала праводзіць сваіх родзічаў. Яна ў гэты дзень зноў меркавала сустрэцца з Міхалісам у доме яго бацькоў. Але той абедаць да іх не прыехаў. Калі зайшла ў дом, яе сустрэла Марыя. Яна ведала, чаго з’явілася Ала, і дала зразумець, што Міхаліса сёння не будзе.

Беглі дні. Ала і не думала вяртацца ў Мінск. Яна пастаянна жыла ў доме Ірыны і Нікаса, хоць тым ужо абрыдла слухаць яе размовы пра жаніхоў ды чуць гучны смех. «Якая розніца — пратэрміную я візу ці не... Усё роўна я выйду тут замуж. Мне падабаецца Міхаліс, думаю, і я гэтак жа падабаюся яму. Вось толькі патрэбен нейкі час, і ўсё вырашыцца», — так разважала Ала.

## Нечаканае прызнанне Міхаліса

Сяброўка Ірыны Віка яшчэ на тыдзень затрымалася на Кіпры. Аднойчы ранкам, а яна спала ў адным пакоі з Алай, падсела на ложак да яе. Тая яшчэ ляжала ў пасцелі. Нікас паехаў ужо на працу, Ірына пабегла па званку да свекрыві. У руках Віка трымала нейкі часопіс з каляровым фота на вокладцы.

— Захапіла з Барселоны. Так званая модная прэса. Давай пагартаем. Няма чаго рабіць... — Віка паказвала фотаздымкі, Ала з цікавасцю разглядала іх. — Гэта фота апошняй летняй каталонскай моды, — расказвала барселонка, паказваючы на вельмі кароткія спаднічкі, якія былі на дзяўчатах. — А вось прынцэса Ліцісія са сваімі дочкамі. Бачыш, як яны багата апрануты? Усе ў шоўку.

— На тое яны — дачка і ўнучкі караля, — не пазайздросціла Ала.

Віка перагарнула яшчэ адну старонку: на развароце мільганула шмат каляровых фота, вельмі дзіўных. Плошча, а на ёй мноства людзей у адных трусіках, купальніках, пер’ях на галаве, амаль як у час карнавальнага шэсця ў Бразіліі.

— Што гэта?! — здзівілася Ала.

— А гэта, дарагая, фестываль «блакітных»... Дзень гонару міжнароднай асацыяцыі геяў і лесбіянак. Ён праходзіў сёлета летам у нас, у Барселоне. Па ўсім горадзе адбывалася іх шэсце, а на плошчы Іспаніі, каля спеўных каляровых фантанаў, была іх галоўная дзея. У Каталоніі ўсё гэта ўзаконена, нават — аднаполыя шлюбы. Тым больш, Барселона — адзін з іх цэнтраў, як і той жа

Лондан. Ты бачыла б — сабраліся геі і лесбіянкі з усёй Еўропы... Глядзела я на гэтае відовішча, як на цуд! Ехалі па вуліцах адкрытыя машыны-грузавікі, у кузавах іх стаялі амаль голыя людзі. Над імі трапяталіся іх сімвалы — сцягі-вясёлкі, у руках — адпаведныя плакаты, на галовы барселонцаў ляцелі лістоўкі. Барабанныя «там-тамы», дымныя феерверкі, танцы, пацалункі... Усё гэта на фоне іх гімна, які гучаў праз усё шэсце. А як апрануты яны былі?! Хто на што здольны... Ты ж бачыш: хто ў каляровых пер'ях і тонкіх плаццях або купальніках (лесбіянкі), а хто толькі ў трусах з мноствам татуіровак на целе (геі), — з непадробнай цікавасцю расказвала Віка. — Чакай, чакай, — раптам уважліва прыгледзелася яна да фота, што было ў цэнтры развароту. — Ці не Міхаліс гэта буйным планам? На галаве — прычоска «грэбень пеўня», у левым вуху — бліскучая завушніца, на шыі — «матылёк», на вялікім правым пальцы — пярсцёнак, рукі ў татуіроўках, сам — толькі ў чорных трусах...

Цяпер і Ала добра глянула на фота:

— Вельмі падобны на Міхаліса — і тварам, і паставай. Няўжо гэта ён? — не верылася Але. — Вось чаго ён, можа, лятаў у Барселону?

— Ты ж да яго, я заўважаю, нераўнадушная. Можаш праверыць...

— Як?

— Прычоску «грэбень пеўня» ён мог збрыць...

— Зараз у яго вельмі кароткія валасы — галава ледзь не голеная.

— Лепш, канешне, убачыць на руках ці спіне адпаведныя татуіроўкі — іх не сатрэш.

— А як гэта зрабіць?

— Ну, на тое ты і жанчына — паспрабуй, умудрыся, — весела павучала Алу Віка.

Пасля гэтага Ала хадзіла сама не свая. Усё думала пра Міхаліса: ён — «блакітны»? І як праверыць татуіроўку?

Міхаліс прыехаў адвячоркам у дом Ірыны лёгка апрануты: у сініх джынсах, блакітнай тэнісцы, што заінтрыгавала Алу.

Было на дзіва цёплае надвор'е, недзе пад градусаў трыццаць. На Кіпры бываюць такія дні і ў канцы восені.

Міхаліс і Ала былі адны. Ірына з Вікай паехалі на «Таёце» ў супермаркет купіць прадуктаў. Нікас з сябрамі — у рэстаран паесці марожанае і вырашыць сякія-такія справы. Ала знарок падсела бліжэй да Міхаліса. Той пачаў распавядаць, як прайшоў сёння працоўны дзень. Пахваліўся, што хутка паляціць у камандзіроўку ў Лондан.

— Што гэта за такія частыя камандзіроўкі ў вас там? — здзіўлена спытала Ала.

— Ды такая ў нас работа, — загадкава заўсміхаўся Міхаліс.

Ала таксама засмяялася, яшчэ бліжэй падсунулася да Міхаліса і неўпрыкмет пачала разглядаць татуіроўкі на яго руках, наколатыя вышэй запясця аж да локцяў.

Яны былі падобны на тыя, якія былі на мужчыне на фота ў часопісе. «Ён, ён, — без сумнення, канчаткова заключыла Ала. — Трэба зараз жа, пакуль не позна, паставіць усе кропкі над «і»...»

Яна падбегла да століка, на якім ляжаў часопіс, разгарнула яго на тым фестывальным развароце:

— Міхаліс, гэта ты? — тыцнула пальцам у фота, якое было ў цэнтры часопіса.

Міхаліс глянуў і... змяніўся ў твары. Ён пазнаў сябе і нейкі час маўчаў, механічна разглядаючы астатнія фотаздымкі. Потым ціха прамовіў:

— Я, Ала, я... Толькі нікому пра гэта не кажы. Ні брату Нікасу, ні Ірыне, — зрабіў паўзу. — Я зноў еду на чарговы фестываль нашай асацыяцыі. На гэты раз у Лондан.

— А я, Міхаліс, мела на цябе спадзеўкі, — ледзь не плачучы, прамовіла Ала.

Гаворка спынілася. Бескарысна было нешта гаварыць далей. Ала сядзела і маўчала. І толькі Міхаліс працягваў разглядаць часопіс. Неўзабаве з'явіліся Ірына і Віка, прыехалі з супермаркета, выгружалі з машыны прадукты. Убачылі Алу і Міхаліса. Ірына, хоць і павіталася з усмешкай, але ўнутры была не задаволенай. Не ведала яна, што гэтая сустрэча Алы і Міхаліса была апошняй. Хоць Віка па дарозе пачала ёй расказваць пра барселонскі часопіс, але канчаткова не было зразумела, што гэта на фота Міхаліс. Дый закруціліся жанчыны ў тым супермаркеце — забылі пра часопіс. А раней загаварыць пра ўсё гэта не давалі паўсядзённыя справы.

А час імкліва бег. Міхаліс назаўтра паляцеў у Лондан, Віка — у сваю Барселону. Засталася ў доме Ірыны адна Ала. Яна не стрымала свайго абяцання, якое дала Міхалісу, і расказала стрыечнай сястры, што яе швагер — «блакітны». Ён прызнаўся ёй сам. Паказала часопіс, загаварыла пра Барселону, чаго Міхаліс лётаў туды, а цяпер вось — у Лондан. Ірына не магла ў гэта паверыць — такога яна не чакала...

— А яшчэ ж не ведаюць яго бацькі, мае свёкар і свякруха. Яны спадзяюцца, што ў вас, у цябе і Міхаліса, наспявае раман. І хутка, можа, будзе вяселле, — невядома было: шкадавала Ірына таго, што не адбылося ці радавалася таму, што ўжо ніколі не адбудзецца.

Тэрмін візы ў Алы канчаўся. І цяпер яна стаяла перад дылемай: ці заставацца жыць нелегалкай на Кіпры і спадзявацца на нешта, ці вяртацца ў Мінск.

«Што рабіць? — напружана думала-разважала Ала. — Першы варыянт, вядома ж, лепшы. Хоць як сынок Дзяніска там, у Мінску, будзе жыць без мяне? Другі варыянт — на крайні выпадак, калі жыццё на Кіпры не заладзіцца. А мне не хочацца здавацца, падымаць угору рукі. Дзяніску пакуль прыгледзяць тата з мамай — буду званіць ім у Мінск. А сама пайду служанкай у дом багатых. Буду прыбіраць, мыць падлогі, месці двор. Ірына казала, што ў такія дамы нелегалу няцяжка ўладкавацца. А там час пакажа... І пажыць у сестрыным доме пасля майго праўдзівага аповеда, хто такі Міхаліс, Ірына з мужам, несумненна, дазволяць».





## Алесь БАРАНОЎСКІ

* * *

Не веру я ў прыручанасць душы
І ў ластаўку, што не ляціць, не веру.
Лісліўца словы — шкодная хімера,
Што можа нават зло разварушыць.

Не веру я ў ашчаднасць дабрыні,
Яна не мае межаў аніколі,
Яна радня непадуладнай волі,
Радня недасягальнай вышыні.

Не замыкаю я па звычцы дзверы,
Хаця і пакалоўся аб асцё.
А сэрца прагне светлага даверу,
Пакуль трапеча ластаўкай жыццё.

* * *

Калі навокал ні душы,
Я удыхаю пах прасторы,
Зрастаюся ў бязгучным хоры
З усеабдымнасцю цішы.
А капяжы вясновых мрой —
Няўжо бягуць яны да мора,
Калі ўдыхаю пах прасторы
І станаўлюся роўным з ёй?

---

***Бараноўскі Аляксандр Аляксандравіч*** *нарадзіўся 7 верасня 1988 года ў вёсцы Церуха Гомельскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны (2011). Цяпер — магістрант Інстытута падрыхтоўкі навуковых кадраў НАН Беларусі.*

*Аўтар паэтычных кніг «Чуйнае акно» (2008), «Вясляр» (2010).*

* * *

Адзіхацяць рамонкі лугавыя,
А летам травы зноў пачнуць бялець.
А мы, як фотаздымкі франтавыя,
Паціху будзем гаснуць і цьмянець.

І, можа быць, трывога без прычыны,
Нібыта пыл — трыпутнік, ахіне.
Яна кагосьці скіне ў каляіну,
Ды і мяне, канешне, не міне.

І веру без залішняе прынукі:
Калі круг вечны стрэлкі дабягуць,
Ні мы, ні вы, ні нашыя унукі
Рамонкі на лугах не абарвуць.

* * *

Мы п'ём свой лёс, нібыта з гладыша,
Ступаючы у будучыню смела,
Ды, калі боль свідруе наша цела,
Падманваемся, што баліць душа.

Дзе наша ўдзячнасць, наша дабрыня?..
Гуляемся навыперадкі з часам,
Што растае сняжынкай пад абцасам.
Няўжо жыццё — пустая мітусня?

А час не йдзе, а подбегам імчыць,
Не робіць перапынкаў, не чакае.
Мы доўга разважаем, як нам быць.
Замест таго, каб жыць, мы разважаем…

* * *

Дзічыны пах і — звонкае «дзінь-дзінь»:
Нацэліў стрэльбу трапны паляўнічы.
Яго дрыготка-сцішанаму клічу
Хіба што адгукнецца лесу стынь.

Дзікун такі — імкнецца спакваля
Знайсці ахвяру. Топча-месіць гліну,
Ды і яго, як чорную пухліну,
Аднойчы вырве з жыламі зямля.

Дранцвее нема шэры небасхіл…
Драпежніка высочвае ахвяра.

* * *

Не выкупіць нам ні хвіліны ў лёсу, —
Не адарвацца дрэву ад зямлі.
І белыя, і чорныя палосы
Спрадвеку на бярозавым камлі.

Не згіне наша светлая Радзіма,
Не згасне па-над ёю небасхіл…
У вырай! За ахоўнікам-Страцімам!
Хто ведае размах ягоных крыл?!

У вырай! За чароўным белым птахам!
Няўжо жыццё не зведала урок:
Калі душа не памірае з прахам, —
Не памірае на зямлі Прарок?..

І хоць паміж людзей не змерлі сечы,
Сплывае вера восеньскай ракой, —
Ляціць Страцім у небную сінечу,
Ды свой каўчэг вядзе праз вечнасць Ной.

* * *

Ты ратуеш мяне і катуеш.
Мы загнаныя лёсам у кут.
Азірніся, прашу!.. Ці ты чуеш?..
Азірніся. Ці чуеш?.. Я тут.

Не дагнаць хуткаплынную хвалю…
Не хвалю я жыццё й не кляну,
Толькі думкі глыбока хаваю,
Што вядуць безупынна вайну…

Вусны сціснеш або пацалуеш,
І ўзвядзеш ты мяне на прастол.
То ратуеш мяне, то катуеш,
Мой адзіны ў сусвеце Анёл.

* * *

Ад хіжых слоў нікуды не падзецца.
Я вас прашу, давайце памаўчым.
Хоць, можа быць, маўчаць не хоча сэрца,
Ды бачу: гаварыць няма аб чым.

Ад слоў пустых, ад позіркаў калючых
Не ўратавацца нат у забыцці.
І успамін, гаючы і пякучы,
Я адпускаю — птушкаю ляці!

* * *

Вы лёс не мой, цяпер Вы мне чужая.
І я для Вас ужо амаль чужы...
Як помнік пачуццю — сцяна імжы,
Бы плача з неба сумная Даная.

* * *

Не адтаяла ноч ад зімы,
Ды вясну прадчуваюць дарогі.
Чым мацней нас сціскаюць трывогі,
Тым мацнейшымі робімся мы.

* * *

Агарнулася сэрца нясцішаным болем,
Папрасілася нанач у хату завея.
Ох, жыццё ты, жыццё — неспазнаная доля…
У трох соснах мая заблукала надзея.

Я раскрыю акно, каб падыхаць паветрам
І душу наталіць сваю водарам кветак.
Паляцяць наўздагон мае думкі за ветрам
І расой упадуць на азяблы палетак.

Сніцца травам зямля, птушкам марыцца воля…
Дні збягаюць няўзнак, быццам дзікія коні.
Ох, жыццё ты, жыццё — неспазнаная доля…
Хто змясціў гэты свет у сябе на далоні?..





Алесь ДЗЯТЛАЎ

# АПАВЯДАННІ

## СВЯТЫ АДЧАЙ

Фёдар Чарняк дапяў да вёскі на дасвецці. Нехаця адступала гнятлівая, чорная, трывожная, з ветрам і калючым дажджом, восеньская ноч. Пакрысе шарэла, але змрок яшчэ трымаўся, быццам хацеў прыхаваць разбураныя бомбамі хаты, папялішчы і выкапаныя на агародах зямлянкі.

Фёдар не ведаў, ці жывыя Алёна, дзеці, таму і хваляваўся, перажываў. Два тыдні назад з трывогай назіраў са Старога Сяла, дзе тады спыніўся атрад, як нямецкія самалёты далёкімі крыжыкамі мітусяцца ў небе, падаюць уніз, драпежна вышукаўшы цэль. Выбухаў не было чутно, але неўзабаве дым, густы, чорны, клубамі пацягнуўся ўгору над далёкім лесам, зіваючыся ў пасмы. У тым баку была яго вёска Каложа, да вайны ўся ў квецені садоў, і школа наводшыбе, на бярозавым пагорачку, дзе ён працаваў настаўнікам. І шчаслівая сям'я — Алёна і двое дзетак. «Як яны там? — сэрца сціскалася болем. — Бамбілі пікіроўшчыкі, можа, партызаны там сталі?»

Фёдара паслалі «на жалезку». Абрадаваўся — ад чыгункі Каложа кіламетры за чатыры, усё лесам. «Забягу да сваіх пасля аперацыі, калі пашанцуе спусціць эшалон, — меркаваў ён, збіраючыся з двума падрыўнікамі на заданне. — Якраз амаль па дарозе, калі што, хлопцы прыкрыюць, ручны кулямёт у групе ёсць».

І вось ён у Каложы. З асцярогай ад лесу вытыркнуўся на голае поле, у вайну зарослае невысокімі кусцікамі і не ўбачыў вёску: усе хаты змецены, быццам ураганам, толькі на гэтым канцы, ад лесу, цудам захаваліся дзве хаткі — агонь не дабраўся і бомбы мінулі іх, цэлілі, мабыць, па цэнтры, дзе калгасная кантора. А школа стаяла цэлая — самалёты не зачапілі яе. На

---

*__Дзятлаў Алесь (Аляксандр Мікалаевіч)__ нарадзіўся 3 чэрвеня 1936 года ў вёсцы Туркі Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1959). Працаваў у глыбоцкай раённай газеце «Сцяг камунізму», у газетах «Чырвоная змена», «Звязда», на кінастудыі «Беларусьфільм», у часопісе «Родная прырода».*

*Выдаў кнігі прозы «Росы на поплаве» (1974), «Белы месяц сакавік» (1977), «Сляды» (1981), «Вяртанне» (1987), «Парог» (1993), «Над безданню» (2007), «Чорная эмка» (2008) і іншыя.*

месцы яго хаты, якую пабудаваў незадоўга да вайны, тырчыць чорны комін, быццам прывід, і сэрца скаланулася, забілася трывожна і часта. Сігануў наўпрасцяк, задыхаючыся ў тлуме блытаных думак. Наблізіўшыся, згледзеў стопачку, якую сам скідаў — каб захоўваць бульбу, бурачкі, капусту, памкнуў да яе, як да апошняй надзеі, спяшаючыся, пастукаў у вузенькую шыбку і замлеў у чаканні: і яно, здалося, цягнулася доўга, невыносна, балюча. І адтуль, з-за тонкай сцяны, пачуў лёгкія крокі, а потым сонны голас Алёны, які пазнаў бы сярод соцень іншых, матнуўся да дзярэй, ціха гукнуў: «Я, я гэта, Фёдар, адчыняй». Скрыгатнула засаўка, дзверцы расхінуліся, парыў ветру хістануў іх наросхліст, і Фёдар у цьмяным мроку ўгледзеў, што на парозе стаіць яго Алёна, ужо апранутая, бы чакала яго. Прытуліў яе да грудзей і яшчэ не верыў у першы момант, што ў тым пекле яна ўратавалася. Адной рукой злавіў клямку дзвярэй, спяшаючыся, прычыніў іх, каб стопачка не выстудзілася, ступіў за парог у цемнату, і Алёна апярэдзіла яго пытанне, задыхаючыся ад нечаканай сустрэчы, прашаптала:

— Дзеці жывыя, усе жывыя… Той раніцай з дзецьмі ў лес выправілася, сушняку сабраць. Халадэча ў хаце. Калі самалёты паляцелі, прыбегла, хата гарэла. Толькі з адзежы што і выратавала ды чыгунок выхапіла. Са мной і Домначка жыве, зямлянку не здолела выкапаць.

Акенца пасвятлела, і Фёдар занепакоіўся. Паглядзеў, як спяць дзеці, абняў Алёну і хуценька выбавіўся на агарод. Ля лесу яго чакалі партызаны, ён, старшы групы, наказаў ім быць на ўзлессі: мінутная справа — наведаць родных, дазнацца толькі, ці жывыя.

Фёдар не ведаў і не мог ведаць, што небяспека чакала яго з другога боку: у мораку раніцы з пагорка са шляху да вёскі звярнулі падводы з паліцаямі. Прыпыніліся, з узвышка ў бінокль пільна агледзелі наваколле і па раскіслай грэблі пагналі коней да мастка. За рачулкай з дзвюх падвод борзда саскочылі, шэра-цёмны ланцужок пацёк па лузе, ахопліваючы вёску з гэтага, ляснога боку. Відаць, паліцаі заўважылі партызана, які кіраваў полем да лесу, і імкнуліся пераняць яго.

Алёна прыпала да шыбкі: дзве падводы спыніліся каля плота, паліцаі спяшаючыся, памкнулі на агарод, двое на бульбянішчы ўладкавалі кулямёт, пападалі на дол. Грукатнула доўгая, нервовая чарга. «Фёдар жа да лесу пабег, акурат у той бок, куды страляюць, — жанчына жахнулася ад гэтай думкі, а сэрца закалаціліся, як не вырываецца з грудзей. — Можа, заўважылі, як па сотках бег? Убачылі са шляху, з пагорка, калі ўязджалі ў вёску? Таму такія і нервовыя, стараюцца пераняць?

Ад лесу стракатнуў кулямёт, быццам папярэдзіў, каб не лезлі: відаць, той паліцэйскі ланцужок, які ад мосціка пасунуўся да лесу, сутыкнуўся з партызанамі. «Божа мой, Фёдар не паспее да сваіх, — Алёна замітусілася, выбегла на агарод. — Домначка, глядзі дзяцей! — крыкнула, як без памяці.

У ранішнім змроку бухалі вінтоўкі, кулямётчык пасылаў кароткія, злыя чэргі. Алёна выбегла за радок кіяшоў, якія раслі на ўзмежку. Сцяблы высокія, ужо высахлыя, ацяжэлі ад вільгаці, прыгледзелася і прыкмеціла невыразную постаць чалавека, які то падаў на дол, то ўзнімаўся і з усіх сіл імкнуўся да выратавальнага лесу. Партызанскі кулямёт прыціснуў ланцужок паліцаяў долу, біў і біў, не даваў узняцца.

«Фёдар, бяжы! Хутчэй! — вырваўся немы, роспачны крык. — Бяжы! Хут…» Яна не дагаварыла — збоку рэзка ўдарыў паліцэйскі кулямёт: паліцаі перацягнулі яго да кіяшоў, на сушэйшае месца. Адзін рыжы, мардаты ўпаў на дол, прыладзіўся, спяшаючыся, націснуў на спуск. Брыдка вылаяўся — у

спешцы збіў прыцэл, чарга прайшла вышэй. Уцякач сігануў лявей, вобмегам упаў за нізенькі кусцік.

— Бяры ніжэй, разява! — крыкнуў другі паліцай, які, прысеўшы на кукішкі, наставіў вінтоўку, цікаваў, калі партызан пакажацца з-за куста. — Наводзь на зараслі, счас пабяжыць.

Партызанскі кулямёт з узлесся секануў па вёсцы: відаць, па ўспышках стрэлаў кулямётчык засек, адкуль вядзецца агонь. Кулі дзынкнулі над галавой, паліцаі прыпалі да зямлі. А кулямёт біў кароткімі чэргамі, прыцэльна, каб даць магчымасць партызану зрабіць апошні кідок на адкрытым полі. Алёна бачыла, як Фёдар узняўся з-за куста, угнуўшыся, імпэтна, кідком рынуў наперад, упаў на дол. Паліцай узняў галаву, непрыцэльна даў доўгую чаргу, і зноў прыпаў да зямлі — партызанскі кулямёт не даваў як мае быць узяць прыцэл.

Паліцайскі ланцужок каля лесу пасунуўся наперад, адразаючы шлях уцекачу, і партызанскі кулямётчык перанёс агонь уздоўж узлесся. Алёна бачыла, як рыжы хуценька ўзняў галаву, павёў руляй кулямёта і даў доўгую чаргу, другі паліцай лежачы біў з вінтоўкі. Яны не давалі партызану ўзняцца, убіцца ў лес, які быў зусім блізка, якіх метраў дваццаць-трыццаць, дасягнуць да сваёй групы. Становішча Фёдара было безвыходным: на ўзлессі — ланцуг паліцаяў, ад вёскі — шчыльны агонь, галавы не ўзняць, скосяць.

Партызан адчайным кідком раптам рвануў наперад, угнуўшыся, сігануў управа, дзе было бліжэй да гушчарняку; паліцай драпежна, бы пачуў здабычу, увесь наструнены, секануў доўгай чаргой, і цёмная постаць чалавека знікла на чорнай зямлі. У Алёны ўсё ўнутры схаладзела, яна ў роспачы кінулася да рыжага паліцая, які біў і біў кароткімі чэргамі; апантана сцяўшыся ў шалёнай злосці з немым крыкам, у які ўклала ўсю сваю нянавісць і боль, упала на яго. Паліцай выпусціў з рук прыклад кулямёта, спачатку не ўцяміў, хто перашкодзіў яму дабіць партызана, залыпаў ад неспадзеву вачамі. Усхапіўся на ногі, ботам балюча ўдарыў жанчыну, адкінуў яе абмяклае цела ўбок, зноў прыладзіўся да кулямёта.

Алёна адпаўзла за кіяшы, вохкаючы, і адна толькі думка балюча забілася ў яе галаве: «Як там Фёдар? Ці дабег да лесу? Ці гэта рыжая морда, «бобік» пракляты, пацэліў у Фёдара? Паганец!» Яна не думала, што яе чакае. Прыйдзе Фёдар, адпомсціць, калі будзе жывы. Адгукнецца гадам, не можа быць, кара і на іх будзе.

Нечакана з узлесся злосна, кароткімі чэргамі ўдарыў кулямёт, кулі пранізалі сцяблы кіяшоў, узрывалі побач зямлю. Паліцаі як ураслі ў раскіслае бульбянішча, ужо не стралялі, пачалі адпаўзаць назад. Рыжы «бобік» злосна, пагрозліва працадзіў праз зубы:

— Уцёк, гад! Баба гэта? Адкуль яе чорт прынёс!

Алёна трохі ачухалася, хаця боль у баку не сціхаў, адпаўзла далей ад паліцаяў, якія па-ранейшаму палахліва не падымалі галоў. Партызанскі кулямёт цяпер зрэдзь пастрэльваў, відаць, каб даць магчымасць адысці групе далей у лес. Калі стрэлы сціхлі, паліцаі ўзняліся, рыжы, на якога ўпала жанчына, узняў кулямёт, пашукаў вачамі вакол сябе:

— Дзе яна? Заб’ю гадзіну!

Убачыў Алёну, якая брыла, сагнуўшыся, да стопкі.

— Ага, партызанская шлюха, счас табе канец будзе, — паліцай злосна сплюнуў, вылаяўся. — Я табе пакажу, дзе грушкі растуць, маць тваю, гадзіна, паскуда!

Алёна дапяла да стопкі, нічога не бачыла перад сабою, ад болю не магла выпрастаць спіну. Домна падсобіла ёй прысесці на бярно, якое ляжала каля сцяны, завойкала:

— Вылюдкі, прыйдзе і на вас кара!

Ад кіяшоў, грузна вязнучы на бульбянішчы, злосныя ішлі да стопкі паліцаі. Пярэдні, рыжы «бобік» з кулямётам у руках, ніяк не мог супакоіцца, лаяўся, слаў праклёны; ззаду цяжка тупаў паліцай з вінтоўкай, моўчкі супіўся. Алёна, як убачыла іх, адчула, што ідзе яе смерць, з намаганнем узнялася з бервяна, абаперлася на сцяну стопкі, моўчкі чакала. З дзвярэй выскачыў старэйшы Лёнік, за ім Ганначка, прытуліліся да маці, нібы чулі бяду.

Паліцай, які ішоў ззаду, быццам спатыкнуўся, убачыўшы малых дзяцей, якія са страхам пазіралі на ўзброеных людзей, ціснуліся бліжэй да маці. Нешта чалавечае, асэнсаванае раптоўна ўзнікла ў яго вачах, ён забег наперад рыжаму паліцаю, ухапіў за рулю кулямёта, прыгнуў яе ўніз, з трывожнасцю ў голасе, але разважліва, спакойна сказаў:

— Ды кінь ты, Грыша, дурніца баба… Звар'яцела…

Рыжы адпіхнуў яго руку, злосна вырваў кулямёт, зароў:

— Не дурніца, а ратавала бандзюка! Той бы нас не пашкадаваў… Не станавіся на дарозе! Заступнік хрэнаў!

— Я з бабамі не ваюю, і табе... Не брыдка, ваяка? — ужо больш настойліва і пагрозліва ўтлумачваў паліцай свайму напарніку. — Кінь дурэць, у яе дзеці…

Рыжы, здалося, быццам нешта ўцяміў, першы шал мінуў, ён апусціў кулямёт прыкладам уніз, азірнуўся на поле, дзе з шэрага рання паказаліся постаці. Паліцаі брылі нястройным гуртам, некага неслі на плашчпалатках.

— Супакойся, Грыша, здуру палезлі на іх. К вясне хана нам усім. Сож перайшлі, Гомель узялі. Трэба думаць, як змыцца. Не марайся, прыпомняць…

Здалося, пачуўшы гэта, рыжы нібы спатыкнуўся, закінуў за плячо кулямёт, зірнуў на жанчыну, якая ля стопкі ціха плакала, сутаргава гладзіла малых, побач галасіла Домначка, трымаючы за руку дачку.

— Эй, ваякі, на выхад! — з вуліцы пачуўся хрыпаты, прастуджаны голас. — Паклалі хоць аднаго?

Да стопкі падбег паліцай, пагляздзеў на жанчын, дзяцей, утаропіўся ў нястройную групу, якая набліжалася па ўзмежку, схмурнеў, выціснуў сіпата, трывожна: «Нашых зачапіла ці што? Ваякі саламяныя, расцяпы!» — і хуткім крокам пашыбаваў напярэймы гурту.

Рыжы паліцай моўчкі супіўся, быццам раздумваў, што рабіць з жанчынай, урэшце, махнуў рукой, угнуўшыся, пабрыў да сваіх на вуліцу. За ім крочыў «бобік» з вінтоўкай, схмурнелы, задумлівы.

Калі яны схаваліся за плотам, Алёна раптам аслабела войкнула, пахіснулася. Домна не дала ёй упасці, трымала за плечы, дапамагла прысесці на бярно, прынесла вады. У Алёны раптоўна мільганула балючая, пакутлівая думка: «Можа, паліцаі нясуць Фёдара? Паранены, схапілі?!» І яна памкнулася адарвацца ад бервяна, бегчы да гэтых унураных людзей у чужых шынялях, якія цяжка ступаючы, ужо міналі яе агарод, выбіваліся на вуліцу да падвод. Адштурхнулася ад сцяны стопкі, ступіла два-тры крокі і цяжка асела на халодны дол; у галаву ўдарыла гарачая хваля, закружыла і панесла кудысь у бездань. У апошняе імгненне свядомасць праняла здагадка: «Не, паліцаі не могуць несці партызана — ні параненага, ні мёртвага. Гэта не Фёдар… Або жывы, вырваўся, або ляжыць там, на ўзлессі, мёртвы».

Домначка, вохкаючы, хуценька падхапіла жанчыну, а сама спужалася, думала, што сэрца не вытрымала, пацягнула ў стопку, паклала на тапчан, адхайвала, як магла.

— Алёна, Алёна, што з табой? — гаварыла Домна, а сама трэслася ад страху. — Алёна, прачынайся, дзеці во… Адны застануцца…

Жанчына не адгукалася, ляжала белая, бы адышла на той свет. На вуліцы замітусіліся паліцаі, чуліся іх грубыя вокрыкі, лаянка — укладвалі на калёсы параненых і забітых. Вяскоўцы са страхам употайкі цікавалі за паліцаямі з-за платоў, з зямлянак, і трывога, гнятлівая, страшная сваёй невядомасцю, павісла над вёскай. Што будзе з людзьмі? Паліцаі раз’юшыліся, мабыць, меркавалі чым-небудзь разжыцца, а трапілі пад агонь.

Алёна ачомалася праз паўгадзіны, папрасіла вады і спачатку ніяк не магла даўмецца, што з ёй адбылося. Як трохі дайшла да памяці, слабым голасам спытала:

— Домначка, а пра Фёдара што прачула? Ці мо і яго павезлі?

— Паехалі злыдні, і сваіх «бобікаў» павалаклі. Бытта адзін забіты, а другі паранены, без памяці. Не бойся нічога, дзеткі во плачам зайшліся. А мужык твой уратаваўся, паліцаі балбаталі між сабой, што ўпусцілі яго. Падымайся, ужо добра развіднела.

## ЗАПЛАЧАНА КРЫВЁЮ

Тры конныя партызанскія разведчыкі вярталіся ў атрад. Старшы групы Іван Бузаў, былы вайсковец, вясёлы разанец, смелы і знаходлівы, калі разабрацца, нібыта не па сваёй волі стаў партызанам. Дваццаць трэцяга чэрвеня сорак першага года батарэя цяжкіх гаўбіц, у якой ён служыў, вымушана была спешна, на маршы, стаць на прамую наводку, каб спыніць нямецкія танкі, якія нечакана выскачылі на бальшак. Батарэя пратрымалася каля паўгадзіны. Спачатку білі падкаліберным, а потым усімі снарадамі, якія толькі былі. Два танкі задыміліся на дарозе, а дзясятак ішлі проста на батарэю. Апошні асколачны снарад наводчык Бузаў паслаў у пярэдні танк, цэліў па гусеніцах — такі браню не бярэ. Тады ў гарачцы бою ён не ведаў, ці трапіў, бо вобмегам адбегся ўбок, у нізовінку, парослую кустоўем, вужакай прапоўз да бліжэйшага ляска.

Пасля таго апошняга бою з батарэі засталося ўсяго сямёра байцоў, трое з якіх былі паранены. Сабраўшыся разам, ад Шчары яны ўпарта прабіваліся на ўсход, праз нейкі час дабраліся ажно да любанскіх лясоў, і тут зразумелі, што фронт ужо далёка. У жывых засталося чацвёра: трое сканалі ад ран у дарозе. У апошняй сутычцы з немцамі на шашы пад Любанню Бузава параніла ў нагу разрыўной куляй, і батарэйцы, вынесшы яго да нейкай лясной вёсачцы, пакінулі там: туды яшчэ не дапяў вораг.

Выхадзіў Бузава ляснік, які даў яму прытулак у сваёй хаце і які ведаў лясныя гаючыя травы: лячыў імі. Рана гнаілася, крыху зацягвалася і зноў адкрывалася. Да зімы малады арганізм перамог, Іван стаў хадзіць. Настачка, дачка лесніка, дапамагала яму асвойвацца. Часам ён лавіў яе цікаўныя позіркі. Калі адыходзіў, яна сарамліва апусціла вочы, ледзь чутна прашаптала:

— Наведайся, калі жывы… Калі будзеш у нашых краях…

Бузаў усё зразумеў, але — вайна, і ён, абучаны, моцны, здаровы сяржант-артылерыст павінен ваяваць. Яго чакаў далёкі шлях да сваіх, і Бузаў не сумняваўся, што дойдзе, даложыць па ўсёй форме першаму камандзіру Чырвонай Арміі, якога ўбачыць, што прыбыў для далейшага нясення службы. Усё здавалася простым, толькі б дайсці, прарвацца. Ён не сумняваўся, верыў, што армія змагаецца, нясе страты, але далёка не адступіла, можа, да Дняпра, ці крышку далей. Калі б сяржанту Бузаву паведамілі, што фронт ужо дакаціўся ажно да

самой Масквы, ён не паверыў бы, назваўшы таго, хто гэта сказаў, здраднікам і панікёрам.

Дзесьці каля Парыч, каля самай Бярэзіны — распытаў у людзей у вёсцы пра мясцовасць — ён дазнаўся, што ў лесе з’явіліся партызаны. Хаця ніхто іх не бачыў, але пагалоска па наваколлі ішла: то знішчаць нямецкую машыну з салдатамі, то мост узарвуць… І быццам, казалі, яны — у вайсковай форме: можа, высадзіўся дэсант?..

Іх і сустрэў аднойчы Бузаў, калі на дасвецці, пераначаваўшы ў лясной вёсачцы, выцікоўваў, як перайсці шырокі, раз’езджаны машынамі лясны шлях. Толькі вытыркнуўся з гушчару на прагалак, як пачуў за спінай нягучны, але ўладны вокрык:

— Стой! Рукі!

Ад нечаканасці Бузаў ажно схаладзеў, здрыгануўся, застыў на месцы, ногі сталі нібы ватныя, быццамураслі ў снег. Ледзь перасільваючы сябе, ён пачаў паволі паварочвацца на голас. Калі ж павярнуўся, то ўбачыў траіх мужчын, якія стаялі пад сасной, трымаючы напагатове аўтаматы. У аднаго з іх Бузаў прыкмеціў на вушанцы чырвоную зорачку і ледзь не ўскрыкнуў ад радасці. Ён памкнуў да іх, але праз імгненне быццам спатыкнуўся ад халоднага позірку таго, што стаяў першым. І зноў каманда — стаяць!..

Затым чэпкія рукі абмацалі ватоўку Бузава, расхінулі яе, дасталі з нагруднай кішэні гімнасцёркі салдацкую кніжку, якую ён бярог увесь гэты час. Чарнявы, які яго абшукваў, аддаў дакумент, мабыць, старшаму: той быў у белым паўкажушку. Абшукалі ўсяго, вывернулі кішэні галіфэ Бузава, паглядзелі, што ў ягонай зрэбнай торбачцы.

— Сяржант Чырвонай Арміі. Артылерыйскі дывізіён… Наводчык, — чытаў старшы салдацкую кніжку Бузава.

— Так точна, — па-армейску адказаў Бузаў.

— Бач ты, вышкалілі. І форму падабралі, і знакі атлічыя…

— Трэці год службы, — Бузаў не зразумеў іроніі.

— Пойдзеш з намі, — строга загадаў старшы. — І чаму так далёка ад сваёй часці, сяржант?

— Адступалі, вымушаны былі, — адказаў Бузаў. — На маршы развярнуліся, танкі выскачылі. Два паспелі падбіць, змялі нас. Прабіваліся да сваіх, хто ўцалеў. Тут параніла, наскочылі на немцаў, разрыўной — у нагу. Лячыўся ў лесніка, цяпер іду да сваіх.

— Пакажы нагу, — загадаў старшы. — На снег садзіся, скідай бот.

Нахіліўся, агледзеў нагу.

— Разрыўная, нямецкая, не зманіў, сяржант. У атрадзе разбяромся, наш ты, ці вораг.

Па вайсковай выпраўцы старшага, па тым, як ён гаварыў, Бузаў вызначыў, што той таксама акружэнец, і надзея, што яму, Бузаву, павераць, прымуць у атрад расла з кожнай хвілінай. Асабліва цешыла чырвоная зорачка на вушанцы старшага, які ішоў шырокім крокам першы.

У атрадзе з Бузавым доўга гутарыў камандзір, потым камісар, высвятлялі самыя дробныя дэталі, а потым паслалі групу ў Асінаўку да лесніка, у якога ён ляжаў паранены. Усё сышлося, але зброю Бузаву пакуль не даверылі — партызаны падазрона ставіліся да ўсіх, хто прасіўся ў атрад: немцы засылалі ў партызанскую зону сваю агентуру.

І толькі вясной Бузава праверылі ў баі, калі партызаны пускалі пад адхон цягнікі. З дрызіны, што суправаджала эшалон, па партызанах, якія залеглі ў кустах недалёка ад чыгункі, нечакана ўдарыў кулямёт. Падрыўнікі сталі

адыходзіць у лес — да ўсяго на насыпе з'явіліся немцы. Старшы групы ішоў апошнім, і ўжо каля самага лесу ён ускрыкнуў і цяжка рухнуў на дол — кулямётнай чаргой яму перабіла ногі. Бузаў выцягнуў параненага ў лес, адбіваўся, і яму ўдалося вынесці старшага групы да сваіх.

Камандзір атрада Капуснік, былы сакратар райкама партыі, пахваліў Бузава за мужнасць:

— Так, не разгубіўся, паказаў сябе ў баі. Кадравы, адразу відаць. Хопіць табе, Бузаў, дровы калоць ды тол насіць да чыгункі. Пойдзеш у разведку камандзірам групы. Сяржантам, здаецца, у арміі быў? Аўтамат здабудзеш у немцаў, у фрыцаў іх многа. А пакуль паваюеш з трохлінейкай.

— …Вось што, хлопцы, адпачнём трохі, пакурым, — сказаў Бузаў, калі яны спыніліся ў бярозавым гайку. — Вунь Асінаўка, дзе я лячыўся ў хаце лесніка, добрая душа. Рана ад разрыўной доўга не зажывала.

Пасядзелі, пакурылі. Нерассядланыя коні скублі траву на палянцы, ужо зрудзелую, уверсе каляна шамацела яшчэ не апалае бярозавае лісце.

— Здаецца, удала разведалі станцыю, мост, падыходы да яго, — Бузаў устаў, паправіў гімнасцёрку. — Забягу на паўгадзіны ў Асінаўку, тут край глухі, а вы адвядзіце сваіх коней глыбей у лес і майго — таксама. Ці мала што… А я — праведаю чалавека, скажу яму дзякуй — і назад.

Бузаў пайшоў, знік за кустоўем. Два разведчыкі, Колька Лазовік і Сцяпан Кузаўкоў, моўчкі ўзняліся з зямлі, павялі коней далей ад узлесся. Колька мясцовы, з райцэнтра, працаваў у райкаме камсамола, дружбак Бузава. Сцяпан жа — з касцяка атрада. Ён, казалі, да вайны ашываўся ля начальства і цяпер — каля яго. Яго добра ведаў Капуснік па даваеннай рабоце і таму давяраў яму поўнасцю.

— Забузіў старшой, — незадаволена прабурчаў Кузаўкоў. — Капуснік не пахваліць, а то яшчэ…

— Спакойна тут, чаго хвалявацца. І коні адпачнуць, траву паскубуць. Да базы яшчэ гадзіны дзве дабірацца. Паспеем, — сказаў знарок бесклапотна, каб заспакоіць пільнага і блізкага да камандзіра разведчыка — Кузаўкоў не давяраў акружэнцам, ставіўся да іх насцярожана, доўга правяраў. І гэта было апраўдана: вайна ёсць вайна, вораг пад выглядам акружэнцаў засылаў у атрады сваіх агентаў.

«Збяжыць, даложыць Капусніку, — з трывогай думаў Лазовік пра Кузаўкова. — Калі ж не збяжыць, то ўсё адно даложыць, што Бузаў самаходзь пайшоў у вёску. Атрадны строга наказаў быць разам».

Кузаўкоў зацята маўчаў.

Далёкі, прыглушаны гул машын узнік нечакана, ён мацнеў з кожнай хвілінай, цягнуўся, здаецца, у бок Асінаўкі. Сцяпан прыўзняўся на локці, схмурнеў трывожна, рыўком стаў на ногі:

— Уліп старшой. Я на шляху, як параязджалі, прыкмеціў свежыя сляды шын. Уліп, што гаварыць.

Ён перакінуў «шмайсер» на грудзі, спехам памкнуўся да бярэзніка. Гул не сціхаў. Колька ўслухоўваўся ў наваколле, але што ўчуеш — добры кіламетр да вёскі. «І навошта яму была тая Настачка? Да яе пабег Іван, яшчэ перад тым, як пайсці з атрада радаваўся, што Асінаўку не мінуць. Добра, што Кузаўкоў не здагадваецца». — Колька нервова-трывожна хваляваўся за сябра.

З-за кустоў паказаўся Кузаўкоў, вочы бегаюць, разгублена сказаў:

— Справа швах — Бузава не відаць. Тры машыны з паліцаямі, чатыры нямецкія танкеткі. Відно, трасуць вёску. Гэта яны па шляху праехалі, а цяпер вярнуліся. Дзесьці насалілі ім нашы…

— Давай заляжам на ўзлеску, калі Бузаў вырвецца з вёскі, прыкрыем яго агнём, — пачаў гаварыць Колька, але яго перапыніў Сцяпан:

— Чым прыкрыеш? Два «шмайсеры» супраць кулямётаў? Ды немцы нас у міг знішчаць, а ў нас заданне, мы ж у разведцы. Капуснік чакае дадзеных, а яны ў Бузава. Схопяць яго — нам кранты. А мо і ён, як той Яцук? Прымазаўся да нас, замаскіраваўся… А цяпер перабег…

— Бузаў не такі. Калі што, ён жывым не здасца, — горача запярэчыў Лазовік.

Выказаўся, а трывога за Бузава разрывала душу. «А калі яго заб’юць? Ці аглушаць, параняць і захопяць у палон? Вось дык уліплі. Э-эх, Іван, Іван… Так недарэчна ўсё атрымалася… Не, трэба яго ратаваць, трэба штосьці рабіць».

— Пайду туды, — кіўнуў галавой у кірунку вёскі Лазавік, — не магу кінуць таварыша. А ты?

— Я, я, што цяпер магу? Не трэба было яму бегчы ў вёску, — роспачна казаў Кузаўкоў, са страхам паглядаючы на ўзлессе. — Заварыў кашу, дык заварыў.

— Прыкрыю, калі што… Удвух лягчэй. Ці вернемся, ці…

Гэтым самым Лазовік даў зразумець Кузаўкову, што ён ужо вырашыў для сябе: ці вернецца з Бузавым, ці…

Але цяпер Лазовік і сам не ведаў, што будзе за гэтым «ці». І ўсё ж штосьці вышэйшае за пачуццё асабістай бяспекі імкнула яго на выручку таварыша па атрадзе, з якім разам пайшоў у разведку. Пакуль бег, задыхаючыся, на ўзлесак, працяла апаслівая думка, што Сцяпан усё ж пэўна данясе, камандзіру і пра Бузава, і пра яго, Лазовіка, самавольства, распіша, як па нотах, і пра свой гераізм. Данясе…

Лазовік з ходу ўпаў на зжаўцелую траву пад невысокую бярозку. Танкеткі стаялі каля крайніх хат, перадам да лесу. Купкі паліцаяў мітусіліся па дварах, шныпарылі ў хлявах, на агародах. «Шукаюць, гады. Мабыць, хто балбатнуў пра партызана? — мільганула думка. — А Іван там, сэрца чуе. А калі схопяць?!»

Ад роспачы сцяло дыханне. Вядома, калі сцапаюць, Івану не жыць. Ды ён жывым не здасца, пры ім «шмайсер», пакладзе не аднаго. Колька здрыгануўся — вінтовачны стрэл гулка разарваў цішыню. За ім — другі, ужо глушэй. Паліцаі купкай сабраліся каля машын, шумна перагаворваліся, узмахваючы рукамі. І палезлі ў кузавы. Адна з танкетак, крутануўшыся на гусеніцах, дала кулямётную чаргу па лесе, кулі шархліва прашылі кроны бярозак, зашпокалі па камлях хвой.

Мінула некалькі цяжкіх, трывожных хвілін, грузавікі і танкеткі схаваліся за павароткай.

Лазовік выскачыў на поле, наўпрасцяк, па шорсткім іржэўніку пабег да вёскі. «Жывы Іван? Ці схапілі яго?» — калацілася сэрца. З-за вугла крайняга хлява вычыльгікаў чалавек, прападаючы на адну нагу, памкнуў да лесу. Колька здалёк пазнаў Бузава, пасігаў напярэймы, гукаючы яго на хаду. Той прыпыніўся, твар бледны, скрыўлены ад болю, убачыў Кольку, праз сілу змучана ўсміхнуўся, і, здаецца, гэтая выціснутая з болем усмешка адняла апошнюю волю да жыцця, паціху апусціўся на сухі ржэўнік.

— Нага, прапаролі, — ледзь чутна выдыхнуў Бузаў, — калі Колька схіліўся над ім. — У лесе перавяжам…

Яны з цяжкасцю дапялі да ўзлесся, коні пасвіліся непадалёк, толькі двое. Бузаў з трывогай узіраўся ў гушчар лесу — Кузаўкова нідзе не было.

— Збег, спужаўся, — выказаў здагадку Лазовік. — А можа, зашыўся ў лес? Добра, што коней не звёў.

— Герой, спалохаўся, — у роспачы сказаў Бузаў. — Раззвоніць, тады апраўдвайся, што не нямецкі прыхвасцень. Зімой трох нямецкіх лазутчыкаў расстралялі, прымазаліся да партызан. Цяпер не кожнаму давяраюць. Нічога, выкруціліся, Колька. А не — шкадаваць не буду. Перавязвай.

Колька разрэзаў нажом ніз сподняй кашулі з суровага палатна на палосы, аддзёр ад закарэлай ранкі штаніну — Бузаў скрыгатнуў ад болю зубамі, на назе паказалася кроў.

— Пашукай крываўнік, не ведаю, як па-вашаму, — прашаптаў паранены. — Па краях палян расце. На ўкроп падобны…

Колька ababег палянку і адшукаў ужо прывялую расліну з дробнымі белымі кветачкамі.

— Гады, — не мог супакоіцца Іван. — Дадумаліся — прэнтам салому пароць. Убачыў іх — выскачыў з хаты, а яны ўжо за варотамі. Я за хлеў — і ў капу саломы. Жалязяка ў нагу, боль страшэнны… А ён з другога боку зайшоў, пранізаў салому — дроб ля шыі прайшоў. Для вернасці прашыў капу з вінтоўкі, — застагнаў і ад болю душэўнага, і ад пякучасці ў назе. — Нічога, дні тры пакульгаю…

Іван бадзёрыўся, а на душы было пакутліва-цяжка, трывожна. І гэты яго стан адчуваў Колька.

— Трох нямецкіх агентаў прыбралі, не давяраюць цяпер, я нутром чую, — Лазовік дапамог Бузаву ўскараскацца ў сядло. — Апякліся, не распазналі.

— Ды яшчэ чмур, Яцук, улізнуў, — дадаў Бузаў, — хітры, гад падкалодны. Столькі прабыў у атрадзе, не пракалоўся. Відно, недзе школу прайшоў, кадр яшчэ той.

— Сцяпана не відно, натэркае Капусніку, а сябе выставіць героем, — прамовіў Лазовік, узіраючыся ў лес наперадзе.

Коні паціху ішлі прасекай. Бузаў маўчаў. Заўсёды вясёлы і гаваркі, цяпер нібы скамянеў, засяроджана глядзеў перад сабою.

— Дадумаўся, кінуў старшага групы ў бядзе, — не сунімаўся Лазовік. — А калі б паліцаі ў лес папёрліся? Удвух адбіцца лацвей. І яшчэ выдасць сябе за героя, а мы?

— На мяне віна ляжа, — прамовіў Бузаў. — Кузаўкоў, выходзіць, чысты, далажыў, пільнасць праявіў. На мяне ўсіх сабак навесяць.

— Што ты зрабіў паганага? У вёску адлучыўся па харчы. І вырваўся, і разведка ўдалая.

Іван перасмыкнуў губамі, пахітаў галавой:

— Не кажы лішняе, я віноўны, заварыў кашу, так і скажу Капусніку. Адлучыўся ў вёску, кінуў групу. Не меў такога права, сам улез, ледзь галаву не паклаў. Я разумею камандзіра: розная погань шыецца ў атрад, павылазіла са шчылін. І пад Сталінградам цяжка, прэ немец, і тут не лягчэй. Не шукай апраўданняў. Прамаргалі вайну, цяпер трэба сціснуць зубы і выстаяць.

— Я, скажам, як пачалася вайна, не паспеў і аднаго разу стрэліць, нашу калону мабілізаваных перахапілі танкі… А слухай, Іван, давай завернем да знаёмай аптэкаркі, тут недалёка, крук на гадзіну. Яна, мабыць, тое-сёе з фельчарскага пункта прыхавала. Прамые рану, перавяжа чыстым і падхарчуемся.

Бузаў нібы не звярнуў увагі на Колькаву прапанову, прыспешыў каня, вырваўся наперад, зласнавата шмаргануў повадам аброці, паімчаў шпарчэй.

— Хаця б заражэння не было, салома, брудны прэнт, — сказаў Колька, — коні адпачнуць, даскачам хутка. Я сур’ёзна кажу, Іван. Ужо нічога не зменіш, а табе яшчэ доўга ваяваць. Кіруй за мной, дарога цвёрдая, роўная. Немцы туды яшчэ не дапялі, вакол балоты.

Лазовік змоўк, схмурнеў, праз метраў дзвесце звярнуў на вузкую калёсную дарогу, цяпер зарослую між каляін травой. Іван трухаў за ім — значыць пагадзіўся, што рану трэба прамыць, нанова перавязаць: вайна наперадзе доўгая, злая, смяротная.

Колька нібы ўгадаў яго думкі:

— Не на Капусніку сышоўся свет клінам, калі што, у другі атрад адпросімся. Што ён звер, не разабраўшыся, караць?

— Пункцік знойдзе, будзь спакойны, — Бузаў трывожна супіўся. — А ў аптэкаркі не ўлезем у дзярмо?

Яны пакінулі коней ля балота, па выспачцы падышлі да вёсачкі.

— Ты там не размазвай пра рану, — пахмурна буркнуў Бузаў…

Праз паўгадзіны лясной прасекай партызаны кіравалі на базу атрада. Бузаў адчуваў сябе віноўным, прамашку даў — адлучыўся ў вёску і ледзь не загінуў. Не было б Кузаўкова, сышло б. І таму ўсё больш хмурнеў. Адзінае, што нейкім чынам лагодзіла душу — заданне група выканала, схема абароны станцыі і моста — у нагруднай кішэні. Ён, старшы групы, не спазняецца — трое сутак, якія адвёў ім камандзір, скончацца ў дзесяць гадзін вечара. Далажыць аб выкананні задання нават раней. І ўсё ж трывожна, і пячэ ў грудзях. Ды і Лазовіка падставіў…

Прасека пашырэла, і Колька падагнаў каня, параўняўся з Іванам.

— Не гаруй, адна казе смерць… А рану фельчарка добра прамыла першаком, — Колька імкнуўся скіраваць турботныя думкі Івана ў іншы бок. — Не баліць?

— Што нага — дробязь, праз два-тры дні пайду ў скокі, калі Капуснік не арыштуе як ворага, — Бузаў засмяяўся нервова, коратка, потым змоўк. Хаця, ніколі не згінаўся ні перад кім.

На заходзе сонца ўбіліся ў густы ельнік. Дол быў пакрыты мохам, буралом — не прабіцца, справа і злева — балоты, непраходныя ні чалавеку, ні дзікаму зверу…

…Бузаў ляжаў на вузкіх нарах у зямлянцы — Капуснік загадаў яму не адлучацца з лагера. Паслаў двух чалавек у Асінаўку — праверыць, ці праўду далажыў старшы групы. Побач на самаробнай табурэтцы сядзеў Лазовік — яго таксама дапыталі, пахмурна супіўся ў сцяну зямлянкі, складзеную з тонкіх неакораных жэрдак. Пасля таго, як яны вярнуліся ў атрад, яго не пасылалі на заданні, не ставілі ў дазор, і гэта была прыкмета, што хлопцу не давяраюць. Колька нават цяпер спадзяваўся, што ўсё скончыцца добра, урэшце разбяруцца, што яны не здраднікі. Ясна, што Кузаўкоў камандзіру атрада наплёў лухты. Але разбяруцца. Ды нічога такога Іван не зрабіў, каб яго пакараць. І ў той жа час у душы трымцела трывога: як справа павернецца? Бузаў віноўны, факт. Пад удар падставіў сябе і ўсю групу, але незнарок, не хацеў, так склалася…

Бузаў жа апасаўся, што не прымуць да ўвагі яго і Лазовіка апраўданні, горш таго, палічаць, што ён у вёсцы мог перадаць немцам звесткі пра партызан, а за гэта — расстрэл. І ўсё, ён не будзе змагацца, без яго іншыя стануць у строй, жывыя, а ён — навечна з ганебным кляймом здрадніка… Не, гэтага ён не мог дапусціць, хаця ў баі смерці не баяўся, там, калі няма выйсця, памерці — святое. А тут? Перад вачамі стаяў Яцук: той на заданне ішоў першы, у разведку — з ахвотай, але ж усё ж аказаўся здраднікам. Атраду трэба пакідаць базу. І весці з сабой яго, каго падазраюць у здрадзе, ніхто не будзе. Тут мне і канец… Не дзяліўся з Колькам сваімі думамі, яму што, не бегаў у вёску, свой, мясцовы, партыйны. Так, паўшчуваюць ды перавядуць з разведкі ў гаспадарчы ўзвод і ўсё тут. А што мне рабіць? Замараны.

Ягоныя цяжкія думкі перапыніў голас Лазовіка, Бузаў здрыгануўся, няўцямна зірнуў на таварыша па няшчасці.

— Да раніцы вернецца група з Асінаўкі, — са спадзяваннем вымавіў Колька. — Вось пабачыш: праверацць і з нас знімуць падазрэнні. Людзі скажуць праўду.

— Спадзяешся? Як сядзеў у хаце, пачуў гул машын на вуліцы, выхапіўся ў двор, не помню, як у стажок зашыўся. А хто бачыў? Усе пахаваліся…

— Ты ж не здраднік, і вырваўся. І разведзвесткі прынёс…

— Вось за гэта, што вырваўся, выжыў, сцярпеў адскі боль і лажыцца на мяне падазрэнне. Паняў? Каб там застаўся — герой… А цяпер…

Яны маўчалі. Адзін спадзяваўся, што ўсё вырашыцца, другі — ліхаманкава шукаў выйсце з таго, непапраўнага, што можа здарыцца заўтра ці паслязаўтра — дата не мела значэння.

— Коля, а ты здагадваешся, што значыць — здаць аўтаматы? — ціха, трывожна спытаў Бузаў.

— Абяцалі выдаць вінтоўкі, ад разведкі пакуль адхілілі. Часова, думаю.

Бузаў змоўк, ад хвалявання не мог гаварыць, захліпнуўся, закашляўся, у вачах з’явіўся ліхаманкавы бляск, які выдаваў рашучасць чалавека. Сцяўшы зубы, даўгавата маўчаў, у цьмяным святле, якое цурылася праз адзінае ў зямлянцы акенца-шыбку. Вечарэла, і трывога нібы вісела над лагерам.

— У мяне засталася адна ноч, Коля. Як ты не разумееш? І невыносна цяжка чакаць і спадзявацца на тонкую нітачку, на якой вісіць жыццё. А раптам? Пашанцуе ці не? Ці так, як трэба праверацць? А вяскоўцы што скажуць? А калі не праверацць і не скажуць? Не, я прывык верыць сабе, — Бузаў захліпнуўся, нібы глотку працяў страшны нечаканы боль, сціснуў абцугамі, і словы выдыхаліся з натугай. — Сабе, а не залежаць ад чужой сілы. Я салдат, разумееш, я прысягаў. І я буду ваяваць, да канца, што б там яны ні дазналіся. Мяне будзе пячы кляймо. Здраднік ці…

Бузаў ужо амаль хрыпеў. Словы з цяжкасцю вырываліся з вуснаў. Для Талькі яны былі нязвычныя, новыя, рашучыя, адчайныя, і ў той жа час сумотныя, горасныя, народжаныя безвыходнасцю. І Лазовік зразумеў, што намерваецца рабіць Іван, яшчэ ўчора вясёлы, здавалася, бесклапотны і смелы ў баі.

— Не, я не магу, — нібы вінавата выціснуў з сябе Колька. — Я веру… Табе… Да канца…

— Тады я — адзін уцяку… Не пашкадаваў бы? Глядзі, позна будзе… Давай, пакуль не прыставілі вартавога… У нас апошні шанс, Коля. Вунь вугал зямлянкі. Гнілы. А там абрыў, кусты… А аўтаматы дастанем у фрыцаў, іх хапае. Мы ж людзі, Коля, а не жывёла. Рашайся…

— Не, не магу, — мармытнуў Лазовік. — Залічаць у здраднікі. Не магу, я застануся… Што будзе — тое і будзе, — ён апусціў галаву і закрыў твар рукамі.

— Ты зразумеў, Коля, мяне точна не пашкадуюць, адмераюць па поўнай за Асінаўку, за самадзейнасць. Расслабіўся, гора-герой, трын-трава не расці. Ты зразумеў мяне? Вось так, інакш быць не можа. А ты сам рашай, як табе быць. Мне дарогі назад няма, кажу табе, з кляймом жыць не магу і не хачу. А ты спі, заўтра ўсё вырашыцца…

— Іван, каб ты ведаў, я заўсёды табе верыў і цяпер веру. Ты свой, сапраўдны чалавек, — Колька як ні намагаўся, не мог стрымаць слёз. — А мо пачакаем раніцы?

Бузаў не адказаў, адвярнуўся да сцяны, цяжка ўздыхнуў і заціх. Ён цвёрда рашыў, і словы тут былі лішнія.

Калі Лазовік, змучаны цяжкімі думкамі, заснуў, апоўначы Бузаў выбраўся з зямлянкі — раскапаў вугал над самай зямлёй, асцярожна спусціўся ў зарослы алешнікам яр, нячутнай зданню праз неглыбокі ручай ссунуўся ў густы ельнік, удала мінуў пасты, і толькі далей ад лагера, у густым ельніку, выдыхнуў з палёгкай сваю горыч. Аддыхаўся пад ялінай і асцярожліва, услухоўваючыся ў гукі лесу, пацягнуўся ўглыб гушчару, далей ад таго кашмару, які перажыў. Бузаў усёй сваёй істотай адчуваў, што група, якую паслаў у Асінаўку Капуснік, ці вярнулася, ці на падыходзе да лагера, уявіў, як ля дзвярэй зямлянкі становіцца вартавы, потым выводзіць яго… Ён уздрыгнуў ад гэтага відовішча, зябка перасмыкнуў плячамі, нібы атрасаючы навалач з душы і ўбіўся ў гушчар. «Тут мяне не дастануць, вольны я, вольны — трымцела, скакала разняволеная думка. — Хай рашаюць, мне цяпер усё роўна. Толькі шкада Кольку, справядлівага, смелага хлопца. Хаця з ім разбяруцца, ён невінаваты, будзе жыць і ваяваць. А мая доля — далей і далей, прыстаць дзе-небудзь у іншым краі да партызан, біцца, рваць зубамі ненавіснага ворага, усё вытрымаць, перамагчы ў гэтай крывавай, страшнай, святой і справядлівай вайне. І калі спатрэбіцца — заплаціць за перамогу сваёй крывёю. Так трэба…»

Бузаў ішоў усю ноч, і калі на ўсходзе праз густы туман паружавела прастора, ён зразумеў, што кіруе правільна. Там, невядома дзе, яго ратунак, там ён сустрэне партызан.

З гэтай выратавальнай думкай ён ушыўся пад навісь галін развесістай тоўстай яліны і забыўся ў сне.

Ён не ведаў і не мог ведаць, адзін, у сырым глухім лесе, што той раніцай, калі знясіліўся і забыўся ў цяжкім сне, з яго і Лазовіка знялі ўсе падазрэнні — група, якая вярнулася з Асінаўкі, далажыла, што партызаны невіноўныя.

Колька Лазовік ад нечаканай весткі не мог стрымаць слёз, хістаючыся, выбавіўся вонкі, апусціўся на дол каля вялізнай сасны. Чуў, як каля штабной зямлянкі камандзір атрада глуха прамовіў конным разведчыкам, якія чакалі загаду дагнаць уцекача:

— Адставіць, рассядлаць коней.





Іван КАПЫЛОВІЧ

# АПАВЯДАННІ

## УДАЧЛІВЫ БІЗНЕСМЕН

Сяргей Дрозд нарадзіўся пад шчаслівай зоркай. Гэтак думае ён сам пра сябе і тыя, хто яго добра ведае...

Нарадзіўся ён у невялікім гарадку, што каля самай Прыпяці, у мікрараёне, які называецца Левабярэжны. Левабярэжны — вёска вёскай, у ім больш прыватных сядзіб, дзе драўляныя дамы, гразкія, незаасфальтаваныя вуліцы, дзе хлявы і хлеўчукі, у якіх рыкаюць каровы, рохкаюць свінні, бляюць авечкі... Апошнім часам, праўда, вуліцы падсыпалі гравіем, шчэбнем, некаторыя нават заасфальтавалі, і цяпер па іх можна хадзіць і ездзіць у любую пару года. Паблізу ракі луг, а гэта і выпасы для скаціны, і трава для сенакосу, і бабоўнік для свіней-парсюкоў.

Трохі падросшы, Сяргей браў вуды, на золку кіраваўся да Прыпяці, выбіраў ціхае, малалюднае месца дзе-небудзь на адхонным беразе, цягаў ляшчоў, падлешчыкаў, язёў, карасёў...

Прыпяць — рака суднаходная. Дзень і ноч па ёй плывуць гружаныя вуглем, шчэбнем, лесам баржы. Імчаць па ёй быстраходныя, на падводных крылах «каметы», «ракеты», круізныя, прагулачныя лайнеры. Сяргей глядзіць на гэта ўсё дзень пры дні, з месяца ў месяц, з году ў год. І паступова, непрыкметна заўважае, што ў ім нараджаюцца мроі. Яму ўяўляецца, што ён сам стаіць за штурвалам «камет», «ракет» і кіруе адсюль, ад берагоў і плёсаў Прыпяці, у невядомы, чароўны і загадкавы далёкі свет, дзе столькі зваблівых таямніц, дзе райскія краіны і райскае жыццё...

Скончыўшы дзевяць класаў, ён падаў дакументы ў Рыжскае мараходнае вучылішча. Збіраўся стаць матарыстам гандлёвага судна. Да таго часу ён вырас як не пад самую столь — набраў ледзь не два метры росту. Дзіва

---

***Капыловіч Іван Іванавіч*** *нарадзіўся 2 лютага 1944 года ў вёсцы Забалацце Мазырскага раёна. У 1962 годзе паступіў на аддзяленне журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Служыў у Савецкай Арміі. Пасля службы ў войску і заканчэння вучобы ва ўніверсітэце працаваў у газеце «Чырвоная змена». У адной з камандзіровак трапіў у аўтамабільную аварыю, доўгі час быў прыкуты да бальнічнага ложка. Аўтар кніг прозы «Сонца садзіцца ў травы» (1978), «Два дні ў лютым» (1981), «Асенні гром» (1985), «Сны не вяртаюцца» (1988), «Імянны гадзіннік» (1991), «Пасынак» (1993), «Крумкач» (1997), «Лісты з далёкай чужыны» (2000), «Калі трэба жыць» (2003).*

дый годзе: яго бацька, векавечны шафёр таксапарка, не вышэйшы сярэдняга росту, маці таксама не з веліканаў, а сын вунь які. Жартуючы, Васіль, Сяргееў бацька, не раз чапіўся да жонкі: прызнавайся, Вольга, чаму ў нас гэтакі сын... Мабыць, ты недзе змахлявала... Жонка на гэтыя жарты толькі крыўдзілася і на поўным сур'ёзе адказвала: «Вазьмі звярніся да дактароў, хай звераць сынавы і нашы дээнка... Мабыць, нехта ў тваім ці ў маім родзе быў даўгалыгі, як і сын... Гэта ж гены, яны праяўляюцца да дзясятага калена...» Вольга скончыла дзесяць класаў, затым тэхнічнае будаўнічае вучылішча, тынкоўшчыца і маляр яна па прафесіі, працуе на будоўлі. Яна выпісвае і чытае розныя газеты, часопісы, набывае мастацкую літаратуру... Васіль, муж яе, вярнуўшыся з работы, уключыць тэлевізар і засне каля яго. А Вольга ўвесь вольны час чытае, начытаная, і калі ўжо нешта сцвярджае, то з упэўненасцю... Яна перакanana, што нехта ў іх ранейшай блізкай радні быў такі даўгалыгі, бы і Сяргей... Паступова, з гадамі, стала відаць, што Сяргей нешта ўзяў ад знешнасці маці і бацькі, і Васіль адно толькі ганарыўся, што ў яго сын назавідкі.

Сяргей займаўся гімнастыкай, ранкамі бегаў кіламетры, падымаў штангу — фізічна быў дужы і дасканалы. На яго заглядваліся дзяўчаты, а ён на іх не звяртаў увагі. Таму што хацеў вучыцца, хацеў займець прафесію, яму мроіліся акіянскія прасторы, далёкія краіны, марскія лайнеры, на якіх збіраўся плаваць да таго часу, пакуль не ўбачыць сваімі вачыма, што свет вялікі і неабсяжны. Да сваёй мэты ён быў усё бліжэй і бліжэй, і, здавалася, ніштo і ніхто не зможа спыніць яго на гэтым шляху ажыццяўлення задуманага...

У час зімовых канікулаў ён наведаўся да бацькоў, якія мелі свой дом у Левабярэжным мікрараёне. У Рызе ён набыў магнітафон, і ў час канікулаў круціў запісы вядомых спевакоў — айчынных і замежных. Сябрукі пра тое даведаліся ў адначассе, папрасілі, каб Сяргей даў ім свайго магнітафона хоць на адзін вечар. Па натуры Сяргей чалавек добрага нораву і адмовіць сябрукам не мог. Але тыя не вярталі магнітафон ні на заўтра, ні на паслязаўтра, і Сяргей падаўся да іх, каб забраць свой музычны інструмент.

Сябрукі слухалі музыку, пілі віно, забаўляліся са старшакласніцамі... Колькі быў Сяргей у сябрукоў — невядома. Але ён усё ж забраў свой магнітафон і вярнуўся дадому. А на другі дзень за ім прыехалі з міліцыі, забралі, пасадзілі ў СІЗА і не выпускалі.

Міліцыя зусім нядаўна перабралася ў новае памяшканне, гэта не так далёка ад колішняй турмы — змрочнага, за высокай цаглянай сцяной двухпавярховага будынка з закратаванымі невялікімі, вузкімі вокнамі, дзе цяпер месцілася пазаведамасная ахова.

Падняўшыся на невысокую гару і спусціўшыся з яе, Драздова маці, Вольга, прайшла мо з паўкіламетра па вузкай, з разбітым асфальтам, вуліцы. Абапал яе туліліся драўляныя забудовы дамоў, каля якіх сады, агароды, хлеўчукі. Недзе пасярэдзіне гэтай вуліцы, ля падножжа гары, на якой бярозы, арабіны, дубы, трохпавярховая шэрая камяніца міліцыі, пракуратуры. Вользе сказалі, дзе знаходзіцца кабінет следчага, прозвішча якога яна назвала.

Гэтага следчага ў раёне і ў горадку ведалі як чалавека дужа суровага і непадкупнага. Калі ўжо нехта трапіў у яго рукі па неасцярожнасці ці не дай бог са злосным намерам, то разбярэцца ва ўсім скрупулёзна і дасканала, і калі чалавек невінаваты, дык баяцца яму нечага, а калі вінаваты — літасці не будзе...

Вольга ўбачыла, што следчы даволі малады мужчына, гадоў сарака, не болей. Ён, у цывільным адзенні, сустрэў яе пытаннем:

— Як жа вы маглі дапусціць, каб сын уляпаўся ў гэтую гісторыю? Цяпер пойдзе пад суд. Нічым я вам, на жаль, дапамагчы не магу — усё вырашыць суд. Але тое, што ён атрымае тэрмін — у мяне сумненняў няма.

— Я ўжо бачылася з сынам у СІЗА, ён клянецца і божыцца, што не вінаваты ні сном ні духам.

На гэтыя Вользіны словы следчы адно нядобра ўхмыльнуўся.

— Не першы год я следчым, добра знаю псіхалогію людзей, што пераступілі мяжу закона. Каму хочацца сядзець за кратамі? Да іх розум вяртаецца тады, калі злачынства адбылося. Ваш сын уступіў у недазволеную сувязь з непаўналетняй.

— Не можа гэтага быць! — не хацела пагадзіцца са следчым Вольга. — Ён жа ў мяне гэтакі ціхі, рахманы хлопчык. Дарма, што вырас пад неба, але дасюль не знаў ні дзяўчат, ні любошчаў.

— Ціхі... — следчы быў настроены рашуча. — У ціхім балоце чэрці водзяцца. Хіба я што выдумаў? Пацярпелая напісала заяву, вось яна, чытайце...

Ад следчага Драздова маці перш-наперш падалася да пацярпелай. Тая са слязьмі на вачах прызналася:

— Яны згвалтавалі мяне... Ваш сын — гвалтаўнік.

Пачуўшы гэтыя словы, Драздова маці ледзь не страціла прытомнасць, аслабелым голасам спытала не то ў сябе, не то ў гэтай дзяўчыны:

— Што цяпер будзе?! Ён жа ў мяне быў гэтакі ціхі, рахманы... Ён так хацеў стаць матросам дальняга плавання. Гэта ўсё сябрукі-ліхадзеі, гэта ўсё з-за іх, распуснікаў.

Бацька няшчаснай дзяўчыны праводзіў Вольгу ледзь не да самай яе хаты. Па дарозе прапанаваў не то кампраміс, не то рабіў нядобры намёк на тое, што ўсё можа скончыцца і ціха-мірна, калі Вольга з мужам будуць разумнымі, а інакш...

— Пяць тысяч долараў, і Анька — няшчасную дзяўчыну зваць Аняй — на судзе скажа, што ваш сын яе не чапаў...

Вольга скоса зірнула на гэтага чалавека і падумала, да чаго ж ён хцівы — за грошы гатовы прадаць гонар дачкі. Калі ўжо ў твайго дзіцяці здарылася гэтакае, то тваё сэрца, сэрца бацькі, павінна быць незлапамятным і нездрадлівым... Ты павінен дамагацца, каб зло было сурова пакарана...

— Дзе я вам вазьму тыя пяць тысяч?! — не ўтойваючы роспачы і абурэння, адказала Вольга. — Дзе?! Мы толькі скончылі будоўлю, толькі справілі ўлазіны, але дом трэба яшчэ абкласці знадворку цэглай...

Пакуль вялося следства, Вольга насіла сыну ў СІЗА перадачы, пыталася ў яго:

— Як жа гэта так, сынок? Як ты мог дакаціцца да такога? Цяпер сядзеш у турму не на адзін год, будзеш спаць не дома, а на турэмных нарах.

— Не вінаваты я, маці, — голасам, які не выклікаў сумненняў у праўдзівасці яго слоў, адказваў сын. — Не вінаваты. Я толькі прыйшоў, каб забраць магнітафон, убачыў, што ў Ані сабралася падазроная кампанія, развярнуўся — і дадому. Што там было ў Ані з яе кампаніяй — не знаю і не ведаю. Яна знарок нагаворвае на мяне, хоча, каб мы далі ёй долары.

— Ты і следчаму гэта сказаў?

— Канечне. Толькі ён не верыць мне, думае, што я выкручваюся.

Драздова маці наняла адваката, з'ездзіла да роднага брата ў сталіцу, упала перад ім на калені:

— Памажы, братка. Без тваёй помачы майму сыночку не мінуць турэмных нараў, а ён жа нічым не вінаваты, я духам чую — не вінаваты.

Яе брат журналіст. Але што ён мог зрабіць, каб дапамагчы сястры, і сам не разумеў. Хіба што сустрэцца ды пагаманіць са следчым, дзяўчынай, з-за якой могуць запраторыць пляменніка ў кутузку.

Хто яго ведае, што стала прычынай, з-за якой следчы змяніў гнеў на міласць, але Сяргей Дрозд нечакана ды неспадзявана зноў аказаўся на волі, з яго былі зняты ўсе абвінавачванні. Мо тут сыграла сваю ролю тое, што Сяргей з самага першага допыту і да апошняга тлумачыў сваю невінаватасць, ці адвакат аказаўся надта растаропным і знаў, куды і як накіраваць ход следства. Дый брат Вользін сустракаўся са следчым, з пацярпелай, прасіў следчага не спяшацца перадаваць справу ў суд, а разабрацца па-сапраўднаму, таму што пасадзіць невінаватага розуму багата не трэба... Следчы паабяцаў, што правядзе яшчэ адзін эксперымент. Які гэта эксперымент, ён не сказаў, але неўзабаве Сяргея этапіравалі ў абласны следчы цэнтр і там правяралі яго на дэтэктары ілжы, рабілі вочныя стаўкі з пацярпелай дзяўчынай, паслалі ліст у мараходнае вучылішча і папрасілі, каб далі на Дразда падрабязную характарыстыку: ці было ў яго паводзінах нешта такое, што сведчыла б аб яго легкадумнасці, схільнасці да хуліганства, разбэшчанасці…

Пакуль ішло следства, пакуль Сяргей Дрозд сядзеў у СІЗА, часу прайшло ні многа ні мала — каля года. Асунуўся ён за гэты час, схуднеў, ад таго здаравякі-асілка, якім ён выглядаў да гэтага, мала што засталося. Раней ён смяяўся шчыра, залівіста, а цяпер сцішэў, зніякавеў, у вачах з'явілася разгубленасць і з дому ён анікуды. Патопчацца па двары, уключыць тэлевізар і як прыклеіцца да яго. Нават пра рыбалку, без якой, здавалася, раней не ўяўляў свайго існавання, забыўся назусім. Засабіраўся зноў у Рыгу працягваць вучобу ў мараходным вучылішчы. У Рызе атабарылася родная сястра, яна замужам за ваенным, у іх двухпакаёвая кватэра, маленькая дачка, так што спыніцца і прытуліцца ёсць дзе.

— Нікуды ты не паедзеш, — сказаў, як адрэзаў бацька, на якога Сяргей з гадамі стаў удаваць усё больш і больш: скуласты твар, зіркатыя, з пранізлівым позіркам, вочы, быстрая, паспешлівая хада, прывычка ў размове больш адмоўчвацца і ўважліва слухаць таго, з кім размаўляе... Праўда, бацька любіў выпіць, у таксістаў левыя грошы заўсёдныя, яны невялікія, нават мізэрныя тыя левыя грошы, але іх хапала на лішні куфаль піва ці на бутэльку таннага віна. А вось Сяргей у бок выпіўкі нават і не глядзеў, і гэта адрознівала яго ад аднагадкаў, якія пры першым зручным выпадку не міналі піўбара... — Ідзі ў шафёрскую школу, атрымай пасведчанне вадзіцеля — і ў таксапарк. Хіба гэта цяжкі хлеб? Я вякую шафёрам, — скончыў з ім бацька гэтую цяжкую размову, даючы зразумець, што ад сваіх слоў ён не адступіцца, нікуды ад сябе, ад дамоўкі Сяргея не адпусціць.

Але ў Сяргея быў свой, задуманы ім, план далейшага існавання-быцця, які дужа адрозніваўся ад бацькавага.

Калі аднойчы бацька вярнуўся з работы на добрым падпітку і, нават не распрануўшыся, упаў у ложак і імгненна заснуў, Сяргей выцягнуў з яго кішэні кашалёк з грашыма, узяў роўна столькі, каб хапіла на чыгуначны білет да Рыгі.

Прачнуўшыся, бацька ўбачыў на стале сынаву запіску: «Прабач, бацька, але іначай я не мог. Быць шафёрам таксапарка, як ты, гэта не па мне. Я хачу плаваць, хачу ўбачыць іншыя краіны і мацерыкі сваімі вачыма. Калі пайду на свой хлеб, то грошы, якія «пазычыў» у цябе, абавязкова вярну. Ты ў гэтым, калі ласка, не сумнявайся».

— Верне ён, ага, чакай, на тым свеце, — злаваў Васіль, трымаючы ў руках пахудзелы кашалёк. — Выгадавалі надаўбня на сваю галаву, думалі на старасці хоць карэц вады падасць, а ён у бацькаву кішэнь палез. Няхай толькі вернецца, я не пагляджу, што ён шапкай у столь упіраецца, я ўсыплю яму, каб знаў.

— Піць трэба менш, — астудзіла мужа Вольга. — Учора прыйшоў п'яны як зямелька. Быў бы цвярозы, то і сын нікуды не звалокся б. За якую трасцу ён звалокся б?

Тым часам у краіне пачалася неразбярыха-перабудова, якая скончылася крахам вялікай супердзяржавы. Латвія стала незалежнай, самастойнай краінай, і выходзіла, што Сяргей Дрозд міжволі і ў адначассе апынуўся за мяжой. Каб наведацца да маці з бацькам, трэба ісці ў пасольства, трэба плаціць за візу...

З Рыгі да бацькі з маткай як снег на галаву вярнуліся дачка з мужам і малым дзіцём.

— Не магу я там заставацца, — каратка растлумачыў зяць. — Я даваў прысягу Савецкаму Саюзу, а не тым, хто развальваў краіну.

У зяця капітанскае званне, гады службы ў арміі, і ён уладкаваўся ў міліцыі, меў тое ж капітанскае званне, стаў начальнікам выцвярэзніка. Не надта якая ганаровая служба, але ўсё ж служба, за якую плацілі нядрэнна. Адно было кепска — цеснавата дзвюм сем'ям у адной хаце. І зяць узяўся рабіць прыбудову да старой хаты з новага сасновага дрэва. Паціху ды памалу прывыкалі да новага часу, да новага ладу, да растрывожанага, разварушанага быту і быцця.

Нядоўга, праўда, зяць быў начальнікам выцвярэзніка — скарацілі гэтую службу. Чаму яе скарацілі — незразумела. Хіба выпівох стала менш? На кожным кроку прадаюць гарэлку, піва, віно як не круглыя суткі, і наведвальнікаў гэтых забягайлавак хапае... П'юць без меры, а потым спяць-начуюць у парку на лавах, на беразе ракі, у лодках...

Пасля таго, як скінуў міліцэйскую форму, зяць, падаўся ў інкасатары. У інкасатараў, аказваецца, зарплата не горшая, чым у міліцыянераў — цяпер зяць атрымліваў прыкладна столькі ж, колькі і на пасадзе начальніка выцвярэзніка. Яго жонка, Васілёва дачка, магла спакойна сядзець дома, займацца дамашнімі клопатамі. Дачка чакала другое дзіця, і вельмі было дарэчы, што зяць не застаўся без работы...

З Рыгі Сяргей слаў бацькам лісты. Пісаў, што мараходку яго расфарміравалі, ягоным мроям стаць матросам гандлёвага флоту не суджана збыцца, але ён не бадзяецца бязмэтна па горадзе, не разгубіўся — заняўся бізнесам.

— Чула мая душа — прапашчы чалавек наш сынок, — чытаючы сынаў ліст, нібы скардзіўся Васіль жонцы. — Загіне ён там у той Рызе, прападзе, як сабака на ярмалку. Тут ледзь у кутузку не заграмеў, а там прападзе, так што сушы, жонка, сухары, пабачыш — папросіць сынок бацькавай помачы. А чым я яму дапамагу? Сам сяджу без работы.

Было ад чаго трывожыцца Васілю, таму што таксапарк на ладан дыхае — у горадзе прыватных таксістаў касой касі, у іх машыны імпартныя, сучасныя, а ў таксапарку дабітыя «Волгі»...

Заробкі такія, што Васіль звольніўся, заняўся рыбалкай. Ліцэнзіі на тое, каб займацца прамысловым ловам у яго, канечне, не было, але хіба так рабіў ён адзін? Рыбінспектары закрывалі на гэта вочы, бо куды ж падзецца людзям, калі іншых заробкаў у горадзе не стала? Затрымлівалі і складалі пратаколы, штрафавалі толькі тых, хто ўжо занадта заграбушчы... Наловіць

Васіль і сабе, і на продаж. Не надта якая выручка за рыбу, але ж трэба на хлеб і да хлеба, на соль ды на адзежу... А пра тое, каб дапамагчы грашыма сыну, і казаць няма чаго.

Дрэнна ведаў Васіль свайго сына, бо каб ведаў, то не браў бы да галавы тое, ад чаго ні сну, ні спакою...

Мабыць, тры ці чатыры гады мінула з таго часу, калі Сяргей майнуў з дому і больш не паказваўся. Увесь гэты час Васіль з жонкай атрымлівалі ад яго лісты, у якіх ён хваліўся пра свой бізнес, пра тое, што ўсё ў яго добра і ім за ягонае існаванне турбавацца не трэба. Лісты былі доўгія і кароткія, у іх сын і хваліўся сваім новым жыццём і не ўтойваў таго, што ён сумуе па радзіме, па знаёмых мясцінах, якія ўвесь час сняцца яму. Амаль кожны ліст канчаўся тым, што Сяргей абяцаў прыехаць-наведацца дадому не сёння-заўтра. Дні беглі, міналіся, але Сяргей так і не прыязджаў, і гэта даймала Васіля з жонкай больш за ўсё.

— Было б у яго сапраўды ўсё на мазі, то прыджгаў бы дадому, каб паглядзець, як маюцца бацька з маці, каб узяць вуду ды пасядзець каля ракі... Маніць ён нам, не хоча прызнавацца, што да старцаў дакаціўся, — Васіль і сапраўды, чытаючы сынавы лісты, не верыў таму, што пісаў сын, ні на макулінку. — Адкуль у яго ўзяліся грошы, каб завесці свой бізнес? Для гэтага патрэбен першапачатковы капітал, адкуль ён у яго?

— Хіба наш сын калі-небудзь маніў нам? — не хацела пагаджацца з Васілём Вольга. — Я не прыпомню такога... Адкуль у яго з'явіліся грошы? Прыедзе — і раскажа.

У тым, што дрэнна ведаў свайго сына, Васіль пераканаўся, калі сын прымчаў на радзіму не цягніком і не міжгароднім рэйсавым аўтобусам, а на сваім уласным легкавіку. Ды не на абы-якім, а на шасцісотым «мерседэсе». За добрыя тры гады, што мінулі з таго часу, калі Сяргей украдкі моўзнуў у Рыгу, разбагацеў Васілёў сын, стаў уладальнікам аўтазапраўкі, рэстарана, станцыі тэхабслугоўвання... Хваліцца, што выкупіў дзве ўрадавыя дачы, прыстасаваў-перабудаваў іх для адпачынку. Дачы на Рыжскім узмор'і, ад жадаючых пабыць, паправіць здароўе ў той мясціне, асабліва ўлетку, няма адбою. Аўтазапраўка, рэстаран, станцыя тэхабслугоўвання, дачныя домікі даюць немалы прыбытак, які сын укладвае ў справу, грошы не ляжаць у банку мёртвым грузам, круцяцца... Можа, і не паверылі б сыну бацькі, але Сяргей канчаткова пераканаў іх у тым, што ён не пустабрэх, калі сказаў:

— Бярыце ўчастак зямлі дзе-небудзь у горадзе, пажадана, каб да ракі бліжэй, я пастаўлю катэдж. Хоць я і асталяваўся ў Рызе, але хіба мне чужое Палессе? Мне ўвесь час хочацца дадому, а куды прыязджаць? У вас гэтакія харомы, што вам і самім няма дзе размінуцца. У сястры двое дзяцей, муж, ты, бацька, з маці... Вось пастаўлю катэдж — і справім наваселле.

— Ты не жартуеш, сын? — неяк няўпэўнена спытаў Васіль. — Адкуль, скажы, у цябе грошы ўзяліся, каб раскруціцца, каб набыць тое, што ты маеш ужо?

Сяргей паглядзеў на бацьку здзіўленымі вачыма: чаму яго турбуе тое, адкуль у яго ўзяліся грошы?

— Не хвалюйся, бацька, усё законным чынам... На першым часе ўсім, хто не спаў у шапку, дзяржава давала пазыку... Узяў і я. Узяў і не прагадаў.

— «Усё законным чынам» — бы перадражніў сына Васіль. — Але ж не мною сказана «от трудов праведных не построишь палат каменных»… Бізнес можа быць чэсным? Вунь наш таксапарк абанкруціўся. Чаму? Ды таму, сынок мой даражэнькі, што таксістаў-бізнесменаў стала больш, чым трэба. З-за іх

я браканьерам стаў, незаконна лаўлю рыбу і гандлюю... А куды мне падзецца — у нашым горадзе свабодных рабочых месцаў не бывае.

Бацькавы словы нядобра падзейнічалі на Сяргея, твар яго перасмыкнуўся, вочы звузіліся, і ён пазіраў некуды ўбок, не знаючы, што адказаць, каб пераканаць бацьку, каб ён паверыў яму і не падазраваў у нейкіх нядобрых махінацыях.

— Што хочаш думай і кажы, бацька, але знай: бізнес мой легальны і законны, супраць закона я не іду, акуратна плачу падаткі — з дзяржавай у мяне лады.

На душы ў Васіля трохі палягчэла, але ўсё адно ён верыў сыну і не верыў: вось ён адседжваў азадак на сваім таксаматоры ў тры змены, а што меў? Канечне, галодны не сядзеў, выгадаваў двух дзяцей, нашкроб, каб паставіць такую-сякую хаціну ў Левабярэжным, а на большае, хоць трэсні, у яго ні капейкі. А ў сына вунь... Мабыць, гэтае падазрэнне, недавер да бізнесменаў застанецца ў яго да скону дзён.

— Падавайце з маці заяву на ўчастак, і бярыся, бацька, за дзела, кідай гэтае сваё браканьерства, пакуль рыбінспектары не ўзялі цябе за каўнер, — дадаў напаследак Сяргей. — Адразу ж, як будзе ўчастак, шукай будаўнікоў і пачынай катэдж. Будзеш у мяне за прараба. Штомесяц будзеш атрымліваць па тысячы долараў.

Сяргей вымавіў гэтыя словы строга і сур’ёзна, і Васіль зразумеў, што ён не жартуе.

— Толькі кідай гэтую сваю дурную прывычку — ледзь паявіцца ў цябе ў кішэні капейка, то ты барзджэй у піўбар, — папярэдзіў сын. — Не кінеш, то пашкадуеш — я знайду прараба не выпівоху.

Нядоўга сын бавіўся дома. Сказаў, што там, у Рызе, адно дзела падганяе другое. Завёў «мерседэс» — і яго толькі бачылі. А Васіль з жонкай напісалі заяву, каб выдзелілі ўчастак для будоўлі катэджа — і ў выканкам. Абгрунтавалі сваю просьбу тым, што хата, дзе цяпер жывуць, для дзвюх сем’яў цеснаватая. Сярэдніх гадоў мужчына, які прымаў ад іх заяву, аказаўся ўедлівым чыноўнікам, адразу ўчыніў нешта падобнае на допыт:

— Хм, катэдж надумалі будаваць? Вы ведаеце, колькі на гэта спатрэбіцца грошай? Адкуль яны ў вас? Жонка, як я зразумеў, робіць на будоўлі, яе зарплаты хоць бы хапіла на самае неабходнае, а вы на сённяшні дзень беспрацоўны...

— Няма нам дзе жыць, — настойліва і з абурэннем паўтарыў Васіль тое, што сказаў трохі раней. — Вярнулася з Латвіі дачка з мужам і малым дзіцём...

— Грашыма дапаможа сын, — не змоўчала Вольга. — Ён — бізнесмен, у яго грошы ёсць.

Участак выдзелілі, як яны і прасілі, непадалёку ад ракі, каля вялізнага луга, на якім кожным летам вырастаюць стагі духмянага лугавога сена. Гэта прыгарадны калгас косіць травы, стагуе, падкормлівае луг салетраю ды арганікай, каб травы раслі ў пояс, каб было чым карміць жывёлу, у прыватнасці коней. Коней у калгасе не так многа, але яны ёсць, без іх не абысціся.

Калі травы скошаны, лета сама набірае сілу, на лузе, асабліва ў выхадныя пагодлівыя дні, рассцілаюць свае радзюжкі, прасціны гараджане, якія збіраюцца каля Прыпяці, каб пазагараць, пакупацца, надыхацца ўволю вольным лугавым паветрам.

А Васілю з жонкай было ўжо не да загару, не да таго, каб далучыцца да тых, хто ад рання да змяркання палежвае на разасланых радзюжках ды цешыцца летам, якое прыйшло да берагоў Прыпяці і, здавалася, будзе працягвацца

бясконца. Ім хапае клопату пра сынаў катэдж, які існуе пакуль што на чарцяжы-плане, зробленым мясцовымі архітэктарамі. Васіль пакрысе ўцягваўся ў ролю прараба, а Вольга, звольніўшыся з ранейшай работы, варыла будаўнікам абеды, вячэру, сняданак. Як і будаўнікам, і Васілю, Сяргей плаціць і маці за яе працу столькі, каб ёй хапіла на хлеб з маслам...

Час ад часу наведваўся Сяргей, глядзеў-кантраляваў, як рос катэдж, цікавіўся, дзе бацька набываў будматэрыялы, казаў, што ён пераплачвае, не цэніць яго капейку, а хіба яна ў яго дармавая?

— Не думай, бацька, — з крыўдай у голасе гаварыў Сяргей, — быццам мне грошы сыплюцца як манна нябесная. Ага, каб ты знаў, то я скажу — кругом такая канкурэнцыя і каб не прагарэць, не абанкруціцца, трэба як след варушыць мазгамі ды не спаць у шапку.

Васіль слухаў і не мог даўмецца: у іх радні быццам век зроду не было бізнесменаў, а ягоны сын... Адкуль у яго гэтакая хватка? Загадка дый годзе. Адно слова: кожны чалавек — гэта цэлы неспазнаны сусвет.

І адначасова Васіля брала крыўда — пераплачвае ён... Сёння куды ні кінься — гэтакія цэны на ўсё-ўсенькае. У тым ліку і на будматэрыялы. Але сыну ён сказаў не тое, што падумалася, а нібы паскардзіўся:

— Ухайдохала, сынок, мяне твая будоўля. Матаюся па рынках, па супермаркетах як шалёны. Хочацца ж выбраць дзе што лепшае ды таннейшае, а ты кажаш... Наш горад не Рыга. Тут выбар абмежаваны. І ўсюды бежкі ды пешкі. Іншы раз дня не хапае, каб справіцца з усім, што не церпіць адкладу.

Васіль не маніў і не прыкідваўся — казаў, як яно ёсць. Каб не стаяла будоўля, каб катэдж рос, трэба і тое, і другое, і трэцяе ды пятае. То з цэментам перабоі, то з цэглай ці ліставым жалезам... А цэмент трэба не абы-які — трэба пяцісотай, самай высокай, маркі. І абліцовачная цэгла, з якой кладуцца сценкі, у дэфіцыце...

— Добра, бацька, куплю я табе шостыя «Жыгулі». Не іншамарка, канечне, а ўсё ж тэхніка. «Жыгулі» таксама добры конь, станеш больш мабільны, мо будзеш спрытней упраўляцца са сваімі абавязкамі.

Сяргееў катэдж падымаўся непрыкметна, паступова, яго абрысы набывалі рэальныя формы, упісваліся ў прастору, і станавілася відавочным, што гэта не тыя драўляныя забудовы, што выстраіліся ўсцяж вуліц і завулкаў Левабярэжнага. Было адразу відаць — гэта сапраўдны палац з высокім ганкам-мансардай, у два паверхі, на другім паверсе прасторны балкон-лоджыя, вокны з адмысловым пераплётам, дзверы на бясшумных завесах-спружынах, паркетная падлога... У двары гараж з пад'ёмнымі варотамі на два легкавыя аўтамабілі. Участак зямлі, дзе катэдж, добрых сотак дзесяць. Ён агароджаны металічнымі, завостранымі зверху, бы пікі, прантамі, што трымаюцца зверху і знізу металічнымі пярэчкамі, канцы якіх умураваны ў ладныя, двухметровай вышыні, слупы з белай цэглы. Гэтакі плот, як і дом, прастаіць век, а то і болей. Праз яго не пралезе ні чалавек, ні сабака — надзейная ахова ад няпрошаных гасцей. Агароджа, праўда, не зусім была даведзена да ладу: там, дзе павінны стаяць вароты і веснічы, свецяцца пустыя праёмы. Васіль заказаў вароты з веснічамі вядомым у горадзе майстрам, але тыя не спяшаліся з выкананнем заказу, спасылаліся на тое, што ягоны заказ не радавы — каб зрабіць каваныя вароты ды веснічы з металёвымі кветкамі-завіткамі, з ромбамі ды ўзорамі, трэба нямала часу. Васіль, гледзячы на пустыя праёмы варот і веснічаў, нечага трывожыўся, хваляваўся, бы прадчуваў, што можа здарыцца штосьці нядобрае...

Зайздроснікі, убачыўшы, што Сяргей Дрозд размахнуўся не на жартачкі, пачалі страчыць ананімкі-даносы куды толькі можна. Маўляў, адкуль у яго, зялёнага смаркача, узяліся грошы, каб узводзіць палацы? Ледзь не сеў у турму, а тут во што... І на «мерседэсе» гайсае, і палац будуе. Добрыя людзі, што век ад работы спіну не разгінаюць, у каго мазалі з рук не сыходзяць, хіба могуць дазволіць сабе такое вось? Але і ўчастак, і будоўля афармлены не на Сяргея, а на бацьку з маці, таму што ён цяпер на Палессі госцем, ён цяпер грамадзянін іншай краіны.

Васіля з Вольгай выклікалі ў падатковую інспекцыю, патрабавалі справаздачу на кожную цагліну, на цэмент, чарапіцу, бляху... Чаго ды каго ім баяцца? Сын слаў пераводы, і кожны квіток яны зберaглі. Як знали, што без праверкі не абыдзецца.

Зайздроснікі не супакоіліся, пусцілі чырвонага пеўня: а што ж ты хочаш — варот з весніцамі ўсё яшчэ не было, і кожны, каму хацелася, мог свабодна завярнуць у двор... Але Васіль як знаў, што можа здарыцца непрадбачанае і да таго часу паспеў падвесці ваду, устанавіць супрацьпажарны кран, дняваў і начаваў на будоўлі. Прачнуўшыся аднойчы сярод ночы, пачуў едкі пах дыму... У час ён ачнуўся, агонь ахапіў толькі мансарду, і Васіль не разгубіўся, разматаў проціпажарны рукаў, навёў брандспойт на агонь, які толькі набіраў сілу... Пасля гэтага ў двары паявіўся сабака — нямецкая аўчарка — які днём на ланцугу, а нанач Васіль адвязвае Палкана, так Васіль назваў свайго начнога вартаўніка, які сцеражэ дом і двор.

У час чарговага прыезду на Палессе Сяргей, дазнаўшыся, што бацька выратаваў яго сядзібу ад знішчэння, сказаў:

— Ну і людзі... Убачаць, што нехта апярэдзіў іх, гатовы зжыць са свету. Яны думаюць, што мне мой дастатак прыйшоў сам па сабе... На ўсё трэба кемлівасць, трэба бачыць, куды можна павярнуць і спяшацца, каб не спазніцца, а дзе трэба прытармазіць. Бізнес — справа рызыкоўная.

Васіль слухаў і думаў, што хоць Сяргей яго родная крывінка, а ўсё адно бы зьлеплены з нейкага асаблівага цеста. А Сяргей да сказанага яшчэ дадаў:

— Ты заслужыў, бацька, узнагароду. Прасі што хочаш — не адмоўлю.

Васіль на гэта адно цяжка ўздыхнуў:

— Трэба была табе, сынок, гэтая будоўля... Паставіў бы якую-небудзь халабуду дый ладна, а то размахнуўся. Баюся я, сынок, зайздроснікі не сунімуцца, спаляць і катэдж, і я ў ім згару.

Час ішоў, дом быў скончаны. Добрыя два гады пайшлі на тое, каб давесці яго да ладу, каб забіць апошні цвік і можна было прывозіць мэблю ды засяляцца.

Але здарылася непрадбачанае — раптам захварэў Сяргей, давялося выклікаць хуткую дапамогу, і яго паклалі ў раённую бальніцу ў тэрапеўтычнае аддзяленне.

— Нервовае перанапружанне, — канстатаваў загадчык аддзялення Фёдар Сцяпанавіч, чалавек сярэдніх гадоў амаль з трыццацігадовым медыцынскім стажам.

Гэтыя словы загадчык аддзялення сказаў на другі дзень пасля таго, як Сяргея шпіталізавалі, зрабілі ўсе неабходныя аналізы, рэнтген. Сяргея паклалі ў аднамесную палату з вялікім акном, з якога бачны і Прыпяць, і прырэчныя лугі з лазнякамі, і нават ледзь віднелася вуліца, на якой стаіць-красуецца Сяргееў гмах. Васіль з жонкай не адыходзілі ад сына, баяліся, каб яму не стала горш, але Фёдар Сцяпанавіч іх заспакоіў, а Сяргея папярэдзіў:

— Мабыць, хлопча, бярэш надта многа на сябе, загнаў сэрца, а яно ў цябе не жалезнае.

Даведаўшыся, што Сяргей Дрозд — бізнесмен, адгрукаў вунь якую даміну ў Левабярэжным, да яго ў палату нібы зусім выпадкова заглянуў галоўны ўрач бальніцы — Яраслаў Міронавіч, чалавек у раёне вядомы і паважаны, нейрахірург, які робіць аперацыі на пазваночніку, выратаваў не аднаго, хто трапіў у аўтамабільную аварыю, нырнуў і зламаў шыйны або грудны ці паяснічны пазванок і быў асуджаны на нерухомасць, на інвалідную каламажку. Яраслаў Міронавіч трохі вышэйшы сярэдняга росту, у кароткім бела-снежным халаце, зашпіленым на ўсе гузікі, у светла-ружовай сарочцы, а з-пад калматых чорных броваў пазіралі строгія, са знакам утомы, вочы.

— Мы цябе падлечым, падрамантуем, у гэтым можаш не сумнявацца, — сеўшы на свабоднае каля ложка крэсла, пачаў Яраслаў Міронавіч. — Але ў нас да цябе, Сяргей Васільевіч, ёсць просьба...

Галоўны ўрач прасіў Сяргея прафінансаваць рамонт бальніцы.

— Я ўжо каторы час прашу, каб выдзелілі грошы на рамонт, на набыццё сучаснага медыцынскага абсталявання ў аперацыйную, у прыёмны пакой, ды пакуль марна. Нам край як трэба новы рэнтгенапарат, дыягнастычная апаратура... Пакуль бюджэту на ўсіх і на ўсё, на жаль, не хапае.

Вядома, Сяргей Дрозд хоць і ўдачлівы бізнесмен, але хіба ў яго фінансавыя сродкі бязмежныя? Але ж тут такая сітуацыя — дактары ратуюць як могуць, з усёй душой, ласкай ды спагадай да яго, выпісваюць самыя лепшыя сучасныя лекі, паклалі ў асобную аднамесную палату, устанавілі каля яго індывідуальны пост... Робяць магчымае і немагчымае, каб ён ачуняў як мага хутчэй, выпісаўся з бальніцы дужым ды здаровым і мог без аглядкі ўпрагціся ў свой нялёгкі, бізнесменаўскі воз. Як тут было адмовіць?

— Планаваў я засяліцца ў свой дом сёлета, — цяжка ўздыхнуў Сяргей, застаўшыся ў палаце сам-насам з бацькам ды маці, — але, мабыць, не выйдзе, трэба дапамагчы бальніцы. Я на мэблю сабраў, на абстаноўку ды хацеў табе, бацька, купіць іншамарку. Шостыя «Жыгулі», канечне, машына, але калі ты хоць раз сядзеш за руль іншамаркі, то зразумееш, што гэта неба і зямля.

— Мне, сынок, і «Жыгулі» нядрэнна, — сказаў Васіль. — Дапамажы бальніцы, ці мала што. Не апошні дзень мы на гэтым свеце. Усё яшчэ можа здарыцца.

Нават не паспеўшы выпісацца, Сяргей даў распараджэнне свайму галоўнаму бухгалтару, каб той на рахунак бальніцы перавёў пэўную суму грошай.

Недзе праз год пасля таго, як выпісаўся з бальніцы, Сяргей Дрозд засяліўся ў свае палескія харомы. Ён сам асабіста выправіўся на мясцовую мэблевую фабрыку, вядомую далёка за межамі Беларусі тым, што яна вырабляла дабротную мэблю на любы густ. Яе, тую мэблю, ахвотна набывалі людзі сярэдняга дастатку, бізнесмены сваёй краіны і замежжа. Заказ ад Сяргея прынялі на фабрыцы з асаблівым настроем — упершыню зямляк, чалавек, які выйшаў з роднага асяроддзя, выбіўся ў людзі, займеў свой капітал, звярнуўся да іх з гэткай просьбай...

— Я свае словы, бацька, на вецер не кідаю, — сказаў Сяргей, ходзячы з бацькам з пакоя ў пакой ды абводзячы задаволеным позіркам новенькія, што зіхацелі лакам, сталы, крэслы, канапы, ложкі, тумбы і тумбачкі, акуратна расстаўленыя на свае месцы. — Я абяцаў табе іншамарку? Ты ў мяне быў разваротлівым прарабам — дом як цацка, утульны, прасторны. Будзе мне куды прыязджаць і гасцяваць. Каб не ты...

Сядзіба і дом сапраўды на зайздрасць. Адна палова двара выкладзена ўзорыстай тратуарнай пліткай, з лавачкамі каля веранды, каля плота, вароты

і весніцы каваныя, закадзіраваныя, каб іх адчыніць, трэба набраць на кнопачным замку код, які вядомы толькі гаспадарам.

Да дома падведзены газ, устаноўлены газавы кацёл, у кожным пакоі паравое ацяпленне, дыхаецца ў доме лёгка, свабодна, таму што пакоі немалыя, з высокай століллю.

А з тыльнага боку — гарод, сад, вялізная цяпліца. Васіль пасадзіў яблыневыя, абрыкосавыя, чарэшневыя дрэвы. Тут, на поўдні Палесся, шмат у каго ў садзе чарэшні ды абрыкосы. Гэта — цеплалюбівыя дрэвы, а на Палессі цяпла хапае.

У цяпліцы — раннія гуркі, перцы, таматы. Вольга любіць корпацца ў зямлі, здароўе пакуль не падводзіць, вось яна ўсю вясну, лета ды восень не вылазіць з цяпліцы ды агароду. Садзіць капусту, буракі, моркву, сее кроп, разводзіць кветкі, каля якіх ад рання да змяркання кружацца пчолы, чмялі. А паўз плот расце чыстацел, палын, бялеюць рамонкі... Парасчыняе Сяргей, прыехаўшы да сябе на Палессе, вокны-дзверы, і такія пахі плывуць у пакоі, што дыхай не надыхаешся. І гэта ўсё роднае, блізкае змалку, з дзяцінства, без яго Сяргей не ўяўляе свайго існавання...

— Чаму ты, сынок, не жэнішся? Табе ўжо трыццаць, а ты ўсё яшчэ нежанаты.

Васіль, вядома, у душы быў удзячны сыну, што ён хоча перасадзіць яго з «Жыгулёў» на іншамарку, але яго непакоіла зусім іншае.

Пра тое сын не казаў яму, але быў бы Васіль дрэнным бацькам, калі б не разумеў, не бачыў, не заўважаў, што пасля таго, як Сяргей ледзь не трапіў у кутузку, на дзяўчат ён і глядзець баяўся, яму, пэўна, уяўлялася, што яны ўсе такія, як Анька... Але Сяргей сталеў, пачынаў глядзець на свет вачыма дарослага чалавека, бачыў, дзе праўда, а дзе крыўда, і тое непаразуменне, з-за якога ледзь не быў паламаны ягоны лёс, пакрысе, паступова забывалася, але зусім не знікала, яно было недзе блізка, побач...

— Хіба мне было калі думаць пра жаніцьбу? — жартаўліва, але і ўсур'ёз адказаў Сяргей. — Я даў сабе слова — пакуль цвёрда не стану на ногі...

— Ты яшчэ не стаў на ногі?! — здзівіўся Васіль. — Варочаеш фінансамі, не вылазіш з-за мяжы... Некалі ты марыў плаваць на гандлёвым флоце, хацеў пабачыць болей свету. Хіба мала пабачыў? Звоніш па мабільніку то з Францыі, з Германіі, з Канараў, з Егіпта ці з Італіі...

Сяргей слухаў бацьку і згаджаўся з ім: усё правільна, усё так. Пад шчаслівай зоркай, мабыць, ён нарадзіўся. Узяўся за бізнес і не прагадаў. Раскруціўся, паявіліся вялікія грошы... Вось за гэты ўласны палац на Палессі колькі ён убухаў долараў? Каля чатырохсот тысяч. Калі пачынаў гэтую сваю будоўлю, то прыкідваў, што тут, на радзіме, яна абыдзецца яму танней. Аж не. Дзе-небудзь на Канарах такі вось самы дом каштуе прыкладна столькі ж. На Канарах яму ўдалося пабыць неаднойчы, і ён добра знае, што там за свет...

— Не сустрэў, мабыць, я тую сваю адзіную, без якой не змагу, — зноў не то жартам, не то ўсур'ёз працягваў Сяргей пачатую размову. — Вось калі сустрэну...

— Не цягні з гэтым пытаннем, сынок. У жыцці ўсё трэба рабіць своечасова. Не паспееш агледзецца, як лепшыя гады застануцца там, куды вяртання няма.

Мінула яшчэ трохі часу, і Сяргей пазваніў бацьку з Рыгі, каб той выправіўся ў Мінск на цэнтральную мытню і гнаў дадому «Лексус». Васіль адразу падумаў, што сын жартуе. «Лексус» — легкавік павышанага камфорту, каштуе ён усе грошы з кашальком.

А яшчэ праз два ці тры месяцы Сяргей пазваніў зноў і папрасіў бацьку, каб ён прымчаў на «Лексусе» ў нацыянальны міжнародны аэрапорт па яго і ягоную нявесту.

— Твой наказ, бацька, я выконваю — збіраюся ажаніцца, — сын і па тэлефоне размаўляе з ім, жартуючы. — Вось прыеду — і справім вяселле. Хачу, каб маё вяселле адбылося на Палессі.

Нявеста Васілю спадабалася. Яна не красуня, канечне, але па тым, як яна размаўляла з ім, Васіль зразумеў: доўга выбіраў сын сабе жонку, і выбар яго, здаецца, удалы. Тая, каго ён выбраў, тых жа гадоў, што і сын, добрай душы чалавек, не ветраная, не матыліца легкадумная, з ёю Сяргей не прападзе.

— Давай, сынок, паклічам на вяселле следчага. Ну таго самага, які, лічы, цябе з няволі выбавіў, — па дарозе з аэрапорта дадому сказаў Васіль.

— Навошта ты аб гэтым, бацька? — як ад болю скрывіўся Сяргей. — Табе захацелася сапсаваць мне настрой?

— Хіба я кажу што-небудзь не тое? — не пагадзіўся Васіль з сынам. — Добрае, сынок, забываць нельга. Каб не той следчы... Ты хоць можаш уявіць, што было б з табой, калі...

Яны ўжо на пад’ездзе да Сяргеевага дома на Палессі, у якім цяпер жылі Васіль з Вольгай. Так захацеў Сяргей. Дом трэба даглядаць, трэба час ад часу прапальваць газавы кацёл, каб не было волкасці, ды каб не завёўся грыбок. Раней сын наведваўся-прыязджаў да іх адзін, а цяпер у яго будзе сям’я, і ім усім у гэтым доме будзе ўтульна. Васіль з Вольгай вельмі хочуць, каб сын аднойчы прыехаў і застаўся назаўсёды. Але хіба такое магчыма? У Рызе ў яго бізнес, а дома, на Палессі, ён адпачывае, адыходзіць душой ад усяго, што вярэдзіць, пазбаўляе спакою. Тут, на Палессі, ён абдумвае, што рабіць заўтра, паслязаўтра...

## СВЯТЫ АБАВЯЗАК

Унукам Дзямідчык задаволены. Не лайдак — скончыў добра школу, паступіў ва ўніверсітэт на факультэт інфарматыкі і радыёэлектронікі. Праўда, на стацыянар не хапіла балаў, унук — студэнт-завочнік. Ён ужо на чацвёртым курсе. І знешне, і характарам ён дужа падобны на яго, Анатоля Дзямідчыка, свайго дзеда. Гэтакі ж каранасты, з пільнымі, неабыякавымі вачыма, натурысты, на твары — задуменнасць. Коля не адыходзіць ад ноўтбука, усё над нечым маракуе, нешта вырашае. Яго, як і некаторых іншых студэнтаў стацыянара і завочнікаў, якія не без цара ў галаве, па рэкамендацыі кіраўніцтва ўніверсітэта, запрашалі на працу ў парк высокіх тэхналогій распрацоўваць камп’ютарныя праграмы — інтэлектуальны, добра аплачваемы тавар, без якога сёння не можа абысціся ні навукаваёмкае, ні звычайнае малое ці буйное прадпрыемства, навукова-даследчы інстытут, медыцына... Але ж у яго ў сталіцы хіба ёсць кватэра? А каб зняць асобны куток, трэба плаціць не адну сотню долараў, тое, што заробіш, трэба аддаваць за кватэру. Гэта адно. І другое. Не дай бог, звяжацца з хакерамі-авантурыстамі, ад якіх усяго можна чакаць... Там і да крыміналу недалёка... Не адпусцілі Колю ў сталіцу ні бацькі, ні дзед...

Коля ўладкаваўся ў лясгас інжынерам-праграмістам, дзе, аж да выхаду на пенсію, дырэктарам быў ён, Дзямідчык Анатоль Мікалаевіч. Выбар работы ў раённым гарадку, што ў глыбіні Палесся, невялікі, а Колю трэба недзе працаваць, каб зарабляць сабе на кавалак хлеба, на адзежыну ды на абутак. І на білет на міжгародні аўтобус, якім два разы на год трэба ехаць у сталіцу

на зімовую і летнюю сесіі. Дзякуй богу, што ў штаце лясгаса з’явілася гэтая адзінка інжынера-праграміста, і Дзямідчык як змог паспрыяў, каб унука ўзялі на гэтую пасаду.

— Ён у мяне не пустагаловы, вунь дзе вучыцца, на чацвёртым курсе ўжо, не было таго, каб ён заваліў сесію, не здаў хоць адну дысцыпліну, а там жа скрозь і ўсюды вышэйшая матэматыка, разлікі, формулы, дыяграмы... Яго запрашалі на работу ў парк высокіх тэхналогій, але мы, родзічы, пабаяліся адпусціць... Усё-ткі ён яшчэ малады, неабстрэляны верабей, а каля бацькоў, каля мяне шанцаў спатыкнуцца будзе менш, — даводзіў Дзямідчык новаму дырэктару лясгаса, які сеў на яго колішняе месца.

У Колевага бацькі, Дзямідчыкавага сына, трое дзяцей, Коля серадольшы, і Дзямідчык быў рады, што ўнук памалу станавіўся на ногі, выбіваўся ў людзі.

— Хачу, дзед, параіцца з табой, — звярнуўся аднойчы ўнук да яго. — У армію могуць мяне ўзяць, а як з вучобай? Хіба перапынак пойдзе на карысць?

— У цябе ёсць магчымасць не пайсці? — заклапочана спытаў Дзямідчык.

— Зачэпку, каб не прызвалі ў войска, можна знайсці, — адказаў унук. — У мяне ёсць знаёмы доктар, ён, калі я звярнуся, можа выручыць... Не за «дзякуй», канечне, давядзецца пазалаціць ручку.

Дзямідчык утаропіўся ў Колю нерухомым позіркам: няўжо ўнук сапраўды збіраецца зрабіць так, як гаворыць яму, свайму дзеду? Адкуль у яго гэтакія крамольныя думкі? Пэўна, наглядзеўся па тэлевізары серыялаў, якія нечаму сапраўднаму хіба навучаць? У іх пошасці, ганьбавання роднай гісторыі, непавагі да ўсяго, што блізка і дорага сумленнаму чалавеку, хоць адбаўляй.

— Некалі, Коля, і я апынуўся перад гэтакай жа дылемай... Але я не стаў выкручвацца. Для кожнага мужчыны служба ў войску — святы абавязак. Хто будзе абараняць Айчыну, калі ўсе вось так?..

Дзямідчык раптам замоўк, ён услухоўваўся ў свае словы, якія толькі што вымавіў, і зразумеў: унук не толькі падобны на яго знешне, характарам — ён нібыта паўтарае і яго, свайго дзеда, лёс...

Ужо другія суткі цягнік вёз іх, стрыжаных пад нулёўку, прызыўнікоў у невядомым напрамку. І гэта даймала больш за ўсё. Да сяржанта, які паважна хадзіў з аднаго купэ ў другое, знарок падкрэслена папраўляў пад шырокім рэменем з надраенай да бляску меднай спражкай старанна адпрасаваную гімнасцёрку, у рыпучых, наваксаваных юхтовых ботах, у фуражцы з зорачкай і чорным брылём, усе чапіліся з адным і тым жа пытаннем:

— Куды мы едзем?

Сяржант адказваў вельмі коратка:

— Гэта ваенная тайна.

Але ўжо было знаццё: іх прыпісалі да інжынерных войскаў. Прасцей кажучы, неўзабаве яны апрануць форму будбатаўцаў. Пра тое сведчыла і эмблема на пагонах сяржанта: бліскучая, як і спражка на рэмені, міна. Хіба прызыўнікі не ведалі, якога роду войскаў гэтая эмблема? І ад адной думкі, што яны без пяці хвілін будбатаўцы, настрою не дадало. Кожнаму хацелася служыць ці ў танкавых часцях, ці ў марской пяхоце, ці ў авіяцыі... А тут вось...

Дзямідчык сядзеў каля акна, абапёршыся локцямі аб столік, глядзеў, як праплывалі міма лясы, пералескі, паўстанкі. Потым пачаўся стэп. Была позняя восень, у стэпе не відаць ні людзей, ні машын ці трактароў, ён здаваўся шэрым, панурым і адпавядаў таму настрою, што завалодаў Дзямідчыкам з

таго моманту, калі ён увайшоў у гэты вагон, дзе адныя хлапцы-прызыўнікі, якія моцна гаманілі, спявалі пад гітару тужлівыя песні, хадзілі раз-пораз у тамбур, каб пакурыць, бліжэй пазнаёміцца з тымі, з кім давядзецца разам есці салдацкую кашу цэлыя тры гады запар.

Назвы станцый, вёсак, гарадоў, міма якіх бегла чыгунка, сведчылі, што яны ўжо ў цэнтральнай Расіі.

— Якая, таварыш сяржант, ваенная тайна? У Расіі мы. У Расіі і служыць будзем?

Сяржант прысеў насупраць Дзямідчыка, зняў з галавы фуражку, і адразу стала відаць яго пышная, акуратна падстрыжаная, бы маладая жытняя саломка, шавялюра. Вочы яго свецяцца дабрынёй, размаўляе ён няспешна, яго руская мова сакавітая, пяшчотная, ласкавая, яна супакойвае, закалыхвае, здымае нервовую напружанасць, якая завалодала Дзямідчыкам і не адступала, не адпускала ні на хвіліну. Гэта, мабыць, ад невядомасці, ад таго, што крута мянялася звыклае жыццё на тое, якое чакала наперадзе. Адчувалася, што яго мова ў ім з дзяцінства, з калыскі.

— Не спяшайцеся. Усё высветліцца вельмі хутка, — сяржант чамусьці злёгку ўздыхнуў, паклаў фуражку на столік.

Ён зірнуў на Дзямідчыка кароткім позіркам, спытаў:

— Да прызыву чым займаўся? Працаваў, вучыўся?

— Са студэнтаў я. З трэцяга курса прызвалі.

— І на каго хочаш вывучыцца?

— На лесавода. Калі скончу інстытут, вярнуся да сябе дадому, на Палессе. У нас там гэтакія бары ды гаі... Але іх высякаюць, вось я і буду садзіць маладыя лес, буду даглядаць яго, каб не нападалі караеды ды лістаеды... Лес, як і чалавек, хварэе і каб ён рос, за ім трэба добры догляд.

Сяржант, мабыць, упершыню бачыў перад сабой прызыўніка, лічы ўжо салдата, які выбраў сабе гэтакую запатрабаваную прафесію.

— Вось і цудоўна, — сказаў яшчэ ён. — Паслужыш у інжынерных войсках, з'ясі не адзін кацялок салдацкай кашы — гэта толькі на карысць. Не зведаўшы, па чым фунт ліха, хіба можна стаць вартым прафесіяналам?

Дзямідчыка здзівіла тое, што сяржант разважаў стала, сур'ёзна, глыбока. Мо і ён таксама трапіў у салдаты са студэнтаў? Даслужыўся вось да сяржанта, за час службы шмат пабачыў, пачуў, зразумеў.

— У студэнты я прыйшоў з вёскі, а тамака...

Пачуўшы гэтыя словы Дзямідчыка, сяржант не зводзіў глыбакадумнага позірку са свайго субяседніка, патлумачыў:

— Усе мы вясковыя. Я таксама. Знаю: хто гадаваўся ў вёсцы, той разумее, што не на вярбе грушы растуць.

Ён памаўчаў, зірнуў у акно і працягваў:

— Мы — дзеці пасляваеннай гадоўлі. Усё наша дзяцінства — нішчымніца, недаяданне...

За размовай не заўважылі, як змрок апусціўся на зямлю, увайшоў у вагон, у купэ, дзе Дзямідчык і сяржант, седзячы за столікам адзін насупраць другога, высвятлялі, хто яны і адкуль, спрабавалі зразумець адзін аднаго, спрабавалі зазірнуць у заўтрашні дзень, каб дайсці розумам да таго, што іх чакае і як яны будуць ладзіць свае непазбежныя адносіны.

Сяржант неўзабаве пажадаў Дзямідчыку добрай ночы, сказаў, каб ён распранаўся і клаўся спаць, дарога, сказаў, у іх няблізкая, калывацца ім давядзецца яшчэ і ноч, і дзень. Тым больш, што эшалон з прызыўнікамі спыняецца

ледзь не на кожным паўстанку, стаіць гадзіну-другую, кранецца, разбяжыцца і зноў яго накіруюць куды-небудзь у тупік, у першую чаргу прапускаюць таварнякі ды пасажырскія цягнікі, якім выбівацца з графіку ніяк не выпадае.

На верхняй лаўцы ўжо раскладваў пасцель Дзямідчыкаў сусед па купэ па прозвішчы Бадаеў. Ён нізкарослы, з падслепаватым, бы невідушчым, позіркам, даволі мітуслівы і неспакойны, увесь дзень тупаў па вагоне, раз-пораз ішоў у тамбур пакурыць, а, накурыўшыся, вяртаўся ў купэ, садзіўся за столік і браўся пісаць бацькам ліст, і першыя словы, якія ён выводзіў, былі: «З салдацкім прывітаннем...» Дзямідчык міжволі падгледзеў, што напісаў Бадаеў і ў душы рассмяяўся: «Ну вось... Яшчэ і ў часць не прыбылі, а хто-ніхто пачувае ўжо сябе салдатам».

У дарозе яны ўжо другі дзень, і Дзямідчык паспеў даведацца, што Бадаеў таксама вясковец, да прызыву ў армію працаваў кінамеханікам на кінаперасоўцы: з адной вёскі на конях, на грузавіках перабіраўся да другой разам са сваёй няхітрай апаратурай і рухавічком на калёсіках, які заводзіў дынаму і даваў электраток, каб круцілася бабіна са стужкай фільма, каб свяціўся кінаэкран.

— У цябе, Стась, гістарычнае прозвішча, — заўважыў Дзямідчык. — Бадаеў — вядомы рэвалюцыянер. Ці ты гэтага не ведаеш?

Стась Бадаеў з Заходняй Беларусі, бацькі яго патомныя сяляне, і ён, мабыць, упершыню пачуў ад Дзямідчыка, што яго прозвішча даволі знакамітае.

— Мо я і ёсць далёкі родзіч тых Бадаевых, што рабілі рэвалюцыю, — жартаўліва, але і ўсур’ёз адказаў сусед па купэ.

Між імі ўсталяваліся прыяцельскія стасункі, яны распытвалі адзін аднаго пра тое ды пра гэта, і час бег непрыкметна, дарога не нудзіла і надта не было калі непакоіцца пра загадкавае невядомае, што чакала іх наперадзе. Свой ліст з салдацкім прывітаннем Бадаеў так і не скончыў, пэўна, зразумеў, што спяшаецца, ад яго чакаюць ліст не з дарогі, а з месца, дзе давядзецца служыць.

Дарога, мабыць, стаміла Бадаева, закалыхала, і ён вельмі хутка заснуў сном праведніка. Дзямідчык таксама паслаў сабе на ніжняй паліцы, распрануўся, залез пад коўдру, але сон не браў, ён слухаў, як манатонна пастуквалі на стыках рэек колы вагона, чуў, што цягнік з прызыўнікамі падоўгу стаяў на невядомых станцыях і паўстанках, кранаўся, вагон моцна тузала, і Дзямідчык баяўся, каб ад гэтага тузання не зваліўся з верхняй полкі Бадаеў, які спаў, бы забіты.

Дзямідчык пазіраў у прыцемак столі вагона, у паўзмрочнае акно купэ, кароткія занавескі на якім рассунутыя, уяўляў калгасны клуб — драўляную будыніну з шырокім уваходам у невялікі калідор, з аднаго боку якога кантора, а з другога — вялікая прасторная зала з драўлянымі ўслонамі-лавамі паўз сцены. Уверсе на сценах, ледзь не пад самай столлю, у карычневых драўляных рамках партрэты членаў урада: Варашылава, Булганіна, Маленкова, Панамарэнкі...

У клубе раз ці два на тыдзень круцілі кіно. На глухой сцяне вешалі экран — вялізную белую прасціну, лавы ад сцен выстаўлялі на залу, на ўваходзе з блакітнай вузкай кніжачкай у руках станавіўся кінамеханік, Павел Царык, і кожнаму, хто праставаў у клуб, каб паглядзець сеанс, ён адрываў ад блакітнай кніжачкі білет, браў грошы, лічыў іх і клаў у чорную брызентавую сумку, што вісела на доўгай вочапцы ў яго на плячы, казаў, каб людзі спяшаліся, не рана ўжо, а кінафільм доўгі, на ўвесь вечар.

Непрыкметна зала запаўнялася, свабодных месцаў не было, і тыя, хто пазніўся, мусіў несці з дому які-небудзь зэдлік або ўслончык.

Пакуль Царык абілечваў гледачоў, прапускаў па адным у залу, каля экрана тым часам набілася хлапчукоў, якія расселіся на падлозе, чакалі, калі засвецiцца экран і калі пачнецца кіно.

Сярод хлапчукоў і Анатоль Дзямідчык. На білет у яго грошай не было, і ён разам з хлапчукамі пралез у клуб праз падкоп пад сцяною, праз той лаз, што быў загадзя зроблены хлапчукамі не сёння і не ўчора і пра які добра ведаў Царык, але рабіў выгляд, што нічога не заўважае. Праўда, так было, калі Царык у настроі, калі яго нехта з вяскоўцаў запрашаў на вячэру і яго не даймаў голад. А іншы раз ён раптам спыніць круціць кіно, уключыць лямпачку, што вісіць на ўбітым у вушак дзвярэй залы цвіку і гарыць дрыготкім чырванаватым агнём ад таго рухавічка на калёсіках, што лапоча на двары і дае электрычнасць кінаперасоўцы. Царык рашуча накіроўваецца да экрана, дзе хлапчукі, просіць прад'явіць білеты, але білетаў у хлапчукоў няма, і ён пагрозліва прапаноўвае безбілетнікам пакінуць глядзельную залу...

Той раз Царык не крануў хлапчукоў, і яны паглядзелі фільм ад пачатку да канца. Фільм называўся «Сказание о земле сибирской», Дзямідчык запомніў яго, таму што ў ім шмат што нагадвала мясціны, якія акружалі Дзямідчыкаву вёску: балоты, узлескі, лясы... І нават гучалі тыя самыя песні, якія спяваюць у іх дарослыя мужчыны і жанчыны ў часе святкавання фэстаў. Адна з іх пачынаецца словамі: «По диким степям Забайкалья...»

Назаўтра, ідучы цераз балота ў школу, што ў суседняй вёсцы, да яе добрых пяць кіламетраў, Дзямідчык бачыў, што балотныя птушкі збіваліся ў чароды, трывожна ўскрыквалі — яны збіраліся да адлёту ў цёплыя краіны. Ён бачыў вясковых мужыкоў, якія касілі густую зялёную атаву, граблі падсохлыя рады, складвалі ў копы, а потым бралі з тых копаў на вілы столькі як падняць, і сухенькае, пахучае балотнае сена кідалі на вазы, утоптвалі, увязвалі рублём... Гэтыя мужыкі-вяскоўцы дужа нагадвалі тых, якіх учора паказвалі ў кінафільме: яны заклапочаныя жыццём, спрадвечнай сялянскай работай, якой у іх у любую пару года цераз край.

Бачыў Дзямідчык і тое, што на месцы, дзе раней ляжала старая драўляная грэбля, паявіўся высокі, з жоўтага пяску і шчэбню, насып. Яго ўтрамбоўвалі магутныя гусенічныя трактары, дарожная тэхніка, і там, дзе насып паспелі ўтрамбаваць, клалі брук. Раней у паводку, у асеннюю слату грэблю затапляла так, што па ёй ні праехаць, ні прайсці. Але Дзямідчыку даводзілася ісці ў любую халёпу — заняткі ў школе хоць у зімовую сцюжу, у час вясновай паводкі, асенняй слатой не спыняліся. Дзямідчыку хацелася вучыцца, вучоба яго паланіла таямніцамі, нязведаным, тым, што з кожным годам ён пачынаў больш бачыць, разумець, усведамляць, асэнсоўваць. Простыя людзі, тыя, хто і распісвацца не ўмеў, казалі, каб ён не ленаваўся вучыцца, з навукай, казалі, ён не прападзе, не загіне, не будзе валам ды коням хвасты круціць і з такімі, як яны, і размаўляць не захоча. Дзямідчык слухаў, што яму казалі, развесіўшы вушы, і не разумеў, чаму гэта ён не захоча размаўляць з тымі, хто чарталоміў ад ранку да вечара, варочаў любую работу да ўтомы, да сёмага поту? Але да людскога наказу прыслухоўваўся чуйна: сэрцам сваім, усёй сваёю істотай разумеў, што добрыя людзі кепскага яму не пажадаюць і раяць не пустапарожняе....

Праз балота, скрозь сцюжы і слату, усунуўшы ногі ў гумовікі, ён выпраўляўся кожнайранічкай у школу, што не так і блізка. Ужо ў старэйшых класах не-не ды і прыкінецца ангіна, падымецца тэмпература і дзень-другі ён мусіў

лежма ляжаць у ложку, пакуль не адпусціць гэтая немач. Вясковая фельчарка, маладая паглядная дзяўчына Галя, прыпісвала яму паласканне горла лекавымі мікстурамі, вадой з соллю, давала піць розныя таблеткі, казала, што ангіна ў яго ад гумовікаў, нага ў якіх не дыхае, парыцца, настывае, а калі ногі вечна халодныя, мокрыя, то гэта не дужа здарова, ад гэтага пачынае балець горла. Але як абысціся без гумовікаў, калі дарога ў школу ляжыць праз балота, якое падмярзае толькі зімою, а ў іншыя часы без вады яно не бывае, балотная багна зыбаецца, прагінаецца пад нагой і бойся, каб не праваліцца ў бяздонную твань ды не вымакнуць па самыя вушы.

За ноч ён і вока не злажыў. То пазіраў у столь, то ўставаў, садзіўся каля століка, глядзеў у акно. Але што поначы надта ўбачыш?

І ён зноў забіраўся пад коўдру, заплюшчваў вочы і бачыў тую дарогу, што паклалі цераз грэблю, цераз топкае, дрыгвяністае балота. Ладная была новая дарога, шырокая, выкладзеная каменем, а потым на той камень лёг асфальт. Па ім Дзямідчык і выправіўся ў вялікі свет. Школу ён скончыў добра, і адразу пасля школы паступіў у тэхналагічны інстытут на лесаводчы факультэт.

На трэцім курсе ў яго нечакана абвастрылася ангіна, з вачэй сыпаліся слёзы, несціхана балела горла, паднялася тэмпература. Ён абвязаў цёплым шалікам горла, пакіраваўся ў аднапярховую інстытуцкую паліклініку, што ў глыбіні двара галоўнага вучэбнага корпуса. Па дарозе сустрэўся з аднакурснікам — Віталем Струкам. Віталь меў кучаравую, акуратна падстрыжаную, густую, як трава-мычка, прычоску, на ім заўсёды быў шэры з накладнымі кішэнямі пінжак, які падкрэсліваў яго невысокі рост, вузкія плечы і не замінаў існці быстрым, пружыністым крокам. Віталя на курсе за вочы звалі макароннікам, таму што ён трапіў у студэнты з арміі, дзе служыў звыштэрміновую службу і меў званне старшага сяржанта. У арміі ён лямку не цягнуў — іграў у палкавым аркестры на саксафоне, і Дзямідчыку не зусім было зразумела, чаму гэта ён вырашыў памяняць прафесію музыканта на лесавода? Мабыць, у тэхналагічны інстытут яму ўдалося лёгка паступіць, яму, мабыць, важна было атрымаць вышэйшую адукацыю, а дзе і кім потым працаваць — час пакажа.

— Хварэеш? — бы між іншым спытаў у Дзямідчыка Віталь.

— Праклятушчая ангіна, — ахрыплым голасам паскардзіўся Дзямідчык. — Яна мяне ў дзяцінстве даймала і от цяпер зноў.

У паліклініцы Дзямідчыку далі накіраванне ў бальніцу, сказалі, што трэба неадкладная аперацыя: міндаліны моцна пашкоджаныя хранічнай хваробай, іх трэба выразаць, інакш пачне балець ды слабець сэрца...

Пасля аперацыі ў Дзямідчыка прапаў голас, колькі дзён ён не мог ні піць ні есці — горла так балела, што ледзь стрымліваўся, каб не стагнаць.

У бальніцы доўга не трымалі — выпісалі праз тыдзень пасля аперацыі, і на другі дзень пасля выпіскі Дзямідчык падаўся на заняткі слухаць лекцыі: да сесіі заставалася не так і многа, а з-за хваробы ён шмат упусціў, трэба было наганяць упушчанае і на лекцыях, і ў бібліятэцы.

Зусім нечакана ды нечаспадзявана яго паклікаў у свой кабінет дэкан — чалавек строгі і прынцыповы, які за любую прамашку, за пропускі лекцый мог пазбавіць стыпендыі.

— Гэта праўда, Анатоль, — дэкан меў звычку звяртацца да студэнтаў па імені і без хітрыкаў, — што ты выкручваешся ад арміі? Дзеля гэтага нават на аперацыю пайшоў?

— Хто вам гэта сказаў, Васіль Рыгоравіч? — Дзямідчыку да таго стала крыўдна за сябе, што ён нічога не стаў тлумачыць дэкану, павярнуўся — і на выхад.

Яму ўжо не хацелася ні на лекцыі, ні ў бібліятэку, крыўда пякла грудзі, у галаву лезлі нядобрыя думкі, і ён падаўся ў інтэрнат... «Мо ўсё-такі варта было пагаварыць з дэканам? — сумняваўся Дзямідчык. — Але што яму я скажу? Што я — чэсны чалавек? Пачну апраўдвацца, выгароджваць самога сябе? Апошняя справа — апраўдвацца, калі ты не вінаваты ні ў чым ні сном ні духам... Дый як потым вучыцца, як жыць, калі цябе падазраюць у нечым нядобрым, калі на табе кляймо дэзерціра?»

Неўзабаве яго выклікалі позвай у ваенкамат на прызыўную камісію. Доктар-оталарынголаг казаў, што яму трэба пасля аперацыі як след падлячыцца, акрэпнуць, але Дзямідчык папрасіў, каб яго прызвалі хоць у танкісты, хоць у артылерыю...

Праводзілі ў войска ўсім курсам, а Віталь Струк на развітанне сказаў:

— Ну вось... Ты і дэкану нос уцёр, і таму, хто на цябе ўзводзіў паклёп, што ты нібыта выкручваешся ад службы ў войску... Ты — сапраўдны мужчына. Не паслужыўшы ў войску...

— Нехта на мяне крамзануў дэкану, — даверліва прызнаўся Дзямідчык. — Хто б гэта мог быць? Мне здаецца — нехта з аднакурснікаў.

— Не зважай. Хто гэта зрабіў — зразумее, што памыліўся. Адслужыш — вернешся, закончыш вучобу. Нідзе ад цябе гэта не дзенецца. У цябе ўсё яшчэ наперадзе.

Напаследак Віталь дадаў:

— Уступі ў арміі ў партыю. Гэта вельмі важна. Без партбілета на любой рабоце ніякага кар'ернага росту.

Студэнцкая вечарына-праводзіны скончылася, усе разышліся па сваіх пакоях, а Віктар Мотуз чамусьці застаўся. Ён, канечне, чуў размову Дзямідчыка з Віталем і цяпер, калі яны сам-насам, ён раптам сказаў такое, у што не хацелася верыць:

— Не хто іншы, а, пэўна, ён сам настрачыў на цябе ананімку дэкану. Яму зайздросна, мабыць, што ты паступіў у інстытут адразу пасля школы, а яму ўжо чацвёрты дзясятак. Зайздрослівы ён чалавек. Нядобра, прыкра гэта — ад зайздрасці ўзводзіць на некага паклёп.

— Няўжо гэта праўда?! — здзівіўся Дзямідчык.

Віктар — круглы сірата. Ён, як і іншыя Дзямідчыкавы аднакурснікі, паступіў пасля службы ў арміі. Уступныя экзамены здаваў у салдацкай форме, на яго пагонах была адна вузенькая чырвоная лычка, што значыла: Мотуз меў званне яфрэйтара. За два гады вучобы, жыцця ў студэнцкім інтэрнаце было знаццё, хто чым занепакоены, хто чым дыхае. Віктар — чалавек ціхмяны, дабрадушны, непрыкметны, ніколі не казаў і не рабіў такога, каб ад яго слоў ці спраў некаму зрабілася нядобра, прыкра, балюча. Не верыць яму Дзямідчык не мог. Адно, праўда, дужа цікава: адкуль яму вядома, што ананімка дэкану на яго, Дзямідчыка, Струкава работа? Здагадваецца?

Дзямідчык яшчэ паспеў скокнуць і дадому, каб развітацца з бацькамі, з сёстрамі ды братамі: у Дзямідчыкавых бацькоў ні многа ні мала — пяцёра дзяцей, і ўсе ўжо дарослыя.

Маці з бацькам у той жа вечар сабралі суседзяў, родзічаў, нанялі баяніста, каб пайграў на провадах: заўсёды, калі каго з вясковых хлапцоў бралі ў армію — гэта падзея, якую абавязкова адзначалі святочнай вячэрай, музыкай і танцамі.

— Як жа можна без провадаў? — казаў бацька, пазіраючы сыну ў вочы і не верачы, што ён у яго вырас вось які — быстры, энергічны, настойлівы: паступіў адразу пасля школы не абы-куды, а ў сталічны інстытут. Праўда, са здароўем у сына не надта, гэта, канечне, вінавата тое, што гумовікаў, ходзячы ў школу цераз балота, не скідаў з нагі. Але ж вось бяруць у войска, значыцца, не такі ён і нядужы.

У клубе Дзямідчык увесь вечар танцаваў з дачкой Надзі Унучкі — з Верай. Вера — дзесяцікласніца, але дзяўчына хоць куды: станістая, клубы ў яе як поўня, а ўсміхнецца, то нібы сонейка яснае ўзыдзе. Яна коратка, бы хлапчук, падстрыжаная, твар круглы, вочы, бы вясновыя нябёсы — блакітныя, ясныя, ні хмурынкі ў іх, а стоеная, стрыманая ўсмешка гэтакая вабная, добразычлівая, што Дзямідчык ад гэтай яе ўсмешкі адразу стаў сам не свой. Танцуючы з ім, Вера ўвесь час пазірала яму ў вочы, а ён усё прыціскаў яе да сябе, і яна не аштурхоўвала яго.

Пасля танцаў яны падаліся па цёмнай вясковай вуліцы, спыніліся каля Верынай хаты, селі на лавачку каля плота і цалаваліся да самай раніцы. А як развіднела, пайшлі тою дарогай, якою не так даўно хадзіў Дзямідчык у суседнюю вёску ў школу. Дзямідчыку да таго захацелася зірнуць хоць краем вока на колішняе балота, на дрэвы і кусты паўз дарогу, на сцежкі ў лесе і полі, дзе засталіся яго дзяцінства і юнацтва, захацелася ўбачыць мясціны, дзе хмарамі кружыліся птушкі, дзе заўсёды гэтакі густы травастой, што па ім, нібы па моры, ад лёгкіх павеваў ветру хадзілі хвалі. Дзямідчыка зачароўвалі і птушкі, і травы, і мужыкі, якія з косамі ад самага ранку клалі траву ў высокія, што стаўбуніліся, рады.

Убачанае паланіла думкі, пачуцці, ён забываўся пра ўсё на свеце, стаяў, азіраўся вакол сябе і не хацеў верыць, што гэта не сон, а ява. Ранак убіраўся ў сілу, сонца падымалася над лесам, асвятляла наваколле, Дзямідчык спахопліваўся: пара ўжо быць у школе, а ён от яшчэ дзе, стаіць ды мроіць, ловіць лелякоў.

Месца, дзе давялося служыць, у стэпе, непадалёку ад абласнога цэнтра. Бліжэй да палоскі лесу прытуліліся аднапавярховыя казармы — невысокія цагляныя будыніны, атынкаваныя і пабеленыя знадворку, з філянговымі ўваходнымі дзвярыма. Гэтакіх будынін некалькі. У іх месціліся штаб часці, клуб, лазня.

Перш-наперш іх павялі ў лазню, дзе яны скінулі з сябе транты, у якіх з'явіліся да месца пастаяннай дыслакацыі. Непрывычна было бачыць Дзямідчыку, што старычкі, так называлі тых, хто даслужваў свой тэрмін, тут жа пачалі тыя іх транты дзяліць. І калі нехта з салаг, гэта ўжо мянушка салдат першага года службы, паспрабаваў запратэставаць, каб спыніць дзікую дзяльбу чужога дабра, яго тут жа асадзілі: маўляў, паслужыш тры гады, і калі прывязуць пастрыжаных пад нулёўку новых салаг, іхнія транты будуць вашымі. Такія, маўляў, няпісаныя парадкі салдацкага быцця...

Сяржант, з якім разам дабіраліся да месца службы, быў іх узводным. Пасля таго, як іх апранулі ў салдацкае абмундзіраванне і яны выйшлі з лазні, ён пастроіў іх па ранжыры ў шарэнгу, скамандаваў «смірна» і паведаміў, што з гэтага дня яны — радавыя трэцяй роты энскай часці і будуць праходзіць курс маладога байца, пакуль не прымуць прысягу.

Цэлымі днямі сяржант-узводны не даваў ні на хвіліну прысесці. На плацы часці снег так утрамбаваны салдацкімі ботамі, нібы па ім праехалі тым самым катком, які раўняе высыпаны з кузава грузавіка яшчэ не застыглы асфальт.

Снег учарнелы, ад маразоў ды халоднага пякучага ветру, што ідзе са стэпу, яшчэ і абледзянелы.

Сяржант вучыць, як трэба выходзіць са строю, як аддаваць воінскую чэсць, вучыць страявому і маршаваму кроку.

У час кароткіх перакураў ён падыходзіў да Дзямідчыка, пытаўся:

— Стаміўся?

І не чакаючы адказу, гаварыў:

— На лекцыях яно, канечне, лацвей. Па сабе знаю. Але гэтакі салдацкі лёс: для салдата строй — святое месца...

Дзямідчык ужо ведаў, што сяржант родам з Валагодчыны, гаворачы, ён увесь час «окае», прозвішча ў яго што ні на ёсць самае рускае — Сахараў, а імя — Уладзімір. Да арміі ён скончыў педінстытут, па спецыяльнасці — батанік. «Не мужчынская гэта прафесія, — думаў Дзямідчык, — і чаму ён яе выбраў? Але мая будучая спецыяльнасць і яго нечым блізкія, родныя...»

Пасля страявых заняткаў кіраваліся ў клуб, рассаджваліся на гэтакіх самых драўляных самаробных лавах, якія калісь былі і ў іхнім калгасным клубе. Аднекуль з'яўляўся невысокага росту, хударлявы чалавек у чорным аўчынным кажусе, які спрытна скідаў з сябе, клаў яго на свабоднае месца на пярэдняй ад стала лаве, сам уседжваўся на крэсла за стол, пракашліваўся і густым, амаль як у Левітана, басам казаў, што ён майстар, будзе вучыць іх, салдат інжынерных войскаў, таму, як рабіць апалубку, як вязаць арматуру, заліваць і раўняць вібратарам бетон... Неўзабаве Дзямідчык знаў, што майстра зваць Кузьмой, а прозвішча яго Панкратаў. У час перакураў Кузьма распытваў салдат, адкуль яны родам, бедаваў, што будбатаўцам трэба і страявой падрыхтоўкай займацца дзень у дзень, і вытворчы план даваць.

— Будзем узводзіць выпрабавальны цэх, — удакладняў ён. — Адных падмуркаў трэба мо да паўсотні. І кожны падмурак два на тры...

Аказваецца, непадалёку ад часці — сакрэтны ваенны завод, што выпускае рухавікі для самалётаў, ракет. Вось для іх абкаткі ды выпрабаванняў яны і павінны ўзвесці выпрабавальны цэх. І як мага хутчэй, таму што ракеты — гэта і космас, і сучасныя ўзбраенні.

— Не перажывайце, што трапілі ў будаўнічы батальён, — заспакойваў майстар навабранцаў. — Вы — на пярэднім рубяжы абароны Айчыны, ад вас, ой як нямала, залежыць, якая будзе ў нас абарона.

Ён хоць і гаварыў густым басам, але ў яго голасе адчуваліся дабрыня і клопат за іх, салдат, маладых бязвусых хлапцоў, нежанатых, якія толькі-толькі пасталелі, рабілі першыя самастойныя крокі па той дарозе, якая называецца жыццём. У іх усё яшчэ наперадзе: і сапраўднае каханне, і сямейнае шчасце, і штодзённыя клопаты пра кавалак хлеба, удачы і расчараванні. Голас майстра заспакойваў, закалыхваў, і Дзямідчык не заўважаў, як вочы зліпаліся самі сабой, і ён засынаў кароткім, нечаканым сном: кожны дзень з шасці раніцы яны на нагах. Перш за ўсё крос па плацы часці, затым снеданне, развод і страявыя заняткі... Ад непрывычкі, ад кросаў ды тупання па плацы гэтакая ўтома ва ўсім целе... Прахопліваўся, а каля яго ўжо стаіць майстар і строга пытаецца:

— Пра што я гаварыў? Чуў? Я, цябе, салдат, вельмі прашу — болей не спі, калі я тлумачу тэхніку бяспекі. Ты ведаеш, што гэта такое — тэхніка бяспекі? Не будзеш ведаць, то вельмі пашкадуеш. Скалечыцца можна раз-два, гэта ж будоўля, тут трэба знаць як два на два, дзе можна хадзіць, а дзе ні ў якім разе.

У канцы дня Дзямідчык адчуваў, што яму хочацца хутчэй у казарму, сесці на табурэт, што каля двухнарных ложкаў, на які ён складвае перад адбоем абмундзіраванне, і задрамаць, забыцца, згадваць дамоўку, маці, бацьку, Веру...

Ён ужо напісаў Веры два лісты і чакае яе адказу. Ён сам дзівіўся з сябе: чаму гэтак хочацца, каб Вера не забывала яго, пісала, не губляла з ім сувязь? У час вучобы ў інстытуце ён амаль увесь час не вылазіў з бібліятэкі, рыхтаваўся да семінарскіх заняткаў, да чарговай сесіі, яго мала цікавілі студэнцкія вечарыны з танцамі. Аднакурснікі, асабліва тыя, хто адслужыў у войску, ухлёствалі за дзяўчатамі, не прапускалі ніводнай вечарыны з танцамі — мабыць, у іх у галаве выспявалі думкі пра блізкую жаніцьбу, тое, што ў бліжэйшых Дзямідчыкавых планах не значылася.

А цяпер вось служба далёка ад дому, ад сяброў-студэнтаў. Вечарам ён выходзіў з казармы, бачыў неабсяжны белы стэп пад яркімі зімовымі зоркамі, і чамусьці ўяўляў Палессе, дарогу цераз балота ў школу. Зімою балота, як і гэты стэп, каля якога выпала служыць Дзямідчыку, сцішанае, бязлюднае і таксама з яснымі, высокімі, халоднымі зоркамі. Хацелася, каб служба ішла хутчэй, шпарчэй, каб ён мог у любы час, калі толькі захочацца, надведаць Палессе, маці, бацьку, каб ён мог убачыць Веру і пагаварыць з ёю, сказаць ёй аб усім, што ў яго на сэрцы.

Ён быў дужа рады, калі атрымаў першы ліст ад Веры. Ліст кароткі, стрыманы, адчувалася, што Дзямідчык уварваўся ў яе жыццё нечакана ды неспадзявана. Дзяўчына, мабыць, разгубілася, не разумеючы, якія намеры ў яго да яе. Наперадзе ў яго тры доўгія гады службы. За гэты час ой як шмат што зменіцца ды пераменіцца і ў ягоным, і ў яе жыцці. Але без яе лістоў, няхай сабе кароткіх і стрыманых, адчуваў ён, служба будзе сцягвацца.

Пасылаючы ёй свой чарговы ліст, ён прасіў аб адным — каб яна пісала. Ён не ведаў, якімі словамі пераканаць яе, што яго намеры да яе самыя светлыя, харошыя, чыстыя...

Напісаў яму і Мотуз. Тое, што ён напісаў, не магло не ўзрушыць. «На курсавым агульным сходзе мы абмяркоўвалі персанальную справу Віталя Струка... Гад ён печаны... Страчыў даносы, узводзіў напрасліну на кожнага, хто паказаўся яму непрывабным, хто хоць раз коса зірнуў у яго бок... І на цябе ён пляткарыў... У яго, аказваецца, ёсць жонка, сын, жывуць яны ў Львове, адкуль ён і прыехаў і паступіў у наш інстытут... Жонка і напісала ў дэканат, скардзілася, што ён забыў пра сям'ю, пра сына... Вось яно як, а Струк прыкідваўся халасцяком, ухлёстваў за студэнткамі, дурыў бедным дзеўкам галаву... Адным словам, мы папрасілі рэктарат выключыць яго з ліку студэнтаў. Хіба што добрае можна чакаць ад двурушніка?»

Дзямідчык, прачытаўшы ліст ад Мотуза, згадаў апошнюю размову са Струкам, тое, якім ён прыкідваўся спагадлівым, добрым, а на самай справе аказаўся вунь кім... А ён, Дзямідчык, верыў яму, думаў, што ўсе Струкавы словы і парады ды наказы яму ў час провадаў у армію ішлі з глыбіні душы, ад чыстага сэрца. Не ведае ён, Анатоль Дзямідчык, жыцця, не разбіраецца ў людзях. От паслужыць тры гады ў войску, паспытае горкага ды салёнага, то ружовы туман спадзе з вачэй, ён будзе лепей бачыць, дзе праўда, а дзе крыўда.

...Унука, Колю, прызвалі вясною. Коля не хацеў, каб спраўлялі провады, але Дзямідчык сказаў:

— Канечне, унучак, не на фронт, дзе разгарнуліся баявыя дзеянні, мы цябе выпраўляем, але такая завядзёнка: кожнаму, хто выпраўляецца ў армію,

былыя салдаты на вечарыне-провадах гавораць добрыя словы, хочуць пабачыць, які малады сокал вырас на палескай зямлі, хочуць пагаманіць з ім, каб зразумець, з якімі думкамі, з якім настроем заступае будучы воін на баявы пост. Вечар справім у маёй хаце — у мяне свой прасторны двор, дзе можна паставіць сталы. У госці запросім самых блізкіх і родных. А ты запрасі сваю дзяўчыну.

Вымавіўшы гэтыя словы, Дзямідчык спахапіўся: аб чым гэта ён? Можа, у Колі яшчэ і няма дзяўчыны? Хіба яму надта было калі думаць пра каханне? Работа, вучоба...

Размова гэтая адбывалася ў Дзямідчыкавым двары, за сталом, што пад немаладой яблыняй. Ножкі стала ўкапаны ў зямлю, вакол стала самаробныя драўляныя лавы: да дубовых, акораных слупоў прыбіты струганыя дошкі. І стол, і лавы пафарбаваны ў зялёны колер.

— Ведаеш, унучак, я на сваіх провадах пазнаёміўся з дзяўчынай, а потым пісаў ёй, пакуль не скончылася служба, а калі дэмабілізаваўся... Твая бабуля, мая жонка Вера, чакала мяне ўсе тры гады...

За хатай і каля хаты ў Дзямідчыка яблыневы, вішнёвы, слівовы ды грушавы сад. А пад вокнамі кусты бэзу. І сад, і бэз цвілі буйным, пахучым цветам. Водар гэтага цвіцення стаяў у паветры, пялёсткі бэзу ападалі на дол, на ўвагрэтую майскім сонцам зямлю. Усё жывое радавалася вясне, цяплу, доўгім вясновым дням, высокаму чыстаму небу — усяму, ад чаго нараджаліся харошыя, светлыя мроі і пачуцці. А ў Дзямідчыка чамусьці на душы журботна і нават трохі трывожна. Няўжо гэта ад таго, што Колю бяруць у войска? Магчыма. Канечне, не на вайну ўнук ідзе, але яго прызываюць у войскі супрацьпаветранай абароны. З аднаго боку, гэта і добра: неўзабаве Коля стане дыпламаваным інжынерам-электроншчыкам, а там, дзе яму давядзецца служыць, радыёлакатары, электроннае навядзенне пуску ракет... Гэта будзе для Колі сапраўднай, жывой практыкай. А з другога... Гэта ж фарпост сённяшняй абароны Айчыны. Хіба гэта спакойная, без рызыкі служба? Служыць Колю давядзецца ў Беларусі, а вучэнні будуць праходзіць на палігонах Расіі, таму што для пуску ракет патрэбна ого якая прастора, а Расія — вялікая краіна, з ёю аб'яднаны супрацьпаветраныя ўзброеныя сілы Беларусі.





Янка СІПАКОЎ

# МАЯ БІБЛІЯТЭКА

*Кніга пра кнігі*[1]
*Паліца другая. Аўтографы*

**6**

Найбольш кніг з цёплымі дарчымі надпісамі з тых гадоў, калі я 20 год запар працаваў у часопісе «Маладосць».

Сваю кнігу лірыкі «Пара любові і жалю» Жэня Янішчыц падаравала мне, калі мы разам сядзелі ў адным пакоі — яна, Дайнека і я.

«Дарагі Іван Данілавіч, яшчэ раз — як чалавека і пісьменніка — адкрываю Вас у нашай супольнай «Маладосці». Хай будзе болей такіх светлых людзей, як Вы! Шчасця, здароўя, творчага плёну! Жэня Янішчыц».

За гэтую кнігу яна атрымала Дзяржаўную прэмію. Радавалася і здзіўлялася:

— І гэта ж за кнігу лірыкі! Тут жа няма грамадзянскіх вершаў...

І праўда, кніга была вельмі жаноцкая. Інтымная і шчырая і вельмі высокай пробы. Маладая жанчына спавядалася. «Палесся мілае дзіця» радавалася жыццю: і ўсё ж гэта ўжо не толькі каханне.

«Я вас люблю» — няма каму сказаць?
А мне ў любві да скону не змыліцца:
Я вас люблю, лясы і сенажаць,
Старая вёска, новая сталіца.

Мы ў сэрцы носім радасць і грахі
І распраўляем пераможна крылы,
Я вас люблю, айчынныя шляхі,
Я помню вас, забытыя магілы.

З Генрыхам Далідовічам я таксама разам працаваў у «Маладосці». А пазнаёміўся з ім у Каралішчавічах, калі малады настаўнік з Барысаўшчыны прыехаў на нараду маладых пісьменнікаў.

Тады адбылася непрыемная накладка, якую і цяпер помніць Генрых і за якую мне і сёння хочацца павініцца.

Не памятаю ўжо, хто гэта быў, але той, хто чытаў творы настаўніка, не прыехаў у Дом творчасці пісьменнікаў. Я, як мог, імкнуўся ўладзіць гэтую справу, думаў, што яго апавяданні прачыталі пачаткоўцы і мне застанецца толькі зрабіць добрае абмеркаванне. Але і яны не прачыталі, не паспеў пазнаёміцца з імі і я. А таму асаблівага абмеркавання не атрымалася, і я разумеў, з якім настроем паехаў малады настаўнік у сваю школу, на Барысаўшчыну, усіх абмеркавалі, а яго — не.

---

[1] Працяг. Пачатак у № 2, 3 2012 г.

Аднак і я, і ён разумелі, што гэтая накладка — не мая віна, а таму адносіны ў нас заўсёды былі сяброўскія і роўныя.

«Івану Данілавічу, чыё слова ў паэзіі, прозе, публіцыстыцы і крытыцы глыбока паважаю, у каго шмат чаму вучуся. Цёпла. Генрых. 13.09.87 г.».

І сваю другую кніжку «Цяпло на першацвет» Генрых падараваў мне з добрым аўтографам:

«Івану Данілавічу — са шчырасцю і з вялікаю павагаю як да чалавека, так і да паэта ды празаіка, са сваім шчырым «цяплом», якое Вы зразумееце і, думаю, не будзеце папракаць за некаторае міжвольнае сугучча з Вашымі «замаразкамі», — за што я Вам буду вельмі ўдзячны. Шчыра, з павагаю. Генрых. 31.03.76 г.».

Справа ў тым, што сваю аўтабіяграфію, якая змешчана ў кнізе аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў «Вытокі песні» (дарэчы я ганаруся, што ў маёй бібліятэцы ёсць усе тры выпускі гэтых пісьменніцкіх жыццяпісаў — «54 дарогі», «Пра час і пра сябе» ды «Вытокі песні»), я назваў «Замаразкі на першацвет» — гэта жахлівая вайна, якая абрынулася на зусім яшчэ неабароненую душу і зрабіла мяне круглым сіратою, і цяжкае пасляваеннае дзяцінства, якое не толькі змусіла мяне галадаць, але і навучыла ездзіць на дахах вагонаў.

Генрых нарадзіўся ў пасляваенным 1946 годзе, калі бацька, вясковы каваль, вярнуўшыся з фронту, пачынаў сваё мірнае жыццё. За што ж тут папракаць? Гэта сапраўды была радасць, сапраўды было «Цяпло на першацвет», нараджаліся дзеці, і ім, радуючыся жыццю, бацькі аддавалі ўсю сваю ласку і любоў.

Мне падабалася гэтая кніга, падабалася першая — «Дажджы над вёскаю», як потым і яго раманы «Гаспадар-камень» і «Кліч роднага звона». І мне было прыемна, што ў жыцці мае «замаразкі» ўвачавідкі мяняюцца на Генрыхава «цяпло».

З Леанідам Дайнекам мы таксама доўгі час працавалі ў «Маладосці», сядзелі, як кажуць, вочы ў вочы гадоў дваццаць у адным пакоі.

Леанід Мартынавіч быў у «Маладосці» самы заядлы шахматыст, і да нас у пакой збіраліся нярэдка аматары шахмат. Шахаматы — гэта ціхая гульня. Таму звычайна ў нашым пакоі стаяла цішыня: маўчалі і тыя, хто гуляе, і тыя, хто назірае за гульнёй, што гуртам абступілі стол. І раптам у гэтай глыбокай цішыні раздаваўся прарэзлівы крык: «Аддай каня!..»

Свае раманы Леанід Дайнека падпісваў спакойна:

«Івану Данілавічу Сіпакову, чалавеку, якога я паважаю і да думкі якога прыслухоўваюся. Шчыра жадаю творчага шчасця, новых вышынь! Л. Дайнека. 10/9/81 г.».

Гэта — на рамане «Запомнім сябе маладымі».

«Дарагому Івану Данілавічу, у якога я вучуся любові да нашай гісторыі, ад усёй душы! Л. Дайнека 13./1/1988 г.».

Гэта — на рамане «Меч князя Вячкі».

Мне падабаюцца гістарычныя раманы Л. Дайнекі. У іх заўсёды прысутнічае беларускасць, дух і ідэя нашай адметнасці і дзяржаўнасці. Асабліва гэта відно ў ягоным апошнім па часе напісання рамане «Назаві сына Канстанцінам», які надрукаваны ў часопісе «Маладосць» і ўжо стаў кнігаю.

Так, мне падабаюцца ягоныя гістарычныя творы, аднак з не меншай цікавасцю я памятаю і ягоную паэзію — у ёй напорыста, пругка заўсёды пульсавала думка — нечаканая і ў той жа час такая шчырая і зямная.

Усё-такі, мне здаецца, «Маладосць» зрабіла шмат для развіцця беларускай літаратуры. Я ўжо недзе пісаў, што гэты часопіс нібыта быў створаны напачат-

ку менавіта для нас, для нашага пакалення. Дзіўна, мяняліся рэдактары — я працаваў у «Маладосці» 20 гадоў, працаваў з чатырма рэдактарамі: Генадзь Бураўкін (ён і паклікаў мяне ў часопіс з «Вожыка»), Васіль Зуёнак, Анатоль Грачанікаў, Генрых Далідовіч — а дух і настрой «Маладосці» заставаўся ў калектыве адзіны, той жа, не мяняўся: шчыры, сумленны, дружны, скіраваны толькі на тое, каб надрукаваць усё адметнае і таленавітае, не прапусціць чагосьці важнага, вострага, цікавага.

Яркаю асобаю ў «Маладосці» быў Уладзімір Дамашэвіч. Ён — гэта цэлая эпоха літаратурнай вучобы шматлікіх маладых празаікаў напрыканцы старога, другога тысячагоддзя.

Сваю кнігу «Выбраныя творы» Уладзімір Максімавіч падпісаў мне дужа цёпла:

«Дарагі браце Янка! Даўно мы знаёмы, а калі бліжэй — то з Уладзівастока, і я ніколі не расчараваўся ў Табе, люблю Цябе і Тваю творчасць даўняй трывалай любоўю... І ў «Маладосці» мне таксама было добра з Табою. Дзякуй за дружбу, хай яна жыве разам з намі. Шчасця і поспехаў! Шчыра Ул. Дамашэвіч. 15.10.1988 г.».

А падружыў нас, і праўда, Уладзівасток. Там, на Ціхаакіянскім флоце, у газеце гэтага флоту «Боевая вахта» мы з Уладзімірам Максімавічам у 1964 годзе праходзілі вайсковую перападрыхтоўку. Паплавалі шмат на якіх навейшых караблях, пабывалі на сакрэтных базах, наведваліся ў закрытыя бухты і гавані, удзельнічалі ў марскіх вучэннях, у атамных падводных лодках клаліся на дно Ціхага акіяна, папярэдне здаўшы экзамен па бяспецы: як выходзіць, выплываць з субмарыны, калі здараецца няшчасны выпадак — не адразу імкнуцца хутчэй на паверхню, а паступова, ад вузла да вузла, адпачываючы, каб не закіпела кроў, каля кожнага вузла паднімацца па вяроўцы, павязанай на выпушчаны з лодкі буй.

І за ўсю нашу дружбу я таксама ніколі не расчараваўся ў ім — ні ва Уладзівастоку, які, дарэчы, жартам я называў Валодзявастокам, ні ў Мінску: гэты мудры, патрабавальны, жылісты ва ўсіх адносінах і цягавіты таксама ва ўсіх адносінах чалавек быў заўсёды сапраўдным таварышам.

І я таксама дзякую яму за дружбу.

А на аповесці-хроніцы «Порахам пахла зямля» Уладзімір Максімавіч быў яшчэ болей ласкавы, напісаў мне:

«Дарагому Янычку Сіпакову, глыбокаму, лірычнаму, народнаму — ад празаічнага Ул. Дамашэвіча. 11 чэрвеня 1975 года».

А на томіку выбранага ў серыі «Бібліятэка беларускай прозы» ён, пад фота — вусаты і зусім малады! — добра пажадаў мне: «Дарагому Янку Сіпакову жадаю і далей пісаць так прачула і мудра. 3 мая 1977 г.».

Мікола Аўрамчык, таксама маладосцевец, вёў аддзел паэзіі ў часопісе вельмі доўгі час. Ён выхаваў не адно пакаленне маладых беларускіх паэтаў. Праз яго, як кажуць, рукі і сэрца прайшла амаль уся тагачасная маладая паэзія, усе неўзабыўныя класікі нясмела прыходзілі да яго са сваімі першымі вершамі. Мікалай Якаўлевіч працаваў у «Маладосці» ад самага заснавання часопіса. Пры Аляксею Кулакоўскім, пры Пімене Панчанку. «Я то што, — падсмейваліся мы з яго, — я то дам, а што Пімен скажа».

Пімен быў строгі рэдактар і часам вяртаў назад падрыхтаваныя падборкі.

Я пазнаёміўся з Мікалаем Якаўлевічам яшчэ школьнікам на абласной нарадзе маладых літаратараў у Віцебску.

Мы, школьнікі, — Валодзя Скапа, будучы рэдактар «Віцебскага рабочага», Кацар Сяргей і я — і трымаліся неяк разам. Бо ўдзельнікамі былі ўжо, як нам

здавалася, і сталыя паэты. Да прыкладу, Сцяпан Шапо, рэдактар коханаўскай райгазеты, які казаў, што ён неўзабаве выдасць першую кніжку (яму нестае ўсяго некалькі вершаў!) і трымаўся з Аўрамчыкам амаль нароўні. Сярожа Кацар чытаў на нарадзе свой верш на матыў верша Янкі Купалы:

Няма ў Беларусі сапраўдных паэтаў,
Няхай жа ім будзе хоць Кацар Сяргей.

Мікалай Якаўлевіч стрымана, каб не пакрыўдзіць Сяргея, спрабаваў знайсці ў ім паэта. Мы смяяліся з ягонага верша.

Пасля я напісаў рэцэнзію на яго кнігу «Шляхамі дружбы», дзе захапляўся радкамі: «І ў бочцы, і ў вядры пазелянела газа, якой гарачы трактар запраўляў». І паслаў яе ў «Віцебскі рабочы», аднак яе не надрукавалі.

Потым мне пашчасціла працаваць разам з М. Аўрамчыкам у часопісе. І я заўсёды здзіўляўся той непадробнай зацікаўленасці, з якой Мікалай Якаўлевіч сустракаў кожнага маладога паэта, пачаткоўца, чамусьці верачы, што менавіта ён ужо прынёс ці яшчэ неўзабаве прынясе нейкі шэдэўр.

Аўрамчык да вайны служыў у арміі генерала Уласава, але яшчэ да здрады генерала трапіў у палон, быў вывезены ў Германію, працаваў у шахтах Рура, а потым — аднаўляў Данбас. Адсюль яго шахцёрскія вершы, яго слыннавядомая «Беларуская сасна» і дзве празаічныя кнігі — аповесці «У падзямеллі» і «Палон».

А яшчэ адзін «маладосцевец», вучань Аўрамчыка, Віктар Гардзей, чысты ў прозе і светлы ў паэзіі, на сваім зборніку «Зялёныя дажджы», які выйшаў напрыканцы тысячагоддзя ў 1997 годзе, разразіўся вершаваным экспромтам:

«Вельмі паважанаму мною Івану Данілавічу Сіпакову.

Пахвалы, Гардзей В. К., не жджы:
Зрок вайстрэй у Сіпакова Янкі —
Там шумяць зялёныя дажджы,
Дзе блішчаць зялёныя маланкі».

Шаноўны мой ранейшы галоўны рэдактар «Маладосці» Анатоль Грачанікаў на томіку сваёй выбранай лірыкі «Калі далёка ты…» напісаў:

«Дарагому Івану Данілавічу — выдатнаму пісьменніку сярод мужчын і жанчын, па-сяброўску, шчыра — з пажаданнем высокай паэзіі ў жыцці і творчасці. 22 мая 1982 г.».

А яшчэ адзін рэдактар «Маладосці» Раіса Андрэеўна Баравікова, якая на той час была вельмі шаноўным маладосцеўскім аўтарам, сваю паэтычную кнігу «Такое кароткае лета» падаравала мне з надпісам:

«Паважанаму Івану Данілавічу Сіпакову з вялікай прыязнасцю да Чалавека і да Паэта, чыя Муза неаднойчы давала натхненне майму пяру. З павагай — Р. Баравікова. 9. II. 81 г.».

Я з шанаваннем адношуся да гэтай кнігі. Здаецца, гэта адзіная ў беларускай паэзіі вось такая цэласная кніга пра самыя інтымныя чалавечыя адносіны, пра тое, што ніколі не старэе.

У «Маладосці» я працаваў 20 гадоў, а ў «Вожыку» — трынаццаць. І пераходзячы з «Вожыка» ў «Маладосць», я, ці паверыце, плакаў. Там быў дружалюбны, шчыры, зычлівы калектыў. Да мяне, маладога, і пісьменнікі, і мастакі, — усе адносіліся з увагаю, усе імкнуліся дапамагчы.

Найперш сам рэдактар — Павел Нічыпаравіч Кавалёў. Ён нас з Барысам Сачанкам узяў на працу яшчэ студэнтамі — у «Вожыку» мы пісалі свае дыпломныя працы. Таму ўсе кнігі Паўла Нічыпаравіча, якія выходзілі тады, з

добрымі подпісамі ёсць у маёй бібліятэцы. З бацькоўскімі пажаданнямі. Ён і праўда, быў нам як бацька — уважлівы і зычлівы. І мне здаецца ён нават неяк нібыта ганарыўся намі — Барысам і мною.

Калі з’явіўся ў ЛІМе амаль фельетон, ён перажываў разам са мною і супакойваў мяне.

Якаў Герцовіч быў загадчыкам аддзела фельетонаў, а ў газетах і літаратурных часопісах як крытык друкаваў свае сур’ёзныя артыкулы пра тагачасную беларускую літаратуру. На кнізе крытычных артыкулаў «Літаратура і жыццё народа» ён напісаў: «Івану Сіпакову. З пажаданнем, каб у наступным сваім зборніку я меў падставы і магчымасць гаварыць аб тваёй, Іване, паэтычнай творчасці. 27. VIII. — 60 г.». Цікавая кніга яго вайсковых запісаў «На вайне як на вайне» таксама з аўтографам.

З Валянцінам Зубам, не зважаючы на вялікую розніцу ва ўзросце, у нас былі нават сяброўскія адносіны. Ён пісаў кнігі для падлеткаў, п’есы, кінасцэнарыі. Памятаю, як ён пакутаваў над сваім дакументальным сцэнарыем пра бройлераў і бройлецтва — гэта на той час была неверагоднейшая навінка…

Часам у «Вожыку» надараліся свае ўрачыстасці, усе збіраліся за сталом. А назаўтра мы з Валянцінам Андрэевічам ставілі ў чарговы раз на рэдакцыйнай шафе ў сваім кабінеце чарговую метку — так давалі сабе зарок: мы болей не п’ём! Але праз нейкі час усё ж на той жа шафе з’яўляліся новыя меткі... І потым смяяліся: уся шафа была ў гэтых метках!

На сваёй прыгодніцкай кнізе для дзяцей Валянцін Зуб напісаў мне:

«На добрую памяць цудоўнаму хлопцу Івану Сіпакову ад аўтара. Успомні, як мы разам змагаліся ў аддзеле пісем «Вожыка». 16 мая 1961 г.».

Каларытнейшай асобаю ў «Вожыку» быў мой найблізкі зямляк з Барані, былы дырэктар цвіковага завода Уладзімір Корбан. Сур’ёзны байкапісец, якога любілі чытачы. Меў грамавы голас. Калі ён з’яўляўся на рэдакцыйным калідоры, усе чулі: на працу прыйшоў Корбан. Яго голас ракатаў і вібрыраваў на рэдакцыйных калідорах, як іерыхонская труба. Аднойчы на адной з сустрэч з чытачамі Анатоль Астрэйка пажартаваў: «Вось пасля мяне выступіць Корбан, у яго слабы голас, так што вы сядзіце ціха, слухайце яго ўважліва, каб пачуць». І зала замёрла. Выходзіць Уладзімір Іванавіч на трыбуну і як раўкне: «Знюхаліся!» Зала ўзарвалася гамерычным рогатам, і яе доўга не маглі супакоіць.

Корбан і Колас. Корбан і Кузьмін.

Уладзімір Іванавіч расказваў нам, як ён хадзіў да Якуба Коласа дадому. Па партыйныя ўзносы, ён быў партсакратаром Саюза пісьменнікаў Беларусі, і гэтае мерапрыемства ўваходзіла ў яго абавязкі.

Аднойчы Колас разлічыўся, распісаўся ў ведамасці, а тады і кажа мне: «Пачакайце крыху, Уладзімір Іванавіч». І выйшаў. Я недзе падумаў: «Няўжо пачастуе?» — І праўда, праз нейкі час выходзіць, а ў яго руцэ бутэлька з нейкай карычневай вадкасцю». На каньячок стары расшчодрыўся!» — падумаў я. А ён і кажа: «Парадуйцеся, Уладзімір Іванавіч, гэта наша першая беларуская нафта. Геолагі мне падаравалі бутэлечку».

Першую кніжачку баек Уладзіміра Корбана «Мы іх ведаем» я купіў яшчэ вучнем Зубрэвіцкай школы. Чытаў з захапленнем, яна ж адрэдагавана самім Кандратам Крапівой! Усё збіраўся ў Барань, да пісьменніка, аднак кожны раз адкладваў — баяўся і саромеўся. Аднак пакуль я вагаўся,ісці ці не ісці, Корбан пераехаў у Мінск, пачаў працаваць у «Вожыку». Пакуль я сабраўся паслаць яму ў «Вожык» свае байкі, ён зноў памяняў месца працы — яго абралі сакратаром партыйнай арганізацыі СП Беларусі.

Сваю чарговую кніжку баек, якая выйшла ў 1961 годзе, Уладзімір Корбан падараваў мне:

«Івану Сіпакову — цудоўнаму паэту, цудоўнаму хлопцу, гледзячы на якога я ўспамінаю сваю маладосць. 20. XI. 61 г.».

Не менш каларытнай фігурай у «Вожыку» быў загадчык аддзела ілюстрацый Аскольд Чуркін.

Сын славутага ў беларускай музыцы кампазітара Мікалая Чуркіна, які нарадзіўся, калі бацьку было за шэсцьдзясят гадоў, быў унікальным, цікавейшым чалавекам. Мы сядзелі з ім амаль увесь мой час працы ў «Вожыку» ў адным пакоі, нашы сталы стаялі адзін супраць аднаго. Я берагу яго кнігу «Карыкатуры», якую выдала выдавецтва «Правда» ў Маскве, у 1967 годзе. Вось Аскольд — губаценькі, кучаравенькі, у цёмных акулярах, з закладзенымі за спінаю рукамі, у якіх кісці і пяро — цудоўны аўташарж! — а пад ім надпіс:

«Ване Сипакову — дружески. Аскольд. 18 февраля 1968 г.».

Але, несумненна, у тагачасным «Вожыку» вылучаўся сярод усіх, быў фігураю ва ўсіх адносінах Сяргей Дзяргай.

Мы глядзелі на яго ва ўсе вочы, слухалі ва ўсе вушы. Думалі ўслед за ім.

Гэта быў незвычайны чалавек. Ён быў і ява, і легенда. Яго, здаецца, сам Бог паслаў у помач маладой беларускай літаратуры.

Да яго дадому можна было зайсці і ўдзень і ўночы. З радасцю і з бядою. І мы не сумняваліся, што ён заўсёды прывеціць нас, маладых, будзе рады нам. Пачастуе трускалкамі, заварыць чаю — а як ён умеў заварваць той чай! У яго заўсёды стаялі бляшанкі з найлепшымі чаямі — індыйскімі, цэйлонскімі, кітайскімі. Гэта ў гады нашай маладосці было дэфіцытам, далікатэсам: чай мы часцей за ўсё пілі грузінскі, у брыкетах.

Мы, студэнты, маладыя пісьменнікі, з радасцю заходзілі ў яго гасцінную кватэру і ведалі, што Сяргей Сцяпанавіч нікога не выпусціць, не пачаставаўшы.

Заходзілі, каб пазычыць грошы да стыпендыі, заходзілі, каб нешта перакусіць, — галодныя, але найбольш і найчасцей заходзілі, каб там нагаварыцца, сустрэцца з сябрамі, якія ў Дзяргая таўкліся амаль штодзённа. Там можна было сустрэць Анатоля Клышку, Рыгора Барадуліна, Барыса Сачанку, Івана Чыгрынава, Міколу Арочку, Яўгена Міклашэўскага з інстытута замежных моў, Навума Кісліка, Фёдара Яфімава, Алеся Наўроцкага…

І вядома ж, амаль заўсёды быў там Аскольд Чуркін. Аскольд называў Дзяргая ласкава: «Сярожа, Сярожа», і той адказваў яму той жа самай зычлівасцю: «Аська». У Аські было шмат знаёмых, асабліва сярод афіцыянтак, а таму і экзатычныя чаі і іншыя далікатэсы, якімі частаваў нас Сяргей Сцяпанавіч, даставаў ён, Аскольд.

Пра Дзяргая я напісаў вялікае эсэ «Сяргей Сцяпанавіч», дзе, паводле маіх запісаў частых размоў з ім, крыху расказаў пра гэтага ўнікальнага чалавека. Эсэ можна прачытаць у маёй кнізе «Журба ў стылі рэтра», а таму я не буду яшчэ раз пераказваць яго.

Сяргей Сцяпанавіч падпісаў мне ўсе свае кнігі. На кнізе «Свята ў будзень» парадаваў мяне подпісам:

«Дарагому Івану Сіпакову, на якога я спадзяюся больш як на каго з маладых. 11/X.65».

Ён чытаў усё, што мы пісалі. Усё ведаў, усё каментаваў. Нават боязна было, што ён гэта пачытае і яму яно не спадабаецца.

А сам ён пісаў магутна:

Неспакойная ноч... Без сну.
І адкуль ты, мелодыя Грыга?
А-а! То лёд зазлаваў на вясну...
Значыць, рушыла першая крыга...

Неспакойная кроў... Яна
Засціць вочы і б’ецца ў скроні.
Тут вось праўда, а тут — мана;
Ці ж прайду я ля іх як староннi?

* * *

Сляза заўсёды горкая,
А пот — салёны.
А кроў — чырвоная,
І гора — чорнае.
Ёсць слёзы шчасця,
І ў гэтых слёзах — слодыч...
Ды хіба гэта слёзы?

* * *

Гук слова роднага, з якім ад першых дзён
Мяне ў калысцы маці калыхала...
Пах хлеба жытняга... Яму й цяпер жадзён,
Бо хлеба мне ў дзяцінстве не хапала...

Усё гэта ўзята з дыхтоўнага аднатомніка, які выйшаў у 1988 годзе. На вялікі жаль, ён ужо без подпісу — выйшаў пасля смерці вялікага Сябра ўсіх маладых. Склаў яго і напісаў прадмову Яўген Міклашэўскі, тады Яўген Верабей, адзін з самых блізкіх Сяргею Сцяпанавічу хлопцаў.

Вось як Яўген расказвае пра першую сустрэчу з Настаўнікам, з хатаю, якая за 16 год, як прызнаецца сам Міклашэўскі, зрабілася ягонай хатаю.

«Быў 1964 год. Я доўга хадзіў па цёмным пустым калідоры, перш чым асмеліўся зайсці ў аддзел літаратуры часопіса «Вожык». Першае, што я ўбачыў, расчыніўшы дзверы, гэта — стол з шашачнай дошкай і раскіданымі па ёй чорна-белымі шашкамі. Стол стаяў у правым куце, каля акна, і за ім сядзеў чалавек з густымі, злёгку кранутымі сівізной валасамі і светла-сінімі вачыма на выцягнутым бледнаватым твары. Здаецца, няўлоўная ўсмешка блукала па яго губах. Ён быў у нейкай цёмнай кашулі, расшпіленай на шыі, і ў шэрым пінжаку. А за другім, літработніцкім сталом, які стаяў у правым куце ад дзвярэй, сядзеў і загадкава ўсміхаўся малады паэт, супрацоўнік аддзела літаратуры часопіса «Вожык» Янка Сіпакоў, з якім я ўжо сустракаўся».

Яўген быў адразу ж запрошаны ў нядзелю ў госці. Міклашэўскі піша, што з таго часу ён бываў часта ў кватэры паэта і за 16 гадоў яна стала яму роднаю.

І яшчэ Яўген згадвае вельмі дарагое мне:

«А як ён любіў сваіх «выхаванцаў» — Янку Сіпакова, Рыгора Барадуліна, Барыса Сачанку! Слова насупраць не скажы! Я ў гэтым пераканаўся неаднойчы».

І яшчэ:

«Злавіўшы неяк Сяргея Сцяпанавіча на слове, што ўсходняя паэзія яго больш не цікавіць, я папрасіў у яго кнігі Саадзі і Хаяма, прыгожа выдадзеныя выдавецтвам «Художественная литература».

— Хаяма я табе дам, а вось Саадзі не — паабяцаў Сіпакову.

Так і хочацца сказаць Настаўніку, каб пачуў ён і там: «Дзякую, шаноўны Сяргей Сцяпанавіч! Ваш Саадзі і цяпер — чытаны і перачытаны — стаіць на маіх кніжных паліцах!», акуратненькі такі, святочны. У беленькай-беленькай супервокладцы.

«Ён браў пад крыло ўсіх, хто спрабаваў пісаць, — зноў жа расказвае Яўген Міклашэўскі. — Так ён прытуліў студэнтаў, вясковых хлопцаў Барадуліна, Сіпакова, Сачанку, а потым і мяне. Мяне — у вельмі цяжкую хвіліну майго жыцця».

Пэўная частка майго жыцця аддадзена яшчэ аднаму часопісу — «Гаспадыні», дзе я некалькі год працаваў літаратурным кансультантам.

Часопіс «Гаспадыня» — гэта найперш ён, Зіновій Прыгодзіч. Дарагі мой, шаноўны сябра. Цікавы, светла-шчыры, немнагаслоўны, але вельмі рознапланавы пісьменнік. І галоўнае — чытаемы! У яго ўсяго толькі дзве аповесці. Не, тры: «Журба мая светлая», «Ноч перад нядзеляю» і «Журавы на далёкай пойме». Але яны, ведаеце, да гэтага часу застаюцца ў беларускай літаратуры. Напісаныя, адчуваецца, у творчым запале, амаль падрад у 1983, 1984, 1985 гадах, амаль трыццаць гадоў назад, аднак яны і сёння запатрабаваныя, бо ў іх ёсць тое, што і робіць творы сапраўднымі і жывучымі, — душа.

А які Зіновій Прыгодзіч паэт! Мне здаецца, што яго шчырая любоўная лірыка, сабраная ў элегантным томіку-малютцы «Калі б не ты», паэзія высокай пробы — так разнасцежана пра сябе ў нашай літаратуры пра каханне мала хто адважваўся пісаць.

Я цябе ні ў чым не папракаю,
З мірам да другога адпусціў...
І на лёс свой злы не наракаю,
Што жыццё мне так перакруціў.

Спалены масты... Няма вяртання...
Засціць вочы шэрая смуга...
Ад былога грэшнага кахання —
Толькі горкі попел ды туга.

Гэты свой малітоўнічак каханню Зіновій Прыгодзіч падпісаў мне з хітрынкай: «Янку Сіпакову — паэту Боскай міласці ад паэта-аматара з удзячнасцю за падтрымку і разуменне — па-сяброўску».

Ніштo сабе, скажу я вам, аматарства! Дай бог кожнаму такое.

Апрача ўсяго Прыгодзіч яшчэ і вельмі сімпатычны расказчык. Пра ўсё ён расказвае цікава і займальна. У кнізе пра Карэю «Доўга будзе Карэя мне сніцца» столькі трапных назіранняў і думак.

Што ўжо, думалася, можна расказаць пра Японію, пра якую за савецкім часам выйшла столькі проста выдатных кніг тыпу «Галінкі сакуры»! А ён знайшоў сваю нішу, свой ракурс, і яго кніга «Путь полной луны» — ужо свой адметны погляд на гэтую найцікавейшую краіну, на таямнічы характар японцаў чалавека нашага новага, трэцяга тысячагоддзя.

Свой японскі дзённік Зіновій Кірылавіч падпісаў мне:

«Сябру майму і самаму блізкаму чалавеку Янку Сіпакову — сардэчна, з пажаданнем японскага даўгалецця!»

А з кнігаю Прыгодзіча «Жменя зярнят» я пазнаёміўся яшчэ тады, як яна была рукапісам. У канцы сямідзясятых гадоў у выдавецтве «Ураджай» мяне папрасілі адрэцэнзаваць зборнік нарысаў незнаёмага мне чалавека. Я прачытаў рукапіс і здзівіўся. Не, гэта былі не нарысы! Гэта была сапраўдная проза. Гэта былі сапраўдныя апавяданні! І таму дзіўна было бачыць пад імі назвы сапраўдных вёсак, сапраўдных калгасаў: вёска Гоцк Салігор-

скага раёна, саўгас імя Янкі Купалы Маладзечанскага раёна, вёска Лышча Пінскага раёна...

Трактарыст хоча ажаніцца з вясковаю дзяўчынаю. Але ж яе бацькі — сектанты: яны не хочуць гэтага. І яны, кожны сваім шляхам, дабіраюцца ў Хорастава, у сельсавет: ён, адчапіўшы культыватар на далёкім полі, едзе на трактары, яна — на спадарожнай машыне. Завязка, кульмінацыя, развязка.

«На далонях буйное янтарнае зерне. Празрыстыя згустачкі сонечнай шчодрасці, зямных сокаў, цяпла чалавечых рук...

Яшчэ хвіліна — і зерне ўпадзе ў вільготную, шчодрую глебу. Упадзе, каб даць вясною жыццё новым парасткам, каб потым гарачым летам зноў схіліцца долу важкімі, звонкімі каласамі.

Простая і глыбокая мудрасць жыцця. Непахісны закон прыроды. І не толькі прыроды...»

Успомніўся Твардоўскі. Аляксандр Трыфанавіч. Яго нарыс «Дзённік старшыні калгаса». Сакавік 1931 г.

«Зерне варушыцца ў дзірках мяшкоў. Яны не былі палатаны своечасова. Грышачка падхоплівае і падносіць мяшок на жываце да вагаў. Зерне цячэ — дзіркі нават нічым не заткнутыя. Андрэй Кузьміч сядзіць пад рукавом сарціроўкі і насмешліва глядзіць на дурня: «Цягай, цягай...» У кучы зерня — шмат снегу: возьмеш жменю — далонь робіцца мокрай».

І далей:

«Бабуля Фрося прынесла мяшкі. Яна прымусіла, каб я агледзеў кожны лапік. Махромчыкі падгорнуты, латачкі акуратныя і нават пад колер. Адным словам, мяшкі залатаны, як штаны.

Для памяці: бабулі — хусцінку».

І зноў пра дурачка:

«Грышачка напамінае таго дваравога хлопчыка, які пастаўлены ўсім дапамагаць». Яго «муторят», пасылаючы туды, куды былі пасланыя самі. «Дзіка. Нельга!»

Ага, які ж гэта нарыс? То ж паўнацэнная, псіхалагічная проза.

І Твардоўскі разумеў гэта. І ўключаў «Дзённік старшыні калгаса» ў мастацкія творы. Вось і цытую гэтую рэч па чацвёртым томе Збору твораў Аляксандра Твардоўскага ў шасці тамах.

Цікава, вельмі шмат ў гэтым нарысе беларускіх слоў: абугонь, клёц, «водки заели», севалка, «сеет без ляшэння»...

Давялося Аляксандру Трыфанавічу даваць зноску — маўляў, гэта абласное.

А сваю кнігу «Жменя зярнят» Зіновій Кірылавіч Прыгодзіч падараваў мне з аўтографам:

«Івану Данілавічу Сіпакову — хроснаму бацьку гэтай кніжкі з глыбокай удзячнасцю і шчырай сімпатыяй. Добрага і шчодрага ўраджаю Вам, Іван Данілавіч!»

Часопіс «Гаспадыня» — гэта і Валянціна Паліканіна. Захавальніца лепшых рускіх традыцый у паэзіі. Лепшая сярод рускамоўных паэтэс на Беларусі. Шчыра і цнатліва піша пра каханне — яно для ее заўсёды як свята.

Памятаю, як мяне ўразіла першая яе кніга «Найдите время для любви». Мне падалося тады, што самаю лірычнаю асобаю ў гэтай кнізе была сама непасрэднасць.

Хожу, а всё-таки летаю.
Ты посмеешься надо мной!
Не та я, видимо, не та я
В твоей реальности земной.

Но ты не пробуешь отречься —
И не пытаешься понять.
Так и идем судьбе на встречу
Ничто не в силах поменять!

Откуда эта неизбежность?
Связали нас уже давно
И страх разрыва, и надежды,
И взлет совместный не земной.

Амаль усе кнігі Валянціны Паліканінай у мяне з аўтографамі. Я ганаруся імі!

На першай кнізе Валянціна Пятроўна напісала мне: «Мудраму, добраму настаўніку ад аўтара — з пажаданнем маладзецкага здароўя, вясенняга натхнення і яшчэ многа-многа такіх жа цудоўных радкоў».

А на кнізе выбранай лірыкі «Живое зерно», якую Паліканіна падарыла мне ў дзень майго нараджэння, я прачытаў:

«Дарагому Івану Данілавічу, паэту і чалавеку ад Бога, на добрую памяць ад захопленай Вашаю творчасцю душы!!!»

А між імі Валянціна Пятроўна песціла мяне, гладзіла мяне і вось гэтак:

«Паважанаму, дарагому, цудоўнаму Івану Данілавічу, майстру высокага Слова і валадару высокіх пачуццяў — на добрую памяць ад той, якая шчаслівая Вас ведаць і чытаць».

А ад Алы Жур, сваёй суседкі па «Гаспадыні», я атрымаў ласкавы аўтограф. На сваёй першай кнізе-роздуме «На солнечной стороне дождя» Ала напісала:

«Іван Данілавіч! Я разгадала Ваш сакрэт! Вашы кнігі ніколі не састарэюць, як птушкі, таму што Вы ў іх жывяце, «як дыхаеце». І таму іх хочацца чытаць і чытаць...

З любоўю і сонцам. Ала Жур. 12.02.09».

Дзякуй Ала Віктараўна! За тое, што Вы зразумелі маю мару: пісаць, як дыхаецца.

## 7

А як я ганаруся аўтографамі Максіма Танка!

«Цудоўнаму таварышу і паэту — Янку Сіпакову. З любоўю і найлепшымі пажаданнямі. Максім Танк. Мінск. 14/IV/ 1972 г.».

Гэта «На ключы жураўліным».

З любоўю! І найлепшымі пажаданнямі! Цудоўнаму таварышу і паэту! І гэта ж сам Максім Танк! Жывы класік! Я вывучаў яго ў школе.

Пахне дзёгцем, потам, рыжаю аўчынай,
Цішыня у хаце згорбленай, старой,
Ды гарыць памалу ноч даўгой лучынай,
Сцелючы сасновым дымам і смалой...

Гэта — з верша «Песня кулікоў».

А «Спатканне»! Бацькі з сынам-вязнем у астрозе:

— Ну што ж, кажы, што ў вас чуваць? —
Пачаў стары пра сенажаць,
Успомніў жыта і авёс...
А вочы... мокрыя ад слёз...

Колькі шчымлівасці ў гэтым вершы! Нездарма ён вельмі падабаўся Рыгору Шырме.

І на другой кнізе — «Дарога, закалыханая жытам».

«Дарагому Івану Данілавічу Сіпакову — з любоўю.

Максім Танк. Мінск. 14.І. 1977 г.».

Бачыце, і тут гэтаксама: «З любоўю!»

Кніга, як і трэці том лірыкі, які выйшаў у 1987 годзе, з густам афармлена. Сапраўдны шэдэўр беларускай кнігавыдавецкай, аж не паворочваецца язык сказаць, «дзейнасці».

Яўгену Іванавічу вельмі спадабаўся мой верш «Маналог мядзведзя», пра мядзведзя, які ўпершыню выйшаў з бярлогі пасля зімовай спячкі. З маёй першай публікацыі ў танкаўскім «Полымі». І мне часам здавалася, што мы з Яўгенам Іванавічам глядзім на жыццё нібыта з нейкай адной і той жа кропкі.

Як рэліквію берагу я аўтограф Міколы Ермаловіча на кнізе «Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяды». Мікола Іванавіч падараваў яе мне з дарагім мне надпісам:

«Шаноўнаму Янку Сіпакову — першаму рэдактару гэтай кнігі з найглыбейшай павагай і найбольшай удзячнасцю. М. Ермаловіч. 2. ІІІ. 1991г. Маладзечна».

Першаму рэдактару. Ага, так і было: калі Мікола Іванавіч прынёс сваю працу ў «Маладосць», дзе я ў той час працаваў загадчыкам аддзела культуры і навукі, мне даручылі адрэдагаваць яе і падрыхтаваць да друку.

Дарэчы, прызнаюся, мне адразу не спадабалася назва — доўга і невыразна: «Падручнік па гісторыі Беларусі»… Кажу Міколу Іванавічу: «Доўга і небяспечна. Калі падручнік, то гэта павінна вывучацца і абмяркоўвацца ці ў Акадэміі навук, ці ў Міністэрстве адукацыі. Карацей кажучы, мы павінны атрымаць дазвол на публікацыю. Таму, можа, давайце прасцей. Можа, проста «Старажытная Беларусь». Мікола Іванавіч падумаў крыху і згадзіўся з маім загалоўкам. Я рады, што і пасля, калі выдаваў кнігу ў «Мастацкай літаратуры», ён пакінуў гэтую назву і для кнігі.

І яшчэ была адна думка: можа, для часопіснай публікацыі падкараціць зноскі, крыніцы, на якія гісторык спасылаецца. Я ж прытрымліваўся іншай думкі: спасылкі трэба пакідаць усе. Калі ўзнікнуць нейкія праблемы, у нас будзе на што звяртаць увагу — «маўляў, чаму Вы змагаецеся з гісторыкам, з «Маладосцю»? Вы ж змагаецеся са зноскамі, з першакрыніцамі». Таму і публікацыя была сур'ёзная. Некаторыя старонкі выглядалі вось так: палова тэксту, а палова — зноскі, спасылкі.

І яшчэ адна кніга Міколы Іванавіча Ермаловіча ёсць у маей бібліятэцы — «Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае». У анатацыі да яе гаворыцца: «Гэта — яго кніга жыцця. Мікола Ермаловіч (1921—2000) выдатны беларускі гісторык і пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, вярнуў нам нашу сапраўдную гісторыю, знявечаную, абылганую, адабраную ад нас лжэвучонымі і палітыканамі. Аўтар працаваў над ёй да апошніх сваіх дзён, паспеўшы ўнесці ў яе неабходныя праўкі і дапаўненні. Чытач упершыню мае магчымасць у поўным выглядзе пазнаёміцца з праўдзівай гісторыяй беларускай дзяржавы Вялікага княства Літоўскага».

У кнізе скрупулёзна, уважліва разглядаюцца розныя перыяды нашай гісторыі: Новагародскі (1246—1316), Віленскі (1316—1385), Крэўскі (1385—1569) і перыяд Рэчы Паспалітай (1569—1795), калі ў гэтай дзяржаве было і ВКЛ з нашымі землямі.

І пасля кожнага перыяду — зноў жа шмат зносак, спасылак, крыніц, адкуль узяты звесткі. Калі ласка, калі нехта не згодзен, таксама вывучайце крыніцы, спрачайцеся…

***Падрыхтоўка тэксту і публікацыя Сяргея СІПАКОВА.***

***Працяг будзе.***

Яўген ГАРАДНІЦКІ

# ПАЭТЫКА ЯНКІ КУПАЛЫ: ГАРМАНІЗАЦЫЯ СТЫХІЙНАГА

Янку Купалу прынята лічыць паэтам стыхійнага, інтуітыўнага, пачуццёвага выражэння. Неарамантык, сімваліст, які надзвычайную ўвагу надаваў рытмічнай выразнасці вершаванай мовы. Усё гэта сапраўды так. Таксама як і тое, што свет купалаўскай паэзіі вызначаецца асаблівай экспрэсіўнасцю, драматычнай напружанасцю, антанімічнасцю. Гэта свет неўладкаваны, у якім часта нестае прытулку герою, і ён вымушаны блукаць у пошуках долі, той неспазнанай «папараці-кветкі», якая ўвесь час аддаляецца ад яго ў непраглядны змрок. Часам жыццё для гэтага героя наогул становіцца невыносным, навакольны свет ён успрымае ў яго дысгарманічнасці, разладзе з уласным «я». І гэты разлад пранікае ў самую ягоную душу.

Свет рамантычных памкненняў, духоўных парыванняў уступае ў супярэчнасць і супрацьборства з рэальнасцю, адштурхоўваецца ад яе. Непрыняцце жорсткай рэальнасці — адзін з галоўных пастулатаў рамантызму. Купала як мастак заўсёды быў аддны гэтай ідэі, пры гэтым усёй душой прагнучы змены статус-кво, шукаючы выйсця да лепшага становішча, больш справядлівага і людскага светаўладкавання.

Сацыяльны і эстэтычны ідэалы ў іх сінтэтычнай спалучанасці найбольш яскрава ўвасобіліся ў славутай паэме «Яна і я». Жанр яе можна вызначыць як *ідылію*, усвядомлены зварот да выяўлення ідэальнага, згарманізаванага быцця. У. Гніламёдаў, пішучы пра гэту паэму, заўважыў, што «зямное быццё паўстае тут прыўзнятым на крылах мары» [1, с. 117].

Свет купалаўскай паэзіі надзвычай разнастайны, шматгранны. У ім выяўляюцца самыя розныя, кантрасныя бакі жыцця чалавека, знаходзяць выражэнне процілеглыя настроі і псіхалагічныя станы. Заклікальныя, бадзёрыя інтанацыі, як у вершы «Гэй, наперад!», змяняліся іншымі, у якіх адбіваліся пачуцці зняверы, адчаю, як, да прыкладу, у вершы «Прыстаў я жыць...».

Так, у паэтычнай спадчыне Купалы мы знойдзем творы самай рознай танальнасці, творы, прасякнутыя процілеглымі настроямі, творы, якія можна аднесці да розных мастацкіх напрамкаў і стыляў. І што характэрна — яны часта блізкія па часе напісання. Вядома, многае тут залежала і ад той канкрэтнай сітуацыі, у якой знаходзіўся паэт, і ад яго ўнутранага душэўнага стану, настроенасці на пэўную хвалю, і ад мастацкіх, у тым ліку ідэалагічных, задач, пастаўленых перад сабой аўтарам.

Безумоўна, мы маем справу з унікальным феноменам, з геніяльнай творчай асобай, для якой характэрны надзвычай шырокі дыяпазон судакрананняў са светам. Але ці азначае гэта тое, што наогул немагчыма акрэсліць колькі-небудзь пэўныя дамінанты паэтычнага светапогляду, творчага метаду, мастацкага стылю Купалы? Няма сумненняў у тым, што пры ўсёй разнастайнасці і шматстайнасці нюансаў і адценняў, аспектаў і ракурсаў мастацкага выяўлення чалавека і свету, купалаўская паэзія валодае цэласнасцю, абумоўленай тоеснасцю асобы мастака, адзінствам яго жыццёвых і эстэтычных прынцыпаў.

На вялікі жаль, надараюцца выпадкі ігнаравання гэтай чалавечай і мастакоўскай цэласнасці паэта, без якой увогуле не можа адбыцца паўнацэннай рэалізацыі любога творцы.

Напрыклад, Д. Санюк у кнізе «Эстэтыка творчасці Янкі Купалы» піша пра «шматвалентнае купалаўскае «я», пазбаўленае цэласнасці і маючае фрагментарны фактар [так!]» [2, с. 6]. На падставе таго, што «перад намі вельмі розны паэт у перыяды сваёй творчасці», даследчык робіць вывад, ні больш ні менш, як аб тым, што ««творчая індывідуальнасць» Купалы заключаецца ў адсутнасці франтальнай [?] творчай індывідуальнасці» [2, с. 7]. Заўважым, што ў гэтым парадаксальным выказванні аўтар кнігі ўжывае ў дачыненні да Купалы выраз *творчая індывідуальнасць* наогул у двукоссях. Д. Санюк залічае Купалу ў парадаксалісты («бадай што, гэта ўзор парадаксальнага мастацтва, адкуль пачалася вялікая радаслоўная беларускага парадаксалізму [?]» [2, с. 6]), прадстаўляючы яго інтуітывістам і містыкам («...Купала становіцца нібы прапаведнікам сусветнага хаосу», «у выніку гэтага ствараецца перарэдуцыраваная рэальнасць больш высокага ўзроўню, асноўны закон якой нябачная поліфанічнасць і касмічная містэрыяльная пустата») [2, с. 6].

На чым жа грунтуюцца такія сапраўды надзвычай парадаксальныя заявы даследчыка? На тым, што, на яго думку, Купала «фатальна незавершаны», што ў яго паэзіі «можна знайсці ўсё, пачынаючы рэалізмам і заканчваючы сімвалізмам і постмадэрнізмам [?!.]» [2, с. 5].

Якім жа чынам, на якіх метадалагічных асновах даследаваць у такім выпадку гэты містычны феномен, які не мае ніякіх пэўных абрысаў і межаў? На гэта пытанне аўтар «Эстэтыкі творчасці Янкі Купалы» не дае адказу. Ён толькі катэгарычна адмаўляе сістэматызацыйны і эвалюцыйны (гэта значыць, гістарычны) падыходы. Маўляў, інтуіцыю логікай не вымераеш.

На нашу думку, найбольшую метадалагічную памылку Д. Санюк робіць тады, калі ставіць, па сутнасці, знак роўнасці паміж асобай аўтара з яго суверэнным светам і вобразным ладам яго паэзіі. Нельга адназначна атаясамліваць тое, што паўстае ў творах паэта, з тым, што ўяўляе сабой яго чалавечую і мастакоўскую сутнасць.

Няўжо Д. Санюк сапраўды лічыць, што Купала, як чалавек і мастак, безаглядна аддаецца на волю стыхійнай плыні, цалкам патрапляе пад уздзеянне містычнай неспазнанай сілы, і таксама як некаторыя яго героі не бачыць перад сабой ніякіх трывалых жыццёвых асноў і каштоўнасцей? Выглядае на тое, што так.

Аўтар, несумненна, прысутнічае ў кожным сваім творы. Аднак формы гэтай прысутнасці, ступень уздзеяння могуць быць рознымі, залежнымі ад мастацкага задання, спосабаў арганізацыі структуры твора, кампазіцыйных прыёмаў і г. д. Пры ўсёй поліфанічнасці і шматгалоссі суб'ектаў літаратурнага твора вызначальную, арганізуючую ролю ў ім адыгрывае аўтар. Менавіта яго воля выступае ў якасці той пабуджальнай і накіравальнай сілы, што збірае ў адно цэлае — у складанае, дыялектычна спалучанае адзінства — усе, часта супярэчлівыя, антаганістычна спалучаныя між сабой кампаненты і ўзроўні твора.

Купала — творца свайго ўнікальнага мастацкага сусвету, які сапраўды ўключае ў сябе ***ўсё***. Гэта не толькі космас, які разгортваецца адпаведна сваім унутраным законам, але і хаос, пазбаўлены якіх-небудзь відавочных заканамернасцей, той хаос, што папярэднічае касмічнай упарадкаванасці і гармоніі.

Свет Купалы рухомы, зменлівы, схільны да шматлікіх метамарфоз. У ім супрацьдзейнічаюць антаганістычныя пачаткі, дабро і зло, святло і цемра, гармонія і хаос вядуць між сабой пастаяннае змаганне. У гэтым выяўляецца анталагізм, філасофская глыбіня купалаўскага спазнання свету, характар судакранання паэта з быццёвымі сферамі.

Літаратура XX стагоддзя не цуралася заглыблення ў самыя супярэчлівыя, разломныя пласты быцця, выяўляючы ў мастацкіх вобразах драматызм светаад-

чування чалавека ў катастрафічныя моманты гісторыі. Аднак ці азначае гэта, што літаратура адно выконвала ролю бесстаронняга фіксатара існуючага стану рэчаў, не спрабуючы пры гэтым пэўным чынам на яго паўплываць? Вядома, не! Нават пры захаванні некаторымі аўтарамі прынцыпу «неўмяшання», пры спавяданні імі адасобленасці мастацтва ад рэальнага жыцця, усё ж такі асноўным пасылам літаратурнай свядомасці мінулага стагоддзя, як, зрэшты, і пачатку новага, было і застаецца выяўленне аўтарскага светабачання і жыццёвай пазіцыі.

Іншая справа, якім чынам жыццёвы кругагляд аўтара, разуменне ім заканамернасцей гістарычнага развіцця, яго ідэалагічныя ўстаноўкі могуць знаходзіць тое або іншае ўвасабленне ў творы. Тут шляхоў надзвычай багата. Ад непасрэднага публіцыстычнага прамаўлення, адкрыта тэндэнцыйнай літаратуры да перадачы светапоглядных адзнак праз характар паэтыкі, адметнасць мастацкага стылю.

Для паэтычнай творчасці Купалы характэрны шырокі дыяпазон суадносін аўтарскага светапогляду і форм яго ўвасаблення ў тэкставай прасторы твораў. Голас аўтара гучыць у многіх вершах як непасрэдны зварот да чытача (а з улікам тагачаснага стану пісьменнасці — і да слухача), у ім можна адрозніць заклікальныя, а часам і дыдактычныя інтанацыі. У гэтым, дарэчы, паэзія Купалы цесна судакранаецца з нацыянальнай мастацкай традыцыяй, закладзенай у XIX стагоддзі. Разам з тым Купала плённа прадаўжаў развіццё яшчэ адной лініі беларускай паэтычнай традыцыі, даючы слова самому герою, кругагляд якога немагчыма было атаясаміць з аўтарскім. Гэта не традыцыйны лірычны герой як выразнік аўтарскага голасу, а вобраз, надзелены самастойнымі рысамі характару, са сваім лёсам і бачаннем свету.

Такім чынам, у творах Купалы выяўляе сябе паліфанізм, які сведчыць пра маштабнасць ахопу паэтам праяў нацыянальнага быцця, пра суаднесенасць індывідуальнага погляду на свет з калектыўнай свядомасцю. Лірычнае «я» ўступае ў дыялог, а часам і дыялог-спрэчку, з іншай свядомасцю. У адносінах да свайго персаніфіцыраванага героя паэт выказвае розныя пачуцці — ад шчырай спагады і падтрымкі да іроніі і сарказму.

Аднак далёка не заўсёды адносіны аўтара да выяўленага ў творы маюць відавочны характар. У такіх выпадках і спакушае некаторых інтэрпрэтатараў магчымасць паставіць знак роўнасці паміж светам мастацкага твора і светам пісьменніка.

Дык ці варта залічаць сёння Купалу ў містыкі або постмадэрністы толькі паводле таго, што ў ягоных творах можна знайсці вобразныя праявы зрушанага, «дэцэнтралізаванага» свету? Ці маюцца дастатковыя падставы для таго, каб адназначна ідэнтыфікаваць ствараемую ў асобным творы мадэль свету як уласна аўтарскую, уласцівую выключна яго свядомасці, прадстаўляючую толькі яго асабовасць?

Улічваючы аб'ектыўную складанасць, няпросталінейнасць і неадназначнасць дачыненняў аўтара з яго творам, адказ на гэтыя пытанні можа быць толькі адмоўным. Нельга забываць пра тое, што, апрача форм непасрэднага выяўлення аўтарскай свядомасці ў літаратурным творы, існуюць іншыя спосабы ўздзеяння аўтара на ствараемы ім мастацкі свет.

Менавіта таму, што гэта свет ***мастацкі***, гэта значыць арганізаваны паводле адмысловых, іманентна ўласцівых яму законаў, пэўную значымасць у ім набываюць усе кампаненты і ўзроўні яго структуры, у тым ліку і тыя, якія звычайна адносяць да фармальных. Праблема суаднесенасці і ўзаемадзеяння светапоглядных, ідэалагічных аспектаў літаратурнай творчасці і элементаў мастацкай формы твора, яго стылявых, моўных асаблівасцей з'яўляецца адной з самых складаных і пакуль што недастаткова распрацаваных у сучасным літаратуразнаўстве. Цяжкасці перш за ўсё ў тым, што ў дадзеным выпадку патрабуецца пераадоленне пэўнай інерцыі даследчыцкага мыслення, стэрэатыпаў традыцыйнага раздзельнага ўспрымання змястоўных і фармальных бакоў літаратуры.

Адным з найбольш плённых, як нам здаецца, шляхоў да развязвання гэтай складанай праблемы з'яўляецца канцэпцыя паэтычнай творчасці рускага вучонага-медыявіста С. Аверынцава. У апошнія гады свайго жыцця выдатны даследчык з трывогай адзначаў змяншэнне ролі жывога гучання сучаснай паэзіі, яе інтанацыйна-меладыйнага, рытміка-выразнага ладу. Многія паэтычныя творы сёння ствараюцца з разлікам не на іх успрыманне на слых, а перш за ўсё на прачытанне, зрокавае ўспрыманне. На думку С. Аверынцава, такое становішча аказвае негатыўны ўплыў на стан сучаснай паэзіі, на яе вобразна-выяўленчыя магчымасці. Як мяркуе даследчык, паэзія такім чынам страчвае ў значнай ступені свой духоўны і эстэтычны патэнцыял, аслабляецца сіла яе эмацыянальнага ўздзеяння на чытача.

С. Аверынцаў выразна выказаў сваё бачанне адной з важнейшых праблем сучаснай паэзіі ў артыкуле «Рытм і тэадыцэя», у якім, як вынікае з самой назвы, рытму ён надае сакральнае значэнне. Менавіта рытм, як універсальную ўласцівасць быццёвай арганізацыі, важнейшую праяву гарманічнай упарадкаванасці С. Аверынцаў разглядае ў якасці вызначальнага фактару станаўлення змястоўна-фармальнага адзінства літаратуры.

«Так званая форма, — заўважае ён, — існуе не для таго, каб змяшчаць так званы змест, як сасуд змяшчае змесціва, і не для таго, каб адлюстроўваць яго, як люстэрка адлюстроўвае прадмет. «Форма» кантрапунктычна спрачаецца са «зместам», дае яму супрацьвагу, якая ў самым сваім прынцыпе *змястоўная*, паколькі «змест» — гэта кожны раз чалавечае жыццё, а «форма» — напамін пра «ўсё», пра «ўніверсум», пра «Божы свет»; «змест» — гэта чалавечы голас, а «форма» — увесь час наяўны арганны фон для гэтага голасу, "музыка сфер"» [3, с. 204].

Такое пашыраючае разуменне формы сапраўды не ўкладваецца ў звыклыя рамкі, што вымушае аўтара змяшчаць гэтае слова (як і антанімічнае яму) у двукоссі. «Змест», які нясе ў сабе чалавек, і які раскрываецца ў канкрэтна-гістарычных сітуацыях, вывяраецца, спраўджваецца «формай» універсальных быццёвых заканамернасцей. Зыходзячы з такой канцэпцыі, С. Аверынцаў выказвае цвёрдае перакананне ў тым, што менавіта гарманічнасць мастацкай формы як праяўлення вышэйшай мэтазгоднасці сусветнага ўладкавання надае канчатковы сэнс тварэнням мастацтва.

У плане закранутай намі праблемы вельмі істотнай уяўляецца ідэя С. Аверынцава, выказаная ў згаданым артыкуле, аб тым, што змест і форма ў літаратурным творы могуць не толькі суладна дастасоўвацца, але і знаходзіцца ў адносінах прадуктыўнага проціпастаўлення. На думку С. Аверынцава, варта таксама ўлічваць і «адпаведнасць кантрасту» змястоўных і фармальных бакоў літаратурнай творчасці, пры якой якраз і дасягаецца напружанасць мастацкага выражэння. Вялікае значэнне ў творах літаратуры, асабліва паэзіі, мае кантрапункт — кантрасная суаднесенасць, канцэптуальная проціпастаўленасць асноўных прынцыпаў мастацкага выяўлення. У «няўхільнай вернасці кантрапункту» бачыць С. Аверынцаў рэлігійную каштоўнасць пушкінскай паэзіі, калі «чалавечаму голасу, які гаворыць сваё, страснае, нядобрае, нястройнае, адказвае штосьці накшталт хору сіл нябесных — праз строфіку, праз адстароненую стройнасць рытму» [3, с. 204].

Пры ўсім непадабенстве светапогляду, творчых манер, паэтыкі рускага і беларускага паэтаў, мабыць, такі агульны падыход правамерным будзе прымяніць да творчасці іх абодвух. Паколькі ён уяўляецца нам універсальным. Гарманізуючую ролю рытму, яго дабратворнае эстэтычнае ўздзеянне на агульны характар мастацкага свету паэта назіраем мы і ў творчасці Купалы. Вядома, з улікам своеасаблівасці менавіта купалаўскай рытмікі.

На адметнасць купалаўскага вершаванага рытму як вызначальнага фактару завяршальнага афармлення індывідуальнага стылю паэта адным з першых звярнуў увагу М. Багдановіч. У творчасці яго самога, як вядома, рытмічная ўпарадкаванасць, інтанацыйна-меладыйная выразнасць маюць надзвычай істотнае зна-

чэнне. Разам з тым, трэба падкрэсліць, што Купала і Багдановіч, як вельмі непадобныя адзін на аднаго па сваім светабачанні і эстэтычных прынцыпах творцы, значна адрозніваліся таксама і сваімі падыходамі да разумення прыроды рытму, яго функцыянальных асаблівасцей, месца ў агульнай мастацкай сістэме. Гэтым тлумачацца даволі крытычныя выказванні Багдановіча адносна празмернай, на яго думку, «буйнасці», стыхійнасці праяўлення рытму ў купалаўскіх творах.

У артыкуле «Глыбы і слаі» (1911) ён адзначае як станоўчыя, так і адмоўныя, на яго думку, бакі купалаўскай рытмікі. Перш за ўсё падкрэслівае такія якасці рытму ў паэзіі Купалы, як яго энергічнасць, напорыстасць, «бойкасць» («бойкі рытм», «буйны, шпаркі»). Рытм з'яўляецца «ўсё ажыўляючым нервам» верша. Гэта рытм, пад уладу якога трапляе чытач. Ён захоплівае чытача, «гіпнатызуе яго, не дае апамятацца, затрымацца і нясе яго ўсё далей і далей» [4, с. 188]. Такі рытм, якім ён успрымаецца Багдановічам, нагадвае сабой нястрымную плынь. Тут ужо станоўчыя характарыстыкі рытму пераходзяць у адмоўныя. Ва ўсякім разе яны супярэчаць таму ўяўленню пра рытмічную ўпарадкаванасць літаратурнага твора, якое характэрна для Багдановіча, што адпавядала яго ўласным крытэрыям мастацкасці. Такі рытм, на думку Багдановіча, становіцца самадастатковым, падпарадкоўвае сабе ўсе астатнія, у тым ліку змястоўныя, кампаненты і ўзроўні твора. Яшчэ ў большай ступені акцэнтавана пазіцыя Багдановіча ў адносінах да рытмічнай «стыхіі», якая расхіствае гарманічную раўнавагу вершаванага твора, у артыкуле «Грицько Чупринка» (1916).

Багдановіч імкнуўся аб'ектыўна ацэньваць ролю рытму ў арганізацыі вершаванага дыскурсу. Яго паэтычная творчасць — прыклад таго, якое важнае значэнне надаваў ён рытмічнай упарадкаванасці верша. Аднак трактоўка рытму Багдановічам, асабліва ў адносінах да паэзіі Купалы, пэўным чынам абмежаваная менавіта аўтарскай канцэпцыяй, індывідуальнымі прыхільнасцямі. Класічная строгасць паэтычнай формы ўваходзіла ў супярэчнасць з рытмічнай мадэллю, якая дапускала больш свабодныя формы мастацкага выяўлення.

Рытм у паэзіі Купалы — з'ява надзвычай шматстайная і шырокаахопная. Яго немагчыма звесці да якога-небудзь аднаго паказчыка, адназначна абмежаваўшы яго функцыянальную сферу. Ён выяўляецца ў творах паэта не толькі ў бурна наплываючых хвалях пачуццёвага ўздыму і маўленчай раскаванасці, але і ў многіх іншых вымярэннях тэкставай прасторы. Можна з упэўнасцю сцвярджаць, што рытм у Купалы выступае структураўтваральным, арганізуючым фактарам. І ў вялікай ступені менавіта дзякуючы ўсёпранікальнасці рытму мастацкі свет Купалы прадстае ў канчатковым выніку як цэласнае ўвасабленне суладных, гарманічных у сваёй аснове адносін паміж асобнымі феноменамі.

Калі зыходзіць з канцэпцыі С. Аверынцава, бачачы ў рытме перш за ўсё выражэнне сусветнай гармоніі, праяўленне вышэйшай Боскай прадвызначанасці, то пры ўважлівым аналізе купалаўскай паэтыкі стане відавочным, што ў ёй прэваліруе якраз дадзены падыход. На ўзроўні паэтыкі ў творах Купалы, мабыць, сапраўды ў найбольш выразным выглядзе выявіліся яго эстэтычныя прыярытэты. Менавіта на гэтым узроўні адбываецца плённае ўзаемадзеянне формы і зместу, гуку і сэнсу ў купалаўскай паэзіі.

У антанімічна арыентаваным, кантрасна акрэсленым мастацкім свеце Купалы рытм набывае асаблівую значымасць. З дапамогай сродкаў рытмічнай інтэнсіфікацыі ўзмацняецца экспрэсіўнасць паэтычнага дыскурсу. Свет чалавека — купалаўскага лірычнага героя — атрымлівае дадатковыя дынамічныя характарыстыкі.

Вобразная, сінтаксічная, рытміка-інтанацыйная структуры купалаўскага верша ў значнай меры арыентаваны на фальклорныя архетыпы. Псіхалагічны паралелізм, сінтаксічныя фігуры, паўторы, таўталагічныя выразы, шчодра скарыстоўваемыя Купалам, родняць яго паэзію са стыхіяй народнай творчасці, з архаічным ладам мастацкага выражэння. Усе сродкі рытмічнай выразнасці ў

купалаўскай паэзіі скіраваны на вырашэнне складаных мастацкіх задач, выяўленне экзістэнцыйнай паўнаты, дыялектычнай супярэчлівасці і дынамічнай напружанасці быцця.

Варта толькі ўслухацца ў рытмічную размеранасць, паўнагучную шырыню і плаўнасць гучання купалаўскага верша, каб улавіць у ім надзвычайную энергетыку, жыццёвую моц, якія ўмацоўваюць дух чалавека, пагаджаюць яго з існым светам, быццём.

Неба, сонца, месяц, зоры,
Людзі, пушча, ўся зямля,
Ўсё да сэрца штось гавора,
Ўсюды бачу моц жыцця;

І пагодай, непагодай
Не магу драмаць, чакаць:
Так і хочацца заўсёды
Песню вечную снаваць;

Добрай доляй, дзіўнай казкай
Сон палошыць з хат нямых,
Пацяшаці сонца ласкай
І старых, і маладых;

Зваці, клікаць на пакосы,
На нязмераны прастор,
Хай зазвоняць смела косы,
Грукне ў лесе хай тапор... [5, с. 31—32]

Структура гэтага верша наогул у вялікай ступені характэрная для ўсёй паэтычнай сістэмы Купалы. Гэтае пастаяннае здваенне, наплыў граматычных форм, як быццам бясконцае снаванне моўнай ніткі, ствараюць атмасферу жыццесцвярджальнага ўзвышэння, выяўляюць устойлівыя быццёвыя апоры. Дзеяслоў ***снаваць*** як увасабленне мэтанакіраванай структурнасці спалучае творчыя памкненні аўтара («песню вечную снаваць») з бязмежжам жыццёвай перспектывы. У гэтым купалаўскім творы, як і ў многіх іншых яго творах, прыкметнае месца займае заклік да абуджэння ад «сну» — падспуднага, засяроджанага на самім сабе існавання. Такім чынам, і ў выразна мажорных па сваёй танальнасці, рамантычна-ўзнёслых паводле настрою творах Купалы, застаецца адчувальнай аўтарская ўстаноўка на сувязь з канкрэтна-гістарычнай рэальнасцю. Драматычна ўспрымаемая апазіцыя паміж рэальным станам рэчаў і рамантычным ідэалам якраз з'яўляецца адным з галоўных стымулаў дынамічнага разгортвання, структуравання мастацкага свету Купалы.

Рамантычная двусветавасць выразна выяўляецца ў паэзіі Купалы якраз на рытміка-інтанацыйным узроўні. Тыя духоўныя і фізічныя намаганні, што робяцца героем па пераадоленні гэтай фатальнай размежаванасці мройлівага і абыдзённага, знаходзяць мастацкае ўвасабленне ў рытмічнай пульсацыі паэтычнага выказвання, спробах перасягнуць нябачную мяжу, злучыць у адно тое, што пастаянна ўнікае ад пэўнага вызначэння.

У такім стане няўстойлівага, плыннага існавання знаходзіцца герой верша «У купальскую ноч», імкненне якога вырвацца з герметычнага кола прадвызначаных і скоўваючых волю абставін застаецца няспраўджаным. Аўтар падае малюнак гэтага, на першы погляд, бессэнсоўнага руху-мітусення героя надзвычай яскравымі, выразнымі штрыхамі:

А ён блудзіць, ходам ходзе
Тамка, тутка, далей, бліжай,
То скрадаецца, як злодзей,
То бярэцца плазам-крыжам.

То абыйме дрэва-елку,
То рукамі водзіць пуста,
То пагоніць з хвойкі белку,
То спужае птушку з куста.

Пад нагамі мох шапоча,
Лісце ласіцца па твары,
Ён шукае і мармоча,
Як не чуе чараў-мараў... [5, с. 25]

Такое падрабязнае, непаспешлівае апісанне шляху героя мае пэўнае значэнне для сюжэтнага развіцця, яно выконвае функцыю рэтардацыі дзеяння, яго запавольвання. Але ці толькі ў гэтым ***эстэтычнае значэнне*** таго, якімі словамі, у якой іх паслядоўнасці і спалучанасці, выражаецца эмацыянальна-псіхалагічная мадальнасць дадзенага паэтычнага выказвання? Гэта рытмічная раскалыханасць, што сваімі нябачнымі сецямі аблытвае героя, уздзейнічае адпаведным чынам і на чытача, запалоньвае яго сваёй чароўнай прыцягальнасцю.

Пры сучасным прачытанні купалаўскай паэтычнай спадчыны мы абавязкова павінны ўлічваць перш за ўсё эстэтычны фактар. Аднак эстэтыка паэтычнай творчасці Купалы якраз выяўляецца найбольш выразна там, дзе слова, як матэрыя і плоць мастацтва, прадстае ва ўсёй сваёй невычарпальнай шматзначнасці, дзе яно адкрываецца ўсімі гранямі свайго мастацкага быцця. Філасофская эстэтыка, прадметам якой з’яўляецца мастацкі светапогляд аўтара і яго праламленне ў творчасці, патрабуе пры звароце да аналізу канкрэтных твораў скаардынаванага ўзаемадзеяння з эстэтыкай, арыентаванай на непасрэднасць і цэласнасць успрымання феноменаў мастацтва. Толькі такім чынам можна пранікнуць у глыбіні падтэксту твораў вялікіх майстроў паэтычнага слова, зразумець унутраныя пабуджальныя матывы іх творчасці.

У розных па сваёй светапогляднай скіраванасці і эмацыянальнай танальнасці вершах Купалы выяўляецца адна агульная характэрная рыса, якая аб’ядноўвае іх, садзейнічаючы ўтварэнню цэласнай мастацкай сістэмы. Яе можна вызначыць як праяўленне гармазуючых інтэнцый мастацкай формы.

Узяць, да прыкладу, такі, прасякнуты рамантычнай настраёвасцю, філасофска-элегічны верш, як «Мінуты шчасця» (1911). У ім цэлая гама адчуванняў — складаных, супярэчлівых, драматычных. Лірычны герой, які ў дадзеным выпадку вельмі блізкі па характары свайго рэфлексавання да аўтара, азірае духоўным зрокам сваё мінулае, разважаючы над хуткаплыннасцю жыцця, няўлоўнасцю хвілін шчасця. Узвышаючы моманты духоўнага азарэння, паэтызуючы іх эстэтычную вартасць, герой разам з тым аддаецца ва ўладу элегічнага настрою, паколькі ўсё, што натхняла яго, застаецца ў мінулым. Яны, гэтыя моманты чалавечага ўзвышэння

Сплылі ў душу з высі высокай
І зацвілі ў ёй яснавока,
Як светласць бледная аблокаў
    На дальнім летнім небасхіле

Цвілі, гулялі пераліўна
Світаннем новым долі дзіўнай;
У казку волі неспажыўнай
    Цяклі нявыплаканай сілай.

Вялі па сцежках нехаджалых,
Арлом узносілі на скалах,
Карону клалі ў міртных хвалах
    На ўсёй будзённасці завілай.

Так асянялі, панавалі,
Як сонца бліск на вод крышталі,

Аж пацягнулі вышай, далей,
    Туды, адкуль сышлі так міла.

Вітаю іх і не вітаю,
Стаю, як пільгрым на расстаю
Ў чужым далёкім недзе краю,
    Як над пустой стаю магілай [5, с. 35—36]

Верш заканчваецца як быццам на песімістычнай ноце, на што асабліва паказвае апошні радок. Сапраўды, лагічнае развіццё думкі паэта прыводзіць нібыта да несуцяшальных высноў. Аднак ці з’яўляюцца яны пацвярджэннем *марнасці* тых высокіх момантаў існавання, якія так узнёсла апеты паэтам? Вядома ж, не. У падтэксце прачытваецца галоўная ідэя — аб тым, што нішто не знікае бясследна. Душа ўзвысілася, узбагацілася гэтымі хвілінамі шчасця, суладнасці з вышэйшым сэнсам быцця. На такое разуменне скіроўвае ўвесь лад верша, яго паэтыка. Архітэктоніка верша, яго строфіка і рыфмоўка, гукапіс — усё якраз падначалена выяўленню пазітыўнага погляду на свет. Апошні радок у кожнай страфе вынесены ў асаблівую пазіцыю, падаецца з водступам. Гэтыя канцавыя радкі, звязаныя адной рыфмай, спалучаюць сабой вечнае з імгненным, асабістае з агульным і ўніверсальным. Яны даюць магчымасць разгортвання тэкставай прасторы верша не толькі па гарызанталі, але і па вертыкалі.

Варта наогул звярнуць увагу на тое, што для паэтычных твораў Купалы характэрна выверанасць структурнай пабудовы, стройнасць архітэктонікі, прадуманасць кампазіцыі. Гэта ніколькі не адмаўляе таго факта, што купалаўская паэзія насычана геніяльнымі празарэннямі, прасякнута імпульсамі інтуітыўнага спасціжэння быцця і яго таямніц. Такая, на першы погляд, як быццам парадаксальная неадпаведнасць на самай справе з’яўляецца праявай заканамернасці вышэйшага парадку. Тут дарэчы будзе зноў згадаць канцэпцыю С. Аверынцава, паводле якой далучанасць мастака да сусветнай гармоніі праяўляецца перш за ўсё праз выразную, класічна выкрышталізаваную форму.

Класічнасць стылю Купалы, гарманічная ўраўнаважанасць усіх складнікаў яго паэтычнай сістэмы дасягаецца ў многім дзякуючы незвычайнай чуйнасці да магчымасцей мастацкай формы як спосабу выражэння адносін да свету. І менавіта ў гэтым праяўляецца найвыразней цэласнасць асобы паэта. Купала як мастак, вядома, змяняўся разам з поступам часу. Але заўсёды заставаўся пры гэтым вялікім мастаком слова, заўсёды захоўвалася ў яго творах мера гарманічнай суладнасці і адпаведнасці. Таму спробы некаторых інтэрпрэтатараў «выявіць» разрыў паміж Купалам-мастаком і Купалам-асобай заўсёды былі і застануцца марнымі. У якасці адказу аднаму з такіх «нізвяргальнікаў» (зусім нядаўні прыклад, аднак не будзем называць імя, каб не ствараць дадатковай рэкламы, паколькі і так мэта падобных «выступаў» адна — піяр) могуць актуальна прагучаць словы С. Аверынцава пра тое, што вялікае глупства спрабаваць злавіць паэтаў на слове, паколькі ў іх паэзіі «заўсёды ёсць не толькі слова, але і таемны, таму што метаславесны, музычны адказ на слова». «Хто мае вушы, няхай чуе гэты адказ, а хто не мае, няхай устрымаецца ад чытання вершаў» [3, с. 204], — дадае вялікі рускі філолаг.

## Спіс літаратуры

1. Гніламёдаў, У. В. Янка Купала: Жыццё і творчасць / У. В. Гніламёдаў. — Мн.: Беларус. навука, 2002. — 238 с.

2. Санюк, Д. К. Эстэтыка творчасці Янкі Купалы / Д. К. Санюк. — Мн: Беларус. кнігазбор, 2000. — 212 с.

3. Аверинцев, С. Ритм и теодицея / Сергей Аверинцев // Новый мир. — 2001. — № 2. — С. 203—205.

4. Багдановіч, М. Поўны збор твораў: у 3 т. — Т. 2 / Максім Багдановіч. — Мн.: Навука і тэхніка, 1993. — 600 с.
5. Купала, Я. Поўны збор твораў: у 9 т. — Т. 3 / Янка Купала. — Мн.: Маст. літ., 1997. — 342 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 17 лютага 2012 года.

## Яўген Гарадніцкі
## «Паэтыка Янкі Купалы: гарманізацыя стыхійнага»

### Рэзюмэ

У артыкуле даследуецца роля гарманізуючага ўплыву рытму і іншых сродкаў мастацкага выражэння на паэзію Янкі Купалы. Паэтычная творчасць Янкі Купалы разглядаецца як цэласная мастацкая сістэма, у якой мае значэнне кожны элемент вершаванай структуры. Аўтар артыкула палемізуе з аднабаковымі поглядамі на купалаўскую паэзію, якія не ўлічваюць змястоўнага значэння паэтычнай формы.

## Jauhen Haradnitski
## «Janka Kupala’s Poetics: Harmonization of Spontaneous»

### Summary

The role of harmonizational influence of the rhythm and other expressive artistic means on Janka Kupala’s poetry is investigated in the article. Janka Kupala’s poetry is considered as an integral artistic system in which every element of a verse structure matters. The author of the article polemizes with one-sided views on Janka Kupala’s poetry that doesn’t take into consideration the notional significance of the poetical form.



Аляксандр КАВАЛЕНЯ, Вячаслаў ДАНІЛОВІЧ

# КАЛЫСКА БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

*(Полацку — 1150 гадоў)*

Гісторыя беларускага народа багатая, гераічная і трагічная, насычаная не толькі цяжкімі выпрабаваннямі, што выпалі на яго лёс у працэсе фарміравання нацыі і набыцця дзяржаўнай незалежнасці, але велічнай і непаўторнай духоўна-культурнай спадчынай, якая з'яўляецца гонарам, упрыгожвае і ўзбагачае сусветную цывілізацыю.

У першых радках Асноўнага Закона нашай дзяржавы Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь невыпадкова падкрэслена: «Мы, народ Рэспублікі Беларусь, …абапіраючыся на шматвяковую гісторыю развіцця беларускай дзяржаўнасці…» Між тым сталася так, што наша грамадства толькі з канца XX ст. актыўна будуе новую незалежную дзяржаву — Рэспубліку Беларусь. Менавіта гэта значна ўзмацняе грамадскую патрэбу вывучэння гістарычнага вопыту дзяржаўнага будаўніцтва, які мае глыбокія карані і непарыўна звязаны з часамі Полацкага княства.

Агульнавядома, што Полацк, — самы старажытны беларускі горад, бацька гарадоў беларускіх, калыска беларускай дзяржаўнасці. Па колькасці знакамітых асоб (дзяржаўных мужоў і асветнікаў, ваяроў і вучоных, дойлідаў і мастакоў) ён не мае сабе роўных сярод іншых гарадоў Беларусі: пачынальнік полацкай княжацкай дынастыі Рагвалод і яго дачка Рагнеда, чые нашчадкі сталі ўладарамі цэлага шэрагу еўрапейскіх краін; легендарны князь Усяслаў Чарадзей, пры якім княства ператварылася ў моцную ўсходнееўрапейскую дзяржаву з развітой і адметнай культурай; знакамітая асветніца, першая ўсходнеславянская святая Еўфрасіння Полацкая і таленавіты майстра-ювелір, стваральнік нацыянальнага сімвала Беларусі крыжа Еўфрасінні Полацкай — Лазар Богша; выдатны ваенны і дзяржаўны дзеяч князь Андрэй Полацкі, які адстойваў суверэнітэт Полацкай зямлі ў часы Вялікага Княства Літоўскага; усходнеславянскі першадрукар Францыск Скарына, які выдаў Біблію на старабеларускай мове на 8 гадоў раней, чым яна была выдадзена на стараанглійскай мове; першы прыдворны паэт расійскіх цароў, выхавацель будучага першага расійскага імператара Пятра I — Сімяон Полацкі і многія-многія іншыя.

Сёння Полацк — адзін з найпрыгажэйшых гарадоў нашай краіны, буйны прамысловы і культурны цэнтр, сапраўдная музейная і турыстычная «мекка» Беларусі. У ім больш за 80 тыс. жыхароў, працуюць каля 30 прадпрыемстваў, прызнанымі лідарамі сярод якіх з'яўляюцца «Полацк-Шкловалакно», «Тэхналіт-Полацк», «Мона», Полацкае вагоннае дэпо, Дом гандлю, «Полацкбудматэрыялы». У горадзе і раёне беражліва ахоўваюцца каля 130 помнікаў гісторыі, культуры і архітэктуры. Акрамя ўсяго — гэта важны сімвал беларускай нацыі і дзяржавы. І гэта ў першую чаргу звязана з яго багатай і слаўнай гісторыяй, якая не можа не выклікаць цікавасці і захаплення.

Разам з тым, высокі ўзровень сучаснага сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця Полацка — несумненная заслуга яго працавітых жыхароў, інтэлі-



*Полацк. Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр.*

генцыі, вучоных і гарадскога кіраўніцтва на чале з А. Пазняком, якія займаюцца карпатлівай штодзённай працай, упэўнена і спакойна пацвярджаюць сваю любоў да роднага горада, берагуць і шануюць яго гісторыю, падтрымліваюць прывабны вобраз Полацка ў вачах беларускіх і замежных грамадзян.

Вялікая праца ў гэтым кірунку вядзецца ў Полацкім дзяржаўным універсітэце на чале з рэктарам, доктарам тэхнічных навук, прафесарам Д. Лазоўскім. Вельмі шмат робіць для захавання гісторыка-культурнай спадчыны Полаччыны загадчык кафедры айчыннай і ўсеагульнай гісторыі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт Д. Дук, які сумесна з археолагамі Інстытута гісторыі НАН Беларусі плённа ажыццяўляе археалагічныя даследаванні на тэрыторыі горада.

Канечне, перад гісторыкамі стаяць задачы па ліквідацыі яшчэ існуючых «белых плям» у вывучэнні нашага мінулага. У сучасных умовах кіраўніцтва і калектыў Інстытута гісторыі НАН Беларусі імкнуцца актыўна развіваць інавацыйны напрамак сваёй дзейнасці: укараняць вынікі навуковых даследаванняў у гістарычную адукацыю, папулярызаваць дасягненні гістарычнай навукі, прапагандаваць гісторыка-культурную спадчыну. Наладжаны трывалыя сувязі з установамі адукацыі, педагогамі і насельніцтвам канкрэтных рэгіёнаў. Дзейнасць вучоных-гісторыкаў накіроўваецца на сацыяльную інавацыйнасць, спалучэнне фундаментальных даследаванняў з практыкай, сувязь навукі з жыццём грамадства. Не абыдзена ўвагай вывучэнне праблем гісторыі Беларускага Падзвіння, у першую чаргу — старажытнасцей Полаччыны.

У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі ад 17 снежня 2007 г. № 647 «Аб зацвярджэнні Комплекснай праграмы развіцця г. Полацка на 2008—2012 гады» ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі створана пастаянна дзеючая Полацкая комплексная археалагічная экспедыцыя на чале з загадчыкам цэнтра гісторыі даіндустрыяльнага грамадства, доктарам гістарычных навук, прафесарам В. Ляўко. У склад экспедыцыі разам з вучонымі інстытута ўключаны навукоўцы Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка.

У выніку праведзены археалагічныя раскопкі на тэрыторыі гарадзішча і пасада старажытнага Полацка (М. Клімаў), у гістарычным цэнтры горада (Д. Дук), а таксама археалагічныя даследаванні на іншых аб'ектах, якія ўваходзілі ў склад Полацкай зямлі: Віцебск і Друцк (В. Ляўко), пасяленчыя структуры акругі Полацка (М. Клімаў, Д. Дук) і акругі Мінска (Ю. Заяц, А. Вайцяховіч), курганных могільнікаў Полацкай зямлі (В. Ляўко, Д. Дук, А. Вайцяховіч, П. Кенька).

У 2011 г. выдадзены тэматычны зборнік «Вывучэнне археалагічных помнікаў на тэрыторыі Полацкай зямлі (да 1150-годдзя Полацка)», у якім прадстаўлены навейшыя напрацоўкі навукоўцаў Інстытута гісторыі Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка.

Вынікі даследаванняў сведчаць, што першапачатковым насельніцтвам полацкага гарадзішча прыкладна з VIII ст. да н. э. былі балты днепра-дзвінскай археалагічнай культуры. Дзесьці ў V—VI стст. гарадзішча засялілі носьбіты таксама балцкай культуры тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі. Яны акрамя асваення гарадзішча заснавалі ля яго падножжа селішча. Пасля VI ст. плошча даславянскага Полацка складала каля 8 гектараў.

У канцы VIII—X стст. полацкае гарадзішча асвойвае славянскае насельніцтва культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў, якое з'яўляецца заснавальнікам летапіснага «града» Полацка племяннога перыяду. Узаемаадносіны новага і аўтахтоннага насельніцтва хутчэй за ўсё мелі мірны характар, бо падчас даследаванняў якіх-небудзь слядоў ваеннага канфлікту не выяўлена. Дамінуючай у працэсе горадаўтварэння была славянская культура крывічоў-палачан. Археолагамі атрыманы бясспрэчныя сведчанні таго, што першае славянскае насельніцтва пражывала на гарадзішчы ў 780—820-х гг., раней першага летапіснага згадвання Полацка. У прыватнасці, падчас раскопак на гарадзішчы выяўленыя куфічныя дырхемы — сярэбраныя манеты Арабскага Халіфата, адчаканеныя не пазней 818 г., яны і патрапілі ў горад у 820—840-я гг. Дадзеныя радыёвугляроднага аналізу рэшткаў абгарэлай драўніны дазволілі вызначыць дату пачатковага славянскага засялення гарадзішча — 780 г.

Да X ст. на селішчы пачалі актыўна развівацца рамёствы, сляды якіх выяўлены археолагамі. У прыватнасці, вывучаны рэшткі ювелірнай майстэрні; старажытных сядзіб, якія складаюцца са зрубных дамоў слупковай канструкцыі і гаспадарчых пабудоў (стайняў, хлявоў, свірнаў). З-за росту насельніцтва ўжо не хапала месца на селішчы, таму славяне заснавалі невялікія пасяленні на правым беразе Палаты. На месцы селішча ў канцы X ст. утварыўся вакольны горад Полацка, умацаваны драўлянай сцяной з вежамі і гароднямі (зрубнымі памяшканнямі для воінаў і складоў узбраення). Гэтая драўляная сцяна была пабудавана на невысокім вале, падножжа якога ўмацоўвалі камяні-валуны. Адна са старажытных скандынаўскіх саг — пра Тыдрыка Бернскага — змяшчае згадку пра каменныя сцены старажытнага Полацка. Нараўне з вакольным горадам археолагі зафіксавалі ўмацаванні гарадзішча. Першапачатковы вал, насыпаны ў канцы X ст., неаднаразова падсыпалі, і ў выніку гарадзішча стала добра ўмацаваным цэнтрам, дзяцінцам. На гарадзішчы жылі князь з дружынай, разам з княжацкім дваром размяшчаліся сядзібы збройнікаў і ювеліраў.

Дынамічнае развіццё рамёстваў, узмацненне ролі гандлю да канца X ст. прывяло да паступовага асваення новых тэрыторый на поўдзень на ворных палях, размешчаных на поўдзень ад вакольнага горада. Пазней утварыўся найбуйнейшы пасад пад назвай «Вялікі». Магчыма ўжо ў канцы X ст. узніклі першыя пасады — Запалоцкі пры вусці Палаты на яе правабярэжжы і Слабадскі на левым беразе Заходняй Дзвіны. У выніку развіцця пасадаў у другой палове XI ст. плошча горада павялічылася больш чым у 20 разоў!

Сярэднявечнае насельніцтва на тэрыторыі Полацкай зямлі досыць доўга прытрымлівалася язычніцкіх вераванняў, важнай асаблівасцю якіх было глыбокае шанаванне камянёў, крыніц, азёр, рэк і дрэў. Да прыняцця хрысціянства насельні-

кі горада хавалі памерлых на курганным некропалі. Полацк X ст. быў акружаны двума вялікімі некропалямі — т. зв. усходнім і паўночным. Плошча кожнага дасягала 50 гектараў. Паўночны курганны некропаль распасціраўся ад Запалоцкага пасада да Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра ўздоўж правага берага Палаты. Час яго разбурэння не вядомы, але хутчэй за ўсё гэта адбылося ў XVII ст. Усходні некропаль захаваўся да канца XVIII ст. Ягоныя курганы ў пісьмовых крыніцах XVII—XVIII стст. зваліся — «валатоўкі» і «горы Балгарэйскія». У такіх курганах хавалі і дружыннікаў з бліжэйшага княжацкага асяроддзя. Доказ таму — знаходка ў адным з разбураных курганоў жалезнага мяча X ст.

Першая хрысціянская абшчына з'явілася ў канцы X ст. У скандынаўскіх сагах маецца інфармацыя аб дзейнасці ў Полацкай зямлі ісландскага місіянера Торвальда Вандроўніка, які заснаваў старажытны манастыр — св. Іаана Прадцечы на Востраве, размешчаным на Заходняй Дзвіне.

Падчас княжання ў 1044—1101 гг. знакамітага Усяслава Брачыслававіча (Чарадзея) найбольш ярка фіксуюцца распаўсюджванне хрысціянства і яго падтрымка дзяржаўнай уладай. Распаўсюджваецца культ першых усходне-славянскіх святых Барыса і Глеба, устанаўліваюцца цесныя сувязі з Кіева-Пячэрскім манастыром. Пры раскопках сустракаецца вялікая колькасць прадметаў хрысціянскага культу (нацельныя крыжыкі, абразкі). Нараўне з новаўвядзеннямі, звязанымі з распаўсюджваннем хрысціянства, захоўваецца мноства язычніцкіх элементаў (насыпанне курганоў, выкарыстанне агню ў пахаваннях, рытуальная ежа і інш.) Хрысціянская царква вымушана была мірыцца з падобнымі праявамі і нават прыстасоўваць асобныя язычніцкія элементы да сваіх рытуалаў. Адбывалася т. зв. сінкрэтызацыя рэлігій, якая часам разглядаецца як двоеверства. Тым не менш, прынядце і распаўсюджванне новай рэлігіі значна ўзмацніла культурныя і гандлёвыя сувязі з хрысціянскімі краінамі, атрымала распаўсюджванне царкоўнае будаўніцтва, пачало фарміравацца духавенства, якое было прадстаўлена адукаванымі і ўплывовымі людзьмі. Яскравы прыклад — першая святая зямлі беларускай Еўфрасіння Полацкая.

У Полацку XII ст. існавала больш за 10 культавых збудаванняў. Увогуле храмы Беларусі ўяўляюць самабытную інтэрпрэтацыю архітэктурных форм і мастацкіх стыляў, як Усходу, так і Захаду Еўропы. Чырвонай ніткай у гісторыі храмабудаўніцтва праходзіць архітэктурная спадчына старажытнага Полацка.

У сярэдзіне XI ст. быў узведзены велічны храм у гонар Сафіі — першы помнік беларускага манументальнага дойлідства. Ён стаў сімвалам палітычнай незалежнасці і магутнасці княства — у ім адбываліся найбольш важныя грамадскія падзеі: пасаджэнне на княжанне, абвяшчэнне вайны і міру, прысяга на вернасць князю, сустрэчы іншаземных паслоў, захоўваліся дзяржаўны архіў і казна, вялося летапісанне. За сваю шматвяковую гісторыю полацкі Сафійскі сабор неаднаразова разбураўся і адраджаўся падобна чароўнай птушцы Фенікс, сімвалізуючы моц духа Беларусі.

Найбуйнейшую ролю ў эканамічным жыцці адыгрываў гандаль. Полацк быў важным цэнтрам міжнароднага абмену ў маштабах усёй Усходняй Еўропы. Ён вяршынстваваў ва ўнутраным гандлі сваёй зямлі, у ім знаходзіўся значны па памерах рэгіянальны рынак. Полацк быў добра вядомы замежным купцам яшчэ з часоў знакамітага шляху «з варагаў у грэкі». Акрамя гарадоў Русі, ён падтрымліваў таксама цесныя сувязі з купцамі з краін басейна Балтыйскага мора: Скандынавіі і Германіі. У дамовах XIII ст. у якасці гандлёвага партнёра Полацка называецца нават галоўны горад Ганзейскага саюза — Любек.

У сярэдзіне XIII ст. пачаўся працэс інтэграцыі Полацкай зямлі ў Вялікае Княства Літоўскае. Гэты працэс быў паступовым і заняў працяглы час. У прыватнасці, удзельнае княства існавала яшчэ каля паўтара стагоддзя. Дзякуючы гэтай паступовасці зямля захоўвала шматлікія рысы свайго эканамічнага ўкладу, сацыяльных адносін, грамадска-палітычнага жыцця, сфарміраваныя яшчэ ў

эпоху яе незалежнасці. Такая пераемнасць — адна з найхарактэрных рыс гісторыі горада. Полацкае ўдзельнае княства з самага пачатку займала вельмі важнае месца ў сістэме земляў ВКЛ. Князямі станавіліся толькі бліжэйшыя сваякі вялікіх князёў літоўскіх: браты, сыны, пляменнікі. Гэта былі такія значныя постаці агульнадзяржаўнага маштабу, як пляменнік Міндоўга Таўцівіл, брат Гедыміна Воін, сын Гедыміна Нарымонт (Глеб) і сын Альгерда Андрэй. Асабліва актыўнай з'яўлялася дзейнасць Андрэя Полацкага, які пасля смерці свайго бацькі, вялікага князя літоўскага Альгерда прэтэндаваў на вярхоўную ўладу ў дзяржаве і прыняў тытул вялікага князя полацкага. Аднак эпоха ўдзельных княстваў ужо адыходзіла ў мінулае, і Андрэй Альгердавіч стаў апошнім полацкім князем. Пачынаючы з часоў Вітаўта Полацкам кіравалі вялікакняжацкія намеснікі. Аднак і тады гэта былі слынныя вяльможы дзяржавы, прадстаўнікі магнацкіх сем'яў, некаторыя з якіх насілі княжацкі тытул. Высокі статус намеснікаў быў яшчэ раз пацверджаны каля 1504 г., калі яны сталі называцца ваяводамі.

Гарантыі аўтаноміі Полацкай зямлі ў складзе Вялікага Княства Літоўскага замацаваны ў абласным прывілеі, які выдаў у канцы XIV ст. Вітаўт. У далейшым вялікія князі літоўскія, пераемнікі Вітаўта, пацвярджалі полацкі абласны прывілей і дапаўнялі яго новымі артыкуламі. Палажэнні прывілея адыгрывалі ў гісторыі Полацкай зямлі настолькі вялікае значэнне, што вядомы гісторык У. Пічэта нават назваў яго полацкай канстытуцыяй.

Мясцовыя воіны разам з прадстаўнікамі іншых гарадоў і земляў Вялікага Княства Літоўскага прынялі 15 ліпеня 1410 г. удзел у эпахальнай Грунвальдскай бітве. Полацкая харугва названа ў ліку 40 палкоў Вялікага княства, якія ў саюзе з польскім войскам разграмілі адну з наймацнейшых армій Еўропы — войска Тэўтонскага ордэна.

Вельмі важную ролю ў сацыяльна-эканамічным развіцці Полацка адыграла магдэбургскае права. Ён атрымаў яго ад вялікага князя літоўскага Аляксандра 4 кастрычніка 1498 г. адным з першых гарадоў на беларускіх землях, а ў Падзвінскім жа рэгіёне гэта быў увогуле першы выпадак. Аб устойлівасці і запатрабаванасці гэтага інстытута сведчыць тое, што полацкі магістрат працягваў функцыянаваць нават у 1654—1667 гг., калі горад знаходзіўся пад уладай расійскага цара. Полацк страціў магдэбургскае права толькі ў сувязі з уваходам у склад Расійскай імперыі.

Нельга не спыніцца і на яшчэ адным знакавым феномене полацкай культуры — бібліятэцы Сафійскага сабора XVI ст. Гэты вялікі кнігазбор уключаў літургічныя і філасофскія творы, біблейскія і новазапаветныя тэксты і кампіляцыі, сярод іх апакрыфічныя, гістарычныя працы, літаратурныя помнікі і многае іншае. Па колькасці кніг бібліятэка не саступала такім вядомым зборам славянскіх кніг у ВКЛ, як віленская вялікакняжацкая бібліятэка і бібліятэкі Супрасльскага і Слуцкага манастыроў.

Ператварэнне Полацка ў буйны адукацыйны цэнтр звязана з дзейнасцю езуітаў. Першая на тэрыторыі Беларусі езуіцкая школа была адкрыта менавіта ў гэтым горадзе ў 1581 г. па ініцыятыве вялікага князя літоўскага Стэфана Баторыя. Першапачаткова яна налічвала толькі 5 студэнтаў. Але ўжо ў 1605 г. стала сярэдняй школай (калегіумам), а затым і вышэйшай. Падтрымка дзяржаўнай улады, перадавы на той час спосаб выкладання спрыялі хуткаму павелічэнню колькасці студэнтаў. Ужо праз некалькі дзесяцігоддзяў іх налічвалася каля 170 чалавек. У процівагу ўсё больш папулярнаму Езуіцкаму калегіуму пры полацкім Богаяўленскім брацкім манастыры была заснавана свая школа. Пачатак ёй быў пакладзены ў 1633 г., калі браслаўскі земскі суддзя Савасьцян Мірскі падарыў Багаяўленскай царкве палову плаца з правам пабудовы «школы для навукі дзецям хрысціянскім». Выкладанне адразу выйшла на высокі ўзровень. Аснову выкладчыцкага саставу склалі выпускнікі Кіева-Магілянскай акадэміі, сярод якіх быў і Сімяон Полацкі.

На жаль, сам Полацк, які даў свету першага ўсходнеславянскага кнігадрукара Францыска Скарыну, досыць позна атрымаў сваю друкарню. Яна працавала ў 1787 — 1820 гг. пры Езуіцкім калегіуме, а з 1812 г. — акадэміі. Пасля забароны ў Расійскай імперыі дзейнасці езуітаў уся маёмасць акадэміі перайшла Вышэйшаму піярскаму вучылішчу. Пры ім друкарня дзейнічала з 1824 па 1831 гг. Усяго з полацкай друкарні выйшла больш за 500 выданняў, якія ў асноўным насілі рэлігійны характар, але была і значная колькасць вучэбнай літаратуры. Тут выдаваўся і першы часопіс на тэрыторыі Беларусі «Miesięcznik połocki», які меў 6 раздзелаў: літаратурны, маральна-філасофскі, фізіка-матэматычны, гісторыі, крытыкі і літаратурных вестак. Выйшла 14 яго нумароў, якія адрозніваліся добрым афармленнем і зместам.

Дарэчы, у сучасным Полацку ў будынку Брацкай школы канца XVIII ст. дзейнічае вельмі цікавы і шыкоўны Музей беларускага кнігадрукавання, дзе экспануецца больш як 1500 прадметаў, якія расказваюць аб гісторыі беларускай кнігі (рукапіснай і друкаванай); дакніжных і кніжных формах, паперы, тэхніках ілюстрацыі, тыпах і відах друкаванай прадукцыі; беларускіх асветніках, чые жыццё і творчасць звязаны з выданнем кніг.

У час Айчыннай вайны 1812 г. Полацк стаў месцам кровапралітных баёў расійскіх войскаў з напалеонаўскай арміяй. Па сённяшні дзень адзін з гарадскіх мастоў праз Палату завецца «Чырвоным». У 1850 г. у гонар герояў гэтай вайны быў узведзены велічны помнік з чыгуну і бронзы, які, на жаль, у 1930-я гады разбураны. Аднак да гонару палачан зусім нядаўна ён адноўлены.

Найцяжэйшым выпрабаваннем для жыхароў, як і для ўсёй краіны стала Вялікая Айчынная вайна. Жорсткія баі пад горадам разгарнуліся ўжо ў пачатку ліпеня 1941 г. Нягледзячы на ўпартае супраціўленне савецкіх воінаў, фашысты захапілі Полацк. Пачаўся адзін з самых змрочных перыядаў у гісторыі Полаччыны. Захопнікі знішчылі 150 тыс. ваеннапалонных і мірных жыхароў, усе прадпрыемствы, культурна-асветніцкія ўстановы, 96 працэнтаў жыллёвага фонду. Але палачане не скарыліся. З лета 1941 г. разгарнулі актыўную барацьбу партызаны Полацкай партызанскай зоны. У горадзе дзейнічала патрыятычнае падполле. За здзейсненыя подзвігі Героямі Савецкага Саюза сталі І. Аляксееў, С. Жукаў, Л. Корнеў, С. Пашкевіч, А. Пісарэнка, З. Тусналобава-Марчанка, Л. Чаркас, В. Яронька, Т. Марыненка.

Памяць пра тых, хто абараніў свабоду і незалежнасць нашай краіны ў гады Вялікай Айчыннай вайны, свята захоўваецца ў горадзе. Іх імёнамі названы вуліцы, дзейнічае Музей баявой славы, больш як тысяча экспанатаў якога расказваюць аб абароне, акупацыі і вызваленні Полацка ад нацысцкіх захопнікаў, партызанскім руху на Полаччыне, палачанах-удзельніках Вялікай Айчыннай вайны. Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 29 чэрвеня 2009 г. горад узнагароджаны вымпелам «За стойкасць і мужнасць ў гады Вялікай Айчыннай вайны».

Гісторыя Полацка настолькі багатая і разнастайная, што яшчэ застаецца шмат напрамкаў для яе навуковых даследаванняў. Таму на гэты год запланаваны працяг палявых археалагічных даследаванняў. Да юбілею прымеркаваны выхад фундаментальнай калектыўнай манаграфіі «Полацк» у серыі «Старажытныя гарады Беларусі»; правядзенне разам з гарадскім выканаўчым камітэтам, Полацкім дзяржаўным універсітэтам, Нацыянальным Полацкім гісторыка-культурным музеем-запаведнікам Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Полацк і Полацкая зямля ў гісторыі і культуры Еўропы (да 1150-годдзя першай летапіснай узгадкі Полацка)», з удзелам вядомых айчынных і замежных даследчыкаў.

Пры фінансавай падтрымцы Беларускага фонду фундаментальных даследаванняў вучоныя Інстытута гісторыі НАН Беларусі разам з расійскімі калегамі плённа працуюць па выкананні шэрагу навуковых праектаў, прысвечаных полацкай гісторыі.

Так, антраполагі інстытута на чале з загадчыкам аддзела антрапалогіі і экалогіі, доктарам медыцынскіх навук, прафесарам Л. Тэгакай распрацоўваюць праект «Антрапалогія старажытнага і сучаснага насельніцтва Полацкай зямлі». Ужо атрыманы сведчанні таму, што насельніцтва Полаччыны X—XIII стст. характарызавалася адносна добрай для сярэднявечча дэмаграфічнай сітуацыяй, разам з тым працягласць жыцця сельскіх жыхароў у XVIII—XIX стст., у адрозненне ад сінхронных па часе груп з тэрыторыі Заходняй і Цэнтральнай Еўропы, была ніжэйшай.

Супрацоўнікі аддзела гісторыі Беларусі Сярэдніх вякоў і пачатку Новага часу на чале з яго загадчыкам, кандыдатам гістарычных навук, дацэнтам А. Грушам ажыццяўляюць праект «Фарміраванне пісьмовай культуры ў сферах камунікацыі і права Полацкай зямлі ў XIII — пачатку XVI ст.». Імі вызначана, што ў фарміраванні пісьмовай культуры Полаччыны можна вылучыць два этапы: канец X — першая палова XIV ст. і другая палова XIV— пачатак XVI ст. На першым этапе галоўным цэнтрам пісьменнасці была царква, па аб’ёме дамінавалі літургічныя пісьмовыя помнікі. У свецкай сферы дакументы існавалі ў асноўным у выглядзе карэспандэнцыі. На другім этапе пісьменнасць была ўключана і ў прававую сферу. Узнікненне прававых дакументаў, павялічэнне іх аўтарытэту, набыццё імі абавязковага статусу прывяло да сур’ёзных змен у арганізацыі ўлады і кіравання. Пісьменнасць падтрымлівала функцыянаванне інстытутаў улады, упарадкоўвала бюракратычныя метады працы, стала састаўной часткай адміністрацыйнай дзейнасці. Пашырэнне і рост значэння прававой пісьменнасці прывялі да з’яўлення «профільных спецыялістаў» — пісараў і дзякаў. Аб’ём іх работы павялічваўся па меры павялічэння відаў дакументаў. Полацк стаў адным з цэнтраў дзелавой перапіскі з замежнымі гандлёвымі партнёрамі. З’явіліся спрыяльныя ўмовы для рэцэпцыі ў Полацкай зямлі выдадзенага ў 1529 г. Статута Вялікага Княства Літоўскага. Пісьменнасць стварала мабільныя каналы абмену інфармацыяй паміж людзьмі аднаго грамадства, рознымі грамадствамі, пашырала веды.

За апошнія гады беларускімі вучонымі зроблены значны крок наперад у справе вывучэння гісторыі Полацка і Полаччыны. Вынікі найноўшых навуковых даследаванняў зноў і зноў пацвярджаюць багацце невычэрпнай крыніцы старажытнай мінуўшчыны гэтага рэгіёна, якая з’яўляецца адной са стрыжнёвых і асноватворных частак агульнабеларускай гісторыі. Пры гэтым можна з упэўненасцю сцвярджаць, што наперадзе чакаецца яшчэ нямала цікавых знаходак і адкрыццяў.



**Міхась КАСЦЮК**

# БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ ЯК ФОРМА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАЛІТЫКІ

**Пачатковыя этапы беларусізацыі.** Адносна дэмакратычная новая эканамічная палітыка, на аснове якой адбывалася аднаўленне, а таксама першапачатковае і далейшае развіццё гаспадаркі і культуры, стала падмуркам і для іншых напрамкаў не толькі культурнага, але і нацыянальнага будаўніцтва. Гэтаму садзейнічалі прынятыя ў пачатку 20-х гадоў XX стагоддзя рашэнні вышэйшага партыйнага органа — з’ездаў РКП(б): X (сакавік 1921 г.) і XII (красавік 1923 г.). Сярод іншага яны арыентавалі цэнтральныя і мясцовыя партыйныя і савецкія структуры на стварэнне адпаведных умоў для развіцця шматлікіх нацый і народнасцей у межах савецкай дзяржавы.

Праблема нацыянальнага станаўлення з’яўлялася асабліва актуальнай для Беларусі, дзе на працягу доўгага знаходжання спачатку ў складзе Рэчы Паспалітай, а затым Расійскай імперыі і ў выніку правядзення гэтымі краінамі адпаведна паланізатарскай і русіфікатарскай палітыкі быў нанесены вялікі ўрон інтарэсам тытульнай, карэннай беларускай нацыі ў яе культурным развіцці. Нягледзячы на захаванне этнаграфічна-нацыянальных асноў развіцця, патрэбна было аднаўленне і далейшая эвалюцыя шмат якіх іх кампанентаў. Асабліва гэта тычылася адраджэння беларускай мовы, рашучага пашырэння сферы яе выкарыстання, ужывання ў адукацыйнай сістэме, іншых напрамках культурнага будаўніцтва дзейнасці дзяржаўных устаноў, на побытавым і іншых узроўнях.

Неабходнасць такой працы значная частка грамадства адчувала пастаянна. Аднак у часы панавання расійскага самадзяржаўя і актыўнага правядзення палітыкі русіфікацыі гэтыя працэсы не маглі сябе праявіць. З падзеннем царызму і актывізацыяй беларускага нацыянальнага руху дзейнасць у гэтым напрамку ажывілася. Практычна ўсе нацыянальна арыентаваныя партыі і рухі не абыходзілі гэтую праблему ў сваіх праграмах і практычных дзеяннях.

Згодная дзейнасць актывізавалася з усталяваннем савецкай улады і абвяшчэннем ёю права нацый на самавызначэнне аж да аддзялення і стварэння самастойных дзяржаў. Гэтаму садзейнічалі работа і рашэнні Першага ўсебеларускага кангрэса, культурна-асветніцкая дзейнасць органаў Беларускай Народнай Рэспублікі. У пэўнай ступені ў дадзеным напрамку працавалі бальшавіцкія арганізацыі і савецкія ўстановы.

Адбыліся пэўныя зрухі ў адраджэнні школьнай справы з пераважна беларускай мовай навучання. У 1919—1920 гадах на Міншчыне працавалі да 200 такіх пачатковых школ. У Будславе, Вільні, Гародні, Мінску, Слуцку, Навагрудку з’явіліся беларускамоўныя гімназіі. Значная ўвага надавалася падрыхтоўцы настаўніцкіх кадраў, каб яны маглі працаваць у беларускамоўных школах. Пачынаў дзейнасць шэраг беларускіх выдавецтваў. Усё гэта рабілася ў складаных умовах грамадзянскай вайны, змагання з нямецка-кайзераўскай і польскай акупацыямі значнай часткі беларускіх зямель.

Заканчэнне ваенных дзеянняў стымулявала працу па адраджэнні, у першую чаргу аднаўленні распаўсюджання беларускай мовы. Найперш ініцыятыва належала актыўным дзеячам нацыянальнага руху, асабліва тым, якія мелі для гэтага пэўныя магчымасці, займаючы тыя ці іншыя дзяржаўныя пасады. Так, ужо ў канцы 1920 года да кіраўнікоў КП(б)Б звярнуўся з запіскай П. Ільючонак, які працаваў у розных беларускіх установах. Вынікам гэтага звароту стала адкрыццё пры Наркамасветы рэспублікі курсаў беларусазнаўства. Асноўнаю іх мэтай з'яўлялася падрыхтоўка настаўнікаў па беларускай мове.

Усевалад Ігнатоўскі, будучы народным камісарам земляробства, а затым асветы БССР ініцыіраваў пачатак пераводу справаводства гэтых ведамстваў на беларускую мову. У Наркамаце замежных спраў БССР такая праца пачалася ў 1921 годзе па ініцыятыве намесніка наркама А. Бурбіса.

Заканамерна, што ініцыятарам работы па адраджэнні беларускай справы ў БССР выступаў Наркамат асветы і яго аддзелы на месцах. Менавіта ў выніку падрыхтаванага ім даклада лютаўская сесія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта саветаў рэспублікі ў 1921 годзе разгледзела пытанне аб народнай адукацыі і прыняла адпаведную пастанову. Паказальна і тое, што ў ёй быў пацверджаны дэкрэт Саўнаркама Літоўска-Беларускай ССР, прыняты ў 1919 годзе, аб поўным раўнапраўі ўсіх мясцовых моў, якімі ў межах ССРБ прызнаваліся беларуская, руская, габрэйская, польская.

Народнаму камісарыяту асветы прадпісвалася прыняць меры да ўзмацнення работы на беларускай мове. Неабходна было зыходзіць з няўхільнай перспектывы планамернага і паступовага пераходу ўстаноў, у якіх навучаюцца і выхоўваюцца дзеці беларусаў, на іх родную мову выкладання.

Вызначаліся задачы, якія павінен быў вырашыць Народны камісарыят асветы БССР. У тым ліку стварыць асобныя дадатковыя курсы беларускай мовы для работнікаў усіх школ, дзе навучаліся дзеці-беларусы. Ва ўсіх школах другой ступені, а таксама на курсах для падрыхтоўкі работнікаў інструктарскіх курсаў, спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў Беларусі, незалежна ад мовы выкладання на іх, уводзілася абавязковае выкладанне беларускай мовы як асобнага прадмета. Як ударная задача ўспрымалася выданне падручнікаў, дзіцячага часопіса, навукова-папулярнай і палітычнай літаратуры.

Нават у тых надзвычай цяжкіх эканамічных абставінах выдзялялася дзесяць мільёнаў рублёў на стварэнне ў Мінску цэнтральнай беларускай бібліятэкі. Пры гэтым даручалася Наркамасветы рэспублікі звярнуцца ў Наркамасветы РСФСР з хадайніцтвам аб вяртанні з кнігасховішч кніг на беларускай мове ці якія адносяцца да розных галін беларускай навукі. Для павелічэння колькасці настаўнікаў было вырашана хадайнічаць перад Рэўваенсаветам рэспублікі аб тэрміновым адкамандзіраванні з Чырвонай Арміі школьных работнікаў — ураджэнцаў Беларусі. З гэтай жа мэтай ставілася задача звярнуцца ў Наркамасветы РСФСР аб вяртанні ў распараджэнне Наркамасветы БССР настаўнікаў, ураджэнцаў Беларусі, для іх уладкавання выдзялялася 5 мільёнаў рублёў. Пастанова падтрымлівала ўсе мерапрыемствы Народнага камісарыята асветы БССР па стварэнні дзяржаўнага беларускага ўніверсітэта.

Істотную ролю ў забеспячэнні кадрамі адыграў зварот ЦВК Беларускай ССР да культурных работнікаў, ураджэнцаў Беларусі, якія ў той час працавалі ў РСФСР, на Украіне і інш. У прыватнасці, адзначалася, што «польскія паны і ксяндзы насільна навязвалі беларускаму сялянству польскую мову, а царскія чыноўнікі і папы займаліся насільнай русіфікацыяй». ЦВК, падцвярджаючы раўнапраўе ўсіх моў рэспублікі, адзначаў, што Народны камісарыят асветы ў сваёй рабоце зыходзіць з няўхільнай перспектывы планамернага і паступовага пераходу тых устаноў, дзе вучацца і выхоўваюцца дзеці-беларусы, на беларускую мову.

Праца па выкананні рашэнняў гэтай сесіі ЦВК дала пэўныя станоўчыя вынікі. У прыватнасці, з 1922 года сталі даволі актыўна выдавацца школьныя падручнікі на нацыянальных мовах, у першую чаргу беларускай. Павялічылася колькасць выданняў на ёй і па іншых накірунках. Калі ў 1921 годзе ў рэспубліцы па-беларуску выйшлі 22 кнігі, то на працягу 1924/1925 гаспадарчага года — 101.

**Партыйна-дзяржаўныя рашэнні.** Важную ролю ў фарміраванні і правядзенні палітыкі беларусізацыі мелі партыйныя рашэнні, прынятыя ў 1923 годзе. Так, у рэзалюцыі VII з'езда КП(б)Б (XII Усебеларускай партыйнай канферэнцыі), які адбыўся ў сакавіку, адзначалася, што шматвяковы нацыянальны ўціск і русіфікатарская палітыка царскага ўрада не далі магчымасці нармальна развівацца беларускай культуры. Камуністычная партыя ў поўнай згодзе са сваёй праграмай у галіне нацыянальнага пытання павінна прыняць усе меры да наладжвання работы на беларускай мове, стварэння нармальных умоў для развіцця беларускай культуры.

Пашыраны пленум ЦК КП(б)Б, які адбыўся ў ліпені 1923 года, зацвердзіў пастанову «Канкрэтызацыя платформы па нацыянальным пытанні, прынятай за аснову Палітбюро ЦК РКП(б), ва ўмовах БСС Рэспублікі». У прыватнасці, ставілася задача, каб ва ўсіх наркаматах і гарадскіх дзяржаўных установах на першы час, аднак, па магчымасці, неадкладна, мець частку супрацоўнікаў, якія ведаюць беларускую мову абавязкова і іншыя: габрэйскую, рускую, польскую (у залежнасці ад функцый даных устаноў і тых пластоў насельніцтва, якія пераважна звязаны сваімі жыццёвымі інтарэсамі з імі).

Кіраўнікі і супрацоўнікі такіх дзяржаных устаноў на працягу бліжэйшага года абавязваліся вывучыць дзяржаўную беларускую мову і ведаць не менш як тры мясцовыя. У далейшым, таксама на працягу года гэтыя лічбы падлягалі паступоваму ўводу ў справаводства — у першую чаргу беларуская — у органах НКАсветы, НКЗема, судовых інстанцыях, на пошце і тэлеграфе (найперш у павятовых і валасных аддзяленнях).

Рэзалюцыя таксама прадугледжвала, каб у мэтах поўнага прыстасавання судавытворчасці да мясцовых патрэб усе кодэксы ў двухгадовы тэрмін пераводзіліся на мясцовыя мовы, пасля чаго ўвесь судовы працэс поўнасцю павінен перайсці на іх выкарыстанне. Гэта мела прынцыповае значэнне, асабліва ўлічыўшы, што фактычна ўсе тагачасныя судовыя кодэксы з'яўляліся кодэксамі РСФСР і былі на рускай мове.

Значыць, дзяржаўныя ўстановы мусілі задаваць тон у пераводзе справаводства пераважна на беларускую мову як сродку зносін карэннага насельніцтва. Гэта было надзвычай важна, таму што пазіцыя партыі і ўлады ў гэтай справе мела рашаючае значэнне. З другога боку, гэта пэўным чынам павышала іх аўтарытэт і ўмацоўвала пазіцыі.

Да таго ж вялікая ўвага надавалася пераводу школьнага навучання і вучэбнага працэсу на мясцовыя мовы, у першую чаргу беларускую. Таму ў рашэннях пленума адзначалася, каб ва ўсіх без выключэння школах усіх ступеней беларуская мова ўводзілася як абавязковая. Не было забыта і кадравае забеспячэнне гэтай справы, задача «прыцягнення да працы ў школе больш ці менш лаяльных народных настаўнікаў мясцовага паходжання». Канешне, прымалася пад увагу лаяльнасць да савецкай улады. Пленум таксама пастанавіў «звярнуць асаблівую ўвагу на значныя кадры рускага і русіфікаванага настаўніцтва ў сэнсе палітычнай яго асветы — асветы ў духу нацыянальнай праграмы Камуністычнай партыі, перападрыхтоўкі яго да служэння мясцовай нацыянальнай (беларускай) школе».

Задачай на бліжэйшы час ставілася таксама ўзмацніць выдавецкую дзейнасць на мясцовых мовах, пераважна беларускай. Гэта было зроблена, зыходзя-

чы з важнасці выдавецкай справы, даходлівасці яе прадукцыі да значных колаў насельніцтва.

Асаблівае месца ў пашырэнні ўжывання беларускай мовы адводзілася партыйна-выхаваўчай рабоце. На першых ступенях, у якіх вывучэнне палітграматы яшчэ не звязана з наяўнасцю адпаведнай палітычнай літаратуры на мясцовых мовах, у сельскіх мясцовасцях у першую чаргу, школы палітграматы, як і ўсе іншыя формы палітычнага развіцця (паліт- і дэлегацкія сходы, гурткі, вечары самадзейнасці і г. д.) павінны былі праводзіць на беларускай мове.

Пленум таксама вызначыў практычныя меры па арганізацыі беларускіх нацыянальных вайсковых часцей.

Такім чынам, у першай палове і сярэдзіне 1923 года ў партыйным парадку была распрацавана і прынята разгалінаваная сістэма мерапрыемстваў па правядзенні ў рэспубліцы нацыянальнай палітыкі, скіраванай на пашырэнне сферы ўжывання беларускай мовы. Пры гэтым належная ўвага надавалася і рускай, польскай, яўрэйскай мовам. Гэта была даволі ўзважаная пазіцыя, якая пачынала ажыццяўляцца ва ўмовах новай эканамічнай палітыкі, што мела дэмакратычную скіраванасць. Такая сугучнасць эканамічнага і нацыянальна-культурнага развіцця адпавядала інтарэсам грамадства, найперш карэнным жыхарам.

**Рашаючы этап.** Работа была працягнута, пашырана і больш канкрэтызавана ў 1924 годзе, калі другая сесія ЦВК саветаў Беларускай ССР VI склікання 15 ліпеня прыняла пастанову «Аб практычных мерапрыемствах па правядзенні нацыянальнай палітыкі». Адзначалася, што з-за значнай перавагі ў насельніцтва беларускай нацыянальнасці яго мова выбіраецца як мова пераважная для зносін паміж дзяржаўнымі, прафесіянальнымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі. Пры гэтым кожнаму грамадзяніну, да якой бы нацыянальнасці ён ні належаў, забяспечваецца права і рэальная магчымасць карыстацца сваёй роднай мовай у яго зносінах з рознымі органамі і ўстановамі рэспублікі. Адзначалася таксама, што мовай зносін органаў Беларускай ССР і СССР, а таксама саюзных рэспублік, з'яўляецца руская мова.

Пастанова вызначала тэрміны пераходу розных ведамстваў БССР на беларускую мову ў справаводстве і ва ўсёй практычнай дзейнасці. Толькі адзін год адводзіўся кіраўніцтву справамі ЦВК саветаў рэспублікі, справамі СНК БССР, Народным камісарыятам асветы і земляробства. На працягу двух гадоў гэта павінны былі ажыццявіць Наркаматы ўнутраных спраў, юстыцыі, сацыяльнага забеспячэння, паштовыя органы, якія абслугоўвалі непасрэдна сельскае насельніцтва. Нарэшце, найбольш значны тэрмін — 3 гады — даваўся Наркаматам аховы здароўя, фінансаў (яго мясцовым органам), а таксама ўсім іншым установам і арганізацыям.

Значная ўвага ў пастанове надавалася культурна-адукацыйным установам. Тыя з іх, якія займаліся пытаннямі сацыяльнага выхавання, павінны былі ўкласціся ў справе пераходу на беларускую мову на працягу трох гадоў, а сістэма прафесійна-тэхнічнай адукацыі і ўстановы палітыка-асветныя — пяці.

Натуральна, не было абыдзена такое пытанне, як перавод навучання на беларускую мову практычна ва ўсіх школах, а таксама прафесійна-тэхнічных навучальных установах, дзе яна ўводзілася як абавязковы прадмет. Засваенне яе пачыналася ў дзіцячых садках і ў працоўных школах, у якіх навучаліся дзеці-беларусы. На рабочых факультэтах і ў тэхнікумах, акрамя абавязковага вывучэння беларускай мовы, уводзіліся і беларуская літаратура, гісторыя і геаграфія Беларусі. Гэтыя ж прадметы, а таксама эканоміка, прыродныя асаблівасці і багацці краю, быт і гісторыя насельніцтва станавіліся абавязковымі для выкладання ў ВНУ. Для гэтага ў іх ствараліся спецыяльныя кафедры, а пры прыёме патрабавалася веданне беларускай мовы.

Для забеспячэння ў найбольш поўнай ступені і на належным узроўні выкладання названых прадметаў, у вышэйшых навучальных установах і тэхнікумах

уводзілася замяшчэнне вакантных пасад прафесарамі, а таксама выкладчыкамі, асістэнтамі, ардынатарамі і іншымі супрацоўнікамі пры ўсіх роўных умовах тымі асобамі, якія ведалі беларускую мову. Гэта павінна было ўзняць якасць выкладання адпаведных прадметаў, а таксама стварыць лепшыя ўмовы для правядзення выхаваўчай работы ў нацыянальна-беларускім напрамку.

**Краязнаўчы рух.** Істотную ролю ў гэтым, як і ва ўсёй беларусізацыі, адыгрывала аднаўленне ранейшых пазіцый і далейшае развіццё краязнаўства. Ужо ў пачатку 1920-х гадоў пачалося стварэнне краязнаўчых аб'яднанняў пры навуковых і навучальных установах, аддзелах народнай асветы. Яшчэ ў 1919 годзе пры Мінскім педагагічным інстытуце было арганізавана Мінскае таварыства гісторыі і старасветчыны. Праз два гады Беларускае вольна-эканамічнае таварыства ўзнікла пры Беларускім політэхнічным інстытуце.

Дзеля каардынацыі і ўзмацнення ўсёй гэтай работы яе засяродзілі ў створаным у 1922 годзе Інстытуце беларускай культуры. З наступнага года пры ім пачала дзейнічаць Камісія па рэарганізацыі краязнаўчых фарміраванняў, а ў 1924 годзе было створана Цэнтральнае бюро краязнаўства. У лістападзе 1924 года прайшла першая Усебеларуская краязнаўчая канферэнцыя, а ў лютым 1926-га — першы Усебеларускі краязнаўчы з'езд. На іх былі вызначаны асноўныя напрамкі дзейнасці краязнаўчага руху, у тым ліку вывучэнне дыялектаў беларускай мовы.

У рэспубліцы працавала больш як 300 краязнаўчых арганізацый, якія аб'ядноўвалі 10,5 тысяч чалавек. Была складзена картатэка на 150 тысяч слоў беларускай мовы, сабрана і пэўным чынам апрацавана звыш 30 тысяч фальклорных твораў. Гэта значна прасоўвала наперад работу па ўзбагачэнні беларускай моўнай практыкі, у тым ліку літаратурнай. З кастрычніка 1925 года Цэнтральнае бюро краязнаўства пачало выдаваць штомесячны часопіс «Наш край».

Поспехі ў развіцці краязнаўства ў многім былі абумоўлены тым, што ў гэтай справе ўдзельнічалі вядучыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі. Так, праўленне краязнаўчага таварыства Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ўзначальваў яго рэктар У. Пічэта; рэдактарам часопіса «Наш край» з'яўляўся З. Бядуля і інш. Аднак у канцы 1920-х — пачатку 1930-х гадоў у сувязі з нарастаючай барацьбой з так званым беларускім буржуазным нацыяналізмам работа пачала згортвацца. Тым не менш было нямала зроблена, у тым ліку і па беларусізацыі, асабліва далейшай распрацоўцы і ўдасканаленні мовы, вывучэнні багацця мясцовых гаворак. Ды і іншыя намаганні — вывучэнне гісторыі роднага краю, стварэнне музеяў, фарміраванне этнаграфічных калекцый, ахова помнікаў, зберажэнне мясцовых архіваў, лектарска-экскурсійная праца — дапаўнялі дзейнасць па беларусізацыі.

**Арганізацыйныя меры.** Для правядзення ўсёй гэтай вялікай работы патрабаваліся адпаведныя органы, аб'яднаныя ў пэўную сістэму. Таму ў 1924 годзе Прэзідыум ЦВК БССР прыняў рашэнне аб арганізацыі камісіі па ажыццяўленні нацыянальнай палітыкі. Акрамя рэспубліканскай меліся таксама адпаведныя камісіі пры акруговых і павятовых выканаўчых камітэтах. Так, яшчэ з 1922 г. працавала камісія беларусазнаўства пры Слуцкім павятовым аддзеле народнай асветы. Але пастаяннымі штатнымі работнікамі гэтых камісій з'яўляліся толькі іх адказныя сакратары. Рэспубліканскую камісію ўзначальвалі добра вядомыя дзяржаўныя дзеячы, у той час сакратары ЦВК — Д. Чарнушэвіч (са жніўня 1924 года) і А. Хацкевіч (з мая 1927 г.).

Як адзначалася, побач з дзяржаўна-савецкімі арганізацыямі ў сярэдзіне 1920-х гадоў даволі пільную ўвагу ажыццяўленню нацыянальнай палітыкі, у першую чаргу распаўсюджанню беларускай мовы надавала партыйная арганізацыя рэспублікі. У 1925 годзе гэтыя пытанні разглядаліся на двух пленумах ЦК КП(б)Б. Гэта, несумненна, сведчыла аб зацікаўленасці ў прасоўванні дадзенай справы

ў шырокія пласты грамадства з мэтай яе вырашэння адпаведна партыйным устаноўкам.

Так, студзеньскі пленум разгледзеў пытанне «Чарговыя задачы КП(б)Б у нацыянальнай палітыцы». У прынятай рэзалюцыі канстатавалася, што «рост беларускай нацыянальнай культуры (мова, літаратура, школа, удзел беларусаў у палітычным, культурным і гаспадарчым жыцці) асабліва адстаў, калі параўнаць з габрэйскай, рускай і польскай нацыянальнасцямі», што адпавядала рэчаіснасці. Сапраўды, удзельная вага прадстаўнікоў беларускай нацыі ў адносінах да ўсяго насельніцтва ў разрэзе розных форм адукацыі і па іншых паказчыках такога кшталту была прыкметна ніжэйшай, чым у асноўных нацыянальных меншасцей.

Зыходзячы з гэтага, а таксама з агульных задач нацыянальнай палітыкі ў СССР, пленум зрабіў вывад: «Такім чынам, лозунг, які КП(б)Б павінна прыняць у культурнай працы, — гэта лозунг «беларусізацыі». Пры раўнапраўі ўсіх нацыянальнасцей, пры абавязку з боку ўрада і партыі забеспячэння развіцця культуры кожнай з іх, пры прызнанні дзяржаўнымі мовамі — чатырох, справа развіцця мовы, літаратуры, школы, усёй культуры на беларускай мове, аднак, прызнаецца першай і асноўнай справай».

Па становішчы на 1925 год насычанасць органаў кіравання работнікамі-беларусамі складала: у цэнтральных рэспубліканскіх установах — 51,3 працэнта, у акружных і раённых звеннях — 69,3. Калі ж узяць сярэдні дадзены паказчык, то ён раўняўся 59,8 працэнта.

**Пашырэнне сферы ўжывання беларускай мовы — асноўная задача палітыкі беларусізацыі.** Прасоўвалася наперад работа і з пераводам на беларускую мову школ. Калі ў 1924/1925 вучэбным годзе навучанне на ёй вялося ў 1005 чатырохгодках рэспублікі, то ў наступным гэты паказчык вырас да 3021. Адпаведна павысілася ўдзельная вага такіх пачатковых школ з 28,4 да 79,6 працэнта. За той жа час колькасць сямігодак з выкладаннем на беларускай мове павялічылася з 3 да 88-мі, а ўдзельная вага вырасла з 1,6 да 43,7 працэнта.

Аднак у 1925/1926 навучальным годзе ў 37 працэнтах пачатковых школах працавалі на беларускай мове толькі першыя класы, у 25 працэнтах — першы і другі класы. Усяго ж на беларускую мову поўнасцю перайшлі 4/5 пачатковых школ. Што датычыць сямігодак, то ў 1924/1925 навучальным годзе цалкам працавалі на беларускай мове толькі 1,6 працэнта. У наступным навучальным годзе такіх школ ужо налічвалася каля паловы ад іх агульнай колькасці.

Гэтыя і іншыя зрухі дазволілі кастрычніцкаму 1925 г. пленуму ЦК КП(б)Б заявіць у прынятай рэзалюцыі па дакладзе «Аб нацпалітыцы», што у шэрагу галін дасягнуты поспехі, важнейшымі з якіх з’яўляюцца: значны прагрэс у беларусізацыі пачатковай і сярэдняй школ, што дазволілі прыступіць у даўзбуйнёнай Беларусі да пераводу на беларускую мову другога канцэнтра навучання, а ў далучанай — другога і трэцяга года; перайсці да беларусізацыі вышэйшых навучальных установ, што выявілася ў пераводзе ў гэтым навучальным годзе на беларускую мову першых курсаў рабфакаў і некаторых кафедр на асноўных факультэтах; поўная беларусізацыя педтэхнікумаў; узмацненне беларусізацыі саўпартшкол; павелічэнне працэнтаў беларусаў і ў прыватнасці (што асабліва важна) беларусаў-рабочых, пры прыёме ў ВНУ, значнае папаўненне кніжнай базы на беларускай мове; прыкметнае павелічэнне працэнта беларусаў у складзе выбарных органаў па ўсіх важнейшых лініях і па ўсіх звеннях, паспяховая ў агульным праца па беларусізацыі 2-й тэрытарыяльнай дывізіі і аб’яднанай беларускай школы камсаставу і г. д. «Разам з тым, — адзначыў пленум, — важнай заваёвай з’яўляецца прыкметнае паслабленне забабонаў супроць беларусізацыі ў шырокіх масах насельніцтва і стварэнне кадраў настаўнікаў і перадавікоў-сялян, якія актыўна праводзяць беларусізацыю».

У рэзалюцыі таксама канстатавался, што «далейшае разгортванне нэпа і звязаны з ім рост капіталістычных адносін вядзе да ўмацавання буржуазна-дэмакратычнай ідэалогіі і да ўзмацнення яе напору на партыю і савецкі апарат. Але ўплыў буржуазна-дэмакратычнай ідэалогіі выражаецца ў беларускіх умовах асабліва ў форме нацыянал-дэмакратычных настрояў, якія ідуць з асяроддзя дробнабуржуазнай інтэлігенцыі і заможнай вярхушкі сялянства…» Таму пленум перасцерагаў ад «захаплення нацыянальнай культурай наогул ва ўрон класавай пастаноўцы пытання», і ставіў задачу «змагаючыся супроць нацыяналістычнага ўплыву дробнабуржуазнай інтэлігенцыі, неабходна ўставіць у той жа час адносіны дзелавога супрацоўніцтва з ёю».

Вынясенне на працягу аднаго года на разгляд партыйнага пленума пытанняў правядзення нацыянальнай палітыкі і ў першую чаргу беларусізацыі не было выпадковым. Перад КП(б)Б стаяла задача ў максімальнай ступені кантраляваць гэтыя працэсы і ў ніякім разе не дапускаць да кіраўніцтва імі прадстаўнікоў нацыянальна-дэмакратычнага напрамку. Іх імкненне максімальна развіваць беларускую культуру, распаўсюджваць сферу выкарыстання роднай мовы, абапіраючыся ў гэтым на палітыку беларусізацыі, непакоіла партыйныя органы і ў першую чаргу іх кіраўнікоў.

Яскравае пацвярджэнне таму пазіцыя па гэтым пытанні першага сакратара ЦК КП(б)Б А. Крыніцкага, які ўзначальваў кампартыю Беларусі ў сярэдзіне 1920-х гадоў. У верасні 1925 і 1926 гадоў ён двойчы выступаў перад кіраўнікамі і актывам Мінскай гарадской партыйнай арганізацыі, і гаворачы аб тым, што рост гаспадаркі, асабліва заможных сялян, падводзіць інтэлігенцыю да нацыянальна-дэмакратычнай платформы, садзейнічае ўзмацненню яе палітычнай пазіцыі, але «…актыўнае правядзенне беларусізацыі будзе ўздымаць у некаторай часткі беларускіх работнікаў праявы беларускага нацыянальналізму…»

Па словах А. Крыніцкага, партыя бачыла небяспеку з боку нацыянальна-дэмакратычнага, контррэвалюцыйнага крыла інтэлігенцыі. Дробнабуржуазная інтэлігенцыя гатова захапіць кіруючую ролю ў культурным будаўніцтве. Такая небяспека стане рэальнай у тым выпадку, калі партыя не будзе трымаць у сваіх руках гэтае кіраўніцтва, калі пралетарыят і КП(б)Б не势 стануць на чале работы па беларусізацыі і ўсяго культурнага будаўніцтва. Што тычыцца пралетарыяту, то гэта была даніна партыйнай рыторыцы таго часу. У сярэдзіне 1920-х гадоў у Беларусі ён па-ранейшаму з’яўляўся малалікім і да таго ж у значнай ступені русіфікаваным.

Надзвычай важнае значэнне мела больш актыўнае выкарыстанне беларускай мовы ў дзейнасці партыйных, савецкіх, гаспадарчых і іншых кіруючых органаў. На гэта таксама звярталася павышаная ўвага з боку кіруючых структур, таму вынікі былі даволі адметнымі. Паводле дадзеных Цэнтральнай Нацыянальнай Камісіі ЦВК БССР, калі ў 1925 годзе беларускай мовай валодалі 21,9 працэнта супрацоўнікаў цэнтральных устаноў і 36,2 акруговых і раённых, то ў 1927 годзе гэтыя паказчыкі ўзраслі адпаведна да 80 і 70 працэнтаў.

Больш актыўна засваенне беларускай мовы праходзіла сярод супрацоўнікаў рэспубліканскага звяна і менш — акружнога і раённага. Гэта тлумачылася як магчымасцямі ў дадзенай працы, так і патрабаваннямі, асабліва ў сувязі з рашэннямі партыйных і савецкіх органаў на рэспубліканскім узроўні.

Аднак істотныя зрухі не заўсёды станоўча ацэньваліся вышэйшымі партыйнымі органамі, калі яны падыходзілі да гэтага з класавых пазіцый. Так, у палітычнай справаздачы Х з’езда КП(б)Б, які адбыўся ў студзені 1927 года, было заяўлена, што яшчэ далёка партыя і рабочы клас не стаяць на чале культурнага развіцця і таму ў шэрагу пытанняў партыя здае пралетарскую лінію. Быў зроблены папрок Наркамадукацыі, што ён праводзіць беларусізацыю беларускай культуры з уронам для марксісцкай, класавай, пралетарскай культуры.

З відавочных поспехаў беларусізацыі ў распаўсюджанні роднай мовы і крытычнага стаўлення да гэтай справы партыйнага з'езда вынікае, што яна развівалася ў першую чаргу на этнічна-нацыянальнай глебе. Прыдаць працэсу мэтанакіраваны палітычны характар было не так проста. Затое зусім натуральнай і лагічнай з'явай стала правядзенне ў лістападзе 1926 года ў Мінску Міжнароднай акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу, ініцыятарам якой выступіў Інстытут беларускай культуры. Грунтоўная падрыхтоўка і шырокае, аўтарытэтнае прадстаўніцтва забяспечылі поспех. Правядзенне канферэнцыі і важкія вынікі сталі не толькі этапам у навуковым станаўленні беларускай мовы, але і істотнай складовай часткай палітыкі беларусізацыі.

**Карэнізацыя кадраў.** Важным напрамкам з'яўлялася карэнізацыя кадраў, гэта значыць вылучэнне на працу ў мясцовыя і цэнтральныя органы пераважна беларусаў. Неабходнасць у гэтым была відавочнай, таму што іх удзельная вага ў партыйных, савецкіх, гаспадарчых і іншых кіруючых органах адносна агульнай колькасці жыхароў-беларусаў была нязначнай, меншай у параўнанні з гэтым паказчыкам у асноўных нацыянальных меншасцях, што пражывалі ў БССР — рускімі, габрэямі, палякамі, украінцамі. Так, у 1925 годзе беларусы складалі ў цэнтральных установах 51,3 працэнта, у акружным і раённым звеннях — 69,3. Сярод адказных супрацоўнікаў цэнтральных савецкіх устаноў гэты паказчык нават у 1927 годзе не перавышаў ранейшых 51,3, удзельная вага беларускага насельніцтва дасягала паводле перапісу 1926 года, 80,6 працэнта.

Тым не менш, па шэрагу важных напрамкаў жыццядзейнасці гэтыя характарыстыкі паляпшаліся. Калі ў складзе міліцыі па стане на 1 лютага 1925 года беларусы складалі 64,5 працэнта, то на пачатак красавіка 1927-га — 73,1. Сярод адказных супрацоўнікаў акружнога савецкага апарату іх удзельная вага дасягала 60,1 працэнта, а ў зямельных органах — 77,3. Вышэйшым быў гэты паказчык у раённай сістэме — 79,2 працэнта, набліжаючыся да ўдзельнай вагі беларусаў у грамадстве.

Недалёка ад гэтага знаходзіліся такія ж параметры ў тых, хто быў звязаны з землеўладкаваннем, лясной справай, а таксама сярод спецыялістаў сельскай гаспадаркі. На 1 красавіка 1927 года ўдзельная вага беларусаў сярод аграномаў, лесаводаў і землямераў складала 75,6 працэнта, а сярод адказных работнікаў сувязі — 78. Аднак у акружных судах гэты паказчык раўняўся 66,2 працэнта, а ў мясцовых судовых органах — 69,1.

Лепшыя паказчыкі ў справе карэнізацыі кадраў мелі месца ў сістэме мясцовых органаў, а таксама сярод спецыялістаў, чыя праца непасрэдна звязана з зямельнымі іляснымі ўгоддзямі ці з абслугоўваннем мясцовага насельніцтва. Больш складаным было становішча ў рэспубліканскіх органах, дзе свае крытэрыі і патрабаванні да кадравага патэнцыялу — адпаведныя адукацыя і прафесійная падрыхтоўка, класава-пралетарскае паходжанне, палітычная надзейнасць і інш.

**Складанасці.** З большымі цяжкасцямі гэтыя і іншыя працэсы ў кантэксце ажыццяўлення палітыкі беларусізацыі праходзілі на ўсходнебеларускіх тэрыторыях, вернутых у 1924 і 1926 гадах, а з пачаткам 1919 года, адразу пасля ўтварэння БССР, па ваенна-палітычных меркаваннях і паводле рашэнняў ЦК РКП(б) і расійскага савецкага ўрада ўключаных у склад РСФСР. Аб складанасцях развіцця насельніцтва ў культурных адносінах на гэтых тэрыторыях у пачатку 1920-х гадоў пісаў народны камісар адукацыі БССР У. Ігнатоўскі. У накіраванай ім у ЦК КП(б)Б і ЦК РКП(б) дакладной запісцы гаварылася аб тым, што калі ў маі 1922 года ён ездзіў у Віцебск, то прыйшоў да вываду, што на гэтых землях робіцца буйная памылка. Шмат хто з мясцовых кіруючых работнікаў быў перакананы, што ўсе беларусы тут размаўляюць на рускай мове, таму іх трэба вучыць і распаўсюджваць сярод іх культуру менавіта па-руску. У. Ігнатоўскі прапанаваў тэрмінова выпраўляць такое становішча, інакш гэта можа шкодна адбіцца на ўсёй рабоце

савецкай улады не толькі на Віцебшчыне, але і на ўсёй тэрыторыі этнаграфічнай Беларусі, як савецкай, так і замежнай.

Такое становішча назіралася ў гэты час і на іншых усходнебеларускіх землях. Паводле сведчанняў у сярэдзіне 1920-х гадоў з Гомельскай губерні, таксама нярэдка назіралася фармальнае стаўленне мясцовых кіраўнікоў да нацыянальнай работы. Гэта цягнула за сабою інертныя адносіны насельніцтва да праяў беларускасці, таму што яно нярэдка лічыла сябе не беларускім.

Зыходзячы з большых складанасцей у ажыццяўленні палітыкі беларусізацыі на ўсходнебеларускіх тэрыторыях, чым у сталічным рэгіёне, другая сесія ЦВК саветаў БССР VI склікання ў сваёй пастанове ад 15 ліпеня 1924 года «Аб практычных мерапрыемствах па правядзенні нацыянальнай палітыкі» толькі ў агульных рысах сфармулявала пункт аб данай дзейнасці на гэтых землях: «Правядзенне беларусізацыі культурна-асветных устаноў далучаных частак Гомельскай, Віцебскай і Смаленскай губерній з мэтаю іх выраўноўвання па Міншчыне на прадмет забеспячэння нармальнага нацыянальнага развіцця беларускага насельніцтва ў далучаных частках павінна ісці няўхільна, паступова і паслядоўна».

Важная акалічнасць: рашэнні вышэйшых савецкіх і партыйных органаў БССР адносна палітыкі беларусізацыі кардынальна разыходзіліся з пазіцыяй спецслужб на змест, паслядоўнасць і характар яе правядзення. У спалучэнні з падобнымі працэсамі ў іншых саюзных рэспубліках яны бачылі ў палітыцы беларусізацыі небяспеку для грамадска-палітычных асноў дзяржавы і для аднаго з краевугольных камянёў праўлення — дыктатуры пралетарыяту. Дастаткова спаслацца на зусім сакрэтную «Дакладную запіску намесніка ПП АДПУ па Заходнім краі І. Апанскага сакратару ЦК КП(б)Б А. Крыніцкаму аб небяспеках ва ўмовах нэпа дробнабуржуазнага ўплыву і неабходнасці павароту ў нацыянальнай палітыцы да большай жорсткасці», датаваную 28 снежня 1924 г. У ёй, у прыватнасці, адзначалася, што «адзін і той жа тэмп правядзення беларусізацыі ва ўсіх раёнах можаператварыць нацыянальную палітыку ў сваю супрацьлегласць — гэта, па-першае. Па-другое, тэмп правядзення нацыянальнай палітыкі неабходна спалучаць з магчымасцямі, зыходзячы з эканамічных умоў і наяўных культурных, палітычна вытрыманых, чалавечых сіл БССР…»

Такія сцвярджэнні ўжо ў той час густа падмацоўваліся цытатамі з выступленняў І. Сталіна. Яны датычыліся таго, што: «нэп вырошчвае не толькі шавінізм велікарускі, — ён вырошчвае і шавінізм мясцовы, асабліва ў тых рэспубліках, якія маюць некалькі нацыянальнасцей… Гэты мясцовы шавінізм, канешне, не ўяўляе па сваёй сіле той небяспекі, якую ўяўляе шавінізм велікарускі. Але ён усё-такі ўяўляе небяспеку, пагражаючы нам ператварыць некаторыя рэспублікі ў арэну нацыянальнага разладу, падарваць там асновы інтэрнацыяналізму», а таксама, што «ўсталяванне фактычнай роўнасці паміж нацыямі, якія пайшлі наперад, і нацыямі адсталымі справа вельмі складаная, вельмі цяжкая, што патрабуе шэрагу гадоў».

У дакладной запісцы рабілася несуцяшальнае заключэнне: «У праціўным жа выпадку, калі мы перагнём палку ў бок сялянскіх ускраін ва ўрон пралетарскім раёнам, то можа атрымацца трэшчына ў сістэме дыктатуры пралетарыяту».

Крытычныя адносіны да беларусізацыі, як, дарэчы, да ўкраінізацыі і падобных рухаў у іншых савецкіх рэспубліках з боку вярхоўнага кіраўніцтва СССР і спецслужб, мясцовых кіраўнікоў, далі аб сабе знаць ужо ў сярэдзіне 1920-х гадоў, мелі тэндэнцыю да ўзмацнення і перарастання ў адкрыты наступ на нацыянальныя адметнасці. На Украіне гэта праявілася ў фабрыкацыі «Саюза вызвалення Украіны» — СВУ.

У БССР таксама была сфабрыкавана неіснуючая аналагічная «арганізацыя» — «Саюз вызвалення Беларусі» (СВБ). У яго былі ўключаны 108 вядучых

інтэлігентаў рэспублікі, многія з якіх з'яўляліся ініцыятарамі і асноўнай рухаючай сілай палітыкі беларусізацыі. У пачатку 1930-х гадоў 86 чалавек атрымалі розныя тэрміны высылкі і турэмнага зняволення. Рэпрэсіі прывялі да спынення беларусізацыі як нацыянальна-культурнай і грамадска-палітычнай з'явы.

**Вынікі.** Аднак тым не менш было надзвычай шмат зроблена для адраджэння беларускага этнасу, нацыі і ўсяго народа. Гэта стала працягам першай хвалі нацыянальнага Адраджэння ў XX стагоддзі, звязанай з дзейнасцю газеты «Наша ніва». Беларусізацыя з'явілася новай, значна больш моцнай і ўсебаковай праявай гэтага руху. Галоўнае тое, што яна праводзілася на дзяржаўнай аснове, на падставе рашэнняў вышэйшых партыйна-савецкіх органаў.

Працэс беларусізацыі ў пачатку і ў сярэдзіне 1920-х гадоў меў некалькі этапаў. Спачатку гэта ўздым нацыянальна-вызваленчага руху пасля звяржэння царызму, даволі інтэнсіўнае адкрыццё беларускіх школ у цэнтральнай Беларусі ў першыя гады савецкай улады, ініцыятывы нацыянальна арыентаваных дзеячаў па аднаўленні адраджэнцкай работы ў краі і іншае.

Другі этап звязаны з выкананнем даволі разгорнутых рашэнняў лютаўскай сесіі ЦВК рэспублікі 1921 года, скіраваных на пашырэнне і паглыбленне беларускай справы, забеспячэнне яе адпаведнымі кадрамі.

Нарэшце, трэці, рашаючы этап — усё зробленае на аснове пастановы сесіі ЦВК БССР VI склікання, якая адбылася 15 ліпеня 1924 года.

Вынікам стала значнае пашырэнне сферы ўжывання беларускай мовы, асабліва ў школах, тэхнікумах, вышэйшых навучальных установах, у справаводстве партыйных, савецкіх, гаспадарчых і іншых структур. Значнае развіццё атрымала краязнаўства. Пашырылася практыка вылучэння на кіруючыя пасады прадстаўнікоў беларускай нацыянальнасці. Палітыка беларусізацыі істотна дапаўняла нацыянальным зместам БССР форму дзяржаўнага будаўніцтва на Беларусі ў гэты час.

Усё гэта адбывалася на аснове і ў сувязі з адносна дэмакратычнай новай эканамічнай палітыкай. Таму нарастанне аўтарытарных тэндэнцый у кіраванні дзяржавай, барацьба з нацыянальнымі праявамі прывялі да згортвання як нэпа, так і абмежавання нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва, у тым ліку спынення палітыкі беларусізацыі. Аднак дасягнутае з'явілася важным этапам беларускага Адраджэння ў XX стагоддзі, працягам станаўлення беларускай нацыі і яе нацыянальнай ідэі. Гэты працэс у рэшце рэшт садзейнічаў утварэнню незалежнай, суверэннай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь.



# ЛЕАНІД ЛЕВІН:
# «ДАБРО І ЗЛО ПЛЫВУЦЬ У АДНОЙ ЛОДЦЫ»

З Леанідам Левіным, знакамітым нашым архітэктарам, мяне пазнаёміў Генадзь Бураўкін — яго даўні, харошы сябра. Мы прыйшлі на кватэру да Леаніда Мендэлевіча перад самым Новым годам і, натуральна, апынуліся за гасцінным сталом. І таму замест пятнаццаці—дваццаці хвілін, як меркавалі, прагаварылі больш за дзве гадзіны. Але, па праўдзе кажучы, і не заўважылі, як прабег гэты час.

Пасля ў мяне з Левіным было яшчэ некалькі сустрэч, ужо не гасцявых, а чыста рабочых. Дзевяць гадзін запісу на маім дыктафоне — таму яскравае сведчанне.

Уражанне ад гэтых сустрэч засталося надзвычай прыемнае. Сям'я сапраўдных інтэлігентаў. Таленавітых людзей. Леанід Мендэлевіч — мастак ад Бога, сусветна вядомы архітэктар. Створанае ім — гэта сапраўдная нацыянальная і агульначалавечая спадчына. Наталля Мікалаеўна, жонка Леаніда Мендэлевіча, таксама архітэктар. У сталіцы пабудавана некалькі адметных будынкаў па яе праектах. У прыватнасці, комплекс планетарыя і абсерваторыі ў парку імя М. Горкага. Апошнім часам працавала ў калектыве, які ствараў новую канцэпцыю генеральнага плана горада Мінска пад кіраўніцтвам Юрыя Пурэцкага. Калектыў за цікавую і арыгінальную распрацоўку першай чаргі будаўніцтва атрымаў прэмію Савета Міністраў СССР. У ліку ўзнагароджаных была і яна, Наталля Мікалаеўна.

А яшчэ абое яны — заядлыя калекцыянеры. Кватэра Левіных нагадвае своеасаблівы музей. Усе тры пакоі і нават кухня ад падлогі да столі ў розных паліцах, палічках, падстаўках, на якіх размешчаны сотні і сотні — не хачацца казаць экспанатаў — прадметаў мастацтва. Так, кожны з іх — выдатны ўзор майстэрства і высокага мастацтва. А ўсе разам яны — гэтыя застылыя імгненні свайго часу — ствараюць адзіную хвалюючую поліфанічную музыку Вечнасці.

Вось частка разных дзвярэй з казачна прыгожай арнаментацыяй канца XV стагоддзя — падарунак узбекскіх сяброў, удзячных Леаніду Мендэлевічу за стварэнне помніка воінам-бухарцам. На процілеглай сцяне — сямейная рэліквія: старажытны музычны інструмент — цытра, якую прывёз бацька Леаніда Мендэлевіча з Германіі, пасля вайны. Цытра паклала пачатак калекцыі музычных інструментаў розных часоў і народаў — галоўным чынам струнных.

Асобна, на самым відным месцы, калекцыя драўляных лыжак, якія займаюць цэлыя паўсцяны. І размешчаны адмысловым чынам, па праекце гаспадара — то роўным радочкам, то веерам, то па прынцыпе кантрасту: у атачэнні маленькіх лыжак самая вялікая, якая, калі яе везлі з Амерыкі, не ўлезла нават у чамадан і давялося яе прывязаць звонку, што выклікала немалое здзіўленне ў мытнікаў.

Натуральна, што ў экспазіцыі хатняга музея знайшлося месца і для твораў жывапісу. Але паколькі яны дастаткова аб'ёмныя, то прадстаўлены літаральна адзінкамі — некалькі жывапісных палотнаў, падараваных Леаніду Мендэлевічу з рознай нагоды, і невялічкая падборка работ самога гаспадара. Усё астатняе, як жартуе Наталля Мікалаеўна, у запасніках. Адных толькі малюнкаў Леаніда Мендэ-


*З жонкай Наталляй Мікалаеўнай.*

левіча захоўваецца больш за тысячу.

Наталля Мікалаеўна запрашае мяне на кухню. Я пераступаю парог і… ад зыркага бела-блакітнага ззяння ажно перахоплівае дыханне.

— Божа мой! — міжволі ўсклікваю я. — Якая прыгажосць!

Знакамітыя гжэльскія вырабы разбегліся па кухні і занялі ўсе сцены і прасценкі. Сотні разнастайных кубкаў і кубачкаў, талерак і сподачкаў, вялікіх і малых статуэтак, фігурак прадумана ўпарадкаваны, акуратна расстаўлены на прыгожых паліцах і ў адмысловых нішах — так, каб усё выгадна глядзелася, радавала вока, цешыла душу.

— Я люблю ўсё гэта… — крыху няёмячыся, прызнаецца Леанід Мендэлевіч, калі мы застаёмся ўдвух. — Люблю сваю кватэру. Свой кабінет. Гэту ўтульнасць, сямейны спакой. Хаця, на вялікі жаль, бываю дома даволі рэдка. Асабліва раней. Здаралася, суткамі не выходзіў з майстэрні. Жонка аднойчы напаўжартам-напаўсур'ёз паскардзілася ў маёй прысутнасці свайму бацьку, што рэдка мяне бачыць дома. Але мой мудры цесць толькі ўсміхнуўся і сказаў:

— Трэба было выходзіць замуж за бухгалтара. Пасля шасці ён заўсёды быў бы дома…

Я ўжо чацвёрты раз у кватэры Левіных, правёў з імі добры дзясятак гадзін, і магу сказаць, што тая атмасфера, тая аўра ўтульнасці, цеплыні, добразычлівасці, якая ахутвае госця літаральна з першых хвілін, сыходзіць найперш ад яе, Наталлі Мікалаеўны — мілай, абаяльнай, гасціннай гаспадыні. Ты ледзь пераступіў парог, яшчэ не паспеў распрануцца, а яна ўжо далікатна, клапатліва пытаецца:

— Што будзем піць? Чай, каву?

А пасля да духмянага, настоенага на зёлках і прыгатаванага па ўласным рэцэпце чаю, Наталля Мікалаеўна падае яшчэ цукеркі, пірог, варэнне. Прычым варэнне кожны раз рознае: то з працёртых журавін, то гарбузна-апельсінавае, а то і зусім экзатычнае — з заморскіх пладоў фейхоа.

У рабочым кабінеце Леаніда Мендэлевіча вісіць партрэт Наталлі Мікалаеўны, намаляваны адным знаёмым мастаком. Знешне тут яна можа крыху і не падобна на сябе, але сутнасць перададзена выдатна: мы бачым усмешлівую, добрую, сонечную жанчыну.

Сонечнасць, як мне падалося, наогул галоўная, вызначальная якасць гэтай цудоўнай, прыгожай, таленавітай сям'і. Дачка Галіна, акрамя таго, што яна зарэкамендавала сябе як вельмі здольны архітэктар-рэстаўратар, яшчэ піша цікавыя вершы, выдала ўжо два зборнікі паэзіі.

Адкуль усё гэта ў Галіны? Найперш, мусіць, ад Бога. Але многае і ад бацькі. Дарэчы, Леанід Мендэлевіч — аўтар дзвюх Хатыней. Адна з іх — тая, што за Лагойскам — сусветна вядомая. Мемарыяльны комплекс, які створаны на месцы спаленай фашыстамі вёскі, даўно стаў «Надзвычайным і Паўнамоцным» паслом Беларусі ў свеце.

А пра другую «Хатынь» ведаюць непараўнальна менш. Я маю на ўвазе ягоную аднайменную аўтабіяграфічную аповесць. Проза Левіна — незвычайная:

дынамічная, экспрэсіўная, ярка-імпрэсіяніісцкая, з майстэрскім кінематаграфічным мантажом. І пры гэтым — магічна-паэтычная.

«Шырока раскрытыя вочы зорак», «Світанак чапляецца за галінкі дрэў», «Раніца купаецца ў смузе»… Якое вобразнае ўспрыманне навакольнага свету!

«Каралі каляровых машын на шэрай нітцы шашы», «Наткнуўшыся на будынак турмы, вуліца ў спалоху паварочвае налева», «Вецер шкуматае нас, як бялізну на вяроўцы», «У смузе, нібы ў гамаку, гушкаюцца домікі», «Як на ксілафоне, іграюць калёсы машыны па драўляным мосце»… Якія незвычайна выразныя метафары, нечаканыя параўнанні!

Пісьменніцкі талент Леаніда Левіна ярка праявіўся і ў яго ўменні бачыць трапныя, ёмкія дэталі, схопліваць адметныя рысы характару чалавека, пранікаць углыб ягонай псіхалогіі і па-майстэрску перадаць гэта ў слове — эканомна, дакладна, эмацыянальна.

Не магу стрымацца, каб не прывесці яшчэ некалькі прыкладаў.

«Пляшку гарэлкі. Бульбу. Селядзец. Масла. Заказвае вядомы скульптар. Кожнаму — фужэр і чарка. Кібальнікаў адным рухам рукі адсоўвае чаркі ўбок. Гарэлку разліваем у фужэры. Такая ў яго натура. Такі размах. Разумеем: не мог не ўбачыць гэты мастак кампазіцыю Брэсцкага мемарыяла ў іншым маштабе».

А вось партрэт іншага чалавека, нямецкага бізнесмена-мільянера Грыгера.

«Яму цесна ў жыцці. Ён не едзе, ён ляціць на машыне. Хуткасць 180 кіламетраў у гадзіну. Тэлефон то ў адной руцэ, то ў дзвюх адразу… І ў горадзе яму цесна. Яму цесна ў офісе… Цесна ў самалёце. Яму цесна без палёту фантазіі і новых ідэй…»

Ёсць яшчэ адна кніга Леаніда Левіна — «Война и любовь». Можа, самая дарагая для аўтара. У ёй — гісторыя яго бацькоў. Гісторыя, расказаная ў пісьмах і паштоўках ваенных гадоў. Але пісьмы не пра вайну — пра каханне. Колькі ў іх пачуцця, хвалявання, веры! І — таленту! Радкі, што пісаліся нярэдка пад грукат артылерыйскай кананады, дзвюма-трыма дэталямі перадаюць і франтавую атмасферу, і настрой, душэўны стан чалавека.

«Вайна забірала дарагіх для мяне людзей. Сёння ніхто не заменіць мне страчанага. Ніхто не верне тое, што забрала вайна. Вайна не змагла забраць толькі Каханне», — так заканчвае Леанід Левін гэту незвычайную, поўную пяшчоты і любові кнігу.

Вось ужо сапраўды: таленавіты чалавек таленавіты ў многім. І тым не менш свае літаратурныя творы Леанід Мендэлевіч расцэньвае як аматарства, як своеасаблівае хобі і прызнаецца, што ў гэтай сферы адчувае сябе не зусім упэўнена. Таму, калі яго кнігі хваляць (а хваляць вядомыя пісьменнікі!), ён няёміцца і лічыць, што ягоныя здольнасці ў гэтым перабольшваюць.

Іншая справа — архітэктура. Тут Леанід Мендэлевіч дакладна ведае цану і сваім уласным работам і работам сваіх калег. Права на строгую, бескампрамісную ацэнку даюць яму не толькі высокія ўзнагароды (званні заслужанага архітэктара рэспублікі, лаўрэата Ленінскай прэміі і Дзяржаўных прэмій Беларусі, акадэміка архітэктуры), але і высокая планка зробленага.

Вяршыня яго творчасці — сусветна вядомы мемарыяльны комлекс «Хатынь». Скрушна-пранізлівы сімвал жалобы і смутку. Велічны помнік чалавечай мужнасці і веры. Народны храм Памяці. З’ява ў манументальным мастацтве. Праз «Хатынь» мовай архітэктуры і скульптуры ўдалося раскрыць душу беларускага народа, яго прыгажосць, яго трагедыю, яго бяссмерце. Напоўнены хвалюючым, кожнаму зразумелым агульначалавечым зместам, мемарыяльны комплекс разам з тым абсалютна беларускі, глыбока нацыянальны па форме.

З не меншай эмацыянальнай сілай і мастацкай выразнасцю, глыбінёй спасціжэння трагедыі яўрэйскага народа, яго моцы і велічы выкананы помнікі-мемарыялы ахвярам Халакосту — «Яма» ў Мінску, Гарадзейскае гета.

Леанід Левін разам са скульптарам Анатолем Анікейчыкам, архітэктарам Юрыем Градавым стварыў першы ў рэспубліцы манументальны помнік беларус-



*На абмеркаванні праекта помніка дзецям-ахвярам вайны ў Жлобінскім гарвыканкаме.*

кім партызанам — «Прарыў» пад Докшыцамі і пры ўдзеле скульптара Аляксандра Фінскага, іншых удзельнікаў аўтарскага калектыву — першы мемарыял дзецям-ахвярам Вялікай Айчыннай вайны ў Чырвоным Беразе Жлобінскага раёна. І яшчэ дзясяткі архітэктурна-скульптурных аб'ектаў, якія адлюстроўваюць мужнасць і гераізм савецкіх людзей, памнажаюць славу і гонар нашай рэспублікі.

І кожны з гэтых аб'ектаў прапушчаны Майстрам праз сэрца, амаль кожны пакінуў на ім свой рубец. І гэта не журналісцкі штамп, не банальная метафара. Гэта — суровая рэальнасць. Леанід Мендэлевіч перанёс чатыры цяжкія кардыялагічныя аперацыі. А год таму здарылася яшчэ адна бяда — інсульт, ачуняць ад якога канчаткова не ўдалося да гэтага часу.

Але пра гэта Леанід Мендэлевіч гаварыць не любіць. І нават самому сабе не дазваляе думаць пра нейкія там балячкі. Кожны дзень, як і раней, — увесь у клопатах, у творчых пошуках, у віры грамадскай дзейнасці.

Вось толькі некалькі, найбольш значных эпізодаў аднаго тыдня.

Сустрэча ў майстэрні з міністрам культуры Паўлам Латушкам і амаль чатырохгадзінная гутарка аб праблемах культурнага жыцця ў рэспубліцы. Сустрэча з Надзвычайным і Паўнамоцнам паслом Ізраіля ў Беларусі Іосефам Шагалам і перамовы наконт другой чаргі праекта мемарыяльнага комплексу «Трасцянец» — той яго часткі, дзе знайшлі свой апошні прытулак тысячы вязняў яўрэйскага гета. Паездка ў Бабруйск і абмеркаванне з кіраўніцтвам горада праекта ваенна-патрыятычнага мемарыяла на тэрыторыі тамтэйшай крэпасці, дзе ў гады апошняй вайны фашыстамі было закатавана і расстраляна 127 тысяч савецкіх ваеннапалонных. Выступленне на мітынгу ў Мінску ў Міжнародны дзень Халакосту. Яму, канешне, лепей было б устрымацца пры сённяшнім стане здароўя ад лішніх эмоцый, хвалявання, але і як старшыня Саюза беларускіх яўрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і суполак, і як сумленны сын свайго народа зрабіць гэтага не мог.

А яшчэ між гэтымі клопатамі былі здымкі для тэлебачання, сустрэча з кіношнікамі, якія маюць намер зняць пра Майстра паўнаметражны дакументальны фільм. Я ўжо не кажу пра дзясяткі штодзённых тэлефонных званкоў ад сяброў, калег, знаёмых, і кожнаму з іх трэба было нешта параіць, падказаць ці проста выказаць слова падтрымкі.

А тут яшчэ я са сваімі бясконцымі пытаннямі, уедлівымі роспытамі. Але ні разу, ні на імгненне я не адчуў з боку Леаніда Мендэлевіча нейкай адчужанасці, абыякавасці, стомленасці, не мільганула на твары і ценю якога-небудзь раздражнення, нецярплівасці. На працягу ўсіх нашых сустрэч і размоў — пастаянная ўвага, нязменная добразычлівасць, ветлівасць, поўная адкрытасць і шчырасць.

## Жывая вада творчасці

**— Леанід Мендэлевіч, не так даўно вы сталі лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі за мемарыял «Дзецям — ахвярам Вялікай Айчыннай вайны». Скажыце, калі ласка, чыя была ідэя гэтага мемарыяла? Як ён ствараўся? З кім са скульптараў вы працавалі?**

— Ідэя была мая. Я сам яе прыдумаў і сам увасабляў у жыццё. Гучыць трохі пафасна, прабачце. Словам, было так. Дзяцінства маё прыйшлося на вайну, і яе болі, яе трывогі не абышлі і мяне. Я даўно марыў нейкім чынам увекавечыць памяць дзяцей, да якіх вайна дакранулася сваім крывавым крылом. Асабліва гэтая задума стала вярэдзіць мне душу пасля Чарнобыльскай катастрофы — там таксама нямала пацярпела дзяцей. Аднак мой праект адразу падтрымкі ў рэспубліцы не атрымаў. Мне прапанавалі рэалізаваць яго ў Падмаскоўі, на тэрыторыі знакамітага піянерскага лагера «Огонёк». Маім актыўным прыхільнікам выступіў нават вядомы кампазітар Уладзімір Шаінскі.

Але нейкае сумненне не давала мне спакою, нешта тармазіла мяне. Я ніяк не мог рашыцца. Не хацелася пакідаць Беларусь.

І вось аднойчы ў размове з кіраўніцтвам рэспублікі (тады ва ўладзе былі ўжо Станіслаў Шушкевіч, Вячаслаў Кебіч) я расказаў пра свой праект. Кебіч прыехаў да мяне ў майстэрню разам з Міхаілам Мясніковічам, сваім першым намеснікам. Я паказаў ім малюнкі, макет будучага мемарыяла. Яны загарэліся гэтай ідэяй.

Сталі шукаць месца для будаўніцтва. Чамусьці рашылі, што яно павінна быць пад Мінскам. Таму першую пляцоўку выбралі непадалёку ад кальцавой, па дарозе як ехаць на Хатынь. Цяпер там катэджны пасёлак.

Я выязджаў туды і раз, і другі, глядзеў, глядзеў, але выбранае месца душа чамусьці не прымала. Па-першае, занадта блізка ад горада, з двух бакоў ажыўленая, шумная траса, а мемарыял патрабаваў засяроджанай, удумлівай цішыні. Па-другое, і гэта самае галоўнае, ні тут, ні дзе паблізу ў гады вайны не было дзіцячага канцлагера. У мяне ж была задума стварыць менавіта мемарыял.

Я тады пайшоў у музей Вялікай Айчыннай вайны, і яго супрацоўнікі далі мне спіс усіх дзіцячых канцлагераў, якія арганізавалі фашысты на тэрыторыі Беларусі. І я праехаў, агледзеў усе іх адзінаццаць. І спыніўся на Чырвоным Беразе, што пад Жлобінам. Месца гэтае кранула мяне сваёй хвалюючай цішынёй, сваім тужлівым настроем. Тым больш, што непадалёку быў стары маёнтак, які, вядома ж, быў сведкам трагічных падзей і які ўжо адным гэтым фактам настройваў на сцішаны, балючы роздум. Дарэчы, рэстаўрацыя гэтага маёнтка зараз завяршаецца, і ён разам з мемарыялам складзе вялікі, значымы для рэспублікі комплекс.

Але што значыць я спыніўся? Патрэбна ж яшчэ рашэнне мясцовых улад. Партыйных органаў ужо не было. Пайшоў я да старшыні Жлобінскага гарвыканкама Міхаіла Васільевіча. Добра памятаю, што мне вельмі лёгка ўдалося ўгаварыць гэтага інтэлігентнага чалавека не толькі будаваць мемарыял, але і размясціць яго не ля самай дарогі, а ў вялікім яблыневым садзе.

Такім чынам была атрымана згода на будаўніцтва на ўсіх узроўнях. Але дзе ўзяць сродкі на само будаўніцтва? Вы ж ведаеце, які гэта быў час: у краіне разруха, вэрхал, безграшоўе. На раённы бюджэт няма чаго было і спадзявацца. На шчасце, фінансаваць праект згадзіўся дырэктар Жлобінскага металургічнага завода. Але толькі часткова. На астатняе, сказаў, шукайце спонсара.

Я ўспомніў пра свайго нямецкага сябра-бізнесмена Грыгера. Той імгненна адгукнуўся на маю просьбу, прыляцеў у Мінск, паглядзеў праект і рашуча сказаў: «Я бяру будаўніцтва мемарыяла на сябе поўнасцю». Аднак тады да замежных інвестараў былі яшчэ насцярожлівыя адносіны і таму ў Міністрэстве культуры Грыгеру адмовілі. Ён пакрыўдзіўся і з'ехаў.

У выніку — будаўніцтва заглухла і зацягнулася болей як на дзесяць гадоў. Месца пад мемарыял зарасло быльнягом, а жалезныя канструкцыі саржавелі і ператварыліся ў груду металалому.

Я ўжо лічыў, што справа будзе пахавана.

Аднак жыццё поўнае нечаканасцей. Анатоль Тозік, тады старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю, аднойчы запрашае мяне да сябе і кажа:

— Нядаўна я праязджаў міма Чырвонага Берага і бачу груду бетону і металу. У чым справа?

— Няма грошай…

Карацей, Анатоль Афанасьевіч паабяцаў перагаварыць наконт мемарыяла з Прэзідэнтам. І праўда, неўзабаве нам выдзелілі пэўную суму. Справа зрушылася з мёртвай кропкі. Агульнымі намаганнямі мемарыял давялі да ладу. Экспертная камісія Міністэрства культуры ацаніла яго надзвычай высока. А мы са скульптарам Аляксандрам Фінскім і мастаком Святланай Катковай атрымалі Дзяржаўную прэмію Беларусі.

**— Гэта апошняя па часе ваша ўзнагарода. А сваю першую прэмію вы атрымалі, калі не памыляюся, роўна сорак пяць гадоў таму?**

— Так, гэта было ў 1967 годзе. Прэміі Ленінскага камсамола Беларусі мы былі ўдастоены за стварэнне серыі помнікаў і мемарыяльных знакаў, устаноўленых на тэрыторыі рэспублікі, якія ўвекавечвалі подзвіг народа.

**— «Мы» — гэта…**

— … творчы калектыў у складзе архітэктараў Леаніда Левіна і Валянціна Занковіча, скульптараў Анатоля Анікейчыка і Георгія Мурамцава.

**— Які шчаслівы творчы пачатак. Першая, можна сказаць, сур'ёзная работа — і адразу дзяржаўнае прызнанне. Раскажыце, калі ласка, пра гэта больш падрабязна. Як усё пачыналася?**

— Пачыналася ўсё даволі будзённа. Сакратар ЦК камсамола Беларусі Арсен Ваніцкі, з якім мы былі знаёмы па агульнай грамадскай рабоце, запрасіў аднойчы мяне да сябе і прапанаваў падумаць, як можна ўвекавечыць подзвіг герояў-камсамольцаў у гады вайны на тэрыторыі рэспублікі. Рашэнне знайшлося адразу ж. У тыя гады модным было ставіць на дарогах вялізныя стэнды тыпу «Беражыце лес ад пажару!», «Ахоўвайце прыроду — крыніцу нашых багаццяў» і таму падобнае. Прыйшла ў галаву ідэя: гэтак жа расставіць уздоўж дарог і будучыя мемарыяльныя знакі.

Але ж іх яшчэ трэба стварыць, для кожнага распрацаваць індывідуальнае архітэктурнае рашэнне. А гэта чатырнаццаць аб'ектаў. Аб'ём работы каласальны. Аднаму не справіцца. Запрашаю свайго калегу Валянціна Занковіча папрацаваць разам.

Нашай творчай майстэрняй на доўгі час становіцца маленькая кухня маёй аднапакаёвай кватэры на вуліцы Валгаградскай. Тут мы праводзім вечар за вечарам. Не расстаёмся нават у выхадныя дні. Абмяркоўваем прапанову за прапановай, тэму за тэмай. Мастацкіх ідэй процьма, але не хапае канкрэтыкі. Вырашаем праехаць па месцах падзей, сустрэцца з людзьмі, відавочцамі тых падзей, сваякамі герояў. Дзясяткі імёнаў, дзясяткі непаўторных лёсаў.



*З тэатральным рэжысёрам Валерыем Анісенкам.*

Мы наведваем кожнае месца, дзе быў здзейснены подзвіг. Прагна выпытваем, адшукваем кожную дэталь, кожную падрабязнасць з жыцця любанскай партызанкі Фені Кананавай, якую фашысты звязалі калючым дротам і кінулі ў ледзяную палонку; экіпажа Мікалая Гастэлы, які свой палаючы самалёт накіраваў у самую гушчу варожай тэхнікі, што сабралася на чыгуначным вузле ў Радашковічах; падпольшчыкаў Асінторфа, якія два гады дзейнічалі на акупіраванай тэрыторыі, прычыніўшы ворагу вялізныя страты; братоў Міхаіла і Івана Цубаў з Салігоршчыны, якія завялі групу карнікаў у непраходнае балота і самі загінулі; адважнага кулямётчыка Міхаіла Сільніцкага з Віцебшчыны, які, прыкрываючы адыход партызанскага атрада, быў акружаны фашыстамі і загінуў у рукапашным баі; юнага партызана Марата Казея, які ўзарваў гранатай сябе і дзясяткі ворагаў…

Паступова агульная задума набывае канкрэтныя абрысы. Паказваем свае праекты ў ЦК камсамола. Пасля калектыўнага абмеркавання іх ухваляюць. Саюз мастакоў на кожную тэму рэкамендуе скульптара. Першыя сустрэчы з Ананька, Рыжанковым, Курачкіным, Мурамцавым і іншымі. Пачынаецца сумесная праца.

І можаце сабе ўявіць: за два гады мы зрабілі і ўстанавілі чатырнаццаць помнікаў ці, дакладней сказаць, манументальных знакаў!

А потым была яшчэ другая чарга гэтай праграмы. Новыя тэмы. Новыя імёны герояў. Работы, магчыма, не такія ўжо і маштабныя па мерках вялікага мастацтва. Часам — наіўныя. Я цяпер гляджу на іх, як на першыя крокі дзіцяці, якое вучыцца хадзіць. Але ёсць свая прывабнасць, своя чароўнасць у гэтых далёкіх першых кроках. А мастацтвазнаўцы нават адзначалі, што серыя помнікаў героям-камсамольцам, воінам і партызанам, створаная намі, аказала вялікі ўплыў на развіццё манументальнага мастацтва ў рэспубліцы.

**— Што з гэтай серыі вы маглі б вылучыць? Што далося найцяжэй? Якая з работ прынесла вам найбольшую радасць?**

— Вылучыць? (задумваецца)… Бадай, адна з апошніх работ — помнік легендарнай «кацюшы» ў Оршы. Чаму? Па-першае, гэта было вельмі няпростае заданне: зрабіць помнік не чалавеку, а артылерыйскай установцы. Па-другое, нас абмежавалі жорсткімі тэрмінамі: павінны былі зрабіць праект за пару дзён, непасрэдна там, у Оршы. І мы (а да нас з Валянцінам Занковічам далучыўся яшчэ Юрый Градаў) гэта зрабілі! Працавалі практычна круглыя суткі.

Адкрыццё было ўрачыстым, хвалюючым да слёз. Мора людзей. На беразе. На мосце. Удзел ва ўрачыстасцях прынялі кіраўнікі рэспублікі — Уладзімір Лабанок, Аляксандр Аксёнаў, Генадзь Жабіцкі, ганаровыя госці — маршал Яроменка, Міхаіл Ягораў, які ўзняў над рэйхстагам Сцяг Перамогі, жонка капітана Флёрава, якому лёсам было наканавана менавіта тут, у Оршы, зрабіць першы залп па ворагу з нікому невядомай «кацюшы»…

**— Леанід Мендэлевіч, наколькі я ведаю, вамі было створана яшчэ некалькі работ, прысвечаных падзеям мінулай вайны.**

— Так, у Маладзечне ёсць мемарыял «Шталаг-342», прысвечаны памяці савецкіх ваеннапалонных, закатаваных фашыстамі. У Докшыцкім раёне, на

месцы спаленай карнікамі вёскі Шунеўка, у суаўтарстве са скульптарам Анатолем Анікейчыкам зроблены помнік «Пракляцце фашызму». Шунеўка — малодшая сястра Хатыні. Карнікі сцерлі вёску з твару зямлі. Дарослых сагналі ў хлеў і спалілі. А дзяцей утапілі ў калодзежы. Скупымі сродкамі архітэктуры і скульптуры мы пастараліся паказаць усю глыбіню народнай трагедыі, выказаць гнеўны пратэст супраць ваенных злачынстваў і бесчалавечнасці.

У шэрагу гэтых работ адна з самых значных, на мой погляд, — «Прарыў». Першы помнік гераізму беларускіх партызан. Створаны пад Ушачамі, што на Віцебшчыне. Менавіта там, сярод балот і лясоў, у гады мінулай вайны дзейнічалі шаснаццаць партызанскіх брыгад. Вясной 1944 года яны аказаліся ў нямецкай блакадзе. Супраць народных мсціўцаў фашысты кідаюць групоўку ў шэсцьдзясят тысяч чалавек. Іх наступ падтрымліваюць гарматы, танкі, самалёты. Партызаны ідуць на прарыў. Несучы цяжкія страты, праяўляючы масавы гераізм, выходзяць з акружэння. Вось гэты драматычны момант прарыву, велічны акт мужнасці і гераізму мы з Анікейчыкам і архітэктарам Юрыем Градавым адлюстравалі сродкамі манументальнага мастацтва.

**— Леанід Мендэлевіч, чаму сталася так, што вы, чалавек, які практычна не бачыў вайны, амаль усю сваю творчасць прысвяцілі ваеннай тэматыцы?**

— Вайны я сапраўды не бачыў, але, як я ўжо казаў, яе болі і трывогі зачапілі сваім крылом і мяне. З першага дня бацька пайшоў на фронт і праваяваў ад званка да званка. Маці, знясіленая голадам і хваробамі, без пары памерла. Мы з сястрой Маяй засталіся пад апекай цёці Машы ў чужой краіне, сярод чужых людзей. У Мінск вярнуліся толькі летам сорак чацвёртага, пасля вызвалення Беларусі. Горад быў разбураны дашчэнту, і Бог ведае, як мы выжылі да таго часу, пакуль нарэшце напрыканцы сорак пятага вярнуўся дэмабілізаваны бацька.

Так што ліха хапіла ўсім — і дарослым, і дзецям. І, напэўна, вось гэтыя дзіцячыя ўражанні, а яны, як вядома, самыя яркія, самыя помныя, і не давалі мне спакою ўсе пасляваенныя гады, сілкавалі маю творчую фантазію.

Хаця дзеля справядлівасці мушу сказаць, што не ўсе мае работы прысвечаны ваеннай тэме. Я з вялікім задавальненнем разам са скульптарам Заірам Азгурам удзельнічаў у распрацоўцы плошчы Якуба Коласа, дзе быў устаноўлены шырокавядомы цяпер скульптурны ансамбль. А ў складзе аўтарскага калектыву амаль два гады працаваў над стварэннем скульптурнай кампазіцыі народнаму песняру Янку Купалу. Гэтай работай я ганаруся і сёння. Мы адышлі ад традыцыйных п’едэсталаў, ад шаблонных рашэнняў. Купала стаіць на невялічкім узвышэнні, пад нагамі пласт роднай зямлі. Паэт на хвіліну прыпыніўся, задумаўся. Аб чым? Можа, аб новым паэтычным вобразе, а можа, аб лёсе народным? У ягоным натхнёным позірку ўпэўненасць у шчаслівай будучыні. А побач — спявае фантан з купалінкамі. Бруіць крынічка. Гамоніць, звініць дзіцячымі галасамі парк. Парк, дзе калісьці стаяў дом, у якім жыў Купала, а цяпер на гэтым месцы размешчаны музей яго імя. Адчуваецца, што сярод усяго гэтага Паэту лёгка дыхаецца, утульна пачуваецца.

А помнік князю Давыду, які мы стварылі разам са скульптарам Алесем Дранцом і аўтарскім калектывам да 900-годдзя старажытнага палескага Давыд-Гарадка! Гэта ўжо старонка сівой даўніны. Як вядома, валынскі князь Давыд Ігаравіч атрымаў Пагарынне ў 1100 годзе. І недзе хутка пасля гэтага ён са сваёй дружынай ваяроў спусціўся ўніз па цячэнні Гарыні. Выбраўшы самае маляўнічае месца, князь выйшаў з чаўна, уваткнуў кап’ё ў зямлю і сказаў, што тут будзе заснаваны новы горад.

Месца былога гарадзішча і сёння ўзвышаецца сярод навакольных пабудоў. Аднак помнік было вырашана паставіць на сучаснай гарадской плошчы. Велічная постаць князя з кап’ём у руцэ абапіраецца на закругленыя насы двух чаўноў, якія сімвалізуюць дзве палескія ракі — Гарынь і Прыпяць. А планіроўку самой плошчы зрабілі зусім па-новаму. Заклалі шмат розных гістарычных дэталей. Скажам, лаўкі стылізаваны пад старажытныя чаўны. Дарожкі да помніка выкладзены са

старога дарожнага пакрыцця. На мой погляд, мы тут максімальна рэалізавалі ўсё, што было задумана. Паэт Леанід Дранько-Майсюк, які з тутэйшых мясцін, так ахарактарызаваў зробленае: калі ў сваіх ранейшых работах Левін гаворыць свету аб трагедыі беларускага народа, то ў Давыд-Гарадку ён сказаў аб яго вечнасці.

**— Дарэчы, помнік князю Давыду належным чынам ацэнены не толькі творчай інтэлігенцыяй, але і высокімі ўладнымі структурамі. Творчаму калектыву ў 2003 годзе была прысуджана Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь. Гэта было для вас нечакана?**

— У нейкай ступені так, нечакана. Але вельмі прыемна. Хоць я ніколі не працаваў дзеля ўзнагарод. Найперш хочацца як мага глыбей і паўней, на самым высокім эмацыянальным і мастацкім узроўні ўвасобіць тую ідэю, за якую бярэшся.

**— Леанід Мендэлевіч, вашы работы ёсць не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі — у Расіі, Украіне, Узбекістане. Як вы атрымлівалі там заказы — праз удзел у адкрытых конкурсах ці па асабістым запрашэнні?**

— Па-рознаму было. Ва Узбекістане апынуўся такім чынам. Саюз архітэктараў СССР аб'явіў конкурс на праект помніка воінам-бухарцам, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Мы з Валянцінам Занковічам вырашаем удзельнічаць у гэтым конкурсе. І атрымліваем перамогу. Але гэта быў першы этап. Далей я працаваў адзін і зрабіў новы варыянт. Асноўная ідэя помніка простая і разам з тым метафарычная. Сонечны Узбекістан. Кожны загінуўшы салдат — асколак сонца. Прамень пераходзіць у фігуру паміраючага воіна. Вакол фігуры цячэ па арыку вада. Вада — сімвал жыцця. Уздоўж арыка — Сцяна Памяці. На ёй прозвішчы ўсіх, хто загінуў. Ля ног салдата — Вечны агонь. Помнік атрымаўся нацыянальным і па форме, і па змесце.

А вось з Валгаградам было па-іншаму. Аднойчы ў мяне дома раздаецца тэлефонны званок і ў трубцы чую: «Вас беспокоит первый секретарь Волгоградского обкома комсомола Владимир Катунин. По рекомендации Тяжельникова. Просим, если можно, приехать к нам. Нужна ваша профессиональная помощь…»

Аказалася, у Валгаградзе павінен неўзабаве адбыцца Усесаюзны злёт удзельнікаў паходу па месцах баявой і працоўнай славы савецкага народа. Да гэтай падзеі камсамольцы вырашылі ўстанавіць помнік салдатам, якія першымі прынялі ўдар фашысцкай арміі пад Сталінградам. Іх было дзвесце. І яны загінулі ўсе да аднаго.

У Валгаградзе ўжо ёсць велічны мемарыял на Мамаевым кургане з грандыёзным манументам «Радзіма-маці». Мне прапаноўваюць зрабіць нешта падобнае, толькі больш сціплае. На другім канцы горада.

Еду на месца, дзе павінен быць устаноўлены помнік. Валгаградскі стэп. Высахлая трава. Равы. Варонкі ад снарадаў. Асколкі. Прабітыя ржавыя каскі. Усё ўсыпана гільзамі. Убачанае — уразіла. Зямля ўсё яшчэ захоўвае памяць пра мінулае. Але як усё гэта зрабіць аб'ектам мастацтва?

У кабінеце Катуніна ідуць гарачыя спрэчкі. Прапаноў мноства, а канчатковай ідэі няма. Раптам адчыняюцца дзверы і ў кабінет заглядвае светлавалосая дзяўчынка з яблыкам у руцэ. Я не магу адвесці вачэй ад гэтай дзяўчынкі. І… бачу рашэнне помніка! Так, так… Менавіта дзеля шчасця дзяцей аддалі свае жыцці тыя дзвесце салдат.

Праз тыдзень у мяне гатовыя эскізы помніка «Салдацкае поле». Ён складаецца з дзвюх частках: «Поле Вайны» і «Поле Міру». На «Полі Вайны» ўсё застаецца як ёсць. Як захаваў час. Сімвалічныя выбухі снарадаў. У адным з «выбухаў» — кампазіцыя з сабранага металу ад былых снарадаў. Тут жа невялікая скульптура дзяўчынкі з кветкаю. І — брацкая магіла астанкаў салдат.

«Поле Міру» ўзарана. На ім красуе жыта.

І калі ўжо ўсё было падрыхтавана да адкрыцця, нечакана мне прыносяць пажоўклы лісток старога календара. Там надрукавана пісьмо маёра Петракова сваёй дачцэ з полю боя. Маёр загінуў, а пісьмо дайшло да дачкі. Мяне як усё

роўна токам працяло: дык гэта ж пісьмо да ўсіх нас, да сённяшніх хлопцаў і дзяўчат! Якая пранізліва-шчымлівая кропка на завяршэнне!

Так на помніку з'явіўся мемарыяльны знак — салдацкі трохкутнік. Ля ног дзяўчынкі. З рэальным тэкстам рэальнага героя. Упершыню ў манументальным мастацтве.

## Жалоба і смутак, мужнасць і вера

**— Леанід Мендэлевіч, створанае вамі не можа не ўражваць. Дзясяткі, калі не сотні выдатных архітэктурных праектаў… Усе яны, безумоўна, дарагія і блізкія вам. Як любімыя дзеці. Аднак асмелюся выказаць меркаванне, што сярод гэтых работ ёсць адна, якая ў вашай душы і ў вашай памяці стаіць асобна. Гэта — мемарыяльны комплекс «Хатынь». Я не памыляюся?**

— Так, гэта праўда. Але не толькі таму, што мы, маладыя тады архітэктары — Юрый Градаў, Валянцін Занковіч і я, а таксама скульптар Сяргей Селіханаў атрымалі за наш праект самую высокую, самую прэстыжную ў краіне ўзнагароду — Ленінскую прэмію. Найперш «Хатынь» помніцца высокім душэўным гарэннем, апантаным пошукам новых ідэй і рашэнняў, надзвычайнай радасцю творчых знаходак. Гэта была ўнікальная, маштабная, сапраўды ўсенародная будоўля, на якую працавала дваццаць пяць заводаў рэспублікі. Ніколі пазней мы не адчувалі такой значнасці і такой адказнасці сваёй працы.

**— А раскажыце, калі ласка, пра пачатак гэтай працы. Сённяшнюю «Хатынь» ведаюць усе, а вось хто стаяў ля вытокаў грандыёзнай задумы, як нараджалася ўнікальная ідэя мемарыяла — наўрад ці.**

— Як гэта ні дзіўна, але і на гэты раз усё пачалося з таго, што нас з Валянцінам Занковічам запрасіў да сябе Арсен Ваніцкі. А можа, і не дзіўна, а зусім лагічна: мы ж ужо былі ўганараваныя прэміяй за серыю помнікаў героям-камсамольцам. Цяпер нас прасілі ўвекавечыць памяць партызан, якія загінулі на Расоншчыне. Там, дзе некалі ваяваў Машэраў і дзе ён атрымаў Залатую Зорку Героя.

**— Дарэчы, там жа, на Расоншчыне, была расстраляна фашыстамі і маці Пятра Міронавіча — за сувязь з партызанамі.**

— Дык я да гэтага і вяду. Калі мы прапанавалі свае малюнкі, чарцяжы і макет будучага помніка, Пётр Міронавіч доўга ўсё разглядваў, засяроджана думаў і нечакана прапанаваў:

— Я хачу, каб імя маёй маці было на Сцяне Памяці разам з усімі, па алфавіце. Не трэба нікога выдзяляць.

А на адкрыцці помніка Машэраў падышоў да нас з Валянцінам і, абняўшы за плечы, сказаў:

— Непадалёку ад Расонаў была вёска Велле. У гады вайны гэту вёску спалілі разам з жыхарамі. Я прасіў бы вас прыдумаць нешта на гэтым святым месцы. Чакаю, вельмі чакаю вашага рашэння.

Мы, канешне ж, загарэліся гэтай ідэяй. Пасля некалькіх дзён і бяссонных начэй матэрыял быў гатовы. Сярод шматлікіх творчых прыдумак мы знайшлі галоўнае і абсалютна новае рашэнне — у якасці помніка абазначыць усю вёску, кожны спалены дом.

І зноў сустрэча з Машэравым. Пётр Міронавіч не хавае здзіўлення і захаплення праектам.

— Тое, што вы зрабілі, не пакідае мяне абыякавым. Але…

І прапаноўвае ажыццявіць наш праект у іншым месцы, бліжэй да Мінска. Каб кожны жыхар і госць рэспублікі мог наведаць гэты помнік. Трагедыю спаленых беларускіх вёсак павінны ведаць усе.

**— А якім чынам выйшлі на Хатынь?**

— Выйшлі не адразу. Разглядаліся і Сёмкаў Гарадок, і Дальва, і іншыя месцы, дзе адбыліся трагедыі. Але ўсё часцей і часцей стала называцца Хатынь. Некалькі разоў туды выязджаў сам Машэраў. Нарэшце рашэнне прынята: мемарыял будзе будавацца ў Хатыні.

**— Уяўляю, як здоўжыліся для вас дні гэтага чакання…**

— Ды не, мы асабліва не хваляваліся. Галоўная непрыемнасць была наперадзе. Нечакана Саюз архітэктараў і Саюз мастакоў рэспублікі аб'явілі конкурс на лепшы праект будучага мемарыяла. Мы былі расстроены. Як жа так? Пётр Міроновіч адобрыў нашу ідэю. Здавалася б, нам і ўвасабляць задуманае ў жыццё. Пазней ён растлумачыў: «Хацеў паглядзець, як вы будзеце паводзіць сябе ва ўмовах спаборніцтва. Аднак верыў у вас, адчуваў, што вы вытрымаеце творчы марафон».

**— І многа было канкурэнтаў?**

— Многа. На конкурс паступіла чатырнаццаць праектаў. І ўсё ж, да нашай вялікай радасці, аўтарытэтнае журы прысудзіла перамогу нам.

**— Чым, на ваш погляд, вы пераканалі членаў журы?**

— Напэўна, навізной рашэння. Можа, гэта будзе сказана загучна, але ў тыя дні лёс выпрабоўваў нас на здольнасць да вялікай творчасці. Ніколі яшчэ не адносіліся мы з такой адказнасцю да кожнай дэталі праекта. Да кожнай ідэі. Бязлітасна адкідвалі ўсё, што выклікала сумненні. Стараліся знайсці толькі сваё. Ніякіх перайманняў!

**— Вось пра гэта крыху падрабязней.**

— Самае галоўнае, што пасля шматлікіх спрэчак, абмеркаванняў, разважанняў мы канчаткова вызначаемся: помнікам спаленай вёсцы будзе сама спаленая вёска. Вывучаем усё, што было зроблена да нас на гэту тэму. Пірчупіс, Лідзіцэ, Арадур. Там многа цікавага, хвалюючага. Але мы вырашаем ісці сваім, арыгінальным шляхам. Гэта павінна быць трагедыя менавіта беларускай вёскі і вырашана на грунце нацыянальных традыцый.

Паступова вымалёўваецца вобраз будучага помніка. У аснове толькі рэальныя гістарычныя факты. Узнаўляем планіровачнае рашэнне былой вёскі. Абазначаем месцы ўсіх 26 спаленых хат. Менавіта там, дзе яны стаялі. Нязменнымі застаюцца і вуліцы. Іх было тры — адна галоўная і дзве папярэчныя. Месца, дзе спалілі хатынцаў. Месца, дзе іх пахавалі. Чатыры калодзежы. Увесь ландшафт таксама пакідаем некранутым.

У адзін з нашых прыездаў у Хатынь нас знаёмяць з Іосіфам Камінскім — жывым сведкам людской трагедыі. Мы чуем праўду з вуснаў чалавека, які быў ТАМ. Гарэў разам з жонкаю. З дзецьмі. Ён не можа стрымаць слёз. Нібы толькі што выйшаў з агню. Нібы толькі што ўзяў на рукі паміраючага сына Антона. Раптам здымае кепку, сціскае яе ў руках. Укленчвае ля месца, дзе быў хлеў са спаленымі людзьмі, узрушана шэпча: «Тут усе свае…»

Пасля гэтага выспявае рашэнне: эмацыянальным цэнтрам мемарыяла зрабіць скульптуру няскоранага чалавека з мёртвым хлопчыкам на руках. Правобразам яго становіцца Іосіф Камінскі. Але мы знарок адыходзім ад знешняга падабенства, каб надаць постаці абагуленасць, большую сімвалічнасць.

А яшчэ на членаў журы зрабілі ўражанне нашы коміны-абеліскі. Ідэя нібыта і не новая, але мы вырашылі яе па-новаму: у аснове вертыкаль абрываецца, надаючы вобразу-сімвалу асаблівы трагізм. А вянчае кожны комін невялікі звон. Як набат нашай памяці, трывогі, смутку. Як пераемнасць нацыянальных традыцый.

Словам, створаны вобраз спаленай вёскі, дзе былі старанна прадуманы ўсе яе элементы, дзе выразна прачытвалася трагедыйна-жалобная і разам з тым гераічна-патрыятычная ідэя мемарыяла, прывяла нас да перамогі.

**— І пачалася нарэшце доўгачаканая будоўля…**

— О не, да будоўлі было яшчэ далёка. Праект патрэбна было абмеркаваць і зацвердзіць на бюро ЦК КПБ. Такі існаваў парадак. Мы пачынаем усведамляць,



*На адкрыцці рэканструяванага Траецкага прадмесця разам з Васілём Быкавым і Рыгорам Барадуліным.*

што лёс «Хатыні» яшчэ не вырашыны. На бюро ЦК разгарэліся спрэчкі. Да нас, аўтараў праекта, шмат непрыемных пытанняў:

— Чаму званы?

— Чаму так раскіданы спаленыя вёскі? Трэба зрабіць усё больш кампактна.

— Гэта не нашае, не савецкае рашэнне.

— Калектыў занадта малады. Трэба прызначыць больш вопытнага кіраўніка.

Але апошняе слова за Машэравым. Ён устае, падыходзіць да акна. І пасля некаторай паўзы кажа:

— Давайце хоць бы раз даверымся маладым. Дадзім ім магчымасць зрабіць тое, што яны задумалі. Не будзем перашкаджаць. Будзем ім памагаць.

І мы атрымалі права ажыццявіць свой праект у натуры.

Паўстала пытанне: дзе рыхтаваць рабочыя чарцяжы? У інстытуце «Мінскпраект» ці на Мастацкім камбінаце? Пытанне было немалаважным. На камбінаце работу і яе кошт ацэньвае мастацкі савет. Прычым па расцэнках у дзясяткі разоў большых, чым у інстытуце. Але затое савет меў права рабіць абавязковыя да выканання папраўкі, заўвагі. Не выканаеш рашэнне савета — не атрымаеш ганарар. Мы выбіраем вольную творчасць. Мы гатовыя былі ахвяраваць усім, каб толькі ўвасобіць сваю ідэю «Хатыні» ў жыццё. Рашэнне працаваць у інстытуце «Мінскпраект» прымаем без усялякіх ваганняў.

Зноў і зноў аналізуем усё, што задумана. Мы самі ў сябе прымаем праект. Пераасэнсоўваем кожны элемент помніка. Спрабуем перагледзець свае ж каштоўнасці. Гэта трэба было прайсці. Каб апраўдаць той вялікі давер, які нам аказалі. У той момант у кожным з нас жыло пачуццё асаблівай адказнасці. Перад самім сабой. Перад жывымі і мёртвымі. І, прабачце за пафас, перад сваёю зямлёй. Лёс Хатыні становіцца і нашым лёсам.

Мы не адмаўляемся ад таго, што было знойдзена. Што было прадумана. Што было прапушчана праз сэрца. Пакінулі ўсё. Адзін к аднаму. Як было ў конкурсным праекце. Унікальны выпадак…

Для нас было надзвычай важным, хто ж будзе будаваць «Хатынь». Ці гэта будзе ардэнаносны трэст, які ўзводзіў, дарэчы, Курган Славы, альбо малавядомыя будаўнікі з Міністэрства сельскага будаўніцтва. Кіруючыся інтуіцыяй, выбіраем апошніх. І, як паказаў час, не памыляемся. У іх асобе мы знайшлі сваіх прыхільнікаў і аднадумцаў, з якімі лёгка было рашаць самыя складаныя праблемы.

З першых дзён будаўніцтва Хатынскага мемарыяла курыраваў Машэраў. Непасрэдная арганізацыя будаўніцтва была даручана Міністэрству культуры, Мінскаму абкаму партыі і аблвыканкаму. Планёркі, даклады, прагляды праекта, загады. Жорсткі графік. Жорсткі кантроль.

На хатынскай паляне паяўляецца першы элемент. На месцы спаленага дома. На горцы, у канцы вёскі. Зроблены з дошак. Пафарбаваны ў шэры колер. Пад колер бетона. Правяраем такім чынам маштаб. Першыя прагляды і абмеркаванні. Толькі пасля гэтага прыступаем да выканання задуманага ў матэрыяле.

Пастунова вырастаюць абрысы будучага мемарыяла. Тысячы людзей задзейнічаны на адказнай будоўлі. Званы адлівае брыгада мінскіх умельцаў на чале з Мікалаем Сядовым. Над скульптурнай кампазіцыяй працуе Сяргей Селіханаў. Тэксты для Вянца Памяці пішуць Пятрусь Броўка і Ніл Гілевіч. З усіх канцоў свету вязуць будаўнічыя матэрыялы. Беларускія бетоншчыкі адліваюць спецыяльныя пліты для пешаходных дарожак. Яны зроблены ў выглядзе карыта, пустыя знізу. Гэта для таго, каб кожны крок адгукаўся ў сэрцы на святой зямлі Хатыні. Чорны граніт для абліцоўкі гумна, дзе фашысты спалілі людзей, прывозім з Украіны. З Расіі — белы мармур. Для абліцоўкі Вянца Памяці на брацкай магіле.

Апошнія дні снежня 1968 года. Рэспубліка рыхтуецца адзначыць сваё 50-годдзе. Прыязджаюць кіраўнікі ўсіх саюзных рэспублік. Чакалі прыезду і Брэжнева. Аднак ён чамусьці не прыехаў.

Пётр Міронавіч прывозіць ганаровых гасцей да свайго дзецішча. Усе расчуленыя і ашаломленыя ўбачаным. У многіх на вачах слёзы. Мы стаім побач, абсалютна шчаслівыя. Напружаная трохгадовая праца скончана. Усё задуманае — здзейснена! Грандыёзны карабель пад імем «Хатынь» пачынае сваё плаванне ў жыццёвым моры.

Але не паспелі мы парадавацца, як Машэраў сустракаецца з намі і робіць нечаканую прапанову: праз трагедыю Хатыні паказаць трагедыю мірнага насельніцтва ўсёй Беларусі. Мы цяжка прымаем новую прапанову. Мемарыял створаны. Добрая вестка аб ім шырока пайшла па свеце. А цяпер што? Разбураць створанае? Псаваць песню, якая, што называецца, выканана і прынята.

Пётр Міронавіч пераконвае нас, што нічога разбураць не варта. Трэба прыдумаць другую чаргу «Хатыні», якая б арганічна ўпісалася ў створаны мемарыял, істотна пашырыла яго, надала заяўленай тэме яшчэ большую значнасць і маштабнасць.

Як ні дзіўна, але пачуццё ўнутранага пратэсту вельмі хутка заціхла, і новая творчая задача паступова захапіла нас. Сустракаемся з гісторыкамі, вывучаем архівы. Мы, трое маладых архітэктараў, адзін на адзін застаёмся з задачай, якая яшчэ нікім не рашалася: прапусціць праз лёс Хатыні лёсы соцень іншых вёсак, якія напаткала такая ж трагедыя. Прапусціць праз нашу свядомасць. Праз нашыя сэрцы.

Працуем як апантаныя. І недзе ўжо праз месяц другую чаргу «Хатыні» «раскруцілі». Раскруцілі — гэта значыць знайшлі галоўнае: ідэю і кампазіцыю. Пры гэтым для нас было вельмі важна — не адысці ад вобраза і філасофіі, якія закладзены ў створаным ансамблі. І разам з тым трэба было знайсці нешта новае. Эмацыянальнае. Простае, але маштабнае рашэнне.

Шукаем. Правяраем самі сябе. У макетах. У малюнках. Падрамнік за падрамнікам. Наш сталяр Міхаіл Гурскі на адным з інстытуцкіх сходаў заявіў:

— Толькі аднаму Левіну я зрабіў больш за чатыры тысячы падрамнікаў.

Вось такая была ў нас працаздольнасць. Такое было жаданне не апусціць планку дасягнутага, зрабіць немагчымае. Да гэтага нас падштурхоўвае і Пётр Міронавіч. Ён хоча, каб у Беларусі было тое, чаго няма нідзе.

Першую чаргу ансамбля мы рабілі на конкурс. Ні з кім не абмяркоўвалі. Другую даводзілася паказваць і выносіць на абмеркаванне. Амаль кожны элемент. Нашу работу глядзелі кіраўнікі розных рангаў. Творчыя работнікі. І кожны разважае па-свойму. Часта прапаноўваюць нам зрабіць так, як яны бачылі ў іншым месцы. У Маскве. У Парыжы. У Берліне.

Помню, як цяжка нам далася тэма Вечнага агню. Мы прапанавалі такое рашэнне: на чорнай пліце — чатыры адтуліны. У трох — бярозкі, а ў чацвёртай праз разарваныя краты — агонь Вечнай памяці. Кожнаму чацвёртаму беларусу, які загінуў падчас вайны. Быў яшчэ варыянт з чатырма васількамі. Скульптурны варыянт. Тры васількі цэлыя, а адзін — зламаны.

Уладзімір Кароль, старшыня Дзяржбуда, якому мы паказалі гэтыя варыянты, застаўся незадаволены:

— Ну вы, хлопцы, ужо зусім распаясаліся. Але ёсць жа святыя рэчы, якія патрабуюць класічнага рашэння.

Пад класічным рашэннем падразумявалася гранітная пліта і пяцікутная зорка. Як ля Крамлёўскай сцяны. Мы спешна робім традыцыйны варыянт.

У майстэрню прыязджае Машэраў. Паказваем яму макет з пяцікутнай зоркай.

— Тое, што зрабілі вы, мог зрабіць і я, — нечакана кажа ён. — Не веру, што ў вас няма арыгінальнага рашэння.

Мы выносім макет з трыма бярозкамі. Пётр Міронавіч абрадавана ўсміхаецца:

— Вось тое, што трэба… Думаю, вы знайшлі вобраз, які стане сімвалам Беларусі.

Нялёгка далася і тэма Могілак спаленых вёсак. Пасля шматлікіх пошукаў спыніліся на варыянце з урнамі. Проста і надзвычай уражліва, эмацыянальна.

Не абышлося і без расчараванняў. У самы адказны момант нас пакідае Валянцін Занковіч. Ён поўнасцю пераключаецца на работу ў калектыве, які будуе помнік у Брэсцкай крэпасці. Усё напружанне, звязанае з завяршэннем нашага мемарыяла, мы з Юрам Градавым прымаем на сябе.

**— Думаю, што гэта былі не самыя вялікія праблемы, з якімі вам давялося сутыкнуцца падчас будаўніцтва «Хатыні». Напэўна, здараліся і больш сур'ёзныя, больш складаныя рэчы?..**

— Хапала ўсяго. Прывяду толькі некалькі прыкладаў. Я ўпамінаў Могілкі спаленых вёсак. Каб падкрэсліць унікальнасць гэтага аб'екта, мы вырашаем размясціць яго на штучным плато. Дзясяткі МАЗаў бесперапынку возяць і насыпаюць зямлю. І вось калі ўжо ўсё было гатова, мы з жахам бачым, што гэтае плато практычна знішчыла натуральны хатынскі рэльеф. Згубілі сілуэт вертыкалі са званамі. Катастрофа! А да адкрыцця мемарыяла застаюцца лічаныя дні. Дакладваем Машэраву. Ён тэрмінова прыязджае ў Хатынь. Згаджаецца з намі. Дае згоду на пераробку. І ні слова папроку. На наступны дзень тыя ж МАЗы вывозяць насыпаную зямлю з хатынскай паляны. Усё вяртаецца да натуральнага рэльефу… Сённяшнія наведвальнікі і не здагадваюцца, колькі за гэтым стаіць нашых перажыванняў, спаленых нерваў.

Ці такі выпадак. Першапачаткова намі было задумана, каб званы адгукаліся на парыў ветру. Задумалі — выканалі. А званы маўчаць. Сілы ветру не хапіла, каб прымусіць іх загучаць. Давялося ідэю «электрафікаваць». Працэс аказаўся няпростым. Але справіліся і з гэтай задачай. Званы Хатыні загаварылі па задуманай намі схеме.

Ведаеце, на любой будоўлі праблем хапае. А на такой складанай, унікальнай, як «Хатынь», іх было ў дзясяткі разоў больш. І творчых, і вытворчых…

**— А ці з усімі ўдалося справіцца? Магчыма, нешта засталося і нерэалізаваным?**

— На жаль, па розных прычынах не змаглі рэалізаваць некалькі нашых ідэй. Яны не істотныя, але, як мне здаецца, гэта былі б цікавыя штрыхі да агульнага ансамбля мемарыяла. Скажам, у чатырох стылізаваных калодзежах мы меркавалі

змясціць на дне малюнкі дзяцей з адлюстраваннем чатырох пор года. Вясна, лета, восень, зіма. Час, які назаўсёды спыніўся для хатынцаў.

Засталася ў праекце і чаша-курыльніца. Яе мы меркавалі паставіць пры ўваходзе на тэрыторыю мемарыяла. І запальваць адзін раз у год, 22 сакавіка, у дзень, калі не стала вёскі. Горкі дым памяці сустракаў бы ў гэты дзень кожнага наведвальніка «Хатыні».

Нам параілі адмовіцца яшчэ ад аднаго аб’екта — кіназала. Палічылі, што ён будзе выбівацца з агульнага хатынскага ансамбля. Хаця гэты зал вельмі арганічна ўбудоўваўся ў невялікі пагорак і практычна нічым не вылучаўся. Шкадую, што не настаялі на сваім. Цяпер тут можна было б хораша завяршаць шматлікія экскурсіі, паказваць кадры кінахронікі, зробленыя ў гады вайны. Кадры жахаў і бесчалавечнасці.

**— Шкада, канешне. Але ж, напэўна, і не бывае так, каб усё, што задумана, было рэалізавана да апошняй дэталі. Тым больш на такой грандыёзнай будоўлі… Адкрыццё мемарыяла было шматлюдным, урачыстым?**

— Не тое слова. Ведаеце, язык не паварочваецца назваць гэта мерапрыемствам. Гэта была падзея, з’ява ў жыцці рэспублікі. Да гэтага часу ярка помніцца адзін знамянальны эпізод. Мы з Юрам Градавым едзем у «Хатынь» на адкрыццё. Узбоч дарогі ідзе пажылы мужчына. Прытарможваем, пытаемся: «Куды шлях трымаеце?» — «Іду глядзець дзіўны помнік. Пачуў пра яго і іду». — «Адкуль?» — «Са Стоўбцаў. Сюды на аўтобусе, а зараз пешшу. Там і наша вёска…»

Прызнанне яно альбо ёсць, альбо яго няма. Прызнанне народам «Хатыні» не патрабавала ніякіх пастаноў, ніякіх спецыяльных рашэнняў. Людзі самі пайшлі да мемарыяла. З мясцін навакольных і з глыбінкі. Прыходзілі нават тыя, хто гадамі не пакідаў роднай вёскі, мястэчка, горада. Ішлі да сваіх. Да тых, хто заўсёды ў іх сэрцах, у іх маршчынах, у іх слязах. Развязвалі свае торбачкі. Даставалі няхітры харч. Паміналі. Свае вёскі. Сваіх блізкіх. Паміналі ўсіх, каго забрала вайна. Для нас, аўтараў, гэта было найвышэйшым прызнаннем нашай творчасці.

Пра «Хатынь» загаварылі. Загаварылі як пра з’яву ў мастацтве. Паявіліся шматлікія публікацыі. Былі ўзнёслыя водгукі прафесіяналаў. У мемарыял пацягнуліся экскурсіі. З усіх куткоў Беларусі. З усіх рэспублік Савецкага Саюза. З-за мяжы.

«Хатынь» зажыла сваім, самастойным жыццём. Як сімвал жалобы і смутку, як помнік мужнасці і веры народнай.

## Жыцця пакручастыя сцежкі

**— Леанід Мендэлевіч, давайце мы ад агульных разважанняў зноў пяройдзем да канкрэтных фактаў вашай біяграфіі. Скажыце, калі ласка, стаць архітэктарам — гэта было вашае асабістае жаданне ці жаданне вашых бацькоў?**

— Гэта быў мой выбар і маё жаданне. Справа ў тым, што я з дзяцінства вельмі любіў маляваць. І колькі помню сябе, увесь час маляваў, маляваў… Натуральна, што, скончыўшы школу (а скончыў яе з залатым медалём), мая жыццёвая сцежка была ўжо фактычна прадвызначана. Мой выбар заключаўся толькі ў тым, каб вырашыць, якому інстытуту аддаць перавагу: тэатральна-мастацкаму ці політэхнічнаму з яго архітэктурным факультэтам. Я выбраў архітэктуру. Напэўна, сваю ролю тут адыграла тое, што бацька мой быў праекціроўшчыкам камунальных збудаванняў. Апошні яго аб’ект да вайны — Камсамольскае возера ў Мінску. Я добра помню яго ўрачыстае адкрыццё. Быў сонечны чэрвеньскі дзень. Нядзеля. Прыйшлі сотні святочна апранутых людзей. Вакол усмешкі, музыка, кветкі. Мы ўсёй сям’ёй — бацька, маці, сястра і я — у блакітнай лодцы на блакітнай роўнядзі вады. Было вельмі прыгожа, рамантычна. І мне падалося,

што ствараць такія вось жывыя, натуральныя аб'екты куды цікавей, чым маляваць карціны.

Аднак на чацвёртым курсе я чамусьці расчароўваюся ў абранай спецыяльнасці і вырашаю паступаць у тэатральна-мастацкі. Здаю экзамены і набіраю прахадны бал. На субяседаванні са мной размаўляе сам рэктар інстытута — вядомы мастак Віталь Цвірко. Кожная яго фраза — абвінавачванне ў мой адрас. Сурова папракае мяне за тое, што я, не скончыўшы адзін інстытут, паступаю ў другі. Відаць, спалохаўся размеркавання, таго, што пашлюць на раён. Гэта было несправядліва і вельмі крыўдна. Але цяпер, з вышыні пражытых гадоў, я прыгадваю гэты эпізод з цёплай удзячнасцю: знакаміты мастак даў мне магчымасць атрымаць найлепшую ў свеце прафесію — прафесію архітэктара.

**— Звычайна малады спецыяліст мае патрэбу ў парадах, у падтрымцы больш вопытнага чалавека. А ў вас ці былі такія настаўнікі па жыцці?**

— Ведаеце, я скажу зараз дзіўную рэч. Першыя ўрокі мастацтва мне давала… сонца. Гэта было ў далёкай Кіргізіі, у гарадскім пасёлку Кара-Балты, дзе мы разам з мамай апынуліся ў эвакуацыі. Вельмі часта мяне, пяцігадовага хлопчыка, пакідалі дома аднаго, замкнуўшы кватэру на ключ. У пакоі было маленькае-маленькае акенца, праз якое ў ясную пагоду прабівалася сонца. Я гуляў з яго промнямі, лавіў сонечных зайчыкаў і не мог адарваць вачэй ад каляровых вясёлак, якія сонца малявала на сцяне. І мне таксама хацелася маляваць…

Пазней, калі я ўжо вучыўся ў мінскай сярэдняй школе, маім першым сапраўдным настаўнікам у мастацтве стаў Сяргей Пятровіч Каткоў. Ён умеў знаходзіць нас, хлапчукоў, на развалінах Мінска і аднаго за адным прывабліваць да заняткаў у мастацкую студыю пры Доме піянераў. Сяргей Пятровіч па-свойму стараўся кампенсаваць нам тое, што адняла вайна. Лячыў нашы параненыя душы мастацтвам. Мы малюем неба, горад, прыроду. Робім паездкі ў Белавежскую пушчу. На возера Нарач. У поле. У лес. Мы прагна ўбіраем колеры і пахі навакольнага жыцця, наталяемся сокамі роднай зямлі.

А першым і, бадай, галоўным настаўнікам у маёй прафесіі стаў выдатны беларускі архітэктар Георгій Заборскі. Ён вёў у нас на факультэце заняткі па спецыяльнасці, а пасля таго, як я на чацвёртым курсе «на выдатна» выканаў курсавую работу, запрасіў мяне на працу ў сваю майстэрню. Маладым архітэктарам Георгій Уладзіміравіч любіў паўтараць: «Не меней як дзесяць гадоў вы павінны хадзіць у чаляднікаx, у памочніках. Вучыцеся вастрыць алоўкі». Але гэта была знешняя суровасць. Калі ён бачыў тваю стараннасць і тваю адданасць справе, то давяраў самыя адказныя работы. Мяне, напрыклад, яшчэ студэнта, прыцягнуў да ўдзелу ў конкурсе праектаў помніка абаронцам Брэсцкай крэпасці. А калі праект атрымаў заахвочвальную прэмію, падключыў мяне да работы ў другім туры гэтага конкурсу.

Многім я ўдзячны свайму незабыўнаму настаўніку. Яго творчыя і жыццёвыя ўрокі вельмі дапамаглі мне ў маім прафесіянальным і грамадзянскім сталенні.

У гэтым сэнсе я магу назваць сваімі настаўнікамі і Аляксандра Воінава, і Валянціна Гусева, і Наталлю Макляцову. Яны вучылі сваім прыкладам, сваёй творчасцю. Перасцерагалі ад сляпога капіравання, раілі ісці сваім шляхам.

А яшчэ… не здзіўляйцеся!.. маімі настаўнікамі ў самым высокім сэнсе гэтага слова былі Янка Купала і Якуб Колас. Яны, можа, больш чым хто фарміравалі мой светапогляд, маю любоў да роднай зямлі. Іх творы — жыццядайная крыніца і для душы, і для розуму.

**— А вучні, Леанід Мендэлевіч, у вас ёсць?**

— Вучняў у мяне цэлая група. Усе яны працавалі ў маёй майстэрні. Саша Трусаў, Ільля Дзятлаў, Віктар Барташэвіч, Валянцін Сокал — не буду ўсіх пералічваць, іх прозвішчы нічога вам не скажуць. Хаця некаторыя сталі даволі цікавымі архітэктарамі. Трое нават працуюць у Амерыцы, час ад часу мне звоняць, расказваюць аб сваіх поспехах.

Адзін час многія начальнікі ўзялі моду прыстройваць да мяне сваіх нашчадкаў. Мне гэта не дужа падабалася, але шкада было маладых. Яны хоць зорак з

неба не хапалі, але былі працалюбівыя, даволі сур'ёзна адносіліся да архітэктуры і доўга працавалі ў маёй майстэрні. Праўда, пасля таго, як развалiўся Савецкі Саюз, далейшы лёс некаторых з іх склаўся даволі сумна.

**— Раз мы ўжо загаварылі пра высокае начальства, то не магу ў вас не спытаць пра Машэрава. У вас з ім было шмат сустрэч, прытым у самых розных абставінах. Што вы можаце сказаць пра яго як кіраўніка і як чалавека?**

— Ну, многае я ўжо сказаў. Узяць хоць бы той жа эпізод з помнікам у Расонах. Упэўнены: ніхто б Пятра Міронавіча не асудзіў, калі б яго маці, закатаваную фашыстамі, мы неяк вылучылі асобна. Як і было на самай справе. Аднак ён папрасіў нас не рабіць гэтага. Уключыць у агульны спіс партызанскіх барацьбітоў. Мы тады былі ўражаны такой ягонай далікатнасцю і чалавечнасцю.

Не менш я быў уражаны і расчулены і такім фактам. Не дажыўшы два месяцы да адкрыцця «Хатыні», памёр мой бацька. Каб падтрымаць мяне ў гэты горкі час, выказаць сардэчныя словы спачування, Пётр Міронавіч прыязджае ў нашу майстэрню. Заўважце: не адрабляецца казённаю тэлеграмаю альбо банальным тэлефонным званком, а знаходзіць час і прыязджае асабіста. І праводзіць у размове са мною больш за дзве гадзіны.

І такія паважлівыя адносіны ў Машэрава былі не толькі да мяне — да ўсіх, з кім даводзілася яму сустракацца. Памятаю, недзе перад самым адкрыццём мемарыяла ён прыехаў у Хатынь. Падышоў да рабочых, якія масцілі каменем тэрыторыю ля Могілак спаленых вёсак. Пацікавіўся: «Ну як, паспееце? Не крыўдзяць вас тут?» І, пачуўшы на ўсе пытанні бадзёрыя адказы, паціснуў кожнаму руку і сказаў «дзякуй».

Работа з Пятром Міронавічам многаму нас навучыла. Я не агаварыўся: менавіта работа, а не проста размовы. Мы разам вырашалі найскладанейшыя творчыя заданні. Ён разумеў нас і самым актыўным чынам дапамагаў нам.

**— Леанід Мендэлевіч, людзі вашай прафесіі звычайна трымаюцца сваёй адасобленай кастай. У вас жа, наколькі я ведаю, ёсць добрыя знаёмыя, нават сябры і сярод мастакоў, і сярод пісьменнікаў, і сярод кампазітараў. Як вам гэта ўдаецца?**

— Ведаеце, я спецыяльна не шукаю гэтых знаёмстваў. Усё атрымоўваецца само сабой, у сілу розных абставін. Скажам, дружба з Анатолем Анікейчыкам пачалася падчас сумеснай працы. Але нам цікава было гаварыць не толькі на творчыя, а і на самыя розныя тэмы. Нас яднала агульнасць нашых грамадзянскіх пазіцый.

Вельмі цёплыя склаліся ў нас адносіны з Заірам Азгурам. І хоць часам мы востра спрачаліся, як, напрыклад, на будаўніцтве скульптурнай кампазіцыі на плошчы Якуба Коласа, адкуль ён нават прагнаў нас з Юрыем Градавым, але гэтыя спрэчкі ніколі не перашкаджалі нам вырашаць самыя сур'ёзныя творчыя задачы. Мне здаецца, што нашыя зносіны былі ўзаемацікавыя і ўзаемакарысныя.

З Сяргеем Грахоўскім мы блізка пазнаёміліся ў санаторыі «Аксакаўшчына». Ведаеце, агульныя беды хутка збліжаюць людзей. За два тыдні, што мы правялі разам у не самых лепшых абставінах, Сяргей Іванавіч адкрыўся мне не толькі як таленавіты паэт, але і як чалавек складанага, неардынарнага лёсу. Гады выпрабаванняў у ГУЛАГу не азлобілі яго, не зрабілі помслівым. Засталіся добрыя адносіны да ўсяго, што было навокал. Наша сяброўства працягвалася да апошніх яго дзён. Ён бываў у нас дома, вельмі любіў нашу дачку Галю. Я быў у яго на радзіме, у Глуску.

Самыя цёплыя, самыя светлыя ўспаміны засталіся ад сустрэч і гутарак з Максімам Танкам. Нам было аб чым пагаварыць. Ён не толькі выдатна ведаў літаратуру (беларускую, польскую і іншыя), але і грунтоўна быў знаёмы з творчасцю Сальвадора Далі, Марціраса Сар'яна, Мікалоюса Чурлёніса… Пры яго шырокай вядомасці, гучнай паэтычнай славе заставаўся надзвычай сціплым і абаяльным чалавекам.

Вельмі любіў і люблю Васіля Быкава. Я не маю права называць яго сваім сябрам, хаця мы часта бачыліся, пра многае гаварылі. Але блізкіх адносін не было. Аднойчы Васіль Уладзіміравіч зайшоў да мяне ў майстэрню. Я паказаў яму свае работы, прысвечаныя дзецям, якія загінулі ў гады вайны. Ён доўга, з тужлівай задуменнасцю ўглядваўся ў кожны элемент праекта і горка занячыў:

— Паставілі помнікі генералам, героям, партызанам, падпольшчыкам — усім. Толькі дзецям — няма. А колькі яны, бедныя, пазналі гора. У канцлагерах. Застаўшыся пасля вайны сіротамі…

Я расказаў пра пісьмо Каці Сусанінай з няволі. Скупыя радкі гэтага пісьма Васіль Уладзіміравіч успрыняў надзвычай эмацыянальна.

— Ніводзін, нават самы геніяльны пісьменнік не зможа напісаць так, як напісала гэта дзяўчынка, — сказаў ён. — Усё трэба прапусціць праз сэрца. Як вы прапусцілі Хатынь…

Гэта былі вялікія мастакі, сапраўдныя творцы — як зоркі Вялікай Мядзведзіцы. Зносіны з імі давалі не толькі душэўную радасць, але і духоўнае натхненне. Кожная сустрэча рабіла цябе больш шчодрым і багатым. Як і цяперашнія сустрэчы з Ігарам Лучанком, Генадзем Бураўкіным, Валерыем Анісенкам…

**— Дарэчы, на вашым шляху да Ленінскай прэміі паўстала адна асоба — значная і небяспечная. Я маю на ўвазе колішняга міністра культуры СССР Кацярыну Фурцаву.**

— Так, было, было… На нейкім этапе нашы матэрыялы па «Хатыні» пажадала паглядзець Фурцава. Яна моўчкі, з суровым тварам хадзіла ад стэнда да стэнда, а калі скончыла прагляд, з гневам напусцілася на нас:

— Што гэта за работа? Гэта ж здзек з мастацтва! Што скажуць нашчадкі, калі ўбачаць такога старога — абарванага, няшчаснага? Тут жа адзін песімізм. Дзе гімн Перамозе? Дзе вера ў будучыню? — І як забойчы прысуд катэгарычна заявіла: — Тут і блізка няма НАШАГА мастацтва! Помнік трэба зносіць. Пад бульдозер.

**— Мемарыял і Ленінскую прэмію ўратаваў тады толькі Машэраў…**

— Вы ведаеце, а я і на Фурцаву не крыўдую. Зусім нядаўна расійскае тэлебачанне паказала пра яе шматсерыйны фільм. Паглядзеў яго ад пачатку да канца. Фільм высветліў многія грані гэтай, як аказалася, неардынарнай жанчыны. Тыповай прадстаўніцы сваёй эпохі. Жанчыны, якая прайшла шлях ад ткачыхі да міністра культуры. Да члена Палітбюро ЦК КПСС. Энергічная. Дзелавая. Непрадказальная. І многа зрабіла для савецкай культуры добрага, карыснага. Менавіта пры Фурцавай пачалі праводзіць Міжнародныя конкурсы імя Чайкоўскага. Пры ёй Вялікі тэатр становіцца «выязным». Рускі балет заваёўвае ўвесь свет. І не яе віна — яе бяда: яна верыла толькі ў мастацтва сацыялістычнага рэалізму. Яна не разумела авангарда. Не прызнавала і не падтрымлівала. «Хатынь» стала выклікам яе бачанню і разуменню мастацтва. Таму міністр і не змагла стрымаць сябе. Яна шчыра выказвала сваю думку.

**— Вы ўмееце дараваць людзям?**

— Так, я не трымаю зла. Жыццё паказала, калі пачынаеш на зло адказваць злом, помсціць, то ўсё гэта не прыводзіць да станоўчага выніку. Канешне, я балюча перажываю ўсялякія гадасці, інтрыгі, здрады. Але разумею: усё гэта чалавечыя слабасці, і іх трэба не тое што дараваць, а быць вышэй гэтага.

**— А ці ёсць рэчы, якія дараваць нельга?**

— Вядома ж, ёсць. Скажам, подласці ў чыстым выглядзе. Подласці ўсвядомленай, прадуманай, езуіцкай. І ўсё ж я лічу, што лепш не апускацца да ўзроўню помсты. Куды больш прадуктыўна дараваць чалавеку і забыць. Праўда, наша грамадства яшчэ не гатова да такога. Большасць людзей любяць узяць свайго крыўдзіцеля загрудкі і даць па мордзе. А вось проста прамаўчаць і гэтым маўчаннем, можа быць, пакараць чалавека яшчэ мацней — такое чамусьці атрымоўваецца рэдка. Мы прывыклі да больш радыкальных мер.



*Лаўрэаты Ленінскай прэміі Юрый Градаў, Леанід Левін і Валянцін Занковіч.*

Я ж выхаваны ў тым духу, што чалавечыя адносіны павінны быць чалавечымі. І заўсёды трэба падыходзіць да свайго апанента з разуменнем. І вось калі ты станеш на яго месца і зможаш яго зразумець, то наўрад ці ўзнікне жаданне хапацца загрудкі. У горшым выпадку — не падасі яму руку.

**— Якую падзею ў сваім жыцці вы лічыце самай важнай, самай галоўнай?**

— Я нават не ведаю… Відаць, усё-такі «Хатынь». А яшчэ для мяне вельмі важны і дарагі помнік дзецям-ахвярам вайны — «Яма».

**— Што з задуманага вамі засталося нерэалізаваным?**

— Нерэалізаванага многа. Неяк мы з дачкою падлічвалі — аказалася недзе пад сотню праектаў. Я ж удзельнічаў болей як у пяцідзесяці конкурсах. Шмат разоў выходзіў пераможцам. Але многае засталося за бортам.

**— У прыватнасці?**

— У прыватнасці, вялікі і, як мне здаецца, арыгінальны помнік партызанам. Сур’ёзныя напрацоўкі ёсць па Трасцянцы. Там жа практычна ажыццёўлена толькі першая чарга. А тэрыторыя, дзе расстрэльвалі яўрэяў, дарэчы, не толькі беларускіх, але і прывезеных з Еўропы, гэтая зона пакуль што ляжыць некранутая. Страшная трагедыя, якая разыгралася тут напрыканцы вайны, сарамліва засталася за бортам нашага жыцця. Гэта пытанне вельмі сур’ёзнае, і я ім валодаю дастаткова глыбока. Спадзяюся, што з дапамогаю новага ізральскага пасла Іосефа Шагала ўдасца ўсё-такі зрушыць справу з мёртвай кропкі.

А вось адзін мой праект — маштабны, прыгожы, цікавы — мусіць, ужо так і застанецца нерэалізаваным. Гэта — Палац рэспублікі. У нас з Градавым і калектывам быў не проста праект памяшкання, а цэлая, усебакова прадуманая, канцэпцыя забудовы Цэнтральнай, цяпер Кастрычніцкай, плошчы. Галоўная ідэя заключалася ў тым, што мы Палац размяшчалі побач з музеем Вялікай Айчыннай вайны і аб’ядноўвалі іх у адно цэлае. Атрымоўваўся выдатны ідэалагічна-культурны і героіка-патрыятычны комплекс «Вайна і мір». Пры гэтым плошча і прыгожы сквер, які быў там, цалкам захоўваліся. Адкрываўся цудоўны від на Верхні горад. А яшчэ не менш

важным было тое, што па нашым праекце не парушалася ўнікальнасць Мінска, які ўяўляў сабою каралі з пяці непаўторных плошчаў, нанізаных на нітку праспекта.

**— І што здарылася?**

— Нехта больш уплывовы пераканаў Машэрава, што Палац рэспублікі трэба ставіць у цэнтры плошчы. Мы рэалізоўваць гэтую заганную ідэю адмовіліся.

**— Гэта — учынак.**

— Канешне, мы рызыкавалі. Нас нават выклікалі і пясочылі на бюро ЦК. Дзякаваць богу, абышлося.

**— Леанід Мендэлевіч, вы шчаслівы чалавек?**

— Думаю, што так. Жыцця майго пакручастыя сцежкі не раз прыводзілі мяне да поспеху, да перамогі. Хаця было ўсялякае — і расчараванні, і няўдачы, і балючыя страты. Гэта толькі збоку здаецца, што жыццё несла мяне наперад пад белымі ветразямі. Не, даводзілася перажываць і сур'ёзныя штормы. Галоўнае — не збочваць са сваёй дарогі.

**— А ў чым, на вашу думку, шчасце?**

— Мне здаецца, яго кожны разумее па-свойму. Аднаму варта смачна, сытна паесці — і ён ужо шчаслівы. Другі напіша нешта талковае — і таксама перажывае хвіліны шчасця. Для мяне ж заўсёды было і застаецца шчасцем мой надзейны тыл. Мая сям'я. Я ўсе гады спакойна працаваў, не думаючы аб розных гаспадарчых праблемах. Не баючыся, што калі затрымаюся ў майстэрні, то будзе дома скандал. Мне вельмі пашанцавала з жонкай. З Наталляй мы пазнаёміліся яшчэ ў інстытуце — былі на адным курсе, у адной групе. Яна сядзела наперадзе. Яе каса, яе манера паводзін, яе думкі не проста падабаюцца мне — захапляюць. Кожны дзень ператвараецца ў свята. І, дзякаваць лёсу, гэтае свята доўжыцца і па сёння.

А яшчэ маё шчасце — дачка Галіна. Яна заўсёды побач са мной. Мой блізкі друг і аднадумца. У дзяцінстве Галя марыла стаць следчым. У яе пра ўсё была свая думка. Упарта дабівалася свайго. Калі займалася ў балетнай студыі, мы ледзь паспявалі купляць ёй пуанты. У старшых класах пачала цікавіцца тым, чым займаюцца яе бацькі. Гадзінамі магла знаходзіцца каля макетаў і планшэтаў. Пайшла ў архітэктурную студыю пры Саюзе архітэктараў. І недзе тады ж прыняла ўдзел у міжнародным конкурсе сярод вучняў. І заняла другое месца. Думаю, што гэты конкурс і вырашыў лёс дачкі. Яна скончыла той жа факультэт, што і мы з Наташай. Стала прафесіянальным архітэктарам. І муж у яе — Аляксандр Капылоў — таксама архітэктар. Яна па-свойму бачыць архітэктуру. Па-свойму адчувае лінію малюнка. Па-свойму чуе музыку архітэктуры. Яе захапляе рэстаўрацыя гістарычных помнікаў. У яе праяўляецца паэтычны дар. І я рады, што яна ўжо мае ўласныя зборнікі вершаў, якія добра ацэнены чытачамі.

Я перакананы: дом, сям'я — гэта першаснае. А творчасць — другаснае, хаця яна і прыносіць аграмаднае задавальненне.

**— І на заканчэнне пытанне філасофскае. У чым, на ваш погляд, сэнс жыцця? Дзеля чаго чалавек прыходзіць на гэты свет?**

— Я лічу, што чалавек прыходзіць, каб пакінуць пасля сябе які-небудзь след. І кожны мае такую магчымасць: адзін за станком, другі на будоўлі, трэці ў творчасці. Мне пашанцавала, што я рана вызначыўся са сваім прызваннем і ніколі не здраджваў яму. Таму я нешта і зрабіў у гэтым жыцці.

*Гутарку вёў Зіновій ПРЫГОДЗІЧ.*



**Таццяна ШАМЯКІНА**

# НЯСТОМНЫ ПРАПАГАНДЫСТ РОДНАГА СЛОВА

Кожная лекцыя на філфаку БДУ Вячаслава Пятровіча Рагойшы заканчваецца апладысментамі студэнтаў. Так бурна, не стрымліваючы свайго захаплення, адгукаюцца нашы навучэнцы на выключнае прамоўніцкае майстэрства, фенаменальную эрудыцыю і, галоўнае, апантанасць лектара прадметам свайго выкладання — літаратурай. Шчыры энтузіязм сёння, бадай, выключная і самая каштоўная чалавечая ўласцівасць, якая на фоне ўсеагульнага катастрафічнага затухання эмацыянальнасці, голага рацыяналізму, ці, наадварот, тэлевізійнага пошлага камедыянства робіць на людзей, асабліва маладых, надзвычай моцнае ўражанне. А яшчэ інтэлігентнасць (у лепшым значэнні слова), якая пры поглядзе на Вячаслава Пятровіча, пры першых яго словах адразу бярэ ў палон ўдзячных слухачоў.

Мой бацька Іван Шамякін у размове пра інтэлігентаў заўсёды першымі ўспамінаў мужа і жонку — Вячаслава Рагойшу і Таццяну Кабржыцкую. Яго захапляла іх унутраная культура, выключная тактоўнасць, павага да старэйшых, добрая памяць пра ўсё, што тычыцца літаратуры і пісьменнікаў. Я ў лекцыях пра герояў беларускай літаратуры, абавязкова згадваючы Андрэя Лабановіча і сцвярджаючы яго тыповасць, менавіта нацыянальную адметнасць, апелюю да вядомых студэнтам асоб, у якіх яскрава ўвасобіліся рысы Коласавага героя. І тут зноў-такі першым называю Рагойшу. Сапраўды, сялянскі сын увабраў у сабе лепшыя рысы інтэлігента, арыстакрата духу — дабрыню, розум, дапытлівасць, рахманасць, дасціпнасць, заклапочанасць грамадскімі справамі, увагу да кожнага чалавека.

Пазнаёмілася я з Вячаславам Пятровічам, калі ён, яшчэ студэнт 5 курса, прыходзіў да нас у мінскую сярэднюю школу № 2 на педагагічную практыку. Усім дзяўчатам-школьніцам спадабаўся высокі, прыгожы бялявы хлопец з прыемнымі манерамі, заўсёды спакойны і вытрыманы. Наступная сустрэча з ім — праз некалькі гадоў, ужо на другім курсе філалагічнага факультэта БДУ, дзе малады выкладчык чытаў нам лекцыі. У далейшым мы працавалі разам з Рагойшам на кафедры беларускай літаратуры — спачатку, кароткі тэрмін, пад кіраўніцтвам прафесара, будучага акадэміка Івана Навуменкі, даволі працяглы час — пад начальствам дацэнта Вольгі Казловай, затым прафесара Алега Лойкі. Даводзілася распрацоўваць і выкладаць самыя розныя дысцыпліны. Але ўрэшце Вячаслаў Пятровіч выбраў «Уводзіны ў літаратуразнаўства», чытаў на 1-м курсе лекцыі, а я «за ім», як мы прафесійна гаворым, вяла практычныя заняткі. У 1994 г. Алег Антонавіч Лойка, тады ўжо дэкан філалагічнага факультэта, дамогся адкрыцця кафедры тэорыі літаратуры, адзінай у вышэйшых навучальных установах Беларусі. Натуральна, узначаліў кафедру прафесар Рагойша. Я ў яго — намеснік.

90-я гады нездарма называюць ліхімі. Так здарылася, што ў маім асабістым лёсе гэтае дзесяцігоддзе аказалася найбольш цяжкім: смерці блізкіх людзей, хваробы, матэрыяльныя нястачы. Але вытрымаць, чытаць шматлікія дысцыпліны і, больш за тое, нават у неверагодна неспрыяльных умовах абараніць доктарскую дысертацыю аказалася магчымым дзякуючы працы на кафедры пры Рагойшы, яго пастаяннай падтрымцы і клопаце. Выключна добразычлівая атмасфера,



*Вячаслаў Пятровіч Рагойша.*

спакойнае вырашэнне ўсіх пытанняў, лагоднасць з боку загадчыка да кожнага калегі, спрыянне агульнаму сяброўству ў калектыве даравалі не проста задавальненне ў працы, а радасць і жаданне творчасці.

Пра чалавечыя вартасці Вячаслава Пятровіча гаворыць хоць бы такі факт. Калі з маім мужам здарылася бяда, Вячаслаў Пятровіч і Таццяна Вячаславаўна ноч правялі са мной у прыёмным пакоі 2-й бальніцы, пакуль ішла аперацыя.

Паміж намі, мной і Вячаславам Пятровічам, ніколі не было непаразуменняў. Адзін толькі раз (прытым справядліва) ён выказаў недаўменне, калі я пайшла, не параіўшыся з ім, з яго кафедры на загадванне іншай кафедрай. Пра далікатнасць Рагойшы ходзяць легенды. Але і баявітасці яму не пазычаць, ён умее змагацца за інтарэсы справы. З 90-х гадоў неаднаразова гаварыў пра неабходнасць адкрыцця на філалагічным факультэце літаратурнага аддзялення, накшталт міні-літаратурнага інстытута. Здавалася, ідэя абсалютна лагічная і сапраўды неабходная, тым больш, што менавіта з нашага факультэта выйшла большая частка літаратараў Беларусі — прычым не толькі пісьменнікаў, але і журналістаў. На жаль, настойлівыя парады Вячаслава Пятровіча аказаліся пачутыя, па розных прычынах, залішне позна — толькі з 2011/2012 навучальнага года на факультэце адкрылі накірунак «літаратурна-рэдакцыйная дзейнасць». Думкі прафесара яшчэ раней падхапіў Інстытут журналістыкі БДУ, дзе вырашылі выхоўваць пісьменнікаў, не маючы ў дастатковай колькасці ні адпаведных кадраў, ні традыцый. Такую бесшабашную смеласць можна толькі ўхваліць. Безумоўна, у журналістаў і пісьменнікаў, асабліва ў наш час, ёсць шматлікія пункты судакранання, хоць дзейнасць публіцыстычна-рэпарцёрская і творчасць літаратурна-мастацкая — розныя з'явы. Дарэчы, у Інстытуце журналістыкі Вячаслаў Пятровіч таксама чытае лекцыі, тлумачыць будучым масмедыйшчыкам асаблівасці вобразнага слова, якое ім, безумоўна, усё ж спатрэбіцца.

З моманту ўзнікнення кафедры тэорыі літаратуры загадчык зрабіў яе ў многім, так бы мовіць, акадэмічнай, узяў курс на арганічнае зліццё адукацыі і навукі. Пад кіраўніцтвам Рагойшы праводзіцца вялікая навукова-даследчая праца, у якой актыўна ўдзельнічаюць не толькі выкладчыкі, але і аспіранты, студэнты. Ні адна кафедры на філфаку, апроч Рагойшавай, не выйграла столькі студэнцкіх грантаў на распрацоўку навуковых тэм. У кнізе «Філалагічны факультэт. Да 70-годдзя існавання» (2009 г.) пра ўнікальную кафедру тэорыі літаратуры чытаем: «Супрацоўнікі кафедры асэнсоўваюць тэарэтычныя аспекты развіцця беларускай вуснай народнай паэтычнай творчасці і беларускага прыгожага пісьменства, вывучаюць асобныя пытанні тэорыі літаратуры (цэласнасць мастацкага твора, вершаванне, літаратурная вобразатворчасць і г. д.), даследуюць усходнеславянскую міжлітаратурную супольнасць XX ст., класічныя і некласічныя мадэлі свету ў фальклоры і літаратуры, аналізуюць «вузкія месцы» ў вывучэнні праблем тэорыі літаратуры і літаратурных сувязей у сярэдніх навучальных установах і ВНУ і інш.». Пры кафедры працуе лабараторыя беларускага фальклору, якая таксама праводзіць значную навукова-даследчую работу.

У Вячаслава Пятровіча шмат вучняў і паслядоўнікаў: былыя студэнты, магістранты, аспіранты. Ёсць вучні нават у Грузіі, Украіне, Польшчы. Да тых, каго ён выправіў у навуковую дарогу, непасрэдна кіруючы напісаннем дыпломных і дысертацыйных прац (у тым ліку маёй дачкі Марыі), можна дадаць шматлікіх дактароў і кандыдатаў навук, чые інтарэсы ён адстойваў шмат гадоў у ВАКу, а таксама тых, хто сёння абараняецца ў спецыялізаваным дысертацыйным савеце па літаратуразнаўстве пад яго ж старшынствам. Тут нават адзінкавага галасавання «супраць» амаль не бывае, бо атмасфера добразычлівасці і павагі да прэтэндэнта, створаная старшынёй, спрыяе выключна пазітыву. А пытанні саіскальнікам навуковай ступені Рагойша задае такія, што для ўсіх прысутных адразу як бы «высвечваецца» сутнасць праблемы. Часам яна робіцца больш яснай нават для самога дысертанта.

Вучні Рагойшы — гэта і мы, калегі, якія не толькі вучыліся ў яго ў студэнцкія і аспіранцкія гады, але і працавалі, працуем з ім разам. Так, доўгі час пад навуковым кіраўніцтвам Вячаслава Пятровіча калектыў аўтараў, куды і я ўваходжу, стварае падручнікі па беларускай літаратуры для школы — спачатку школы з паглыбленым і пашыраным вывучэннем мовы і літаратуры, а потым — базавай. Дарэчы, у гэтых падручніках для паглыбленага вывучэння было зроблена шмат адкрыццяў, не толькі з боку зместу, фактуры, але нават і ў метадычным плане. Надзвычай прадуктыўнай аказалася ідэя Рагойшы пра ўвядзенне беларускай літаратуры ў сусветны кантэкст — прычым на ўсіх гістарычных этапах развіцця айчыннага прыгожага пісьменства. На жаль, усе напрацоўкі ў далейшым аказаліся фактычна незапатрабаванымі, як бы выкрасленымі з педагагічнага ўжытку. Шматгадовая творчасць кваліфікаванага калектыву, фенаменальна карпатлівая, адказная праца яго кіраўніка Рагойшы прапалі, можна сказаць, дарэмна. Больш не запрашаюць дактароў навук, якія, між іншым, рыхтуюць ва ўніверсітэце будучых настаўнікаў, і да распрацоўкі школьных праграм (пад кіраўніцтвам Рагойшы іх створана некалькі для старэйшых класаў). Праграмы цяпер складаюць ананімныя калектывы аўтараў, і ніхто ні за што не адказвае. Вось і атрымоўваюцца ў навучанні пэўныя парадоксы: прыходзяць нашы студэнты на педагагічную практыку ў школу і пачынаюць вучыць дзяцей так, як мы іх саміх вучым, як мы раім. Эфект — ашаламляльны. Былі выпадкі, што школьнікі нават плакалі, не жадаючы развітвацца са студэнтамі-практыкантамі. Ва ўсялякім разе, пад канец практыкі вучні робяцца дапытлівымі, з іншым інтарэсам да беларускай літаратуры, з абуджанымі творчымі здольнасцямі. Але супрацьлеглая сітуацыя складваецца, калі выпускнікі БДУ ідуць у школу па размеркаванні як штатныя настаўнікі. Студэнтамі яны адчуваюць за плячыма нашу падтрымку і клопат, наш аўтарытэт, і таму дазваляюць сабе не тое, што эксперыменты, але дастатковую крэатыўную смеласць у выкладанні мовы і літаратуры. Стаўшы часткаю сістэмы, яны не могуць ні на крок адступаць ад бюракратычных установак. А мы дапамагчы сваім выхаванцам ужо не ў стане, бо поўнасцю бяспраўныя ў школьным навучанні. Можа быць, таму заўважаецца такая нелюбоў навучэнцаў (будзем шчырыя) менавіта да беларускай літаратуры — яна ў школе прадукт чыноўніцкай дзейнасці, а не творчасці спецыялістаў. У гэтым пытанні мы з Вячаславам Пятровічам поўнасцю салідарныя. Але нават яго бясспрэчная навуковая вага і метадычны вопыт (дзесяцігоддзямі працаваў на школу) не можа прабіць сцяну.

Гаворачы пра вучобу ў Рагойшы, нельга не сказаць пра самых галоўных і, бясспрэчна, любімых яго вучняў — родзічаў: жонку (яна — самастойны і вельмі глыбокі даследчык, але не без уплыву мужа), трох сыноў Усевалада, Максіма і Пятра, нявесткі, унукаў. Усе сыны атрымалі не адну адукацыю, а некалькі, два з іх (ды і жонка, і нявестка таксама) — кандыдаты філалагічных навук, працуюць на адказных пасадах.

Любоў да ведаў і выключнае працалюбства ў сям'і Рагойшаў спадчынныя. У 2008 г. Вячаслаў Пятровіч склаў кнігу з твораў — вершаў, успамінаў, досле-

даў — сваіх родных дзядзькаў — Кастуся і Антося Рагойшаў. У Каментары да лірыкі, эсэ і некаторых дакументаў Вячаслаў Пятровіч распавядае пра свой радавод. У архівах ён дашукаўся да сярэдзіны XVIII ст., знайшоўшы згадку пра першага з роду — Фёдара Рагойшу. У генезіс свайго прозвішча сам прафесар не паглыбляўся. Але некалі гэта зрабіла я. На першы погляд здаецца, што прозвішча ўгра-фінскае. На самай справе, у ім выразна праглядае спрадвечны індаеўрапейскі корань «ра» — самая старажытная не толькі ў егіпцян, але і ў нашых продкаў назва сонца. Сонечнасць надзвычай стасуецца і да вобліку Вячаслава Пятровіча, і да яго дзейнасці. Не мае значэння, ці правільнае маё тлумачэнне з пункту гледжання класічнай этымалогіі, — яно дакладнае па глыбіннай сутнасці.

Продкі Рагойшы, як ён высветліў, спачатку былі ўніятамі, потым каталікамі і праваслаўнымі. Знойдзена сведчанне, што ў 1865 г. адзін з Рагойшаў выкупіў у памешчыка 13 дзесяцін зямлі. Захаваліся і дакументы, як сяляне вёскі Пярэжары ў 1911 г. судзіліся з памешчыкам з-за пашы: тут згадваецца Іосіф Рагойша. Каталік, ён ажаніўся з праваслаўнай. І потым усіх сваіх дзяцей хрысціў у праваслаўе, бо так было паводле законаў Расійскай імперыі. З шасці дзяцей Іосіфа старэйшы Пётр — бацька Вячаслава. Сам ён лаканічна піша ў Каментары, што бацька яго нарадзіўся 12 ліпеня 1914 г. у Пярэжах, пад Ракавам, павета Маладзечна. Закончыў пры паляках поўны курс навук у Народнай земляробчай школе (нешта накшталт сельскагаспадарчага тэхнікума). Вучыўся і паводзіў сябе вельмі добра. Пасля ўстанаўлення савецкай улады ў 1939 годзе, «калі на базе школьнай гаспадаркі арганізавалі адзін з першых у Заходняй Беларусі калгасаў, калгаснікі абралі П. І. Рагойшу сваім старшынёй. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Пасля вайны працаваў старшынёй Выганіцкага сельсавета, затым — ажно да выхаду на пенсію — калгасным бухгалтарам у Ракаве. Пахаваны на Ракаўскіх праваслаўных могілках».

Больш падрабязна ў мемуарных нататках «Светлы след» піша пра Пятра яго малодшы брат Антось, навуковец-матэматык, які ўсё жыццё выкладаў у Гродзенскім універсітэце. У прыватнасці, адзначае: «Цяга Пеці да зямлі, раслін і жывёл, старанныя адносіны да вучобы выдзялялі яго сярод вучняў. Ён быў выдатнікам, лепшым вучнем Школы». Такім жа выдатнікам у вучобе заўсёды быў адзіны сын Пятра — Вячаслаў (залаты медаль у школе, дыплом з адзнакай у БДУ). А таксама сыны самога Вячаслава Пятровіча.

Нельга не прывесці і тыя радкі Антося Рагойшы, дзе гаворыцца пра гераічныя ўчынкі яго брата падчас Вялікай Айчыннай вайны. Пётр быў партызанскім сувязным. Яго выдалі, арыштавалі, везлі на расстрэл, але ён збег. «Калі савецкія войскі вызваліліМіншчыну, Пецяўліўся ў Чырвоную Армію, ваяваў у складзе сапёрных часцей. Пад агнём праціўніка наладжваў водныя пераправы, размініраваў мінныя палі, рэзаў загароджы з калючага дроту і г. д. Бог ратаваў ад смерці. Быў цяжка паранены пры штурме Кёнігсберга. Вызваляў ад фашыстаў Польшчу, Германію. На Эльбе сустрэўся з амерыканскімі войскамі. Узнагароджаны медалямі «За Отвагу», «За взятие Кёнигсберга» і інш.» Шмат якія рысы характару — упартасць, волю, мужнасць — Вячаслаў Пятровіч узяў ад бацькі. Ды і падобны да яго знешне. Ён ганарыцца сваім родам і не раз сведчыў гэта ў розных інтэрв’ю.

Ганарыцца і жонкай. Гаворыць: «Гэта і любоў мая з маладых гадоў, і жонка верная, і сяброўка шчырая, і клапатлівая маці маіх сыноў. Мы ўплывалі (і ўплываем дагэтуль) адзін на аднаго — і ўплываем разам на дзяцей...»

Жаніцьба Вячаслава Рагойшы з Таццянай Кабржыцкай увайшла ў аналы гісторыі беларускай літаратуры. Вядомая журналістка Таццяна Падаляк піша на гэты конт: «... Яны пазнаёміліся на студэнцкай навуковай канферэнцыі ў Адэсе, куды Таццяна прыехала са Львова. Паслухалі даклады адно аднаго. Пазнаёміліся. І ажно пяць гадоў перапісваліся: яна пісала па-ўкраінску, ён — па-беларуску. Сыгралі вяселле ў 1967-м, на той час Вячаслаў ужо скончыў універсітэт, адслужыў у войску (служыў у Гродне ў мотапяхотным палку гранатамётчыкам), скончыў аспірантуру, абараніў дысертацыю і стаў працаваць на кафедры беларускай

літаратуры БДУ. Гулялі вяселле ў Ракаве згодна з усімі народнымі традыцыямі. Больш за сто гасцей, сярод іх — тагачасныя члены кафедры: Міхась Ларчанка, Ніл Гілевіч, Алег Лойка, а таксама Адам Мальдзіс, Уладзімір Караткевіч, Фёдар Янкоўскі, Сяргей Панізнік... З лёгкай рукі Мальдзіса тое вяселле назвалі «вяселлем веку». Амаль тыдзень яно доўжылася (былі акурат Кастрычніцкія святы), іграў на вяселлі народны квінтэт Салаўёў: цымбалы, баян, бубен, скрыпка, флейта. Бацька зарэзаў цялушку, закалоў падсвінка, у недалёкай Налібоцкай пушчы заказаў бітон пушчанкі (зараз ужо можна і ўзгадаць: гарэлка мацункам 50 градусаў, двойчы пераганяецца). Караткевіч узняў вершаваны тост: «Малю аб вечным і адзіным: // Хай шчасце будзе на вякі // Шлюб Беларусі і Украіны, // Шлюб Львова й Іслачы-ракі». І пажаданне яго збылося найлепшым чынам. У народзе кажуць: як у ваду глядзеў...» Ад сябе дадам, што нічога дзіўнага ў прадказанні класіка няма, бо многія геніяльныя пісьменнікі валодалі прагнастычнымі здольнасцямі, маглі прадбачыць будучае.

Уладзімір Караткевіч бываў у хаце бацькоў Рагойшы неаднаразова. Тут нават захоўваецца канапа пісьменніка-рамантыка. Вячаслаў Пятровіч увогуле вызначаецца асаблівым піетэтам да рэчаў, але не проста рэчаў, а толькі да тых, што нясуць адзнакі часу, памяць пра блізкіх і дарагіх людзей. У год юбілею Караткевіча (2010 г.) Вячаслаў Пятровіч дамогся, каб на яго, Рагойшавым, спадчынным доме мясцовыя ўлады дазволілі павесіць мемарыяльную дошку, што ўзгадвала пра гасцяванне тут выдатнага пісьменніка — сябра гаспадароў. Дошку на грамадскіх пачатках зрабіў наш праслаўлены скульптар Іван Акімавіч Міско. Натуральна, усе выдаткі па яе адліўцы і ўзвядзенні прафесар Рагойша ўзяў на сябе.

Яго сям'я арганізавала на сваім лецішчы «Музей поліэтнічнай культуры Ракаўшчыны», дзе захоўваюцца рэчы і дакументы пра родзічаў і знакамітых сяброў, пра сувязі на Ракаўскай зямлі культур беларускай, польскай, яўрэйскай, украінскай, рускай. Дарэчы, Таццяна Вячаславаўна — дачка вядомага ва Украіне опернага спевака, вядучага тэнара Львоўскай оперы, а маці яе — сібірачка. Жонка Вячаслава Пятровіча — яшчэ і сваячка вядомага рускага рэжысёра Сяргея Бадрова-старэйшага. Сям'я Бадровых неаднаразова гасцявала ў Рагойшаў. Ёй таксама адведзена месца ў музеі. Куток самой Таццяны Вячаславаўны — украінскі. Яна, дачка ўкраінскага народа, шмат робіць па прапагандзе роднай культуры ў Беларусі, і яе працу, у тым ліку працу па даследаванні ўкраінскай літаратуры, адзначалі ва Украіне ордэнам княгіні Вольгі. Адна з публікацый (Аляксандры Халопік) пра сям'ю Рагойшаў названа «Шлюб Львова і Іслачы-ракі». Шлюб ва ўсіх сэнсах шчаслівы. Сама Таццяна Вячаславаўна стала заўзятай прыхільніцай таксама і беларускай культуры, цудоўна валодае беларускай мовай, піша на ёй свае даследы. І муж і жонка — сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў і Саюза пісьменнікаў Украіны.

Не варта бачыць у сямейных акцыях — мемарыяльнай дошцы, арганізацыі музея (скажу яшчэ і пра іншыя) — нейкае імкненне да самасцвярджэння. Уласная слава, хоць ён і Слава, менш за ўсё хвалюе Вячаслава Пятровіча. У яго зусім іншая ідэя. Ён выдатна разумее, што ў такім малым мястэчку, як Ракаў, у яго культурнай прасторы, злучаліся сялянскае і гарадское светаадчуванні: касмічнае пачуццё селяніна і рацыяналізм гараджаніна, што дае надзвычай своеасаблівы сінтэз (па сабе адчуваў). Акрамя таго, тут — родная сядзіба Рагойшы, месца злучэння этнічнага роду і зямлі — у міфалогіі вышэйшая іерагамія (гарманічная лучнасць, саюз, шлюб). Сэнс любой сядзібы — не толькі эстэтычна-гаспадарчае пераўвасабленне пэўнай тэрыторыі, культурна-апрацаванай прыроды, фармаванне мастацкага ландшафту, але і абавязковая заяўка на жыццё ў пакаленнях, месца існавання сям'і ў часе — працяглым часе. Але паколькі сям'я незвычайная (усе інтэлігенты з сялянскімі каранямі), то і сядзіба павінна несці знакі гэтай незвычайнасці, сцвярджаць і народную, і прафесійную культуру, нагадваць пра сапраўдны беларускі арыстакратызм: не магнаты — яго носьбіты, хопіць нам іх славіць, а вось такія працаўнікі і ваяры, як Пётр Рагойша, чые дзяды і бацькі сеялі хлеб, і пры гэтым

неяк паспявалі ствараць найбагацейшы фальклор, а іх дзеці і ўнукі апантана вучыліся і рабіліся ў розных галінах ведаў сапраўднымі прафесіяналамі.

Знакамітая паэтка і дацэнт БДУ Ірына Багдановіч прысвяціла сям'і Рагойшаў верш «Ракаўскі радавод», дзе паэтычна падкрэсліла арганічнае паяднанне прыроды, культуры і чалавечага роду:

«Там, дзе бруіцца Іслач» сінім сном
Між берагоў гісторыі найноўшай,
Фальварак Ракаўскі гаспадара Рагойшы
Стаіць — цагляны самавіты дом.

З пенатаў тых усім вятрам на злом,
На славу Краю, а не дзеля грошай,
Шлях беларускі рыцарскі вяльможна
Накрэсліў ён узрушаным пяром.

Сваю тут сцвердзіў Грэцыю — «Афіны»,
Адсюль, з навасармацкае цвярдыні,
Ад радаводу Бурачка й Крапіўкі,

Аперaны ўзляцеў чарод крылаты:
Сыны — нібыта ў казцы тры асілкі.
І ўсе Рагойшыкі — Рагайшаняты.

Сядзіба Рагойшаў нагадвае пра святыя для беларусаў абрады і звычаі. Скажам, цяжка ўявіць сям'ю больш гасцінную, чым Рагойшава. Толькі да іх могуць уваліцца не менш чым дваццаць чалавек, як мы, калегі гаспадароў, у мінулым годзе, калі ехалі ў Валожын на вечарыну. Толькі тут накормяць прысмакамі, сваімі рукамі прыгатаванымі па спрадвечных рэцэптах; пакажуць любоўна захаваныя рарытэты, паводзяць па старажытным Ракаве, павозяць, не шкадуючы часу, па яго ваколіцах. І ўсё гэта з гонарам за родныя мясціны, за людзей, якія тут жылі.

Захапіўшыся праслаўленнем «эфектыўных гаспадароў», якія пабудавалі свае маёнткі для «выкачвання» грошай ад турыстаў, мы забываемся згадаць тых, хто стварае сядзібу для ўмацавання сваёй сям'і, культурнай сям'і — уласна кажучы, галоўнай каштоўнасці ў любой краіне, калі краіна жадае існаваць і развівацца. Сядзіба роду Рагойшаў — яскравы прыклад для іншых, лепшая з нацыянальных ідыялагем; адзін з яе сэнсаў — выхаваўчы.

Акрамя такіх, пакуль незвычайных для правінцыі, акцый, як стварэнне музея, устанаўленне мемарыяльнай дошкі, Вячаслаў Пятровіч і яго родзічы — нястомныя краязнаўцы, шчырыя патрыёты Ракаўшчыны, Валожыншчыны. Свае доследы яны змяшчаюць у газеце «Ракаўскі шлях», якую, зноў-такі, Вячаслаў Пятровіч выдае на ўласныя грошы з 2000 г. І Іван Шамякін выступаў у гэтай газеце, успамінаючы, як яны з Янкам Брылём у пачатку 50-х гадоў ездзілі на каларытны Ракаўскі кірмаш. І Алег Лойка, любімы настаўнік Вячаслава Пятровіча, у яе пісаў. Ды шмат якія знакамітыя людзі Беларусі. Тут ёсць пра што пісаць. Ракаў называлі і «беларускім Ерусалімам», і «паўночнымі Афінамі», а Рагойша знаходзіць падабенства Ракава з Кракавам. Я, зноў-такі, бачу ў назве тыповага беларускага мястэчка, як і польскай старажытнай сталіцы, «сонечную» марфему «ра», ды яшчэ не менш сакральную «ка» — найменне душы ў нашых продкаў. Значыць, як сведчыць мова, гэта сапраўды незвычайныя месцы (Кракаў, паводле эзатэрыкаў, адна з сямі чакраў Зямлі; я разумею індуісцкую «чакру» ў навуковым сэнсе як месца выхаду глыбіннай энергіі планеты). Вядомы журналіст Пётр Дарашчонак сведчыў пра Ракаў: «Гэты куток Беларусі стаў радзімай шэрагу дзеячаў культуры: філосафа і літаратуразнаўца Мар'яна Здзяхоўскага, польскіх празаікаў Казіміра Здзяхоўскага, Паўла Здзяхоўскага, кампазітара Міхаіла Грушвіцкага, яўрэйскага літаратуразнаўца Уры Фінкеля, опернага спевака Вінцэнта Бруя. Такім чынам, Ракаў з яго цікавай гісторыка-культурнай спадчынай патэнцыяльна з'яўляўся

цудоўнай стартавай «пляцоўкай», той рэальна існуючай непаўторнай мясцінай беларускага краю, дзе мажліва было б рэальна наладзіць трывалыя сувязі паміж мінулым і сучаснасцю, адрадзіць і развіць лепшае з напрацаванага папярэднікамі. Вячаслаў Рагойша першым прыкмеціў гэта, а неўзабаве вакол яго згуртаваліся энтузіясты-аднадумцы: пісьменнікі Яўген Гарадніцкі, Язэп Янушкевіч і Таццяна Кабржыцкая, мастак Фелікс Янушкевіч і іншыя».

Багатая культурная спадчына Ракава, «мясціны сілы», бо нараджала таленты, падштурхнула Вячаслава Пятровіча арганізаваць тут навуковыя «Ракаўскія чытанні», якія праходзілі пяць ужо разоў. Збіраліся навукоўцы з Беларусі, Украіны, Расіі, Прыбалтыкі, Англіі. Ішла гаворка не толькі пра Ракаўшчыну, хоць гэта, безумоўна, — галоўная тэма, але і пра значэнне малой радзімы ў жыцці і творчасці выдатных людзей, пра культурную ролю правінцыі, малых гарадоў, мястэчак; адзначалі юбілеі выдатных землякоў, напрыклад, 200-годдзе В. Дуніна-Марцінкевіча.

Любая арганізацыя навуковага мерапрыемства — заўсёды задача надзвычай складаная, патрабуе шмат намаганняў, часу, ды і немалых матэрыяльных сродкаў. Неаднаразова арганізоўваў міжнародныя канферэнцыі, навуковыя чытанні Вячаслаў Пятровіч і на філфаку БДУ. Некаторыя яго кафедральныя акцыі — рэгулярныя, праводзяцца штогод, напрыклад, Шырмаўскія чытанні (ужо адбыліся 11-я).

Сам Вячаслаў Пятровіч быў добра знаёмы з Рыгорам Шырмам, з гонарам успамінае, як знакаміты майстар выступаў на філфаку ў 1958 годзе, і студэнт Рагойша разам з сябрамі праводзіў яго дадому. «Па дарозе Рыгор Раманавіч распытваў, хто мы, адкуль, хто нашы бацькі і г. д. Я прыгадаў, як год таму «хор Шырмы» (так у народзе называлі той славуты калектыў) прыязджаў у мой Ракаў, выступаў у перапоўненай актавай зале школы, як мае землякі горача прымалі шырмаўцаў, як усе мы, школьнікі, хацелі пасля канцэрта бліжэй падступіцца да харыстаў, дакрануцца да іх фракаў... Рыгор Шырма цёпла адгукнуўся пра «прыгранічны» Ракаў, вядомы на ўсю Заходнюю Беларусь як нелегальны «калідор!» для заходнебеларускай моладзі, што імкнулася ў БССР на вучобу і прыстойную працу. Добрым словам успомніў ён і нашага дырэктара школы Васіля Пятровіча Налецкага, руплівага краязнаўцу і патрыёта Ракаўшчыны, які пасля таго канцэрта наладзіў для харыстаў нечаканы «царскі пачастунак». Рыгор Раманавіч расказаў, як ён і яго сябры праз Таварыства беларускай школы (ТБШ) адстойвалі ў Заходняй Беларусі права беларусаў вучыцца на роднай мове, выказаў спадзяванне, што «перакос» у адносінах да беларускай мовы — часовы... Маэстра запрасіў нас да сябе ў кватэру, накарміў смачнай вячэрай. Паказаў, чым займаецца: якраз тады ён рыхтаваў да выпуску першы том свайго знакамітага чатырохтомнага збору «Беларускіх народных песень». Тэксты песень былі раскладзеныя ў дзесяткі папак, ляжалі стосам на стале. Трэба было іх не толькі сістэматызаваць, адрэдагаваць (і словы, і мелодыі), але і забяспечыць належнымі каментарыямі, а выданні — markdownрознымі паказальнікамі: жанрава-тэматычным, імянным, геаграфічным. Рыгор Раманавіч наракаў на недахоп часу, на нездароўе. Мы тут жа выказалі жаданне яму дапамагчы чым можам, напрыклад, першаснай сістэматызацыяй твораў (як-ніяк, мы ж вывучалі фальклор!), складаннем паказальнікаў... Ён задумаўся, уважліва паглядзеў на нас, а потым прамовіў: «Што ж, дзякую...» Некалькі месяцаў мы даволі рэгулярна наведвалі кватэру Рыгора Раманавіча, з радасцю выконвалі розную працу: сістэматызавалі, перапісвалі і вычытвалі рукапісы песенных тэкстаў, пазней — чыталі карэктурныя адбіткі, рабілі розныя паказальнікі...»

Паводле ўспамінаў Рагойшы выходзіць, што свае выдатныя, выключныя здольнасці сістэматызатара ў навуцы ён набыў, дапамагаючы знакамітаму Маэстра. І вось ужо больш за дзесяцігоддзе аддае яму даніну, арганізоўваючы надзвычай папулярныя ў Беларусі Шырмаўскія чытанні — фактычна свята нацыянальнага фальклору, народнай творчасці. Сам з Таццянай Вячаславаўнай часта выязджае ў іншыя гарады і краіны на розныя навуковыя і літаратурныя форумы.

Ён вызначаецца лёгкасцю на нагу. У дзяцінстве марыў працаваць на чыгунцы, стаць машыністам. Прага пастаяннага руху, дарогі, перасоўвання ў прасторы засталася на ўсё жыццё.

У той жа час Вячаслаў Пятровіч надзвычай удумлівы і працалюбівы даследчык літаратуры, звыклы да доўгай і карпатлівай працы за сталом, у архівах, у бібліятэках. Спіс навуковых прац Рагойшы ужо дасягае 1000 пазіцый. Гэта ўдвая перавышае колькасць выданняў яго любімага настаўніка — таксама вялікага рупліўца на ніве літаратуры — прафесара Алега Лойкі. Як сапраўдны навуковец, Рагойша заўсёды асноўваецца, перш за ўсё, на фактах, таму і вывучае так настойліва архівы. Сам ён сведчыць: «З гэтых пошукаў нарадзіліся многія мае публікацыі. У прыватнасці, з падобных знаходак цалкам склалася і кніга «Напісана рукой Купалы». Выйшла яна ў 1981 годзе. «Вышыні» ж маюць падзагаловак «З невядомага і забытага пра Янку Купалу, Якуба Коласа і Максіма Багдановіча». Гэтая праца таксама напісана на аснове архіўных пошукаў і, зразумела, знаходак. Яны прывялі і да выдання арыгінальных аўтарскіх кніг: Сяргея Палуяна, Старога Уласа і нават «Жыве Беларусь!» Янкі Купалы».

Выключна вялікі рэзананс, і не толькі ў Беларусі, мела складзеная Рагойшам кніга верша Я. Купалы «А хто там ідзе?» у перакладзе на розныя мовы свету. Адказваючы на пытанні Алеся Марціновіча пра творчыя кантакты і наладжванне ўзаемасувязей паміж братнімі літаратурамі, Вячаслаў Пятровіч падкрэсліваў: «Маё зацікаўленне тэорыяй і практыкай мастацкага перакладу, практыкай і тэорыяй літаратурных узаемасувязей, найперш беларуска-ўкраінскіх, пачалося з першых выступленняў на студэнцкіх канферэнцыях у Львове і ў Адэсе. Бадай, у кожнай маёй кнізе прысутнічае і ўкраінскі матэрыял. Найперш у кнігах «Карані дружбы» (напісана сумесна з Таццянай Кабржыцкай), у «Праблемах перакладу з блізкароднасных моў» (падзагаловак: «Беларуска-руска-ўкраінскі паэтычны ўзаемапераклад»), у кнізе «І нясе яна дар» (падзагаловак: «Беларуская паэзія на рускай і ўкраінскай мовах»). Украінскі матэрыял ёсць нават у «Паэтычным слоўніку» і ў «Гутарках пра верш», у якіх шмат апеляцый да ўкраінскай літаратуры, менавіта вопыту яе паэзіі».

Выдатны даследчык літаратуры член-карэспандэнт НАН Беларусі Міхась Мушынскі, гаворачы пра творчасць В. Рагойшы, адзначае: «Прафесар В. Рагойша з’яўляецца адным з асноўных спецыялістаў у Беларусі па кампаратывістыцы і перакладазнаўстве. Я даўно заўважыў, што сувязі паміж народамі нашай краіны і іншых краін, сувязі літаратурна-мастацкія, тэатральныя, музычныя, ахвотней вывучаюць тыя, хто нарадзіўся ў поліэтнічным асяроддзі, найперш — учарашнія местачкоўцы. Тлумачэнне гэтай з’явы трэба шукаць, напэўна, у сферы псіхалогіі. Дзіцячыя гады, юнацтва, хатняя, сямейная атмасфера, паўсядзённыя кантакты з людзьмі розных нацыянальнасцей, вядома ж, накладвалі свой адбітак на іх унутраны свет, на іх уяўленні. Узнікала жаданне асэнсаваць калісьці перажытае, убачанае, пачутае, жаданне падзяліцца думкамі, меркаваннямі, вынесці іх на суд грамадскасці».

Асабліва інтэнсіўна Вячаслаў Пятровіч, разам з жонкай, вывучае беларуска-ўкраінскія сувязі, за што яго ва Украіне называюць «спрадвечнай дружбы летапісцам». Акрамя вышэйназваных, неабходна згадаць таксама яго кнігу «Беларуская літаратура XX стагоддзя ў сістэме ўсходнеславянскай літаратурнай супольнасці», якая выйшла ў 2008 г., хрэстаматыю «Мае браты, мае суседзі: творы пісьменнікаў бліжняга замежжа» (2008 г.), укладзеную разам з Т. Кабржыцкай, а таксама дзясяткі грунтоўных артыкулаў.

Звышзадачай беларускай карпарацыі вучоных-філолагаў заўсёды было стварэнне цэласнага вобраза нашага народа. Можна сказаць і больш: інтэлігенцыя Беларусі займалася праблемай пераўтварэння беларусаў з «тутэйшых» у паўнацэнную нацыю. У фармаванні нацыянальнага светаадчування і годнасці народа адзін з важных метадаў, ці шляхоў, — параўнанне з іншымі этнасамі. Вось адкуль такая прыхільнасць даследчыка Рагойшы да літаратуры братніх народаў — не толькі ўкраінскага, але і польскага, рускага, чэшскага, латышскага.

І ўсё ж самае значнае ў творчасці В. Рагойшы, на маю думку, — яго вывучэнне вершаскладання з надзвычай грунтоўнымі высновамі, выкладзенымі ў такіх выданнях, як «Гутаркі пра верш», «Тэорыя літаратуры ў тэрмінах», «На шляху да Парнаса», «Паэтычны слоўнік» і інш. Вячаслаў Пятровіч — даследчык максімальна сфакусіраванай творчай энергіі, увасобленай у лірыцы; выдатнейшы, арыстоцелеўскага складу, класіфікатар; вучоны з уласнай методыкай, трывалымі прыхільнасцямі і мэтамі. Значэнне яго кніг велізарнае ў плане канчатковага парывання беларускага літаратуразнаўства з сацыялагізмам і пераводу яго на рэйкі пераважна эстэтычныя.

На думку шмат якіх прыхільнікаў лірыкі, аналізаваць яе немагчыма, ды і не патрэбна, бо аналіз непазбежна вынішчае самую сутнасць паэтычнага слова, алгебра знішчае гармонію. Лепш проста чытаць вершы і адчуваць ад іх асалоду. Гэта, бясспрэчна, так. Але дапытлівы чалавечы розум амаль адразу пасля ўзнікнення паэзіі пажадаў спазнаць, у чым заключаюцца яе таямніцы, прагнуў разгадаць загадку гармоніі. Вядома, што філалогія як навука — навука аналізу тэкстаў — узнікла ў Індыі ў VIII ст. да н. э. як каментарый да свяшчэнных арыйскіх Ведаў. Паступова з філалогіі вылучылася асаблівая яе галіна — паэтыка, якая пачала вывучаць тыя элементы тэксту, што ўдзельнічаюць у фарміраванні эстэтычнага ўражання ад твора, інакш кажучы, якраз яго здольнасці дараваць чытачам асалоду.

Тэарэтычнае асэнсаванне паэзіі ў Еўропе пачалося яшчэ ў эпоху Антычнасці — у творах Платона і Арыстоцеля, асабліва апошняга. Не менш інтэнсіўна вывучалася паэтыка, прычым найперш менавіта на тэрыторыі Беларусі і Украіны, у эпохі Адраджэння і Барока. Працяглы перапынак у развіцці беларускай літаратуры, што назіраўся ў XVIII ст., перарваў паэтычную традыцыю, рэзка знізіў творчы патэнцыял нацыі, і таму на працягу ўсяго XIX ст. беларускай паэзіі прыйшлося, фактычна пачаўшы з нуля, нанова назапашваць уласны мастацкі вопыт — без тэарэтычнага яго асэнсавання, бо ўмовы для развіцця айчыннай культуры па-ранейшаму былі выключна неспрыяльныя.

Бурнае развіццё беларускай літаратуры ў ХХ ст., і ў прыватнасці росквіт паэзіі, прывялі да неабходнасці падагуліць творчыя дасягненні і іх аналіз у выглядзе даведачнага выдання навукова-энцыклапедычнага характару. У 70—80-я гады мінулага стагоддзя Беларусь перажывала своеасаблівы энцыклапедычны бум. Але перш, чым даволі нетаропкія акадэмічныя інстытуты і выдавецтва «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі» распачалі адпаведную працу — выданне Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі (у 5-ці тамах), яе зрабіў ці не першы ў галіне прыгожага пісьменства Вячаслаў Рагойша.

Яго «Паэтычны слоўнік» выйшаў у выдавецтве «Вышэйшая школа» ў 1979 г. У той час гэта была найважнейшая падзея ў культурным жыцці рэспублікі, бо такога грунтоўнага выдання, прысвечанага аналізу паэзіі, у беларускім літаратуразнаўстве яшчэ не было. Сціпла названая «слоўнікам», кніга В. Рагойшы фактычна ўяўляла сабою грунтоўную паэтычную энцыклапедыю, якая зводзіла ў адно і ўніфікавала асобныя элементы беларускай «алгебры» гармоніі. Пасля выхаду «Паэтычнага слоўніка» раптам высветлілася, што мастацтва аналізу паэзіі не менш прыгожае і захапляльнае, чым уласна мастацтва паэзіі. Звышзадачай кнігі было — навучыць адчуваць асалоду ад паэтычных твораў, бо адчуванне асалоды часта ўзрастае ад разумення, так бы мовіць, «механізмаў» яе стварэння. І як матэматык бачыць прыгажосць у формулах і тэарэмах, так і літаратуразнаўца можа захапіцца сам і захапіць чытачоў логікай сваёй думкі, разгадваннем сакрэтаў паэтычнага слова і «формулаў» верша.

Я памятаю, як пасля выхаду Рагойшавага «Паэтычнага слоўніка» рэзка актывізавалася напісанне курсавых і дыпломных прац па пытаннях вершаскладання, паэтычнай мовы, як увогуле прасцей стала чытаць курс «Тэорыі літаратуры». Намнога больш эфектыўна пачалі праходзіць семінарскія і практычныя заняткі на філалагічных факультэтах усіх ВНУ рэспублікі. Зусім па-іншаму, з улікам нават

структуры «Слоўніка», мы перабудавалі курсы па «Уводзінах у літаратуразнаўства» і па «Тэорыі літаратуры». Тэорыя літаратуры ў адукацыі ўзнялася на новую значную вышыню.

Пасля выхаду 2-га выдання «Паэтычнага слоўніка» ў 1987 г. яшчэ больш актывізавалася вывучэнне тэорыі літаратуры як у акадэмічнай навуцы, так і ў сістэме вышэйшай адукацыі, што дало магчымасць арганізаваць адпаведныя структуры — сектар тэорыі літаратуры ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі і ўжо згаданую кафедру тэорыі літаратуры ў БДУ.

З моманту выхаду ў свет 2-га выдання «Паэтычнага слоўніка» і да з’яўлення 3-га (2004) прайшло сямнаццаць гадоў. За гэты час адбыліся кардынальныя змены ў нашым існаванні: мы жывём у новую касмічную эру (у выніку так званай астранамічнай прэцэсіі), бо, сапраўды, Сонечная сістэма перамясцілася ў іншую вобласць Галактыкі; мы будуем новую дзяржаву з іншым грамадскім ладам; мы перажываем інфармацыйную, тэхналагічную рэвалюцыі, а таксама фінансава-эканамічны сістэмны крызіс. Мы назіраем і росквіт айчыннай паэзіі, асабліва маладой, а ў той жа час поўную няўвагу да яе з боку масавага чытача. Гэта адзін са шматлікіх парадоксаў нашага часу. Дзякуй богу, хоць не перапынілася развіццё аналітычнай думкі.

Сам В. Рагойша піша ў «Прадмове» да кнігі, лічачы неабходным нагадаць пра асноўныя задачы выдання: «Аўтар слоўніка імкнуўся не толькі вытлумачыць асноўныя літаратуразнаўчыя тэрміны, так ці інакш звязаныя з паэзіяй, але і паказаць, чаго дасягнула беларуская паэзія ў галіне мастацкай формы, паэтыкі за пяцісотгадовы перыяд свайго развіцця, і ў той жа час адзначыць, што яна яшчэ недастаткова або зусім не засвоіла з вопыту сусветнай паэтычнай культуры. Такім чынам, гэтае выданне энцыклапедычнага тыпу — не толькі паняційна-тэрміналагічны даведнік, але і своеасаблівая кароткая гісторыя беларускай паэзіі».

Сціпласць Вячаслава Пятровіча не дазволіла яму падкрэсліць выключную ўнікальнасць сваёй кнігі, у якой арганічна паяднаныя дзве важнейшыя, фундаментальныя філалагічныя дысцыпліны — тэорыя літаратуры і гісторыя літаратуры. Пры гэтым аўтар шчасліва пазбегнуў нарматыўнасці, скіраваўшы ўвагу ў асноўным на практычны вынік: неабходнасць навучыць студэнтаў, рэдактараў і ўсіх прыхільнікаў паэзіі апісваць, даследаваць, аналізаваць літаратурны твор. (Дарэчы, ёсць у В. Рагойшы і своеасаблівы падручнік для маладых паэтаў — «На шляху да Парнаса»). Праўда, «Паэтычны слоўнік», маючы структуру вучэбнага дапаможніка, у той жа час — абсалютна паўнацэнны энцыклапедычны даведнік; яго апошні раздзел — алфавітны «Прадметны паказальнік» — дае магчымасць лёгка знайсці любы тэрмін, што тлумачыцца або ў спецыяльным артыкуле, або ў артыкуле на іншую тэму. Вытлумачэнне тэрмінаў (а іх больш за тысячу) даецца ў тэарэтычным аспекце, але, як правіла, шукаецца і генезіс паняцця, зафіксаванага ў тэрміне, паказваецца яго асэнсаванне рознымі даследчыкамі, прыцягваюцца шматлікія факты з гісторыі беларускай, рускай, украінскай, еўрапейскай, усходняй паэзіі. Тэрмін амаль заўсёды ілюструецца прыкладамі з беларускага фальклору і пісьмовай паэзіі, але часам выкарыстоўваюцца і творы з іншых нацыянальных літаратур, калі ў айчыннай не аказваецца адпаведнай формы.

Аўтар не хавае цяжкасцей, з якімі сутыкнуўся ў працэсе стварэння сваёй кнігі, бо некаторыя паняцці дзякуючы сваёй працяглай гісторыі існавання і вобразна-структурнаму напаўненню могуць трапіць у розныя рубрыкі (напрыклад, «паралелізм»); некаторыя катэгорыі ў сваіх дэфініцыях да нашага часу выклікаюць спрэчкі сярод даследчыкаў; іншыя ўвогуле не сустракаюцца ў ранейшых выданнях, і Рагойша дае ім уласнае вытлумачэнне. Аўтар імкнецца да вычарпальнасці даследу, складае амаль поўны — на сённяшні дзень — рэестр прыёмаў, якія ахопліваюць гукавую, слоўную і вобразную пабудову паэтычнага твора; смела выходзіць за межы ўласна літаратуразнаўства ў іншыя сферы творчасці — у розныя віды мастацтва; адсылае чытачоў да тэарэтычных даследаванняў больш

шырокага характару і г. д. «Паэтычны слоўнік» — выданне надзвычай дакладнае, выверанае, па-сапраўднаму навуковае. У добрым сэнсе слова Рагойша пунктуаліст: выключна акуратна і ўважліва падыходзіць да кожнай літаратурнай з'явы (як і ўвогуле да ўсяго ў жыцці). Кнігу цікава і проста чытаць, бо яна напісана жывой, даходлівай мовай і проста ўражвае багаццем і разнастайнасцю матэрыялу.

У «Паэтычным слоўніку» і іншых працах пра вершаванне аўтарам праведзена не толькі каласальная даследчыцкая работа па зборы, апісанні і кваліфікацыі найбагацейшага матэрыялу, але і глыбока аналітычная праца па вывучэнні метрыкі і рытмікі паэтычных твораў. Пасля добрай памяці найвыдатнейшых беларускіх вучоных Івана Ралько і Міколы Грынчыка Рагойша на сённяшні дзень — найбольш аўтарытэтны даследчык вершаскладання ў беларускім літаратуразнаўстве. А яшчэ — знаўца ўласна паэзіі: ніхто, апроч яго, не прачытаў столькі беларускіх аўтараў. Кнігі Рагойшы не толькі стымулявалі развіццё літаратуразнаўчай адукацыі і тэарэтычнай думкі ў Беларусі, але і садзейнічалі нараджэнню новых, невядомых раней у беларускай паэзіі, формаў і відаў верша. Можна сказаць, што на адным толькі «Паэтычным слоўніку» вырасла цэлая плеяда таленавітых паэтаў і навукоўцаў.

Вячаслаў Рагойша — і сам паэт. З вершамі, мастацкімі перакладамі ён выступае са студэнцкіх гадоў. Ім перакладзены з украінскай мовы на беларускую такія выдатныя класічныя творы, як раманы А. Ганчара «Твая зара», У. Яварыўскага «Марыя з палыном у канцы стагоддзя», аповесць М. Кацюбінскага «Цені забытых продкаў», драма-феерыя Л. Украінкі «Лясная песня» і інш. Разам з Т. Кабржыцкай у 2000 г. ён стаў лаўрэатам Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Івана Франка. Такім чынам, Рагойша — не толькі тэарэтык перакладу (і доктарскую дысертацыю абараніў па гэтай тэме), але і выдатны практык-пісьменнік. Як навуковец-тэарэтык прафесар шырокавядомы ў Еўропе, яго слава даўно выйшла за межы Беларусі.

Нельга не адзначыць яшчэ адзін аспект творчай дзейнасці Рагойшы — арганізацыйны. Сярод незлічонай колькасці яго грамадскіх абавязкаў назаву толькі некаторыя. Ён прэзідэнт Міжнароднага фонду Янкі Купалы, і працуе вельмі плённа. Ён акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі. Ён — член рэдкалегіі розных навуковых і навукова-метадычных выданняў (навуковага часопіса «Веснік БДУ», «Краязнаўчай газеты» і інш.); пад яго навуковым кіраўніцтвам выходзяць зборнікі артыкулаў, напрыклад, «Міфалогія — фальклор — літаратура: праблемы паэтыкі». Ён старшыня навукова-метадычнай камісіі (секцыя беларускай мовы і літаратуры) Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь; старшыня секцыі беларускай мовы і літаратуры ВМА па гуманітарнай адукацыі. Член вучоных саветаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы і Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа. Член дэканата і Савета філалагічнага факультэта БДУ. Рагойша працягвае актыўна выступаць перад насельніцтвам на прадпрыемствах і ў арганізацыях, вельмі часта — на радыё, тэлебачанні. Ён — нястомны, можна сказаць, апантаны прапагандыст роднага слова; часу свайго, здароўя абсалютна не шкадуе; галоўнае для Вячаслава Пятровіча — данесці да суайчыннікаў багацце і прыгажосць беларускай літаратуры. Яго дзейнасць заўважана і адзначана на радзіме. Ён мае ганаровае званне «Выдатнік народнай адукацыі», узнагароджаны медалём імя Ф. Скарыны, дзясяткамі грамат ад дзяржаўных устаноў, рэктарата і дэканата БДУ.

У навуковай карпарацыі гуманітарыяў Беларусі Вячаслаў Рагойша — адна з ключавых асоб, бясспрэчны аўтарытэт. Па разнастайнасці інтарэсаў і дзейнасці, па глыбіні навуковых доследаў яму, бадай, няма роўных. Педагог. Вучоны. Пісьменнік. Грамадскі дзеяч. А галоўнае — Выдатны Чалавек.

**Валянціна ЛОКУН**

# СУПРАЦЬ ДУХОЎНАЙ ПУСТАТЫ

Беларуская проза канца XX — пачатку XXI стагоддзя зацікаўлена не столькі сацыяльнымі, колькі духоўнымі праблемамі сучаснасці. Літаратура сведчыць, што сучаснае грамадства духоўна невылечна хворае, і гэта вынік жыцця мінулага, у тым ліку і атэістычнага. Душа без веры, без надзеі — гэта памерлая душа, душа без будучага. Гэтым былі пазначаны яшчэ постсавецкія тэксты карыфея айчыннай літаратуры І. Шамякіна. Аб гэтым раманы В. Коўтун «Пакліканыя» і В. Казько «Бунт незапатрабаванага праху». Аб гэтым галоўная занепакоенасць прозы А. Казлова, А. Федарэнкі, У. Сцяпана, Г. Багданавай…

Праблема маральнай дэградацыі чалавека і яе карані — галоўны мастацкі клопат У. Дамашэвіча апошняга дзесяцігоддзя. Асабліва востра праблема «хворага духу» пастаўлена ў яго аповесці «Доля — пустацвет» (2004) і апавяданні «Хмельнае прозвішча» (2011). Тэксты звязаны між сабой дамінантнай ідэяй. Больш таго, нам падаецца, што аповесць «Доля — пустацвет» у кантэксце творчасці пісьменніка апошняга дзесяцігоддзя (разам з яго «Фінскай лазняй, або Цяжка ў гэта паверыць» (2006) пазначаны найглыбейшым псіхалагізмам характару, праўдай жыцця, дынамізмам мастацкага адлюстравання. Яны напоўнены, кажучы словамі Ф. Дастаеўскага, найвышэйшым «болевым эфектам».

Застаючыся ў традыцыйным для сябе жанры сацыяльна-псіхалагічнага пісьма, У. Дамашэвіч аналізуе ў аповесці дэталёва **працэс** пераходу чалавека ў стан **нечалавека**, у стан бязвольнай жывёліны. Ад звера яго адрознівае схільнасць да аналізу, самарэфлексія, нават «самаадухаўленне». Менавіта праз гэта апошняе і набывае герой У. Дамашэвіча трагічную афарбоўку, уздымаецца да ўзроўню ахвяры. Ахвяры соцыуму і іншых духоўных і маральных дэградацыйных працэсаў. У апавяданні ж адлюстраваны ўжо не працэс, а **вынік** дэградацыйнага працэсу. Да ўсяго і кропкі болю тут змяшчаюцца, бо чалавек-ахвяра, «бязвольная жывёліна» пайшоў далей у сваім процістаянні свету, ён стаў забойцам. Замахнуўся на роль суддзі, але не свайго жыцця, а жыцця іншых людзей. А гэта ўжо зусім, як у Сартра, толькі тыпаж іншы — безыдэйны і здробнены.

Як слушна заўважыла І. Шаўлякова «ў пэўным сэнсе, беларускі пісьменнік сёння смелы перадусім рэалізмам, што ў якасці мастацкай сістэмы стратэгічнай скіраваны не на імітацыю жыцця, а на аднаўленне быцця ва ўсёй складанасці яго праяў. Інакш кажучы, у беларускай літаратуры 2000-х не адбываецца вяртання да рэалізму — па той прычыне, што пераважная большасць пісьменнікаў старэйшага і так званага сярэдзіннага пакалення з гэтай мастацкай сістэмы ніколі не «сыходзіла». У. Дамашэвіч з гэтай мастацкай сістэмы таксама ніколі не «сыходзіў». Пісьменнік, як і звычайна, надаючы вялікую ўвагу побытавай дэталі, канкрэтыцы жыцця, усё ж такі робіць націск на іншае — на адчуванне, на аналіз псіхалагічна-пачуццёвага. Яго цікавіць не столькі адлюстраванне, колькі перадача суб'ектыўнага бачання жыцця, перадача пачуцця, адчування жыцця.

Рыгор Доля яшчэ ў дзяцінстве зведаў нямала несправядлівага. Бацька, настаўнік матэматыкі ў школе, спіўся «да белай гарачкі» і хутка памёр «пад плотам». Пасля герой прызнаецца, што менавіта адсутнасць бацькоўскай цвёрдай рукі, бацькоўскай сілы і сталі галоўным фактарам у яго маральным падзенні.

Маці, медсястру па прафесіі, за «лідара» ў сям'і Доля не ўспрымаў, ён быў яе любімчыкам, і яна яго вельмі шкадавала. У школе Рыгор спачатку быў здольным хлопчыкам, вучыўся добра і нават з ахвотай. Яму там нібыта адкрываўся новы свет. Толькі ж настаўніца яго чамусьці не заўважала. Падымала іншага вучня. Рыгорку было крыўдна ад такой несправядлівасці. З сёмага класа пачаў вучыцца дрэнна, ледзь дацягнуў 9-ты клас і школу кінуў.

Такім чынам, першы ўрок несправядлівасці герой атрымаў яшчэ ў школе. Пасля былі іншыя жыццёвыя ўрокі.

Скончыўшы курсы кінамеханікаў, Рыгор уладкаваўся на працу. У яго з'явіліся свае грошы, і ён дапамагаў маці і брату-студэнту. Здаецца, жыццё наладжвалася. Толькі ненадоўга. Надышла армія. Спачатку была Масква, але Рыгор «пагарэў» і яго адправілі даслужваць свой тэрмін у Кандалакшу. Там яны, салдаты тэрміновай службы, разам з зэкамі дзяўблі граніт, пракладвалі кабель у свінцовай кашулі. Гэта — чарговы экзамен Рыгора Долі.

Аўтар, здаецца, не звяртае ўвагі на соцыум, нібыта ён яго зусім не цікавіць. Але ж соцыум існуе — у падтэксце, праз характэрныя праявы жыцця індывідуальнага, настрой героя. Складваецца яскравы малюнак быцця савецкіх часоў.

Пасля арміі Рыгор Доля зноў працуе кінамеханікам, а неўзабаве ўладкоўваецца на медрамзавод. Меў залатыя рукі, ён мог адрамантаваць усё — ад пральнай машыны і халадзільніка да матацыкла і гадзінніка. Медыцынскую апаратуру таксама хутка асвоіў, стаў класным спецыялістам. Толькі з цягам часу пачаў заўважаць новую несправядлівасць: яго калегі працуюць менш за яго, бо дрэнна ведаюць тэхніку, а зарплату атрымліваюць такую ж, як і ён, а то і большую, чым у яго. Так спакваля ў Долі пачала нарастаць унутраная незадаволенасць жыццём, і ён паціху пачаў прыкладвацца да чаркі.

Распачаты канфлікт з жыццём узмацніўся разладам у сям'і, які справакавала каханка Рыгора Волька. Яна спачатку заразіла Рыгора «далікатнай» хваробай, а пасля стала і ягонай жонкай.

Ці кахаў Доля сваю жонку? Напэўна ўсё ж — не. Яго рашэнне ажаніцца, бо «я яе такую кахаю… я ёй дарую», хутчэй выклік маці і брату — «як назло ім». Пачаўся працэс адчужанасці героя ад сваіх сямейнікаў, ад маці і брата. Рыгор станавіўся ўсё больш чужым і замкнёным, усё «больш зацінаўся, рабіўся маўклівым і стараўся хутчэй уцячы ад іх». А ўнутраную пустату, якая паціху, але няўмольна ім авалодвала, пачаў больш актыўна заліваць гарэлкай. У гэтым яму спрыяла і Волька: пілі абое, толькі яна ведала меру, а ён — не.

У тэксце У. Дамашэвіча дамінуе пісьмо маналагізаванае, рэфлексія галоўнага героя. Толькі свядомасць Долі цяпер нібыта раздвойваецца: адзін Доля бязвольна співаецца, а другі, паралельна, назірае за гэтым працэсам, стараючыся знайсці гэтаму хоць нейкае тлумачэнне. Існуе, праўда, яшчэ адна свядомасць — аўтарская, але яна прыхавана далёка ў падтэксце. Аўтар знарок саступіў сваё «аўэначнае» месца другому «я» героя, ён не ўмешваецца ў іх унутраную палеміку, ён — не ўдзельнік спрэчкі, ён усяго толькі слухач. Зацікаўлены слухач, дадамо. Да такой жа зацікаўленасці заклікае і ўсіх нас — чытачоў. Каб кожны з нас зрабіў для сябе сур'ёзную выснову.

Сусветная літаратура мінулага стагоддзя даводзіць, што канстанта зла прысутнічае ў кожным чалавеку. Зло актывізуецца праз экзістэнцыяльнае адчуванне незадаволенасці і пустаты жыцця, якія кожны чалавек імкнецца запоўніць пасвойму. А найчасцей — праз бутэльку. Гэта — хвароба нашага часу, хвароба грамадства, паралізаванага духоўным вакуумам і бязвер'ем.

Падводзячы вынікі першых дзесяці год свайго сямейнага жыцця, Доля з сумам адзначыць, што займеў ён, здаецца, нямала, ёсць кватэра, праца, але няма галоўнага — кахання. Таго кахання, якое «памагае адолець любую перашкоду, што паўстала на тваёй дарозе». Пасля ўжо, напрыканцы свайго жыцця, другое «я» героя, пацвердзіць, што каханне яго вельмі хутка страціла свой «арэол і хараство» і стала ператварацца ў «звычайны п'яны секс, які быў ім (яму і Вольцы. — **В. Л.**) патрэбен, каб не шукаць недзе там некага».

Праўда, герой напачатку змагаўся са сваёй «хваробай», спрабаваў неяк вярнуцца да працы, жыцця, «але гэты смок ужо ўзяў ва ім такую сілу, што супраціўляцца было немагчыма». І Доля здаўся, з працы яго «пагналі з трэскам, з запісам у працоўную кніжку». Ён стаў выносіць з дому і прадаваць усё, што ляжала ў кватэры без ужытку, пасля пачаў збіраць бутэлькі — і гэта «была ўжо апошняя стадыя падзення». І вось, нарэшце, развод, яны з Волькай як чужыя ў адной кватэры.

Гэта — вонкавая, ці падзейная «лінія» дэградацыйнага працэсу. А ёсць яшчэ адна, галоўная — псіхалагічна-пачуццёвая.

Духоўную пустату герой імкнецца запаўняць асабістай рэфлексіяй. Знешні свет — хутчэй антураж свету ўнутранага. У мастацкіх дыскурсах У. Дамашэвіча ўнутраныя маналогі выглядаюць арганічнымі і зразумелымі. Аўтар вельмі дакладна перадае адчуванні свайго героя, нярэдка праз метафарычныя апісанні: Доля «з жахам у душы адчуваў, што зямныя яго карані абрываюцца, ён апынуўся як бы паміж небам і зямлёй, і жорсткі вецер жыцця няўмольна гоніць яго, як тое перакаці-поле, ці пух з дзьмухаўца ў невядомую далячынь, і калі ён прыб’ецца да нейкага трывалага грунту — невядома». Ён змірыўся, і разам з тым не шкадуе сябе, «відаць так трэба, ён гэтага заслужыў. Быў упарты, не хацеў слухаць маткі, старэйшага брата — і вось атрымлівай плату» бачыць сваю «віну» ў тым, што праігнараваў законы свайго роду. Стаў не толькі чалавекам без духоўных каранёў, але і чалавекам без веры.

Рыгор Доля быў атэістам, некалі ён верыў у камуністычныя догмы, цяпер жа з развалам «светлай будучыні», непрыкметна знікла і яго колішняя вера. Новай веры не прыдбаў, не знайшоў. І найперш таму, што не адчуў сябе новым чалавекам, размаўляў, як і раней, на трасянцы і ў палітыку не ўнікаў, «ён расчараваўся ў тым жыцці, якім жыў і якое яго акружала». Па сваіх памкненнях Рыгор Доля — «сярэднестатыстычны» беларус, які ведаў адно: «працаваць, зарабляць на хлеб, на чарку і скварку, ідэал яго быў просты, як задача два-на-два».

Зразумела, што падзенню героя садзейнічаў соцыум, яго неабвержная рэальнасць. Але ён не выключае і суб’ектыўнага фактару. Аўтар вылучае яго асобна. Доля «ніколі не супраціўляўся сваім жаданням, слепа, без усякіх пярэчанняў, выконваў каманды свайго арганізму, — мо таму і стаў такім — на пабягушках свайго найпершага жадання, якое не было далей прылаўка крамы, дзе прадавалі тытунь і віно. На пабягушках у д’ябла, які ўжо даўно трымае ў сваіх кіпцюрах». Доля гэта ўсведамляе. Ад гэтага ўсведамлення і яго боль, незадаволенасць сабой.

Аповесць У. Дамашэвіча вельмі багатая на псіхалагічныя адценні, найтанчэйшыя зрухі адчуванняў. Перад намі ўразлівы малюнак унутранага стану чалавека — чалавека, які разумее сваё падзенне, адчувае яго, але змяніць ужо нічога не можа — ні ў сабе, ні ў свеце. Пісьменнік пільна сочыць за працэсам пераходу рэальнага жыцця ў ірэальнае, калі акаляючы свет «стаў развальвацца, ламацца і крышыцца, ператвараючыся ў вялікі хаатычны рэзрух, у кучу бязладна паскіданага ламачча, у якім не было ні пачатку, ні канца, ні якога кольвек парадку — быў суцэльны буралом, у якім можна было толькі паламаць ногі і скруціць карак». Свядомасць саступае месца трызненню: «Ужо не мела сэнсу пра нешта думаць — працэс гэты разрываўся на кавалкі, на ўрыўкі, на нешта такое, што цвярозаму чалавеку можа хіба толькі прысніцца ў пачварным сне. Дагара… дэгра… дацыя — ледзь вымавіў ён адубелымі вуснамі <…> менавіта гэта была дэградацыя — разбурэнне асобы, яго інтэлекту, які збіраўся не гадамі, а цэлымі стагоддзямі і перадаваўся з пакалення ў пакаленне. Чалавек апынуўся на жывёльным узроўні: ён мог рабіць толькі тое, на што не патрабавалася розуму, а толькі інстынкт».

Антыжыццё вымагае і свайго героя — антыгероя. Правалы ў памяці Долі ідуць адзін за адным. Ён перастае быць чалавекам, ён амаль цалкам траціць кантроль над сабой. Замест рэальнасці «правал-пустата, у якую ён уваліцца, як у каламутную ваду». Доля яшчэ будзе дыхаць, але «ні адчуваць, ні разважаць, ні думаць» ужо не зможа. Ствараецца ўражанне вывернутай рэчаіснасці, свету-абсурду.

Толькі У. Дамашэвіч, выхаваны на светлай веры ў чалавека, не можа адразу

змірыцца з канчатковым падзеннем свайго героя, ён вырашае даць яму яшчэ адзін шанец «рэабілітавацца». Доля пакідае горад, звыклае для сябе асяроддзе і едзе ў маленькі гарадок, пасяляецца ў хаце сваёй толькі што памерлай бабулі. Спачатку яго захапіла новае жыццё, веснавыя турботы: трэба было ўпарадкаваць агарод, пасадзіць бульбу, прывесці сядзібу ў належны стан. Да ўсяго і сам спадзяваўся, што на новым месцы ўцячэ ад сябе ранейшага — «раба зялёнага змея». Толькі ж спадзяванні яго былі марнымі. «Ён ужо страціў чалавечы воблік і стаў дакладнаю копіяй бездухоўнага дэгенерата, якому больш нічога не трэба ў жыцці, як толькі выпіць».

Бездухоўнасць героя — гэта яшчэ і вынік яго бязвольнасці, ён — «бервяно, якое плынь жыцця гоніць туды, куды хоча, а ты ўжо не можаш супраціўляцца, ты толькі барахтаешся і, захлёбваючыся вадою-водкаю, плывеш — і сам не ведаеш куды… ты ўжо не чалавек, а трэска, якая не можа сабою кіраваць. Цябе падхапіла ўжо і нясе проста ў мора. У небыццё. З жыцця — у небыццё».

Амаль ці не першы ў сучаснай беларускай літаратуры У. Дамашэвіч адлюстраваў трагедыю алкаголіка, яго ўнутраны боль і пакуты. «Толькі нячыстая сіла можа прыдумаць такое: сам чалавек робіць сабе балюча, робіць сабе невыносна цяжка, думаючы, што прынясе сабе нечуваную асалоду». Алкаголік — гэта мазахіст, «ён проста забівае сябе паволі — і няўхільна».

У сваім алкагольным ачмурэнні Доля зусім аддаліўся ад людзей. Прырода дала яму выдатныя задаткі, але не дала яму цярпення, цягавітасці. «Не было ў цябе сур’ёзнасці, — скажа Рыгору яго брат Лявон. — Быў ты страказою, у цябе жаночы характар». А найбольшая драма ў тым, што перарвалася яго духоўнае адзінства з маці — не апраўдаў любімы сын яе спадзяванняў.

Падсумоўваючы вынікі свайго існавання на зямлі, Доля віну сваю прызнае, але толькі часткова. Ён пагаджаецца, што «яго жыццё пражыта дарэмна, што нічога добрага ў жыцці ён не зрабіў». Але «не таму, што ён быў невук і няздара, а таму, што ўвесь свой талент і энергію аддаў у рукі чалавека, які не мог скарыстаць яго на карысць ні сабе, ні яму». Гэта ён пра сваю былую жонку Вольку, што не ўсцерагла яго, не ўтрымала. Праўда, часам ён вініў сябе. Тады яму «рабілася моташна, хацелася ўцячы ад сябе, не бачыць і не чуць». Раскаянне моцна біла па яго хворым самалюбстве, «не прывучаным да самакрытыкі».

Сутнасць чалавека, па У. Дамашэвічу, праяўляецца ў яго сям’і, у дзецях — найперш, у дзецях. Кожная сям’я, лічыць герой, павінна мець не менш як двое дзяцей, «каб мацаваць дзяржаву», каб «не меншала колькасць людзей у краіне». Доля свайго працягу не меў, не выканаў ён і «дзяржаўнага інтарэсу». Волька не нараджала яму дзяцей, бо хацела жыць для сябе. Вось і застаўся Доля пустацветам, Доляй без долі. Пустацветам назвала яго маці, «доля — пустацвет, не даў ніякага плоду, ніякага плёну…» Прозвішча чалавека, лічыць пісьменнік, мае сімвалічнае значэнне, у ім закладзены код жыцця, лёсу чалавека, «тваё прозвішча — гэта ты сам, голы ці босы, абуты ці апрануты — усё роўна гэта ты, яго носьбіт назаўсёды, да скону». Дарэчы, такім лёсавызначальным сэнсам пазначана і прозвішча героя апавядання «Хмельнае прозвішча» — Севы Хмеля.

Нібыта адчуваючы свой блізкі канец, Рыгор Доля ўсё больш рэфлексуе, яму хочацца пра ўсё дазнацца, «пра вечнасць, пра сваю ролю ў гэтым жыцці, пра тое, чаго не зрабіў ён, а павінен быў зрабіць, каб меў людскую галаву на плячах». І вось нарэшце ён адкрывае ісціну свайго «я»: «… у душы тваёй пуста, там няма нічога… бо няма там Бога». Страта веры — галоўная «віна» героя. Яму няма чым наталіць голад душы і сэрца. Ён — мярцвяк. Доля, як і ўсё яго атэістычнае пакаленне, лічыў, што Бога няма, яго выдумаў чалавек. «А раз Бога няма — няма і граху, рабі, што хочаш». Духоўная драма героя ў тым, што ён не слухаў маці, а яна жыла з Богам у душы, мела сумленне і ім кіравалася. Герой страціў генетычную памяць. У гэтым яго найбольшая віна, але і трагедыя таксама.

Фактар болю генерыруецца ў характары героя да рысаў катастрафізму — у першую чаргу катастрафізму духу. Герой перарваў духоўную радаслоўную. Як перарваў сваю духоўную радаслоўную галоўны герой аповесці «Горад у нябёсах» А. Казлова трыццаціпяцігадовы Антак, як яшчэ раней перарваў гэтую радаслоў-

ную сын Хведара Роўбы Колька, заганяючы свайго бацьку ў балота на канчатковую смерць (В. Быкаў, «Аблава»). «Хвароба» гэта мае свае гістарычныя карані. Яна завалодвала чалавекам і грамадствам паступова, працякала незаўважна, каб напрыканцы стагоддзя набыць якасці духоўнага апакаліпсісу.

У структуру тэксту У. Дамашэвіч уводзіць сімвалічны сон. Гэта — філасофія твора. Доля коціць нізкую калясачку з гранітным абеліскам і вянком з белых папяровых кветак. Гэты абеліск і ёсць яго крыж жыццёвы, які ён выбраў сабе сам і ўжо не ведае, куды, у якім напрамку з ім кіраваць. Рэальнае сублімуецца ў ірэальнае. Доля згубіўся сярод людзей, згубіўся цалкам — нібы ў пустыні. Яму неймаверна цяжка, ён стаміўся, выбіўся з сіл, ён ужо ледзь дыхае. Ён гарэў унутры і гарэў звонку. Гарэла бабуліна хата. Разам з ёю гарэў і ён. А побач ратаваліся і гарэлі і Кіця з Шарыкам. «Божа… даруй мне… грахі…» — гэта былі апошнія прыжыццёвыя словы Рыгора Долі. І звернуты яны былі да Бога.

Трагедыя аднаго чалавека ў У. Дамашэвіча перарастае ў трагедыю роду чалавечага.

Спрадвечнае супрацьстаянне дабра і зла закончылася перамогай апошняга. Зло перамагло. Перамагае яно і ў апавяданні «Хмельнае прозвішча». Дакладней, нават не перамагае, таму што барацьбы тут ніякай няма, а самасцвярджаецца — як вынікowы факт дэградацыйнага працэсу.

Сева Хмель, як і Рыгор Доля, рэдка калі бываў цвярозы, а калі хмель выходзіў з яго галавы, «то ён рабіўся сам не свой: сярдзіты, як звер, ні за што мог пабіць жонку, накрычаць на дзяцей, павыганяць усіх з дому», «абыякавасць, грубасць, злосць так і перлі з яго, як з бруднае лужыны, у якой валяліся свінні». Агрэсія, нянавісць да ўсяго свету — вось галоўнае, што адрознівае Хмеля ад бязвольнага «аналітыка» Рыгора Долі. Знікае з тэксту і боль за чалавека. Ды і чалавека самога няма. Замест яго застаўся звер, «нейкае дзіўнае стварэнне», якое, каб наталіць сваю смагу, здольнае ўжо нават на забойства. Спачатку Хмель нечакана (толькі ж, ці нечакана?) для сябе забівае міліцыянера, а пасля «нешта як найшло, накацілася на яго нейкая цёмная вялізная хваля, ён як страціў свядомасць ці адчуў сябе ў нейкім новым вымярэнні і ўжо не чалавекам, а нейкім дзіўным стварэннем, якое не падпарадкоўваецца ранейшым паняццям дабра і зла, а жыве па нейкіх сваіх, толькі яму аднаму вядомых мерках». Герой зусім траціць адчуванне рэальнасці, услед за «мільтонам» ён забівае і вадзіцеля «Масквіча», завалодвае яго машынай і кіруецца ў Расію. Ён спадзяецца, што ўцячэ. Але — уцячэ ад каго? Ад сябе? Ад кары? Найперш, здаецца, ад лёсу, ад яго наканавання.

Жыццё героя запраграмавана праз ягонае прозвішча-код — Хмель: «Вось жа ўзнагародзіў Усявышні іх род прозвішчам, што хоць стой, хоць падай, хоць жыві, хоць памірай, а ад свайго не ўцячэш! Бацька памёр без пары ад гарэлкі, кажуць, што і дзед любіў зазірнуць у чарку. І яму на раду напісана». Такім чынам, пісьменнік спрабуе зняць з героя віну суб'ектыўную, да спасціжэння якой так упарта набліжаўся яго папярэднік Рыгор Доля.

Аўтар не высвятляе прычын характару і паводзін героя, напружана шукаючы хоць што-небудзь станоўчае ў сваім жыцці і ў самім сабе, Хмелю «нічога не прыходзіла на памяць». А гэта таксама вынік жыцця бездухоўнага, маральна дэградаванага.

Уцякаючы ад міліцэйскай «мігалкі», Хмель трапляе ў аварыю. Яго «Масквіч» перавярнуўся. Хмель застаўся жывы, толькі паранены. Міліцыянеры спяшаліся даставіць яго ў бальніцу — «жыццё чалавека вісела на валаску». Але ж, ці чалавека — міжвольна ўзнікае пытанне. У такім хрысціянскім гуманізме бачацца парасткі найперш будучай літаратуры.

Мастацкія дыскурсы У. Дамашэвіча 2000-х гадоў (да памянёнай намі ўжо «Фінскай лазні, або Цяжка ў гэта паверыць» трэба далучыць аповесць «Месяц у раі, або Аддай сэрца людзям» (2006) і раман «На мяжы цярпення» (2007) сведчаць аб тым, што пісьменнік, як і раней, застаецца чуйным да балючых пытанняў часу, яго тэксты вылучаюцца найвышэйшым болем за чалавека. Нават за такога, які перастаў быць чалавекам.

**Тамара ГАРОБЧАНКА**

# НАБЫТКІ ВУЧОНАГА І ПЕДАГОГА

У кожнай галіне навукі ёсць людзі, чый талент і даследчыя працы вызначаюць яе найвышэйшы ўзровень і найбольш буйныя дасягненні. У беларускім тэатразнаўстве такой Асобай з'яўляецца доктар мастацтвазнаўства, прафесар Анатоль Сабалеўскі.

Нарадзіўся А. Сабалеўскі 27 мая 1932 года ў вёсцы Андрыеўшчына Дзяржынскага раёна, што размясцілася за дзесяць кіламетраў ад чыгункі паміж возерам, лугам і лесам, якія, здаецца, абараняюць яе ад наступу знешняга свету. Нягледзячы на гмахі дачнага пасёлка, што ўзняліся апошнім часам на ўзгорку за возерам, Андрыеўшчына ўсё яшчэ ўяўляе сабой зацішны куточак дзівоснай прыроды, амаль некранутай сучаснай цывілізацыяй. Менавіта тут, на ўлонні незямной прыгажосці і хараства, прайшло дзяцінства аднаго са слынных сыноў Бацькаўшчыны, будучага вядомага тэатразнаўцы, педагога, крытыка і празаіка.

Бацьку Анатоля Вікенцьевіча ў 1941 г. расстралялі фашысты, і маці, Фабіяне Станіславаўне, давялося зведаць усю гаркоту ўдовінай долі. Але бяда, як вядома, не прыходзіць адна. Не дажыўшы да года, памірае малодшы сын Лёня, які ўжо нарадзіўся пасля смерці мужа. Пякучы боль таго страшнага ўспаміну назаўжды ўвайшоў у сэрца Анатоля Вікенцьевіча. Тады ж дзевяцігадовы хлопчык становіцца галоўным гаспадаром у хаце. Ён не толькі робіць усю мужчынскую вясковую работу, клапоціцца пра малодшую сястру Галю, але і дапамагае маці перанесці цяжар няўмольнай страты. Той, хто ведаў Фабіяну Станіславаўну, не мог не захапляцца яе надзвычайнай сціпласцю, працавітасцю і адначасова мудрасцю, велічнай сілай духу. Гэтыя чалавечыя якасці яна, відаць, генетычна перадала свайму старэйшаму сыну, асвяціўшы яго жыццёвы шлях нябачнай падтрымкай і матчынай любоўю.

Першыя гады школьнага навучання прайшлі ў Паланевічах і Андрыеўшчыне, а 5—7 класы Анатоль закончыў у вёсцы Баравое, да якой дабіраўся пешшу сем кіламетраў. Пасляваенны час быў галодны і халодны. Замест абутку маці пашыла сыну тапачкі з белай тканіны, якіх ён саромеўся, таму перад школай здымаў і нават у люты мароз шпарка бег басанож па белым шаросце. Тое ж чакала і акалелыя на холадзе посныя дранікі, прыгатаваныя маці на абед. Яны падвешваліся на дрэва і звычайна станавіліся спажывай для варон. Нягледзячы на побытавую неўладкаванасць, вучыўся Анатоль добра і сямігодку скончыў выдатнікам, выявіўшы асаблівыя здольнасці да матэматыкі. А яшчэ з дзяцінства вельмі любіў беларускую літаратуру, асабліва творчасць П. Глебкі, К. Крапівы, і нават сам пісаў вершы. З цягам часу літаратурныя прыхільнасці мяняліся. Па асабістым прызнанні Анатоля Вікенцьевіча ў маладосці ён аддаваў перавагу да болю блізкай, зямной паэзіі Якуба Коласа, пазней яго найбольш вабіла ўзнёслая, рамантычная спадчына Янкі Купалы, у сталым узросце захапіўся творамі Максіма Багдановіча з іх філасафічнасцю і прыхаваным трагізмам.

Цяжка зразумець як просты вясковы хлопец, не маючы ніякай інфармацыі пра сцэнічнае мастацтва, звязвае сваё жыццё менавіта з тэатрам. Будучыня ўяўлялася Анатолю яснай і прадвызначанай — пасля заканчэння ў 1953 годзе



*Анатоль Вікенцьевіч Сабалеўскі.*

Мінскага педагагічнага вучылішча вернецца ў родныя мясціны і будзе працаваць у школе. Аднак адбылося непрадбачнае. Падчас навучання ў Мінску ў яго жыццё ўвайшоў Тэатр, які перайначыў і парушыў усе ранейшыя планы. У дваццацігадовым узросце і пры даволі незвычайных абставінах юнак пачаў займацца тэатральнай крытыкай.

Будучы студэнтам Мінскага педагагічнага вучылішча Анатоль захапіўся творчасцю славутай трагедыйнай актрысы Ірыны Ждановіч, якую ўпершыню ўбачыў на сцэне ў ролі Ані Крушыны ў спектаклі «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона. Пачаў прагна шукаць пра яе друкаваныя матэрыялы. Іх выявілася да крыўднага мала — некалькі невялікіх артыкульчыкаў ды асобныя радкі з рэцэнзій на спектаклі з удзелам актрысы. І тады ўзнікла надзвычай дзёрзкая задума — на падставе сабраных, даволі кволых друкаваных матэрыялаў і сваіх асабістых уражанняў ад ігры І. Ждановіч напісаць пра яе працу і, ні больш ні менш, манаграфічнага характару. Як гаворыцца, запоўніць відавочны прагал. Так навучэнец чацвёртага курса педвучылішча, які яшчэ нічога не ведаў пра свой далейшы лёс і старанна рыхтаваўся стаць вясковым настаўнікам пачатковых класаў, узяўся за манаграфію пра любімую актрысу. А далей пайшло як у чароўнай казцы.

Анатоль Сабалеўскі трапіў у лік пяці працэнтаў выпускнікоў, якім дазвалялася паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы без неабходнасці адпрацоўкі за вучобу. Атрымаў чырвоны дыплом выдатніка, з якім па тагачасных правілах прымалі ў ВНУ без уступных экзаменаў. І, на здзіўленне выкладчыкаў матэматыкі (хлопец займаў прызавыя месцы на розных алімпіядах і лічыўся адораным вучнем у гэтай галіне), падаў заяву на аддзяленне журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Яго залічэнню на вучобу папярэднічаў незвычайны выпадак. Летам Анатоль прыпрацоўваў на жыццё ў піянерскім летніку, а тым часам у вёску прыйшло паведамленне аб неабходнасці з'явіцца на сустрэчу з рэктарам. Не маючы сувязі з сынам, Фабіяна Станіславаўна сама выправілася ў Мінск і замест яго прайшла суразмову з рэктарам, вытрымаўшы яе на «выдатна». Пазней пра той выключны выпадак — як простая калгасніца маці паступіла за сына — па ўніверсітэце гулялі легенды.

Першапачатковы варыянт манаграфічнага нарыса пра І. Ждановіч быў завершаны на першым курсе (на пятым гэтая тэма стане дыпломнай работай, а затым і ўступным рэфератам у аспірантуру, і ўсюды будзе ацэнена на «выдатна»). На другім годзе навучання ішла дапрацоўка і перапрацоўка тэксту, на трэцім, дачакаўшыся чаргі, нарыс амаль цалкам апублікаваны ў самым прэстыжным і аўтарытэтным літаратурным часопісе «Полымя». Навуковым кіраўніком дыпломнай работы была прызначана Е. Бондарава. Дзіўным чынам перакрыжоўваюцца чалавечыя лёсы. У 1957 годзе Анатоль перайшоў на завочнае аддзяленне і пачаў працаваць у газеце «Літаратура і мастацтва», дзе друкавалася Ефрасіння Леанідаўна. Такім чынам, студэнт-пяцікурснік рэдагаваў артыкулы свайго педагога і навуковага кіраўніка. Значна пазней, калі Е. Бондарава абараняла доктарскую дысертацыю, А. Сабалеўскі выступіў у якасці яе неафіцыйнага апанента.

Між тым, падчас вучобы ішла праца ў галіне крытыкі, з'ўляліся частыя публікацыі ў друку, што дало свае вынікі. Калі ў 1958 годзе знакаміты вучоны і тэатральны дзеяч Георг Гаян у Дзяржаўным інстытуце тэатральнага мастацтва

ў Маскве заснаваў кафедру тэатра народаў СССР, яму выдзелілі на ўсе саюзныя рэспублікі (акрамя Расіі) адно месца ў вочную аспірантуру. Зразумела, поле выбару было шырокім. Вясной гэтага ж года ён прымаў удзел у тэатральнай канферэнцыі ў Мінску, дзе і звярнуўся да беларускіх калег, каб параілі яму «добрага хлопца». Свае рэкамендацыі далі У. Няфёд і П. Глебка. На сустрэчу з высокім госцем Анатоль прынёс значны стос публікацый агульным памерам 26 друкаваных аркушаў. Пагартаўшы артыкулы, вучоны на развітанне сказаў: «Лічыце, што ўжо вы паступілі ў аспірантуру». Гэта было яшчэ перад здачай студэнтам выпускных экзаменаў ва ўніверсітэце. І затым у шматлікіх паштоўках навукоўца раіў, што трэба зрабіць, як рыхтавацца да ўступных іспытаў, і пры гэтым заўсёды звяртаўся: «Дорогой Анатолий Викентьевич».

З першых дзён навучання ў аспірантуры юнака ўразіла надзвычайная атмасфера, што панавала ў маскоўскім інстытуце, і асабліва дэмакратычныя адносіны педагогаў, якія не толькі патрабавальна, але і вельмі паважна, з даверам ставіліся да сваіх вучняў. Так, А. Сабалеўскаму адразу ж было даручана падрыхтаваць водзыў ад кафедры на доктарскую дысертацыю, напісаную на ўкраінскай мове. На абароне побач з выступленнямі афіцыйных апанентаў дактароў мастацтвазнаўства Ю. Дзмітрыева і У. Няфёда прагучаў і водзыў першакурсніка-аспіранта. З бласлаўлення свайго навуковага кіраўніка прафесара Г. Гаяна ён распачаў чытанне лекцый па гісторыі беларускага тэатра. Расказвалі, што студэнты, сярод якіх былі і старэйшыя за «зялёнага» настаўніка, яму апладзіравалі. Тут жа ў інстытуце Анатоль Вікенцьевіч сустрэў сваю будучую жонку маладзенькую прыгажуню, студэнтку акцёрскага факультэта Венеру Архіпаўну, якая да канца свайго жыцця была яму вернай спадарожніцай і ахоўніцай хатняга ачагу.

Дарэчы, са шматлікіх выхаванцаў, якія затым будуць у Г. Гаяна, А. Сабалеўскі стаў ці не самым адданым яго вучнем і паслядоўнікам. Усё пачэрпнутае ад вялікага настаўніка — і навукова-метадычны і жыццёва-практычны вопыт — ён перадаваў сваім вучням. Курс жа па гісторыі тэатра народаў СССР (цяпер краін СНД і Балтыі), стваральнікам і гарачым прапагандыстам якога быў Г. Гаян, пасля перабудовачнага перыяду, па нашых звестках, чытаецца толькі ў Беларусі.

Выкладчыцкую працу пасля заканчэння ў 1961 годзе аспірантуры А. Сабалеўскі прадоўжыў у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце (цяпер Беларуская акадэмія мастацтваў), а ў пазнейшы час і ў Беларускім універсітэце культуры і мастацтваў. У 1964 годзе на падставе друкаваных твораў (аповесць «Жылі-былі хлопцы», апавяданне «Ліст да Маці», мініяцюры-карацелькі), а таксама кнігі «Рампай асветленае» А. Сабалеўскі быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР.

Адначасова з педагагічнай і літаратурнай дзейнасцю Анатоль Вікенцьевіч плённа займаецца навукова-даследчай працай. У розныя гады ён з’яўляецца навуковым супрацоўнікам сектара тэатра і кіно (цяпер аддзел тэатральнага мастацтва), загадчыкам аддзела міжнародных культурных працэсаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук. У 1973 г. А. Сабалеўскі паспяхова абараняе доктарскую дысертацыю і ў 1975 г. атрымлівае званне прафесара. Ён даследуе пытанні гісторыі, тэорыі і сучаснай практыкі беларускага тэатра, праблемы нацыянальнага ў сцэнічным мастацтве, узаемасувязь братніх тэатральных культур, творчасць драматургаў, рэжысёраў, акцёраў.

Шмат з таго, што зрабіў Анатоль Вікенцьевіч, можна вызначыць словам «упершыню». Так, беларускую драматургію даследавалі і да яго літаратуразнаўцы. Але ж менавіта ён знайшоў свой адметны погляд на гэту праблему і прааналізаваў драматургічную творчасць з пункту гледжання тэатразнаўцы ў кантэксце сцэнічных культур іншых народаў. Гэта працы «Беларуская савецкая драма»

(кн. 1—2, 1969—1972), «Кандрат Крапіва: Нарыс жыцця і творчасці» (1989). У манаграфіі «Беларуская драматургія ў тэатрах народаў СССР» (1972) аўтар паказвае, як і чым узбагачаліся нашы п'есы на іншых нацыянальных сцэнах, адкрываючы новыя грані саміх драматургічных твораў. Гэта кніга — адзін з першых выхадаў беларускага тэатразнаўства на ўсесаюзную арэну.

Аўтар разглядае пастаноўкі п'ес Я. Коласа, К. Крапівы, А. Макаёнка, К. Губарэвіча, Е. Міровіча, А. Маўзона, Р. Кобеца і шмат іншых беларускіх драматургаў на сцэнах Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Грузіі, Арменіі ды практычна ўсіх астатніх рэспублік былога Саюза. Тэатразнаўца даследуе дыялектыку ўзаемаадносін нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў мастацтве, аналізуе пастаноўкі беларускіх п'ес за межамі краіны і пастаноўкі іншанацыянальных твораў на беларускай сцэне, разважае аб увасабленні нацыянальнага характару тэатральнымі сродкамі.

Праблема ўзаемадзеяння братніх тэатральных культур і надалей будзе даследавацца А. Сабалеўскім. У шэрагу кніг, якія з'яўяцца ў наступныя дзесяцігоддзі, можна знайсці цікавейшыя звесткі пра пастаноўкі «Апошні шанц» В. Быкава ў Маскоўскім Мастацкім тэатры імя М. Горкага, «Брама неўміручасці» К. Крапівы ў Данецкім Рускім тэатры, «Таблетку пад язык» і «Зацюканы апостал» А. Макаёнка ў Маскоўскім тэатры сатыры, яго ж «Трыбунал» у Палтаўскім тэатры імя Гогаля, «Амністыя» М. Матукоўскага ў Цэнтральным тэатры Савецкай Арміі і Валміерскім драматычным тэатры, «Выбар» А. Дударава ў Кіеўскім тэатры юнага гледача і шмат іншых. Аўтар пераканаўча раскрывае як беларуская драматургія і проза спрыялі ўзбагачэнню сцэнічнага мастацтва іншых народаў.

Пасля шматгадовай збіральніцкай працы А. Сабалеўскі ў 1975 г. друкуе ўнікальную «Хрэстаматыю па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі» (у 2-х тамах), у якой адлюстраваны асноўныя этапы зараджэння, фарміравання, станаўлення тэатральнага мастацтва і драматургіі — ад пачатковых форм да сярэдзіны 70-х гадоў XX стагоддзя. У 1997—2006 гадах з'явілася новая «Хрэстаматыя...» у 4-х тамах, дзе як і ў папярэдняй укладанне, навуковая рэдакцыя, уступныя артыкулы і каментарыі зроблены А. Сабалеўскім. Новае дапрацаванае выданне ахоплівае перыяд ад старажытнасці да пачатку XXI стагоддзя. Аднак справа не толькі ў пашырэнні часавых межаў. Тут аднаўляюцца многія невядомыя старонкі тэатральнай гісторыі, пераасэнсоўваюцца асобныя з'явы мастацтва, вяртаюцца з нябыту забытыя, альбо раней забароненыя творы і імёны. Значная колькасць факталагічных матэрыялаў упершыню ўводзіцца ў навуковы ўжытак. Гэта не выпадкова. Прайшло больш за чвэрць стагоддзя, і на тэатральным небасхіле з'явілася шмат імёнаў слынных майстроў, творчасць якіх заслугоўвае вывучэння.

Дзве першыя кнігі кампазіцыйна будуюцца на пэўных гістарычных адрэзках часу, дзве астатнія маюць некалькі іншую структуру і не падзяляюцца на асобныя главы. Разам з тым унутраная кампазіцыя застаецца ранейшай: спачатку асвятляецца дзейнасць драматургаў, а потым акцёраў і рэжысёраў. Маштабную карціну творчых індывідуальнасцей дапаўняюць асабістыя разважанні дзеячаў сцэны пра сваю творчасць, што дае ўяўленне аб іх метадалагічных прынцыпах і светапогляднай пазіцыі. Уражвае і аўтарскі падбор сведчанняў сучаснікаў, якія дапамагаюць зразумець прыроду таленту і непаўторнасць майстроў сцэны. «Хрэстаматыя...» мае шырокі даведачны матэрыял. Аўтарскі каментарый з энцыклапедычнай дакладнасцю падае асноўныя біяграфічныя звесткі пра тэатральных дзеячаў, змяшчае ўрыўкі з п'ес, указвае, дзе ўпершыню былі надрукаваны і пастаўлены творы.

Значная роля належыць А. Сабалеўскаму і ў стварэнні двухтомнай энцыклапедыі «Тэатральная Беларусь» (2000, 2003) — першага ў гісторыі нацыянальнай культуры выдання, прысвечанага тэатральнаму мастацтву: драматычнаму, музычнаму, лялечнаму. Ён з'яўляецца не толькі навуковым рэдактарам абодвух тамоў, але і каардынатарам гэтай працы па зборы матэрыялаў, іх сістэматызацыі і

рэдагаванні. Энцыклапедыя ўключае дзве тысячы артыкулаў, прысвечаных народнаму, прафесійнаму і аматарскаму тэатральнаму мастацтву, яго формам і жанрам, драматургіі, акцёрскай творчасці і рэжысуры, сцэнаграфіі, тэхніцы сцэны, адукацыі, навукова-даследчай рабоце ў галіне тэатра, тэатральнаму жыццю гарадоў. У ёй змешчаны шырока ўжывальныя тэатральныя тэрміны, а таксама артыкулы па літаратуры, фальклоры, выяўленчым мастацтве, радыё, кіно, друку, якія маюць дачыненне да сцэнічнага мастацтва. Энцыклапедыя не абмяжоўваецца разглядам толькі нацыянальнага беларускага тэатра. Яго гісторыя падаецца ў кантэксце сусветнага сцэнічнага працэсу, у цесных сувязях і ўзаемадачыненнях з тэатральнымі культурамі іншых народаў.

Абодва выданні — «Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі» і энцыклапедыя «Тэатральная Беларусь» — не маюць аналагаў на ўсёй постсавецкай прасторы.

Увогуле А. Сабалеўскі — актыўны аўтар усіх энцыклапедычных выданняў, што выходзяць у нашай краіне. Сярод іх — «Памяць», «Беларускі фальклор», «Культура Беларусі», «Современная Беларусь» і інш. У 2008 годзе ў межах Праграмы ўдзелу ЮНЕСКА на беларускай і англійскай мовах выйшла энцыклапедыя «250 асоб з Беларусі ў дыялогах культур», дзе Анатоль Вікенцьевіч надрукаваў шэраг артыкулаў пра знакамітых беларускіх драматургаў, рэжысёраў, акцёраў.

Яшчэ адзін важкі накірунак навуковых інтарэсаў А. Сабалеўскага — акцёрская творчасць. Ён шмат пісаў пра акцёраў-купалаўцаў І. Ждановіч, В. Галіну, У. Уладамірскага, Л. Рахленку, І. Шацілу, С. Бірылу, С. Станюту, З. Браварскую, М. Яроменку, а таксама пра акцёраў-коласаўцаў І. Матусевіча, З. Канапельку, Ф. Шмакава і інш. Творчасці тых, хто складае славу і гонар беларускай нацыянальнай сцэны, прысвечаны раздзел у кнізе «Савецкае акцёрскае мастацтва, 50—70 гады», выдадзенай у 1982 г. у Маскве.

Манаграфіі А. Сабалеўскага «Барыс Платонаў: Асоба і ролі» (2004) і «Глеб Глебаў: Жыццё і творчасць» (2005) уражваюць тонкім пранікненнем даследчыка ў творчую лабараторыю майстроў сцэны, здольнасцю вызначыць прыроду іх таленту, непаўторную адметнасць. Анатоль Вікенцьевіч шмат ездзіў па краіне і быў знаёмы з творчасцю розных нацыянальных тэатраў. Гэта дало яму багаты матэрыял для параўнання роляў, сыграных Б. Платонавым і Г. Глебавым, са сцэнічнай трактоўкай іншых выканаўцаў. Так, разглядаючы вобраз Федзі Пратасава ў купалаўскім спектаклі «Жывы труп» Л. Талстога, аўтар прыходзіць да высновы, што ў сцэне ў шынку Б. Платонаў «па эмацыянальнай насычанасці, па глыбіні псіхалагічнага аналізу ... узняўся на такую вышыню, на якую не ўзнімаліся лепшыя выканаўцы Пратасава, напрыклад, Міхаіл Раманаў і Мікалай Сіманаў».

Тэатразнаўца назіраў за творчасцю любімых ім акцёраў на працягу ўсяго іх жыцця, шмат разоў праглядаючы адны і тыя ж пастаноўкі, што дазволіла яму прасачыць эвалюцыю сцэнічных персанажаў. Вось што ён пісаў наконт Тулягі ў спектаклі «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы, якога лічыў вяршыняй творчасці Г. Глебава: «Характэрна, што гэты вобраз на працягу свайго сцэнічнага жыцця развіваўся і набываў новае гучанне. З ярка камедыйнага плана ён быў пераведзены ў трагікамедыйны. І калі ў іншыя гады акцёр захапляўся камедыйным талентам і майстэрствам, то пазней узрушаў сваім трагікамедыйным мастацтвам».

Аналізуючы дзейнасць акцёраў у кантэксце часу, А. Сабалеўскі пазбягае просталінейных вызначэнняў і так званых перабудовачных ацэнак, калі станоўчае наўпрост называецца адмоўным. Ён не абмінае складанасці тагачаснага жыцця. Ёсць у кнігах размова і пра ідэалагічны ўціск, і пра палітычныя рэпрэсіі. Ёсць цвярозы погляд на класава арыентаваную драматургію і, што асабліва важна, у аналізе драматургічных і сцэнічных твораў адчуваецца аб’ектыўнасць навукоўцы і доказнасць яго меркаванняў.

Тэатразнаўчую працу А. Сабалеўскі заўсёды спалучаў з тэатральна-крытычнай дзейнасцю. Многія з яго артыкулаў аб’яднаны па тэматыцы і выдадзены асобнымі кнігамі. Гэта: «Рампай асветленае» (1962), «Жыццё тэатра» (1980), «Сучаснасць і гісторыя» (1985), «Асоба мастака» (1992), «Майстры, падзеі, акалічнасці» (2011).

Няўмольны час гартае старонкі календара, і хуткая чарада дзён складваецца ў гады, якія непрыкметна адыходзяць у мінулае. Што было вызначальным для іх у галіне сцэнічнага мастацтва? Кожная з пералічаных прац дае даволі поўнае ўяўленне аб стане беларускай драматургіі, рэжысёрскага і акцёрскага майстэрства, аб пошуках тэатрамі адметнага стылю і вобразнай мовы ў пэўны гістарычны адрэзак часу. У кнігах змешчаны творчыя партрэты дзеячаў сцэны, рэцэнзіі на спектаклі, нататкі аб жыцці асобных тэатраў, палемічныя і дыскусійныя матэрыялы. Напісаныя ў розныя часы артыкулы, аб’яднаныя ў зборнікі, ствараюць цэласную карціну тэатральнага мастацтва з яго праблемамі, супярэчнасцямі, унутранай дынамікай развіцця. Такія кнігі вельмі запатрабаваны як у навуковым асяродку, так і ў творчых навучальных установах. Яны пазбаўляюць выкладчыкаў і студэнтаў неабходнасці гартаць вялізныя стосы старых газет і часопісаў, дапамагаюць дакладна асэнсаваць асноўныя тэндэнцыі развіцця мастацтва.

Цяжка нават пералічыць усе працы, выдадзеныя А. Сабалеўскім. Ён адзін з аўтараў і рэдактараў 3-томнай у 4-х кнігах «Гісторыі беларускага тэатра» (1983—1987), складальнік, рэдактар і аўтар артыкулаў трох кніг «Культура беларускага замежжа» (1993, 1998). З імем Анатоля Вікенцьевіча звязана і з’яўленне адзінага ў краіне часопіса «Тэатральная Беларусь» (пазнейшая назва «Тэатральная творчасць»), які выдаваўся ў 1992—1998 гадах і быў цалкам прысвечаны драматургіі, прафесійнаму і аматарскаму сцэнічнаму мастацтву. На старонках часопіса змяшчаліся новыя п’есы сучасных беларускіх аўтараў М. Арахоўскага, Р. Баравіковай, У. Бутрамеева, П. Васючэнкі, С. Кавалёва, Г. Марчука, Т. Мушынскай, Л. Рублеўскай, А.Федарэнкі, І. Чыгрынава, А. Якімовіча і інш. Публікаваліся таксама творы са спадчыны Ф. Аляхновіча, Э. Ажэшкі, К. Буйло, Т. Лебяды, М. Радзівіла, Л. Родзевіча, В. Шашалевіча, якія раней не друкаваліся ці сталі бібліяграфічнай рэдкасцю. Па ініцыятыве галоўнага рэдактара А. Сабалеўскага пабачылі свет чатыры кнігі «Беларускай драматургіі» (1994—1997). Часопіс змяшчаў дакументальныя матэрыялы з раней закрытых архіваў КДБ, шырока асвятляў культурнае жыццё краіны, блізкага і далёкага замежжа.

Шмат зроблена А. Сабалеўскім і для фарміравання навукі аб тэатры. «Тэатральная крытыка» як вучэбны прадмет у Беларусі быў запатрабаваны і ўведзены ў навучальны працэс у 1962 г., калі Тэатральна-мастацкі інстытут упершыню здзейсніў набор студэнтаў па спецыяльнасці «тэатральная крытыка і тэатразнаўства». Аўтар гэтых слоў трапіла ў лік першага набору, і развіццё галоўнага прадмета — «тэатральная крытыка» адбывалася на маіх уласных вачах.

Нашымі асноўнымі выкладчыкамі былі два педагогі — сталы, з выгляду вельмі мажнаваты, з вялікім прафесійным вопытам Уладзімір Няфёд і малады, танклявы, але таксама ўжо з вядомым імем Анатоль Вікенцьевіч Сабалеўскі. У першага з іх мы вучыліся ўменню спакойна-ўважліва ацэньваць мастацкія творы, асабліва іх грамадска-сацыяльную значнасць, у другога — уменню эмацыянальнага захаплення гэтымі творамі, акцэнтуючы ўвагу на эстэтычныя вартасці, вобразна-аналітычна пераствараць іх у крытычных працах.

Пасля завяршэння вучобы (маім навуковым кіраўніком дыплома, а пазней і кандыдацкай дысертацыі быў А. Сабалеўскі) мне пашчасціла працаваць разам з абодвума настаўнікамі, на дэмакратычных асновах калегаваць з імі і быць ужо не толькі непасрэднай сведкай, а і ўдзельніцай працэсаў далейшага развіцця тэатральнай крытыкі і тэатразнаўства.

Свае навукова-творчыя прынцыпы А. Сабалеўскі дакладна сфармуляваў у артыкуле «Пра сваю прафесію», якім адкрываецца кніга «Майстры, падзеі і ака-

лічнасці». На думку аўтара, крытык, як і драматург, калектыў тэатра, глядач, уваходзіць у склад стваральнікаў сцэнічнага мастацтва. Прынамсі, без яго чыннага ўдзелу спектаклі — а яны ўсё ж недаўгавечныя — асуджаны на забыццё. Для таго, каб яны засталіся ў памяці чалавецтва, крытык павінен не толькі ўмець дакладна і глыбока прааналізаваць змястоўна-эстэтычную вартасць сцэнічных твораў, а і літаратурна-мастацкімі сродкамі перастварыць іх у крытычных матэрыялах.

Набыткі А. Сабалеўскага на педагагічнай ніве надзвычай вялікія, і цяжка пераацаніць іх значэнне. За плячыма пройдзеных доўгіх гадоў — тысячы і тысячы ўсхваляваных лекцый, кіраўніцтва многімі сотнямі курсавых работ, дзясяткамі дыпломных праектаў, пятнаццаць абароненых аспірантамі дысертацый. І шматлікія кансультацыі, дадзеныя для навукоўцаў, у тым ліку для дактарантаў і аспірантаў, а таксама для студэнтаў і абітурыентаў. Пры гэтым Анатоль Вікенцьевіч часам вынаходліва прыдумваў даволі арыгінальную форму далучэння моладзі да нацыянальнай культурнай спадчыны.

Аднойчы восеньскім днём рэдкія наведвальнікі вайсковых могілак на Даўгабродскай маглі назіраць незвычайную карціну. Ля помнікаў драматурга і рэжысёра Е. Міровіча і выдатнага акцёра-купалаўца У. Крыловіча група студэнтаў акадэміі мастацтваў зацікаўлена слухала аповед настаўніка пра жыццё і творчасць знакамітых айчынных тэатральных дзеячаў. Так нетрадыцыйна праводзіў А. Сабалеўскі «выязныя» заняткі па гісторыі беларускага тэатра. Натхнёныя словы педагога ператварылі звычайны ўрок у захапляючую вандроўку ў свет тэатральнага мастацтва.

Дзякуючы яго намаганням у 1993 годзе ва ўніверсітэце культуры быў створаны эксперыментальны студэнцкі тэатр-лабараторыя, дзе навучэнцы засвойвалі асновы прафесіі разам з акцёрамі прафесіяналамі. Тут выступалі знакамітыя акцёры З. Браварская, Л. Давідовіч, М. Захарэвіч, Г. Бальчэўская і інш., якія атрымалі магчымасць увасобіць на студэнцкай сцэне свае няздзейсненыя мары і сыграць ролі, якіх не мелі ў тэатры. Пастаноўкі звычайна выклікалі значны грамадскі рэзананс, а монаспектакль Г. Бальчэўскай «Дагарэла свечачка...» А. Петрашкевіча ў рэжысуры Р. Баравіка аказаўся настолькі ўдалым, што быў перанесены на Малую сцэну купалаўскага тэатра.

З 70-х гадоў ХХ стагоддзя ў аспірантуры Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, якая існавала пры кафедры гісторыі і тэорыі мастацтва, мовы і літаратуры на чале з загадчыкам А. Сабалеўскім, пачалася падрыхтоўка тэатразнаўчых і педагагічных кадраў не толькі для Беларусі, а і для Узбекістана, Літвы, Польшчы. А ў дзевяностыя гады, калі ён узначальваў кафедру тэатральнай творчасці ў Беларускім універсітэце культуры і мастацтваў, такая ж падрыхтоўка вялася і для шэрагу краін Афрыкі.

Анатоль Вікенцьевіч заўжды пільна сачыў за творчым ростам сваіх выхаванцаў і аказваў ім усялякую падтрымку. Я асабіста пастаянна адчуваю гэта на сваім уласным лёсе. Фактычна ён адчыніў мне дзверы ў навуку, пры яго дапамозе я рабіла першыя крокі ў крытыцы, тэатразнаўстве і тэатральнай педагогіцы. А з якой удзячнасцю і павагай ставяцца да яго былыя вучні, многія з якіх жывуць ва Узбекістане. Памятаю незабыўную паездку ў Ташкент, дзе А. Сабалеўскі выступіў апанентам доктарскай, а я кандыдацкай дысертацыі. Як па-царску нас там прымалі! Для кожнага было справай гонару запрасіць шаноўнага «дамля» (настаўніка) у госці, пазнаёміць са шматлікай сям'ёй — ад старых дзядоў да малых дзетак. Галава кружылася ад водару духмяных страў — думламы, мантоў, узбекскага плову, ад экзатычных гатункаў віна. Па-ўсходняму красамоўна і ўзнёсла гучалі тосты ў адрас дарагога госця. Сам Анатоль Вікенцьевіч таксама вельмі шчодры на гасціннасць. Калі Мінск наведвалі яго вучні альбо вучоныя з іншых краін, ён запрашаў іх у сваё радзіннае гняздо Андрыеўшчыну. І кожны госць на развітанне абавязкова атрымліваў беларускі «сувенір» — нізку сушаных і слоік марынаваных на падбор маленькіх баравічкоў, сабраных гаспадаром.

З другой паловы 70-х на працягу амаль пятнаццаці гадоў А. Сабалеўскі з'яўляўся экспертам па тэатральным мастацтве ў Вышэйшай атэстацыйнай камісіі пры Савеце Міністраў СССР. Да таго ж недзе з дзесяць гадоў быў самым маладым доктарам і прафесарам па драматычным мастацтве ва ўсім былым Саюзе. Ён прымаў чынны ўдзел у працы ўсіх вучоных саветаў, якія мелі права прымаць да абароны дысертацыі па сцэнічным мастацтве (Масква, Ленінград, Тбілісі, Ташкент). Выступаў апанентам, рэцэнзентам, даваў адкрытыя і закрытыя водгукі на доктарскія і кандыдацкія дысертацыі. У 1984 — 1989 гадах А. Сабалеўскі — рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў. Ён шмат разоў узначальваў Дзяржаўную экзаменацыйную камісію па выпуску крытыкаў і тэатразнаўцаў у Кіеўскім тэатральным інстытуце імя І.Карпенкі-Карага, чытаў даклады, праводзіў лекцыі, майстар-класы як у гэтым інстытуце, так і ў навучальных установах Тбілісі, Ерэвана, Рыгі, Ташкента, Алма-Аты і інш.

І ёсць высокая праява, што калі паўстала пытанне аб вылучэнні прэтэндэнта на атрыманне Міжнароднай прэміі «UNITY» («Адзінства») з прысуджэннем залатога медаля, камісія на падставе прапаноў, якія паступілі з Сярэдняй (цяпер Цэнтральнай) Азіі, Закаўказзя, Балтыі, надала годнасць лаўрэата А. Сабалеўскаму — «За выдатны ўклад у развіццё мастацтвазнаўчай навукі, выхаванне спецыялістаў мастацкай культуры высокай кваліфікацыі і актыўны ўдзел у прапагандзе ідэй міру, дружбы і супрацоўніцтва паміж народамі». Асабліва шмат здзейсніў А. Сабалеўскі па выхаванні крытыкаў, тэатральных педагогаў для Узбекістана, за што Вучоны савет Ташкенцкага інстытута мастацтваў імя М. Уйгура абраў яго ганаровым доктарам навук.

Абыякавы да матэрыяльнага дабрабыту, А. Сабалеўскі ўсе зробленыя грошы траціў на кнігі, і сёлета сваю ўнікальную тэатральную бібліятэку разам з уласным архівам перадаў у Дзяржаўны музей тэатральнага і музычнага мастацтва. І яшчэ Анатоля Вікенцьевіча заўсёды вабілі сусветныя вандроўкі. Але якія б экзатычныя краіны ён ні наведваў, — Югаславію, Кубу, Японію, ЗША, Паўднёвую Карэю альбо Ізраіль — лепш за ўсё, па асабістым прызнанні, яму заўсёды пачувалася ў роднай Андрыеўшчыне. Таму што нідзе ў свеце няма такой райскай красы і такога адвечнага спакою.

Тут ноччу так ярка ззяюць зоркі, што можна ўбачыць нават дыяментавы россып звычайна цьмянага сузор'я Плеяды, а да Вялікай Мядзведзіцы, здаецца, можна дацягнуцца рукой. Тут на світанку можна стаць сведкам казачнага абуджэння ад сну прыроды, калі праз клубы туману прабіваюцца першыя промні ўзыходзячага сонца, і нерухомую роўнядзь азярца нібыта цацачныя ракеты з шумам праразаюць дзікія качкі, перад тым як узняцца і лёгка лунаць у паветры. А днём — бясконца любавацца белымі, а калі пашанцуе, то і чорнымі буслами, ці прыгожай парай лебядзяў, якія разам з малымі лебядзяткамі велічна падплываюць да берага і даверліва бяруць ежу з рук чалавека.

Толькі пабываўшы ў Андрыеўшчыне, я наблізілася да разумення характару Анатоля Вікенцьевіча, які дзіўным чынам спалучае надзвычайную энергію, працаздольнасць, сялянскую рашучасць і ўпартасць у здзяйсненні вызначанай мэты і ўзнёслую сузіральнасць, душэўную шчодрасць, рамантычнае стаўленне да прыроды і чалавека. Адчуваннем непарыўнай сувязі з каранямі, продкамі, роднай зямлёй прадыктаваны ўчынак, які мала стасуецца з цвярозым рацыяналізмам нашага часу. На лясным узгорку недалёка ад дома, дзе на сямейных могілках пахаваны бацькі, жонка, родныя, сваякі, Анатоль Вікенцьевіч на ўласныя сродкі паставіў адзінаццаць мармуровых крыжоў з надмагіллямі, якія адрозніваюцца толькі памерам, — вялікія для дарослых, крыху меншыя для дзяцей.

Некалі разам з жонкай А. Сабалеўскі па ўласным архітэктурным праекце пабудаваў у вёсцы драўляны дом. Стрэльчатыя акенцы веранды, утульны разны балкончык, пышныя кусты прыгожых белых кветак з чароўным водарам, раскідзі-

стыя грушы, яблыні, слівы — усё нагадвае крыху запусцелую сядзібу з чэхаўскіх п'ес. Памятаю, як аднойчы вечарам, калі пачалася навальніца і адразу ж пагасла святло, усе, хто быў у доме, сабраліся на верандзе, запалілі грамнічныя свечкі і сталі сведкамі незвычайнага разгулу прыроднай стыхіі. Здаецца, неба раскрылася, абрынуўшы на зямлю моцны паток вады. Нібы ў фантастычным феерверку бліскавіца то выгіналася і раскручвалася як спружыністая спіраль, то стралой уваходзіла ў возера, то зігзагападобнай дугой перараэала па вертыкалі густую цемру. Ніколі ў жыцці мне не даводзілася бачыць такой дзівосна прыцягальнай і такой небяспечна жахлівай прыгажосці. Раніцай усё сцішылася і аб начным здарэнні нагадвалі толькі паламаныя і вывернутыя з карэннямі дрэвы.

У Андрыеўшчыну пасля блізкіх і далёкіх вандровак вяртаўся Анатоль Вікенцьевіч, каб ачысціцца ад гарадской мітусні, набыць душэўную гармонію і раўнавагу. Тут яму заўсёды было лёгка дыхаць і вельмі добра працаваць. Тут выспявалі новыя планы, ідэі.

А зроблена за пражытыя гады нямала.

Чалавек вельмі сціплы і прынцыповы, Анатоль Вікенцьевіч навуковую кар'еру заўжды рабіў сумленна, за пасады ніколі не змагаўся. Калег заўсёды здзіўляла яго працаздольнасць і тая адказнасць, з якой ён ставіцца да работы. Ім надрукавана трыццаць кніг, асобныя з якіх былі неаднаразова перавыдадзены, каля тысячы артыкулаў, брашур, шматлікіх праграм па гісторыі беларускага тэатра.

Але справа нават не ў шырыні навуковых інтарэсаў даследчыка і тым больш не ў колькасці выдадзеных прац, а, бадай, у тым, што амаль усе яны з цягам часу не страчваюць сваёй каштоўнасці, нават сёння, калі многае ў гісторыі навукі і культуры пераглядаецца і пераасэнсоўваецца. Тлумачыцца гэта выключнай добрасумленнасцю А. Сабалеўскага як навукоўцы і чалавека, які ніколі не падтасоўваў, не скажаў факты ў залежнасці ад палітычнай кан'юнктуры.

Гэты год Анатоль Вікенцьевіч таксама адзначыў новай навуковай працай. У 13-м томе калектыўнага выдання «Беларусы. Тэатральнае мастацтва», змешчаны яго раздзелы, прысвечаныя беларускаму тэатру і драматургіі XIX — пачатку XX стагоддзя, а таксама раздзел аб Тэатры імя Якуба Коласа даваеннага перыяду.

І сёння А. Сабалеўскі мае шмат цікавых задумак. Ён марыць перавыдаць манаграфію пра К. Крапіву, апублікаваць кнігі пра цётку Уладзю і У. Галубка ў серыі «Беларускі кнігазбор», данесці да сучаснікаў адметнасць непаўторнага таленту акцёраў І. Ждановіч, І. Шацілы, З. Стомы.

***P. S. Калі гэты матэрыял быў падрыхтаваны да друку, 6 красавіка Анатоль Вікенцьевіч пайшоў у вечнасць. Атрымліваецца, што слова Тамары Гаробчанкі пра яго — гэта ў пэўнай ступені і падагульненне таго, што здзейснена выдатным тэатразнаўцам, Чалавекам з вялікай літары.***



Міхась ДАНІЛЕНКА

# ПРЫСТУПКІ І ВЁРСТЫ МАЙГО ЖЫЦЦЯ

Пачатак лета. Ліпень. Я сяджу на лаўцы каля Любенскага возера ў Гомелі і паглядаю, як вастракрылыя чайкі, што зрэдку пралятаюць паўз другі бераг, зніжаюцца да самай вады, а потым зноў узмываюць у неба. За апошнія гады іх значна паменшала. Між іншым, нашмат меней днямі мільгае паміж высотнымі дамамі, дзе я жыву, і стрыжоў…

Я даўно лічу сябе старажылам Гомеля. Хоць нарадзіўся не тут, а ў вёсцы Ястрабка на Лоеўшчыне 28 кастрычніка 1922 года. Калі параўнаць мяне з падарожнікам, дык знаходжуся я недзе на падыходзе да дзевяностага кіламетра адмеранага мне жыцця.

Часцяком мне даводзіцца праязджаць Ястрабку, калі наведваюся ў вясковы дом, дзе часам праводжу свае летнія дні. Некалі (да Вялікай Айчыннай вайны) вёска запомнілася дабротнымі дамамі пад бляшанымі дахамі. Будынкі з берасту (даўгавечнае дрэва) склюдаваныя былі не на адно дзесяцігоддзе. Вяскоўцы славіліся сваімі коньмі, выдатнай вупражжу. Калі бачылі, як імчыць, запрэжаны ў прыгожы вазок, конь, абавязкова з захапленнем гаварылі:

— Ястрабец паехаў!

Шкада, але сёння вёска ніколькі не падобная на тую, куды мне даводзілася бегаць у пачатковую школу. Вокны многіх хат, якія прыкметна селі ў зямлю, накрыж забіты пачарнелымі дошкамі. Бур’ян і крапіва-жыгучка пруць у поўны рост там, дзе некалі буялі вяргіні ў палісадніках.

Калі мне было тры ці чатыры гады, бацькі мае пераехалі на новае месца жыхарства — у пасёлак Бодры. І ён цяпер дажывае свой век — гэты пасёлак — за якіх чатыры кіламетры ад Ястрабкі.

Тут, у Бодрым, прайшло маё бесклапотнае дзяцінства. Адсюль я са зрэбнай торбачкай хадзіў у пачатковую ястрабскую школу. А пасля вучыўся ў Баршчоўскай сямігадовай школе. Зараз вёску называюць Нова-Баршчоўкай, бо калі ў свой час Лоеўскі раён далучалі да Рэчыцкага, паявілася адразу некалькі Баршчовак… З Нова-Баршчоўкі некалі — даўно-даўно — я са старэйшым братам, які заканчваў Рэчыцкае педвучылішча, насіў дакументы (пехатой) з Бодрага ў Рэчыцу.

Можа, з тых далёкіх дзён я так палюбіў гэты ціхі горад над Дняпром. Шмат пазнаў, калі працаваў у абласной газеце «Гомельская праўда». Мне даводзілася неаднойчы бываць у Рэчыцы, пісаць пра першых адкрывальнікаў «чорнага золата», пра славуты некалі Азершчынскі народны хор, пра добрых людзей, на якіх багатая рэчыцкая, як і мая родная, лоеўская зямля.

У Рэчыцкім педвучылішчы да вайны працавала шмат вопытных выкладчыкаў. На ўсё жыццё запомніліся ўрокі літаратуры, якія вяла Надзея Прохарава. Менавіта яна прывіла нам, навучэнцам, спрадвечную любоў і пашану да роднага слова. Няма чаго граху таіць: сёння, на вялікі жаль, многія з нас забыліся на матчыну мову, на песні, што спявалі нам над калыскамі. Урэшце, як кажуць, іншы час — іншыя клопаты, звычкі.

Толькі мы здалі апошні дзяржаўны экзамен, як пачалася Вялікая Айчынная вайна.


*Міхась Даніленка. 1945 г.*

У мяне і сёння — праз семдзесят гадоў майго жыцця — перад вачыма бачыцца тая драўляная Рэчыца з раструбамі гучнагаварыцеляў на слупах і збянтэжаныя твары людзей. Жанчыны і мужчыны, юнакі і дзяўчаты ўслухоўваліся ў глухаваты голас Молатава, які гаварыў, што без аб’яўлення вайны вораг атакаваў межы нашай краіны і распачаў баявыя дзеянні.

…Спачатку нас — былых студэнтаў — накіравалі на адну з рэчыцкіх фанерных фабрык. Там выраблялася фанера для крылляў самалётаў, якія павінны былі пасля падымацца, каб ісці ў атаку на нямецкія «юнкерсы» і «месершміты»… Вядома, нямала было легкадумнага і наіўнага ў першыя дні. У цэху, дзе распарвалася драўніна (па-мойму, альха) цяжка было дыхаць, у рукі паўпіваліся вострыя стрэмкі. (Пасля, калі мяне сустрэла маці на паўдарозе да дому, у мяне былі забінтаваныя абедзве рукі.) Дарэчы, тады ж мы ўбачылі варожы самалёт над Холмечам з чорнымі крыжамі на крылах.

У Лоеве, на высокім дняпроўскім беразе, каля ваенкамата нас, мабілізаваных зялёных хлапцоў, стрыглі. А потым усіх пагрузілі на баржу і невялічкі катар пачаў адчальваць ад берага. І тут у блакіце неба аднекуль паявіўся нямецкі сцярвятнік. Ён знізіўся да брыючага палёту, лёг на левае крыло і праляцеў над баржай. Поўнымі жаху вачыма мы глядзелі на неба, з якога вось-вось зрынецца на нас смерць… Не, на гэты раз пранесла. Самалёт зрабіў разварот і знік неўзабаве за зарэчнымі лясамі… Зрэшты, пра гэты момант і іншыя праз шмат гадоў я напішу ў аповесці «Цёмная ноч», якая друкавалася ў часопісе «Полымя» за 1993 год…

Пасля вучобы ў запасным палку на Тамбоўшчыне і ў паўночным Казахстане, я трапіў на Паўднёва-Заходні фронт у дывізію, якой камандаваў генерал-маёр Кутлін. Мне і сёння помняцца радкі верша аднаго з франтавых паэтаў:

Через горы, реки, перекаты
По дорогам, что к Днепру ведут,
В смертный бой, сжимая автоматы,
Днём и ночью кутлянцы идут…

Стаяў май 1942 года. Нашымі войскамі былі пакінуты станцыі Лазавая, Ізюм… Баі ішлі на Харкаўскім напрамку. І вось тут, прапусціўшы нашы часці наперад, вораг абкружыў тры арміі. У «мяшку» аказаліся тысячы баявых машын, гармат, дзясяткі тысяч людзей. Ваенных камандзіраў, як было прынята ў тыя часы, на самалёце вывезлі з акружэння. Запомніліся адарваныя салдацкія рукі на мурожнай траве, па якой поўзалі мурашы, пакарэжаныя гусеніцы танкаў, разарваныя ствалы гармат. Дарэчы, запомнілася і як доўга гарэў, быццам стог сена, здаравенны танк «ІС» («Іосіф Сталін»). (Праз шмат гадоў у адной з фундаментальных бібліятэк я адшукаў том гісторыі Вялікай Айчыннай вайны пра трагічную Харкаўскую аперацыю. Там віна была звалена на члена Ваеннага Савета Хрушчова, які к таму часу аказаўся ў апале.)

…Пасля пачаліся блуканні па канцлагерах у Аўстрыі. Зноў жа пра тое і пра ўцёкі з палону пасля я напісаў у аповесці «Альпы» (у перакладзе на рускую мову — «Свеча в тирольских Альпах»). Безумоўна, калі б не сустракаліся на жыццёвым шляху светлыя, харошыя людзі, наўрад ці выжыў бы і пісаў бы сёння гэтыя словы.

Калі скончылася вайна (у маім архіве цудам захавалася даведка, дасланая ў Германію ў 1945 годзе, што я з’яўляюся настаўнікам пачатковых класаў), я з

Рэчыцы цераз Ястрабку вяртаўся з салдацкім рэчавым мяшком за спінаю ў свой Бодры.

Пасля працаваў настаўнікам роднай мовы і літаратуры ў Казярожскай сямігадовай школе на Лоеўшчыне. Пазней аказалася, што зусім блізка ля гэтай школы пахаваны вядомы ўзбекскі паэт Султан Джура. Калі праходзіла Дэкада беларускай літаратуры і мастацтва ва Узбекістане, мы з Анатолем Грачанікавым — камсамольскім сакратаром — ехалі ў Казярогі, каб набраць зямлі з яго магілы. Пасля пакет з той свяшчэннай зямлёй быў перададзены родным паэта ў тэатры імя Алішэра Наваі ў Ташкенце.

У мяне за шклом у кніжнай шафе на пачэсным месцы знаходзіцца медаль Васіля Віткі. Ім я быў узнагароджаны за творы, змешчаныя ў дзіцячым часопісе «Вясёлка». І заўсёды чамусьці шчымліва ўспамінаецца, як дабіраліся на «Масквічы» з Толем Грачанікавым на маю Лоеўшчыну, і як везлі тую зямлю, каб паспець перадаць у Мінск у аэрапорт, адкуль адляталі беларускія пісьменнікі на свята. Успамінаюцца светла-сумныя віткаўскія радкі:

У вёску Казярогі,
На Палессе,
Прыйшла з далёкае дарогі
Песня,
З Ферганскае даліны,
З Андыжана,
І на лістку каліны
Задрыжала…

Але вернемся да творчых спраў.

У другім томе энцыклапедыі «Літаратура і мастацтва Беларусі» ёсць невялікая даведка пра мяне. У ёй сказана: «Друкуецца з 1947 года. Героі яго твораў — людзі высакародныя, непрымірымыя да праяў несумленнасці і фальшу (аповесці “Апанаска Лугавы”, “Наш дом”). Для дзяцей выдаў кнігі “Вернасць слову”, “Зачараваны гарлачык”, “На вуліцы Сонечнай”».

Вядома, пасля таго, як з’явілася ў свет гэтая энцыклапедыя, я не сядзеў без справы. Выдаў 15 кніг (апошняя — «Дзве зоркі»). Дзве кнігі — «Заветный океан» і «Мать Марья» выдадзены ў Маскве, у выдавецтве «Советский писатель». Асобныя творы друкаваліся ў перакладзе на польскую, украінскую, літоўскую мовы.

З’яўляюся выдатнікам друку. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны II ступені, шматлікімі медалямі, Ганаровай і дзвюма Граматамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі. У свой час ганараваўся прэміямі Івана Мележа і Аляксандра Капусціна.

Шмат было добрых, па-сапраўднаму сяброўскіх стасункаў з Піліпам Пестраком (некалі выступалі ў Мазыры), Іванам Шамякіным, Янкам Брылём, Анатолем Астрэйкам, Хведарам Жычкам, Еўдакіяй Лось. Цэлая паліца падораных у свой час кніжак ад іх ды Анэлі Тулупавай, Станіслава Шушкевіча, Паўла Кавалёва, Пятра Прыходзькі, Дзмітрыя Кавалёва. Не забываюць мяне, дзякаваць богу, і маладзейшыя літаратары, якія з поспехам працуюць сёння ў рэспубліцы: Мікола Чарняўскі, Анатоль Зэкаў, Васіль Ткачоў, Віктар Ярац. Прыемна сустракаць дарагія табе імёны ў друку… Ну, а што да твораў, адрасаваных юнаму пакаленню, дык іх набярэцца таксама на поўную кніжную паліцу. Яны змешчаны ў шматлікіх чытанках, дапаможніках для пазакласнага чытання, хрэстаматыях…

Вяртаюся ад Любенскага возера да свайго пісьмовага стала. На ім ляжыць чысты аркуш паперы. Аб чым будзе чарговы твор? Цяжка аб гэтым (ды і ці варта?) гаварыць і планаваць. За вокнамі праляцела першая павуцінка. А на бярозе, што расце насупраць майго акна, з’явіліся ў касніку першыя жоўтыя лісткі. Значыць, яшчэ адзін кругазварот зроблены ў прыродзе. І зноў у бясконцую невядомасць імчыць наша Зямля…

*Жнівень 2011 г.*

Зінаіда ДРАЗДОВА

# НОВАЕ АБ ЛІТАРАТУРЫ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

**М. У. МІКУЛІЧ. Паэзія Заходняй Беларусі (1921—1939).** Мн.: Беларуская навука, 2010.

У апошняе дзесяцігоддзе прыкметна ўзрасла цікавасць да праблем, звязаных са стылем, паэтыкай і эстэтыкай літаратурнага твора. Усё часцей абараняюцца па гэтай праблематыцы доктарскія і кандыдацкія дысертацыі, выходзяць манаграфіі, у якіх робяцца сур'ёзныя подступы да эстэтычнага аналізу, да ўдумлівага вывучэння пісьменніцкага стылю, майстэрства з мэтаю спасціжэння аўтарскай індывідуальнасці. Манаграфія Міколы Мікуліча «Паэзія Заходняй Беларусі (1921—1939)» — яшчэ адно таму пацвярджэнне. Упершыню так глыбока, панарамна-аналітычна паказваецца стракаты і неаднародны літаратурны пейзаж гэтага рэгіёна. Праўдзівую і аб'ектыўную карціну развіцця паэзіі Заходняй Беларусі М. Мікулічу ўдалося стварыць і з дапамогай заўсёды да месца вытрымак з рэдкіх кніжных і перыядычных выданняў, дакументаў і матэрыялаў архіваў, перапіскі паэтаў, іх дзённікаў.

Як вядома, заходнебеларуская паэзія даследавалася і іншымі літаратуразнаўцамі. У прыватнасці, каля сарака гадоў жыцця аддаў вывучэнню яе Уладзімір Калеснік, які выдаў ажно чатыры манаграфіі, прысвечаныя творчасці М. Танка, У. Жылкі, М. Васілька, А. Салагуба, М. Засіма і інш., а таксама кнігі вершаў некаторых з іх і склаў анталогіі заходнебеларускай паэзіі з грунтоўнымі ўступнымі артыкуламі. М. Мікуліч падрабязна спыняецца на дасягненнях сваіх калег-папярэднікаў, тым самым даючы чытачу багаты і каштоўны даведачны матэрыял, указваючы на «белыя плямы» і слабую распрацаванасць у сучасным літаратуразнаўстве шэрагу праблем, звязаных з такой цікавай з'явай як паэзія Заходняй Беларусі 1921—1939 гг. Так аўтар манаграфіі, пагаджаючыся з Б. Сачанкам, гаворыць аб наспелай неабходнасці аналітычнага разгляду не рэвалюцыйна-авангарднай плыні (да яе ў савецкі час была павышаная ўвага), а «чыста эстэтычнай», а таксама рэлігійна-каталіцкай плыні, паэзіі святароў-католікаў. Ён справядліва заўважае, што «прадметам шырокага, сістэмнага, канцэптуальна-цэласнага аналізу паэзія Заходняй Беларусі яшчэ не станавілася, уся стэрэаскапічная паўната і шматстайнасць асаблівасцей і заканамернасцей яе развіцця і ўзбагачэння, ідэйна-эстэтычнай своеадметнасці дагэтуль не вывучалася.

У кнізе вядзецца сур'ёзная гаворка аб індывідуальным стылі і стылі літаратурнай плыні. Аўтар справядліва сцвярджае, што «не ў кожнага аўтара ёсць ці можа быць свой стыль, што паняцце «стыль» дастасавальна толькі ў адносінах да багата адораных пісьменнікаў, што стыль там, дзе майстэрства, мастацкасць. У жывым творчым працэсе паэзіі Заходняй Беларусі, з яго разнастайнымі стылямі, напрамкамі або плынямі, узаемадзеяннем новых тэндэнцый і традыцый, аўтару выразна бачацца тры асноўныя плыні — лірыка-апавядальная, рамантычная і духоўна-ірацыянальная.

Паэты лірыка-апавядальнай стылявой плыні, на думку М. Мікуліча,

падзяляліся на тых, хто працаваў у традыцыях нашаніўства, масавай паэзіі, у творах якіх на першым плане «фігуравала сацыяльна абумоўленае, калектыўнае, сумарнае, знешняе», а аб'ектыўнае было прыглушана, і на тых, у творах якіх назіралася паглыбленне сферы асабовага, індывідуальна-аўтарскага, лірычнага пачатку. Герой у апошніх «паўставаў у выразнай абмалёўцы свайго індывідуальнага светаразумення і аблічча, у раскрыцці адносін да шырокага спектра грамадскіх працэсаў.

Прынамсі, у падраздзеле «Спасцігаючы канкрэтыку жыцця» аналізуецца творчасць А. Смаленца, М. Васілька, М. Машары, М. Засіма, Н. Тарас, С. Крыўца, А. Іверса, Г. Новік, А. Дубровіча, якія працягвалі беларускаю нацыянальную традыцыю эпічнага адлюстравання рэчаіснасці, падрабязнай абмалёўкі побытавага свету з абавязковай іх лірычнай падсветкай.

Другі раздзел «На крылах рамантычнага ўздыму» прысвечаны разгляду творчасці паэтаў рамантычнай стылявой плыні, у якой выяўляюцца нацыянальна-адраджэнская і рэвалюцыйна-рамантычная лініі. Першае адгалінаванне Л. Родзевіча, У. Жылкі, І. Дварчаніна, П. Сакола і іншыя. Другое — А. Салагуба, П. Шукайлы, П. Пестрака, В. Таўлая, М. Танка… Прадстаўнікі нацыянальна-адраджэнскай рамантычнай лініі, упэўнены М. Мікуліч, паэтызавалі беларускую мінуўшчыну, абуджалі гістарычную памяць народа, «перспектывы будучыні беларусаў звязвалі з нацыянальна-дзяржаўнай спадчынай продкаў, Вялікім Княствам Літоўскім», паказвалі нацыянальных герояў, як узор для пераймання.

А паэты рэвалюцыйна-рамантычнай лініі заклікалі да барацьбы за сацыяльную і нацыянальную свабоду краю, сцвярджалі прынцыпы класавай барацьбы і супрацьстаяння, сацыяльнай непрымірымасці.

Рамантычная стылявая плынь адрознівалася ад лірыка-апавядальнай, як лічыць аўтар кнігі, іншым тыпам лірычнага героя, іншай сістэмай мастацка-вобразнага асэнсавання жыццёвых праблем і канфліктаў. «Калі ў лірыка-апавядальнай плыні пераважаў экстравертны, аб'ектыўна выяўленчы падыход, прынцып рэалістычнай праўдзівасці, жыццепадобнасці і кантраснасці ў паказе падзей і фактаў, дык рамантычная вызначалася інтравертным, суб'ектыўна-выразным пачаткам, умоўным тыпам мастацкага мыслення і абагульнення, зваротам да раскрыцця асаблівасцей унутранага свету асобы, яе драматычна-балючага роздуму і перажыванняў, іх складанага і супярэчлівага зместу».

Трэці раздзел «У рэчышчы духоўна-ірацыянальных пошукаў» прысвечаны даследаванню асаблівасцей духоўна-ірацыянальнай плыні, да якой М. Мікуліч адносіць К. Сваяка, В. Адважнага, Хв. Ілляшэвіча, П. Сеўрука і іншых. Аб яе прадстаўніках ён заўважаў, што сацыяльна-гістарычная абумоўленасць жыцця цікавіла іх у значна меншай ступені, чым прадстаўнікоў папярэдніх стылявых плыняў, а то і зусім не цікавіла, што яны адмаўлялі прынцыпы падпарадкаванасці паэзіі пэўнай сацыяльнай місіі, а іх лірычны герой звяртаў на сябе ўвагу характэрнай сканцэнтраванасцю на сваім унутраным суб'ектыўным свеце, які амаль не судакранаўся са светам знешняй рэчаіснасці.

Канешне, нельга гаварыць пра абсалютную непарушнасць гэтай тыпалогіі (як, дарэчы, і ўсякай тыпалогіі, класіфікацыі), можна заўсёды ўносіць нейкую карэкціроўку, удакладненні, аднак трэба прызнаць пераканальнасць і абгрунтаванасць паказу М. Мікулічам тых агульных рыс, якія яднаюць паэтаў адной плыні, паказу дамінавання ў творчасці іх пэўнага тыпу вобразнасці, мастацкага мыслення і абагульнення, прыёмаў і сродкаў эстэтычнай выразнасці, бо робіцца гэта праз скрупулёзны аналіз асаблівасцей творчай манеры, почырку, прыёмаў і схільнасцей асобных паэтаў.

З кнігі паўстае вялікае мноства цікавых, запамінальных літаратурных партрэтаў заходнебеларускіх паэтаў, пра некаторых з якіх да гэтага часу амаль

нічога не было вядома нават спецыялістам-даследчыкам, не кажучы ўжо пра шырокага чытача. У поле зроку даследчыка трапляюць не толькі тыя, хто шмат друкаваўся пры жыцці, але і тыя, чые творы захаваліся толькі ў аўтарскіх рукапісах, як, скажам, П. Сяўрук, якому жыццё адмерала ўсяго дваццаць чатыры гады (1905—1929). Аднак за такі кароткі тэрмін ён змог спасцігнуць высокі сэнс зямнога быцця, дасягнуць сапраўдных, а не прывідных вяршынь чалавечнасці.

Знаёмства з вершамі П. Сеўрука, яго выказваннямі ў «Дзённіку», нататкамі «Думкі», «Запіскі чытача» дало падставу М. Мікулічу гаварыць пра іх як пра «жывыя і пераканаўчыя дакументы нашай духоўнасці». Цытаты, якія прыводзіць аўтар кнігі, сведчаць, што Сяўрук адстойваў хрысціянскія каштоўнасці, заклікаў да ўдасканалення чалавекам уласнай душы, а не грамадства. Бо грамадства можна змяніць у лепшы бок толькі тады, калі зменіцца да лепшага кожны яго прадстаўнік. Уражваюць сваёю «іншасцю» многія напісаныя ім радкі, іншасцю ў параўнанні з пераважнай большасцю, якія заклікалі да справядлівага ўладкавання грамадства шляхам барацьбы са зброяй. Вось як пісаў гэты паэт-пацыфіст у «Дзённіку»: «Барацьба толькі закончыцца тады, калі знікнуць сацыялісты і капіталісты пры дапамозе сваёй непрыгоднасці, і тады, калі народ стане верыць не развальнаму і матэрыяльнаму, а трываламу, духоўнаму... Хрысту!!!»

Манаграфія М. Мікуліча дае яшчэ і вельмі багаты матэрыял для разважання над праблемаю «чалавек і абставіны», над праблемаю чалавечага выбару. Усе паэты Заходняй Беларусі жылі і працавалі ў адных і тых жа грамадска-палітычных і сацыяльна-маральных умовах, але пры гэтым істотна розніліся па светапоглядах, перакананнях. Пры падабенстве, агульнасці ўмоў назіралася рознасць у стылі, у тыпах вобразнасці, у асаблівасці мыслення, у вобразна-выяўленчых сродках у разуменні гуманізму.

Аўтару кнігі ўдалося паспяхова ўключыць кожнага са шматлікіх пісьменнікаў, чыю творчасць ён разглядае ў агульналітаратурным кантэксце Заходняй Беларусі, паказаць непаўторна-асабістыя дасягненні аўтараў і ўвесь тагачасны літаратурны працэс. Робіцца глыбокае асэнсаванне і сістэматызацыя папярэдніх напрацовак айчынных даследчыкаў і праводзіцца агромністая праца па апісанні характэрных рыс і адзнак трох стылявых плыняў, чаго да М. Мікуліча не было.

Хочацца яшчэ раз сказаць пра вялікую актуальнасць і важнасць, грунтоўнасць гэтага даследавання, доказнасць і абгрунтаванасць меркаванняў аўтара. Манаграфія з'яўляецца новым, яркім словам пра паэзію Заходняй Беларусі і, безумоўна, будзе патрэбнай як для выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ, літаратуразнаўцаў і настаўнікаў, так і для шырокага кола паэтаў і аматараў паэтычнага слова.



**Віктар ГАРДЗЕЙ**

# ГАНЦАЎШЧЫНА: ЯК МНОГА Ў ГЭТЫМ СЛОВЕ...[1]

Не, такой духоўнай роднасці Ганцавічы яшчэ не ведалі. Крыжовы ход па цэнтральнай вуліцы да новай Свята-Ціханаўскай царквы з Дабрадатным Агнём ад Труны Гасподняй. Найвялікшая падзея адбылася ўвечары 2 верасня 2004 года з удзелам рэспубліканскай культурна-асветніцкай экспедыцыі «Дарога да святыняў», а шлях яе праз Ганцавічы ляжаў у старажытны Тураў, дзе рыхтаваліся мерапрыемствы традыцыйнага Дня беларускага пісьменства. Галоўная задача гэтай экспедыцыі — звярнуць увагу людзей да нашай гісторыі, спадчыны, мовы, культуры, і не трэба паўтараць, што сустрэчы з Дабрадатным Агнём ад Труны Гасподняй радуюць, хвалююць кожнага чалавека. Урачыста, светла было і ў Ганцавічах у той цёплы вераснёўскі вечар. Спачатку каля помніка пахаваным тут воінам і партызанам прайшоў духоўна-свецкі мітынг, а потым тысячы і тысячы ганцаўчан на чале з прадстаўнікамі вышэйшага духавенства і кіраўнікамі раёна рушылі ў другі канец горада, да ўжо асвечанага храма святога Ціхана. Ведалі б, якое гэта было велічнае, незабыўнае відовішча: раскалыханае людское мора, зіхоткае, таямнічае мігценне свечак у руках прыхаджан. Удзельнікі Крыжовага ходу ўпэўнены, што ад Дабрадатнага Агню ў іх душах і сэрцах пасяліліся міласэрнасць, чуласць, спагада, адчуванне чагосьці ўзнёслага, недасяжна высокага.

Сённяшняя праваслаўная святыня Ганцавіч — Свята-Ціханаўская царква — будавалася больш за 12 гадоў, а па-сапраўднаму справы пайшлі хутка, калі ў 1994 годзе служыць сюды прыехаў святар Пётр Піліпчук, які застаў на пляцы яшчэ не закончаны падмурак. У будаўніцтве храма дапамагалі многія арганізацыі горада: лясгас, лесапункт, завод КПД, «Сельгастэхніка», камунгас, ААТ «Модуль» і іншыя. За ходам узвядзення святыні пастаянна сачыла раённая газета «Савецкае Палессе». Вось што яна паведамляла ў заметцы «Будзе і ў Ганцавічах храм» ад 17 снежня 1993 года: «Нарэшце скранулася з мёртвай кропкі будаўніцтва царквы святога Ціхана ў горадзе. У паўднёва-ўсходняй частцы райцэнтра, паблізу скрыжавання вуліц Будаўнікоў і Кастрычніцкай (у перспектыве тут будзе новы цэнтр Ганцавіч), будаўнікі ПМК-14 прыступілі да работы. Зрабілі разбіўку і апалубку падмурка будучага будынка новай царквы. І толькі моцныя маразы перашкодзілі ім пачаць закладку падмурка. З адносным пацяпленнем работы на аб’екце ўзновяцца».

Але прайшло нямала часу, пакуль будынак храма набыў дасканалы, закончаны выгляд. А ўжо 13 лютага 2005 года адбылося асвячэнне Свята-Ціханаўскай царквы ў прысутнасці вялікай колькасці ганцаўчан. Абрад асвячэння правёў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт. Іверскай іконай Божай Маці ён блаславіў прыхаджан, якія сабраліся ў храме. На богаўгодным мерапрыемстве прысутнічала духавенства, кіраўнікі вобласці і раёна. За вялікі асабісты ўклад у будаўніцтва царквы Мітрапаліт узвёў у сан протаіерэя

[1] Заканчэнне. Пачатак у № 4, 2012 г.

Пятра Піліпчука і ўзнагародзіў яго асаблівым Крыжам з упрыгажэннямі. Цяпер гэты цудоўны чалавек, змагар за праваслаўную веру — настаяцель храма свяціцеля Ціхана, акрамя таго ён з'яўляецца благачынным цэркваў Ганцавіцкай акругі.

Новы Божы Храм, што ўсімі сваімі купаламі ярка зіхаціць у промнях сонца і далёка відзён у наваколлі, за кароткі час стаў галоўнай славутасцю Ганцавіч. Мала сказаць, гэта сама прыгажосць — такую дасканаласць не сустрэнеш і ў вялікім горадзе. Паводле досведу спецыялістаў, пяцікупальны храм са званіцай вырашаны ў традыцыях старажытнарускага царкоўнага дойлідства. Фасады прарэзаны вузкімі, вертыкальна выцягнутымі арачнымі аконнымі праёмамі, купалы маюць форму розных па велічыні цыбулін і ўстаноўлены таксама на неаднолькавых па вышыні светлавых барабанах. Увесь царкоўны комплекс прываблівае зграбнасцю архітэктурных форм, маляўнічым «візантыйскім» сілуэтам, вертыкальнай імклівасцю, дык заканамерна, што колькасць прыхаджан, якія з радасцю наведваюць сваю святыню, з кожным разам у Ганцавічах павялічваецца.

Як вядома, шлях да Храма, да ўзвелічэння праваслаўнай веры, што прапаведуе высокія каштоўнасці жыцця: любоў, згоду, дабрыню, спагаду,— быў доўгім і цярністым. У выніку атэістычнай прапаганды многае агульначалавечае і святое было страчана і загублена, асабліва пацярпелі ў краіне праваслаўныя царкоўныя святыні. Іх зачынялі, праганялі святароў, скідвалі званы са званіц, а то і разбіралі святыя будынкі для іншых патрэб. На жаль, не абышлося без перагібаў і на ганцавіцкай зямлі, хаця асабліва жорсткіх выпадаў ваяўнічага атэізму тут назіралася мала. Не захаваліся, на жаль, колішнія будынкі цэркваў у некаторых населеных пунктах, але прыйшоў новы час — час вялікіх перамен у веравызнанні, і зноў у ваколіцах паплыў звон-дабравест, запрашаючы вернікаў на набажэнствы. За два апошнія дзесяцігоддзі пабудаваны дыхтоўныя храмы: Свята-Уладзімірская царква ў аграгарадку «Агарэвічы», Свята-Успенская царква ў вёсцы Хатынічы, Свята-Міхайлаўская царква ў Дзяніскавічах, царква ў імя свяціцеля Мікалая Цудатворца ў аграгарадку «Малькавічы». Там жа, дзе бязлюдныя культавыя памяшканні ацалелі, цэрквы адрамантаваны, прыведзены ў належны стан, і ў іх цяпер вядзецца богаслужэнне — у вёсках Нача, Будча, Чудзін і іншых. Бадай, адзіны храм на тэрыторыі раёна, які ніколі не зачыняўся ўладамі,— Свята-Георгіеўская царква, помнік народнага дойлідства ў вёсцы Вялікія Круговічы, і, згадзіцеся, гэты факт мне, па-зямляцку, асабліва прыемны і ганаровы.

## 5

Летась споўнілася роўна сто гадоў, калі свет пабачыла арыгінальная, незвычайная сваім зместам кніга Аляксандра Сержпутоўскага «Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў». Гэты сціплы юбілей, ці, кажучы па-сучаснаму, «кніжчыны імяніны», толькі засведчыў вядомую выснову: усё свежае таленавітае жыве доўга, уваходзячы ў залаты фонд нашай культуры, мовы, літаратуры. Тады ж, у 1811 годзе, нават самыя дасведчаныя фалькларысты слаба ўяўлялі, дзе жывуць тыя дасціпныя «беларусы-палешукі», а што да асобы аўтара, то яго імя калі-нікалі ўжо згадвалася ў вучоных і літаратурных колах. Пройдзе яшчэ шмат часу, і Аляксандр Казіміравіч стане гонарам нашага краю, увачавідкі прадэманстраваўшы свету на дзіва шырокі абсяг сваіх інтарэсаў і захапленняў: фалькларыст, беларускі этнограф, асветнік, літаратар, мовазнаўца, нястомны збіральнік народных казак.

Славуты зямляк нарадзіўся 21 чэрвеня 1864 г. у вёсцы Бялевічы Слуцкага павета ў беднай сялянскай сям'і. Сваёй зямлі не было, таму бацька працаваў на падзёншчыне. Сям'я вымушана была пераехаць на Ганцаўшчыну, дзе паміж Пярэвалакамі і Чудзінам, непадалёку ад рэчкі Лань, быў хутар Сержпутоўшчына (вяскоўцы вымаўляюць прасцей: Шарпутоўшчына) з трывалаю хатаю, садам,

пчальнікам… Тут Аляксандр правёў дзяцінства і юнацтва, сюды наведваўся не раз і не два — ужо студэнтам, настаўнікам, урэшце, супрацоўнікам Рускага музея ў Пецярбургу.

Будучы вучоны, энтузіяст і руплівец беларускай культуры рос на прыволлі адвечных лясоў, з малых гадоў слухаў палескія казкі, легенды і паданні. На ўсё жыццё запалі ў сэрца людзі Надлання, іх звычаі, ён вельмі любіў сваю зямлю, гэты край хараства, мудрасці і спагады.

Шлях таленавітага юнака ў жыццё прайшоў праз Вызненскае народнае вучылішча, Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Потым была праца сельскім настаўнікам, пісарам. А. Сержпутоўскі многа вандраваў па краіне і, нарэшце, заняў пасаду супрацоўніка этнаграфічнага аддзела Рускага музея ў Пецярбургу. Уся працоўная дзейнасць фалькларыста і этнографа звязана з вывучэннем жыцця палешука-селяніна, ягонага быту і культуры. Падчас творчых вандровак Аляксандр Казіміравіч двойчы пабываў у экспедыцыях на Палессі, завітваючы і на бацькоўскі хутар каля Пярэвалак.

У знаёмых мясцінах малады вучоны сабраў унікальную этнаграфічную калекцыю, зрабіў мноства фотаздымкаў, вывучаў дыялекты роднай мовы. Слухаў і запісваў цудоўныя пярэвалацкія і чудзінскія казкі ад сівога дзеда Савіцкага, Данілы Куляша, Лявона Лябедзіка, дзеда Рэдкага, Корчыка, Сасноўскага, Болбата, Матруны Бохмачыхі, шляхцянкі Умінскай. Мовай простай, мовай паляшуцкай, ёмкім і трапным словам баечнікі баялі яму свае казкі. Многія з гэтых сапраўдных жамчужын народнай мудрасці нам даводзілася чытаць яшчэ ў дзяцінстве, але тады мы нават не задумваліся, што амаль усе яны запісаны ў маляўнічым і казачным Надланні.

У лясной глухамані Палесся знікаюць апошнія сляды і прыкметы знакамітай сядзібы Сержпутоўскіх. І толькі памятны знак на сонечным узлеску — яскравы напамін таго, што адсюль пайшоў у вялікі свет нястомны збіральнік народнай казкі, знакаміты фалькларыст, чарадзей паляшуцкага слова Сержпутоўскі. Але ж не знікнуць ніколі творчаму следу вучонага на гэтай зямлі. Бо ён — у кнігах, шматлікіх навуковых працах, у памяці людзей. Імя славутага земляка на Ганцаўшчыне ведаюць і шануюць, як ведаюць і помняць багаты плён ягонай працы. Не стала вядомага фалькларыста, этнографа 5 сакавіка 1940 года. Яго імем названы вуліцы ў вёсках Чудзін і Пярэвалакі.

## 6

Ёсць у нашым палескім краі сялібы і нават цэлыя вёскі, якія, авеяныя славай вялікіх людзей, і самі сталі знакамітымі не толькі ў сваёй мясцовасці, але і далёка за яе межамі. Феномен гэты можна вытлумачыць і простым збегам акалічнасцей, і Боскім наканаваннем — пастаянна быць у цэнтры народнай увагі. На будынку трохпавярховай Люсінскай сярэдняй школы ўжо шмат дзесяцігоддзяў пра нечаканыя дарункі лёсу сведчыць мемарыяльная дошка: «У нашай в. Люсіна ў 1902—1904 гг. працаваў настаўнікам вялікі пясняр беларускага народа Якуб Колас (К. М. Міцкевіч) і напісаў аповесць «У палескай глушы» аб гэтай вёсцы». Паводле архіўных звестак, Люсінскае народнае вучылішча тады наведвалі 35 хлопчыкаў і дзве дзяўчынкі, што для нейкіх пяцідзесяці сялянскіх двароў было зусім няблага. Пра той нялёгкі час Якуб Колас пісаў так: «…у сваёй рабоце чэрпаў малады настаўнік поўную чарку высокага знання, лёгка асільваючы тое, што яшчэ ўчора здавалася ім незразумелым і трудным. Больш разбітных і здольных любіў ён той любасцю, якая можа быць толькі ў настаўніка да сваіх выхаванцаў». Варта дадаць: любоў гэтая была ўзаемная.

Амаль сто дзесяць гадоў прайшло з таго часу, як парог Люсінскай школкі пераступіў малады настаўнік Канстанцін Міцкевіч і амаль трыццаць гадоў споўнілася з дня, калі ў Люсінскай сярэдняй школе ўпершыню расчыніў свае дзверы

Літаратурна-этнаграфічны музей імя Якуба Коласа. За гэты час тут акрамя беларусаў былі госці з Расіі і Амерыкі, украінцы, палякі, немцы, азербайджанцы, малдаване, кіргізы… Едуць сюды і цяпер — з Мінска, Віцебска, Гомеля, Брэста, іншых гарадоў і вёсак, каб яшчэ раз прайсціся жыццёвымі сцежкамі беларускага песняра, каб аддаць даніну пашаны і павагі генію. У Люсіне, дарэчы, невялікі Коласаўскі пакой ёсць і ў сельскай бібліятэцы. Тут захавалася неўміручае слова паэта, тут злучаюцца інтарэсы прыхільнікаў творчасці Якуба Коласа і Яе Вялікасці Кнігі. «На ростанях», «Новая зямля», «Дрыгва», «На прасторах жыцця» і многія іншыя бессмяротныя творы займаюць пачэснае месца ў фондах бібліятэкі. Яе багацце і гонар — краязнаўчыя матэрыялы, сабраныя на працягу многіх гадоў бібліятэкарамі і ўдзельнікамі аматарскага аб'яднання «Юны краязнаўца». Сярод іх найцікавейшыя дакументы пра жыццё песняра на палескай зямлі, пра першых вучняў маладога настаўніка і іх нашчадкаў.

Літаратурна-этнаграфічны музей імя Якуба Коласа адкрыты 24 красавіка 1982 года, якраз напярэдадні стогадовага юбілею паэта. Ці варта казаць, што гэта была вельмі важная падзея ў культурным жыцці раёна, вобласці і нават рэспублікі. Пра тое, як люсінцы дбайна і клапатліва берагуць памяць народнага паэта, у мяне ёсць мастацкі нарыс «Падарожжа ў Цельшына», надрукаваны ў кнізе «Паміж Бобрыкам і Ланню», таму, каб не паўтарацца, згадаю толькі істотныя моманты той даўняй падзеі. На адкрыццё музея ў Люсіна прыехала абласное літаб'яднанне «Заранка» ледзь што не ў поўным сваім складзе, у школе адбылася творчая сустрэча з вучнямі, настаўнікамі і жыхарамі вёскі, якія запоўнілі актавую залу. Столькі літаратараў, пераважна маладых і ўжо вядомых паэтаў, Люсіна яшчэ не бачыла. Гледачы вельмі цёпла віталі выступленні гасцей — Уладзіміра Календніка, Васіля Праскурава, Ніны Мацяш, Алеся Каско, Міколы Пракаповіча, Алега Мінкіна, Зінаіды Дудзюк, украінскага паэта Пятра Маха. Вечарына ў школе заняла аж некалькі гадзін і працягвалася на беразе Дубаўскога возера, каля славутых Ядвісіных дубоў, дзе на пачатку веку блукаў закаханы аўтар трылогіі «На ростанях», а лёс гарэзлівай Ядвісі, літаратурнага персанажа, такой жывой, рэальнай дзяўчыны з Люсіна, да гэтага часу хвалюе чытачоў.

Школьны Коласаўскі музей, аформлены з вялікай любоўю і выдатным мастацкім густам, безумоўна, усім нам спадабаўся, і ўжо тады было вядома, што ў гэтым грунтоўным ушанаваннем памяці вялікага песняра — заслуга самаадданай, руплівай настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Ганны Мурсалім, пад кіраўніцтвам якой вучні сабралі шматлікія матэрыялы пра люсінскі перыяд жыцця Якуба Коласа, знайшлі шмат колішніх побытавых рэчаў, што сталі экспанатамі музея. Ёсць тут і рэдкі фотаздымак старой вёскі Люсіна, пра якую ў трылогіі «На ростанях» гаворыцца: «Невялікая вёска ў адну вуліцу выглядала непрыветна і непрытульна. Амаль што не каля кожнай хаты ляжалі кучы бярвенняў і гнілі, але нікому не прыходзіла ў галаву палажыць кладачку хоць супраць свае хаты, каб льга было прайсці праз балота, у якім тапілася гэта вуліца. Але палешукі звykліся з гэтай гразззю і не зварачалі на яе ўвагі. Хаты былі пераважна новыя, пабудаваныя з тоўстага і гладкага лесу. У размяшчэнні гаспадарскіх будынін на двары таксама не было пэўнага парадку і сістэмы, а ўсё было навалена як папала».

Прайшлі дзесяцігоддзі, але ў сваё Цельшына (назва вёскі Люсіна ў першай аповесці трылогіі) народны паэт, як ні мучылі ўспаміны юначай пары, прыехаць не змог па многіх прычынах: спачатку палескі край быў пад польскай акупацыяй, затым была кровапралітная вайна з фашыстамі, а калі калатнеча на свеце трохі ўляглася, здароўя ўжо не хапала на такія далёкія вандроўкі. Усё новыя і новыя пакаленні люсінцаў ганарацца тым, што ў іхняй вёсцы калісьці працаваў вялікі пісьменнік і што менавіта ў Люсіне нарадзілася сённяшняя сімпатыя і любіміца чытачоў — дзёрзкая, свавольная Ядвіся. Людзі па-свойму шкадуюць яе рамантычнае, па-маладому яшчэ кволае каханне, самі спрабуюць высветліць, чаму «вельмі прыгожая дзяўчына з вялікай чорнай касой», не прыняўшы ўзаемных хлапечых

пачуццяў, нечакана выехала з Люсіна. Незадаволены бацька? Злая мачаха? Але ж з аповесці ясна ўгадваецца прычына разладу: Ядвіся зараўнавала Лабановіча да сваёй саперніцы — «цікавую» панну Людмілу, дачку каморніка з выселак Завітанкі, што на другім баку чыгункі. У гэтых дзвюх палескіх вёсак — рэальным Люсіне і літаратурным Цельшыне ўсё так пераплялося і знітавалася, што не ўзнікае нават і думкі адрозніваць люсінскага настаўніка Канстанціна Міцкевіча і кніжнага Андрэя Лабановіча, каравокую стройную Ядвісю, па якой і сёння журыцца палескі край, і рамантычную, дзёрзкую Ядвісю, якая напаследак перад ад'ездам вырывае дзікую грушку каля школы.

Нагадаю, аповесць «У палескай глушы», як і ўся Коласава трылогія «На ростанях»,— твор глыбока аўтабіяграфічны, таму не дзіўна, што і яе персанажы ўспрымаюцца адпаведна — рэальнымі, жывымі людзьмі. Нам вельмі шкада чароўную, але няшчасную Ядвісю, якая, паводле аповесці, з'ехала кудысьці на Гродзеншчыну і больш не вернецца на старонкі твора. Надоўга згубіцца след люсінскай дзяўчыны і ў рэальным жыцці, хаця пошукі яе вялі многія даследчыкі, літаратуразнаўцы, вучоныя. Доктар філалагічных навук, вядомы паэт Алег Лойка, як прызнаецца сам, вельмі расхваляваўся, калі занадта позна даведаўся, што некалі ў маленстве жыў у Слоніме амаль па суседстве з Коласавай гераіняй, бачыў яе не раз на тагачасным Цвінтарным завулку і добра запомніў у твар. А штуршок да пошуку далі ўспаміны нашага старэйшага паэта Сяргея Новіка-Пеюна, які сцвярджаў, што яшчэ ў 1936 годзе яго знаёмая Ядвіся жыла з дочкамі ў Слоніме, пісала вершы і друкавала іх у газеце «Наша ніва» пад псеўданімам Юстына.

Надзея даведацца што-небудзь істотнае пра Коласаву Ядвісю за той перыяд, калі яна выехала з Ганцавіч, як з'явілася, так і патухла. Урэшце, і Алегу Лойку да канца не ўдалося высветліць, ці была Ядвіся паэтэсай, а калі і была, то чаму перастала пісаць і друкавацца? Няма дакладнага адказу і на пытанне, ці помніла яна сваё Люсіна, дзе ўспыхнула і пагасла яе такое рамантычнае, прыгожае каханне? А далейшы Ядвісін лёс і ўвогуле невядомы. Паводле прызнання Алега Лойкі, апытванне ў Слоніме нічога не дало. Яшчэ ў 60-х гадах мінулага стагоддзя, калі па рэдакцыйных справах я часта прыязджаў у Люсіна, жыхары вёскі апавядалі мне, што Коласава Ядвіся выехала ў Польшчу, і там яе сляды канчаткова згубіліся. Можа, яно і так — чалавека на чужыне знайсці не лягчэй, чым іголку ў стозе. Між іншым, поўнае дзявочае прозвішча нашай гераіні — Ядвіга Ігнатаўна Баранцэвіч, а ў замужжы яна — Бухельская. Вось так і нараджаюцца легенды пра незвычайных літаратурных герояў, праўда, спачатку ў колах даследчыкаў і літаратуразнаўцаў, а потым міфы пасяляюцца там, адкуль і выйшлі. Цяпер свая легенда ёсць і ў Люсіне — легенда пра Ядвісіна горкае каханне, легенда-гіпотэза пра Ядвісю-паэтку, бо сапраўды — нельга такой знакамітай вёсцы без уласнай легенды!

Вядома, жывая памяць пра вялікіх людзей мае пад сабой той жа пачатак і аснову, што і стварэнне прыгожых міфаў. Надзвычай арыгінальна і творча мясцовыя ўлады, настаўнікі і жыхары вёскі Люсіна ўшанавалі 120-гадовы юбілей з дня нараджэння Якуба Коласа. На пляцы былой Цельшынскай школы, дакладна па яе перыметры, будаўнікі выштукавалі новы падмурак ды паклалі першы вянец з круглых смалістых бярвенняў, устанавілі валун з мемарыяльнай дошкай у выглядзе разгорнутай кнігі. Мастацкую цікавасць уяўляе і драўляная скульптура маці-паляшучкі з дзіцём на руках, а па дрэве выразаны словы: «Жыццё жаночае такое». Адкрыццё памятнага знака, прысвечанага народнаму песняру, ператварылася ў вялікае свята вёскі Люсіна. На месцы, дзе стаяла калісьці Коласаўская школка, улетку квітнеюць чырвоныя, аранжавыя, белыя краскі, і, трэба спадзявацца, з такой жа неаслабнай любоўю жыхары Ганцавіцкага раёна ўшануюць і чарговы юбілей Якуба Коласа, які няўхільна набліжаецца і будзе адзначаны ўжо сёлета.

## 7

Іншы раз прыходзіць зваблівая і прыемная думка, што міфалагічны Парнас з усімі яго небажыхарамі знаходзіцца дзесьці паблізу — вунь за тым дрымучым лесам, вунь за тою асмужанай раўнінай, дзе лінія гарызонту, колькі б да яе ні ішоў, заўсёды стаіць на адным месцы, быццам знарок засланяе дарогу на славутую гару. Без пахвальбы кажучы, цяпер у нас можна налічыць добры дзясятак творцаў, каму капрызная Муза не пашкадавала паэтычнага натхнення і сапраўднай удачы. Васіль Праскураў, Міхась Рудкоўскі, Іван Кірэйчык, з маладзейшых — Алесь Каско, Алесь Кажадуб, Уладзімір Марук, Іван Лагвіновіч. На палескай зямлі «засвяціліся» і такія яркія таленты, як Мікола Купрэеў, Міхась Дубянецкі, Мікола Антаноўскі, Анатоль Кудласевіч, з пазнейшага прызыву — Анатоль Трафімчык, Святлана Локтыш. Быў жа час, калі Ганцаўшчына, увогуле багатая на фальклор, вусную народную творчасць і песенныя традыцыі, не магла пахваліцца колькі-небудзь значнымі літаратурнымі імёнамі, вядома, не маючы на ўвазе першаадкрывальнікаў мастацкага слова ў нашым краі Аляксандра Сержпутоўскага і Якуба Коласа, якія ў сваіх выдатных творах пра Палессе годна і на вякі праславілі шматпакутную ганцавіцкую зямлю.

Пасля такога магутнага пачатку літпрацэс тут заціх на доўгія дзесяцігоддзі, што не ў апошнюю чаргу было звязана з гаротным жыццём народа — беднасцю, пагалоўнай непісьменнасцю, жорсткім уціскам з боку царскіх улад, розных пазнейшых рэжымаў і акупантаў. Толькі ў пасляваенны перыяд, калі і хлеб, і кніга займелі ў людзей аднолькава высокую сацыяльную і эстэтычную патрэбу, літаратурны занятак пачаў адраджацца, а на мяжы шасцідзясятых і сямідзясятых гадоў выбухнуў з такой сілай, што ганцавіцкіх паэтаў і празаікаў пачулі далёка — хто з недаверам, хто з радасцю. У тым першым пасляваенным прызыве таленавітых творцаў былі мудры нарысіст і настаўнік моладзі Васіль Праскураў, вялікі эстэт у паэзіі Міхась Рудкоўскі, тонкі знаўца мовы і прыроды Іван Кірэйчык, і гэта дзякуючы ім, а таксама іх маладзейшым на цэлае дзесяцігоддзе калегам Ганцаўшчына стала благаслаўлёным паэтычным краем, які сёння ведаюць у кожным кутку Беларусі, бо нідзе яшчэ такога інтэнсіўнага выбуху талентаў проста не было. Усіх ганцавіцкіх творцаў я ведаў асабіста, з усімі сябраваў, і вельмі шкада, што пра многіх даводзіцца гаварыць ужо ў мінулым часе і са смуткам лішні раз нагадваць, што кожны з іх пакінуў багатую літаратурную спадчыну і самыя светлыя ўспаміны пра сябе. Толькі ж надта доўгі гэты журлівы спіс.

Фальклорная спадчына палескай глыбінкі надзвычай багатая і ў пераліку жанраў вуснай народнай творчасці. Акрамя абрадавых, жніўных, валачобных і іншых песень прадстаўлена чарадзейнымі казкамі, замовамі, легендамі і паданнямі, у якіх зіхацяць залацінкі невычэрпнай мудрасці народа і мілагучнай беларускай мовы. Яшчэ ў час працы маладым настаўнікам у Люсіне Якуб Колас пачуў няма-ла фальклорных твораў-скарбаў, а пазней ён шчыра раіў сябрам-пісьменнікам: «Прыслухоўвайцеся да народнай гутаркі, запісвайце трапныя выразы, параўнанні, прыказкі». Гэта дзякуючы народнаму паэту да нас дайшло паданне пра гуляку пана Яшука, які дужа здзекаваўся з маладзенькіх прыгожых дзяўчат. Аднойчы ён прыехаў у Люсіна на паляванне, і яго тут павесілі цімакі на дрэве, а тое месца, дзе злы пан знайшоў сваю пагібель, і сёння называецца Яшуковай гарой.

Асабліва шмат бытуе ў нашым краі твораў вуснай народнай творчасці, у якіх ярка выражаны міфалагічны, чарадзейны змест. Так, у сваёй роднай вёсцы Малыя Круговічы яшчэ ў дзяцінстве я пачуў легенду пра камень-следавік, а пазней напісаў верш «Андрэеў камень». Вось тая легенда:

Спрадвек сухадол называўся Дадаткі:
Хмызоўе бучнела, куп'ё ды пянькі.
На ўлонні хадзілі сялянскія статкі —
Ад вёскі вярсты, можа, дзве нацянькі.

З нязменнай жалейкай, ці дождж, ці спякота,
Там пасвіў жывёлу вясёлы Андрэй.
Дзяўчаты на хлопца паглядвалі ўпотай
І часта дражнілі: «Андрэй, не дурэй…»

Аднойчы ўсчалася страшэнная бура,
Пад ліўнем упокат палегла трава.
Авечкі дрыжалі, каровы панура
Абмежкам пад вечар брылі да хлява.

Але пастуха больш ніхто не пабачыў,
Шукалі, бо зналі: не так сабе знік, —
Ды толькі патрапіўся камень гарачы,
Найменне якому — валун-следавік.

Адбіўся на камені след чалавечы,
А трошкі ніжэй ад яго і наўскос
Яшчэ два адбіткі — каровін, авечы,
Не мог жа іх выразаць каменячос?

Жалейка ляжала, дубец абгарэлы,
І ціха, і пуста было навакол.
Відаць, недарэмна маланкі, як стрэлы,
Шугалі за вёскаю на сухадол.

Музыка Мацей жыў пазней на пагорках,
Дзе вогненным смерчам прайшлася бяда,
Ды плакала скрыпка ягоная горка,
Народ весяліць не хацела дуда.

* * *

Прайшло «асушэнне» буйнога маштабу:
З Дадаткаў рабілі як стол сенажаць.
Патрапіўся камень на вочы прарабу,
І ён загадаў следавік закапаць.

Пра камень Андрэеў у нашу эпоху
Дайшло хоць паданне з сівой даўніны,
А там, дзе ляжаў ён, зялёны ад моху,
На досвітку гукі жалейкі чутны.

Запаветам Якуба Коласа — збіраць і запісваць народную мудрасць — трэба сказаць, якраз і кіруюцца ў сваёй краязнаўчай працы нашы раённыя бібліятэкары, якія, праяўляючы вялікую цікавасць да фальклорнай спадчыны, ужо маюць багатую калекцыю казак, легенд і паданняў, што сведчаць пра самабытнасць і мудрасць народа, прыгажосць яго мовы.

У далёкія часы, калі яшчэ і чыгункі не было, ці то вандроўніцкі, ці то салдацкі лёс асобных польскіх і рускіх пісьменнікаў закідваў на Ганцаўшчыну, і пра гэты бядотны, загадкавы край яны пакінулі ўспаміны ў сваіх дзённіках і літаратурных творах.

**Ева Фялінская.** Вядомая рэвалюцыянерка і пісьменніца. Дзяцінства яе прайшло ў спадчынным маёнтку Вяндорфаў у вёсцы Галынка, што прытулілася на ўскрайку дрымучага Машукоўскага лесу. Разам з вясковымі дзецьмі паненка вучылася ў прыходскай школе і ўжо тады бачыла гаротнае жыццё прыгонных сялян. Вучобу працягвала ў знакамітай Слуцкай гімназіі, а пасля замужжа пасялілася ў ваколіцах Луцка. Тут, у маёнтку Ваюцін, стварыла філіял тайнага віленскага «Жаночага таварыства», але дзейнасць гэтага аб’яднання ўладам здавалася вельмі небяспечнай, і яе кіраўніка, якая хавалася пад псеўданімам Скала, разлучыўшы з дзецьмі, адправілі ў сібірскую ссылку — у Бярозаў Цюменскага краю.

У сваіх сібірскіх дзённіках Ева Фялінская апісала жыццё абарыгенаў — хантаў, мансійцаў і ненцаў. Вярнуўшыся з высылкі ў Саратаў, працягвала пісьменніцкую працу і акрамя дакументальных дыярыушаў стала аўтарам папулярных у чытачоў аповесцей «Герсілія», «Пан дэпутат», «Пляменніца і цётка», кнігі «Успаміны». У 1856—1860 гадах яе творы выйшлі ў пяці тамах. Для нас творчасць Евы Фялінскай цікавая тым, што ў яе аповесцях не раз згадваецца вёска Агарэвічы, куды, відавочна, яшчэ ў юнацкія гады пісьменніца наведвалася ў маёнтак паноў Свяжынскіх і пакінула дакладныя замалёўкі шляхецкага і сялянскага жыцця ў тыя далёкія часы. Памерла яна ў 1859 годзе ў мужавым маёнтку Ваюцін. Вядомая капліца ў вёсцы Ясянец належыць даўняму нямецкаму роду Вяндорфаў, з якога і паходзіла Ева Фялінская.

**Уладзімір Бранеўскі.** Вядомы рускі ваенны пісьменнік. У 1810 годзе падарожнічаў па ўскраінах Расіі, пабываў у Ляхавічах, дзе застаў ужо амаль разбураную крэпасць, а на Палессі яму давялося колькі дзён пажыць у вёсцы Любашава. Беднае жыццё ў гэтай вёсцы моцна ўразіла пісьменніка, пра што сведчыць красамоўны запіс у яго дзённіках: «Цесная хацінка без падлогі, сцены і столь у ёй былі пакрыты сажаю, нібы ў коміне. Умяшчала яна вялікую сям’ю разам са свойскай жывёлай…» Пазней гэтая пабытавая замалёўка з жыцця сялян вёскі Любашава ўвайшла ў кнігу Уладзіміра Бранеўскага «Падарожжа ад Трыеста да Санкт-Пецярбурга», якая была надрукавана ў 1828 годзе.

**Канстанцін Паустоўскі.** Рускі пісьменнік. У час Першай сусветнай вайны служыў на Палессі ў складзе санітарнага атрада. Уражанні таго перыяду выкарыстаны ў яго кнізе «Аповесць пра жыццё», у якой не раз трапляюцца назвы прыфрантавых мясцін — Ляхавічы, Рэйтанава, Сіняўка, Любашава. У жніўні 1915 года ён паведамляў з Ганцавіч: «… Пішу цяпер у хаце. Равуць дзеці, плачуць бабы, баяцца — набліжаецца «герман», за акном тысячныя абозы бежанцаў,— скрозь вогнішчы і вогнішчы, бруд, смурод, дажджы, сыры вецер з навакольных балотаў…» У савецкі час Канстанцін Паустоўскі стаў прызнаным пісьменнікам, аўтарам маштабнай «Аповесці пра жыццё», кніг прозы «Кара-Бугаз», «Калхіда», «Чорнае мора», «Залатая ружа» і іншых шматлікіх твораў пра ахову і любоў да прыроды.

**Антон Брынскі.** Рускі савецкі пісьменнік. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Палессі. Летам 1942 г. дыверсійная група А. Брынскага дыслацыравалася каля возера Выганашчанскага на тэрыторыі Ганцавіцкага раёна, у лістападзе частка партызан перайшла на Валынь і ў Ровенскую вобласць для правядзення дыверсійнай работы. З 1943 года будучы пісьменнік — камандзір партызанскай брыгады асобага прызначэння, з 1944 г. — Герой Савецкага Саюза. Пра сваё баявое юнацтва і партызанскую барацьбу ў глыбокім тыле ворага напісаў кнігі «Па той бок фронту», «Баявыя спадарожнікі мае», «Дзяўчынка з Мар’інага гаю» і іншыя. Цэлы раздзел у кнізе «Па той бок фронту» Брынскі прысвяціў легендарнаму партызану, жыхару вёскі Боркі Мікалаю Вельку, і толькі дзякуючы відавочцу тых суровых падзей мы сёння ведаем пра жыццё і подзвіг гэтага мужнага патрыёта.

* * *

Прыгожым і сонечным вераснем мінулага года Ганцавічы праславіліся як сталіца чарговага Дня беларускага пісьменства, і гэта невыпадкова, таму што роднае слова ніколі тут не было ў заняпадзе. Галоўная асаблівасць свята — помнік маладому Якубу Коласу, адкрыты ў цэнтры раённага гарадка. Створана таксама Алея пісьменства, дзе ў бронзавыя картушы занесены восем тутэйшых творцаў, каму капрызная муза не пашкадавала паэтычнага натхнення і сапраўднай удачы.

**Ідзе падпіска**
**на І паўгоддзе 2012 года:**

*індывідуальная льготная*
*для настаўнікаў (індэкс — 00471)*

на 1 месяц — 8690 руб.
на 3 месяцы — 26 070 руб.

*індывідуальная (індэкс — 74985)*

на 1 месяц — 13 420 руб.
на 3 месяцы — 40 260 руб.

*ведамасная (індэкс — 749852)*

на 1 месяц — 28 490 руб.
на 3 месяцы — 85 470 руб.

*ведамасная льготная*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)*

на 1 месяц — 23 120 руб.
на 3 месяцы — 69 360 руб.

***e-mail: polymya@bk.ru***

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74.

Стыльрэдактар *М. М. Гілевіч*
Камп'ютарная вёрстка *С. І. Стараверавай*

Падпісана ў друк 07.05.12 г. Фармат 70×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80. Ул.-выд. арк. 17,58. Тыраж 2785 экз. Заказ 1257.
Кошт нумара ў розніцу 13 400 руб.
Часопіс «Полымя» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі
Рэспублікі Беларусь. Рэг. № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.